# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ,
ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ



## №1

1926

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

МЕНСК

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

№ 1

1926

Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі
МЕНСК

## НАШЫ СУПРАЦОЎНІКІ:

Александровіч А., Арэшнікаў П., Байкоў М., Барычэўскі проф., Баліцкі А., Багдановіч А., Барашка Іл., Буйло К., Бядуля З. (Ясакар), Бываеўскі Н., Выдра Р., Васілеўскі Д., Вольны А., Вольфсон С. проф., Гарбацэвіч В., Гартны Ц., Гарэцкі М., Грамыка М., Гэсен С., Гурло А., Гэрчыкаў І., Даўнар-Запольскі М. проф., Дзяржынскі Ў., Друшчыц В., Дубоўка Ў., Дрэйзін Ю., Журба Я., Замоцін І. проф., Зарэцкі М., Зімёнка А., Ігнатоўскі Ў. проф., Колас Я., Купала Я., Каранеўскі Я., Каліноўскі Ўл., Кацэнбоген С. проф., Каган Л., Круталевіч А., Лёсік Я., Ліманоўскі Я., Моркаўка А., Мялешка М., Некрашэвіч С., Неманскі Я., Пічэта Ў. проф., Пушча Я., Пятровіч Я., Пятуховіч М. проф., Падабед Яз., Смоліч А., Сянькевіч А., Сэрбента, Трус П., Усьпенскі, Харэвіч, Хэрсонскі Х., Хлябцэвіч Я., Хмарка, Цьвікевіч Я., Чарвякоў А., Чарот М., Чарнушэвіч Н., Чорны К., Шатэрнік М., Шульман і інш.

# ДЗЬВЕ ПУЦІНЫ

**Я. Ліманоўскі**

Шэры, непраглядны пласт хмараў заслаў неба; расчасанаю воўнаю густое белаватае імглы спусьціўся да зямлі і схаваў сабою ад вока ўсё навокал на пэўнай адлегласьці. У вільготным паветры, на жоўтых, яшчэ не апаўшых, парадзеўшых, аднак, лісьцях блішчэлі кроплі вады. Капалі яны празрыстыя, як сьлёзы па мінулым цёплым лецейку, на зямлю разам з лісьцямі, што жоўта-стракатым, шурпатым дываном ляжалі наўкола дрэў, атуляючы іх, быццам коўдрай, каб мароз ня студзіў карэньняў, як быццам ведалі яны, што ня прыдзецца ім больш аздобіць маладых галінак сваёй зелянінай, што ня вернуцца ізноў для жыцьця, бо вясною ўжо новыя, аксаміт..а-зялёныя лісты будуць уторыць гоману птушак сваім шумам. Птушкі адляцелі ў вырай і нават верабей недзе схаваўся пад страхою і думаў аб тым, як яму прыдзецца перажыць недалёкую ўжо зіму. Асеньнія вобразы навявалі сум, навявалі ўспаміны аб мінулай лепшай пары.

Хоць ужо даўно настала раніца, але было неяк змрочна, як увечары. Янка Пралеска прабудзіўся на сваім цьвёрдым вайсковым ложку— тапчане, пачаў аглядацца, каб даведацца, якая гадзіна. Учора ён да позьняга часу працаваў у канцэлярыі, утаміўся і баяўся, што ўжо праспаў. У пакоі было неяк цемнавата, на двара за імглой таксама ня было відаць нічога, толькі галінкі клёнаў пад акном жоўтымі лісьцямі сумна выглядалі праз белаватую імглу. Янка заўважыў адсутнасьць у пакоі сваіх таварышоў. Відаць, усе пашлі ў канцэлярыю.

— Ну дык што-ж. Я ўчора позна працаваў, магу і паспаць цяпер. Хопіць насіць гэту лямку. Абрыдла за тры гады. І канца ёй няма, гэтай напасьці,—вылаяўся Янка.

Сон, аднак, прапаў, але холад у пакоі мяшаў уставаць, і Янка ляжаў ды глядзеў на клёны каля акна, узіраўся ў імглу. Успаміналіся яму адзін за другім моманты свайго жыцьця на фронце.

Вось успомнілася, як аднойчы іх штаб у Галіцыі пачалі абстрэльваць аўстрыякі. Толькі пасьля новага пераходу, утомленыя, прышлі на новае месца, а яны адкуль там узяліся і давай страляць. Янку так смачна спалася на сене ў гумне, а тут пачалі рвацца над страхой снарады—

картэч, вось-вось, здаецца, папрабіваюць страху. Куды тут схаваешся, дый спаць хочацца, а пры тым нейкая нядбайнасьць да ўсяго, бязьвер'е.

За гэтым успаміналася іншае. Ляжаў і перабіраў мімаволі ў памяці жыцьцё на позыцыі. Сумныя думкі выклікалі ўспаміны аб аднастайнашэрых, паасобных выпадках ва ўсім фронтавым жыцьці.

Думкі Янкі прарваў воклік аднаго з таварышоў, прышоўшага з канцэлярыі.

— Пралеска, ад'ютант пытаўся пра вас і паслаў мяне паклікаць.

— Навошта я яму патрэбны?—спытаўся Янка.

— Ня ведаю, быццам яму нехта званіў па тэлефоне і аб табе пытаўся.

Гэта вестка зацікавіла Янку, бо ніхто ніколі да яго не званіў: знаёмых ня было, а калі хто званіў па справе, то званіў ад'ютанту або начальніку штаба, а той ужо загадваў.

Хутка ўстаў, апрануўся і пабег у канцэлярыю, якая мясьцілася ў гэтым-жа доме, толькі трэба было прайсьці калідор. Пашоў проста ў габінэт ад'ютанта.

Той, заўважыўшы Янку, узяўся за асадку, каб падпісаць паперы, якія, думаў, прынёс Янка, потым, калі спаткаўся з пытальным поглядам Янкі, быццам прыпомніў нешта.

— Да мяне нядаўна званіла ваша сястра Зося Пралеска і прасіла, каб вы зашлі да яе ў гасьцініцу „Рыга“,—паведаміў ён Янку.

Нечаканая вестка абрадвала Янку. Зося—старэйшая ад яго стрэчная сястра. Яна адна ва ўсёй сям'і разумела яго, спачувала яго думкам, перажываньням. Ёй аднэй Янка адкрываў сваю душу, раіўся з ёю. Яна таксама нічога не хавала перад Янкам і ахвотна дзялілася ўсім. Цэлы год ня бачыў яе і ўсё думаў наведацца, паехаць да яе. Нарэшце сабраўся паехаў, але не нашоў яе дома—выехала ў іншы горад. Так і не давялося пабачыцца. І вось яна цяпер тут.

Хутка апрануў шынэль, схапіў шапку і пабег адшукаць Зосю. Штаб мясьціўся на акраіне гораду ў памешчыцкім доме. Горад быў павятовы, невялікі, але раскіданы на значнай плошчы, дык ад канцэлярыі да гасьцініцы „Рыга“, якая была ў цэнтры гораду, было больш вярсты. А цяпер Янку здавалася яшчэ далей. Ішоў шпаркім крокам, па мокрым, коўзкім, прагніўшым драўляным тротуары, а там, дзе ён канчаўся, па глыбокай, ліпкай гразі, не зважаючы на гэта. Думкі былі захоплены Зосяй, спатканьнем з ёю.

Успомніўся якраз момант расстаньня з ёю, калі ён ад'яжджаў на вайну. Вось, як быццам цяпер адбываецца ўсё прад вачыма.

Вуліца малой вёскі. Яны з Зосяй ідуць далей ад дому, бо там сабраліся сваякі і суседзі, каб таксама разьвітацца з ім. Сумныя твары, іншыя заплаканыя. Цяжка на сэрцы. Далей ад іх, забыцца на хвілінку, перастаць думаць аб ад'езьдзе. Ішлі моўчкі. Ня было аб чым гаварыць.

За кароткі час усё роўна не перакажаш усяго. Затрымаліся ўжо за вёскай, дзе дарожка разьбягаецца ў два бакі: адна каля горкі з аднаго боку і шэрага плеценага плоту, што дзеліць ярыну ад жыта,—з другога, вядзе да блізшай вёскі, другая бяжыць у водаль і хаваецца ручайком у хвалюючым моры жыта.

Затрымаліся зьнянацку, быццам для вырашэньня, якой сьцежкаю йсьці далей. З захаду данасіўся глухі, страшны, як стогн зямлі, гук гармат. Нявысока ўжо над лесам было сонца. Чырвонае, няяснае, вялікае, здаецца, выкупанае ў людзкой крыві і акуранае гарматным дымам. Страшнае нешта там адбываецца, нечаканае. А тутка наўкола такая цішыня, супакой і хараство. Шырокія прасторы палёў багата аздоблены прыроднымі фарбамі: белавата-зялёнае жыта хвалюецца, шуміць; вабіць сваім хараством зялёны, абсыпаны краскамі, мяккі аксамітны дыван лугу; разнастайная зеляніна то вузкіх і шырокіх, то доўгіх і кароткіх шнуроў ярыны творыць агульны вялізны ўзор. На небе ні аднэй хмаркі, снуюць туды і сюды ластаўкі, у цёплым паветры мітусяцца розныя малыя жывёлкі, у вальховым гаі за гародамі ціўкаюць зграі шпакоў. Прыемнае цяпло пасьля палкага дня.

— Я чамусьці, Яначка, упэўнена ў тым, што ты выйдзеш з гэтай страшнай калатні цэлым. Такое ў мяне прачуваньне. Лёс цябе захавае. Тваё ўсё яшчэ ўперадзе. Твае парываньні павінны ажыцьцёвіцца. Такія, як ты, не павінны марна згінуць,—казала чульліва Зося.

— Што чакае ў будучыне—невядома, цяжка адгадаць. Дык і мяне ня так ужо страшыць мажлівая згуба. Толькі хочацца дачакацца канца бойкі і даведацца, што з яе выйдзе. Хочацца быць сьведкам гэтых зьмен, падзей. А тады хай сабе чакае і згуба. Няўжо з зямлі, зрошанай крывёю мільёнаў людзей, ня вырасьце нешта надзвычайнае!—адказаў ён, углядаючыся пытліва ў зачырванелы захад.

— Дачакаемся і канца. Ня сумуй толькі, братка. Моцны дух і моцная воля хай не пакідаюць цябе, хоць будучыны мы і ня ведаем. Вось, бачыш, гэтыя дзьве дарожкі, што зьнікаюць ад вока ў водалі,— мы ня ведаем, куды кожная з іх вядзе. Так і наш жыцьцёвы шлях разьбягаецца на некалькі дарожак і невядома, куды кожная з іх бяжыць, якая вядзе да шчасьця, якая да згубы,—па якой лепш ісьці. Але ўсё-ж чалавек пападае і на сваю дарожку. А мо‘ невядомая дарожка якраз вядзе да добрага. І веру я моцна ў тое, што хоць твая дарожка вядзе туды, дзе льлецца чалавечая кроў, ты па ёй пяройдзеш калатню бяз шкоды, а далей яна павядзе да лепшага.

Аб гэтай веры Зосі і яе наказе захаваць моцны дух прыпамінаў часта Янка.

Пасьля растаньня, пакуль Янка даехаў да месца сваёй вайсковай службы, іх вёску заняў ужо немец, і Зося ў той час выехала. Ня мелі

адрасу адзін друга, згубіліся. Янка наогул застаўся адарваным ад родных і знаёмых. Больш, аднак, ён адчуваў страту Зосі.

Неяк нечакана трапілася атрымаць адрас аднаго знаёмага з суседняй вёскі, а праз яго і адрасы іншых знаёмых, і, нарэшце, пры іх дапамозе і адрас Зосі.

Пачалі пісаць, дзяліцца ўспамінамі мінулага і цяперашнімі перажываньнямі. Пабачыцца, аднак, не давялося. І вось цяпер ім прыдзецца, нарэшце, спаткацца.

Думкі Янкі спыніліся, калі ён затрымаўся перад старым драўляным домам з прыбітай над ганкам шыльдай, на якой ледзьве можна было прачытаць папсаваны ржаўчынай надпіс: Гасьцініца „Рыга".

— Нарэшце ўбачу,—і сэрца неспакойна, радасна застукала. Увашоў у пакой, дзе павінна была быць Зося.

Зося быццам не пачула яго крокаў, бо, абапёршыся локцямі на падаконьнік, глядзела праз акно. Зрабіў некалькі крокаў да яе, з выцягнутымі рукамі. „Зося!" прамовіў узварушана. Яна ўздрыганулася ад нечаканасьці і хутка павярнулася да Янкі. Рукі Янкавы апусьціліся, апусьціўся, утаропіўся ў дол і ўзрок. Перад ім стаяла ня Зося. Стройная постаць маладой прыгожай дзяўчыны з цёмнымі глыбокімі вачыма, пад цёмнымі таксама дужкамі броваў. Густыя цемнаватыя валасы распадаліся ў бакі і закрывалі частку лба і вушы. Ружовыя, сьвежыя шчочкі, з ледзь прыкметнымі ямачкамі, якія робяць асабліва пекнай, павабнай усьмешку. Жоўта-чырвоная, колеру полымя-агню сукенка зграбна аблягала стан і вызначала няясна абрыс грудзей. Уся постаць яе вабіла, прыцягвала да сябе моладасьцю, сьвежасьцю, прыгожасьцю.

Ад нечаканасьці і ад моцнага ўражаньня, якое выклікаў у Янкі вобраз гэтай незнаёмай павабнай дзяўчыны, стаяў ён утаропλены і ня ведаў, што нават гаварыць. Ня мог падняць на яе вачэй.

— Вы пэўна да панны Зосі? Яна зараз прыдзе, пачакайце крыху,— выручыла яго незнаёмая.

— Так, я да Зосі. Дзякую, я з вашага дазволу пачакаю.

Адчуваў сябе ніякавата. Гаварыць ня было аб чым, дый сьмеласьць да гэтага кудысьці зьнікла. Спотайку толькі паглядаў на незнаёмую, але так, каб тая не заўважыла гэтага. Яна, аднак, разглядала Янку, здавалася, больш сьмела. Некалькі хвілін, пакуль прышла Зося, выдаліся цэлай гадзінай. Нарэшце, увашла ў пакой Зося.

— Ах! ты, Яначка, мяне ўжо чакаеш? Ну, як маешся?—прамовіла яна, абнімаючы Янку радасна.

— Панна Алеся, дазвольце вас пазнаёміць,—гэта мой брат,— сказала Зося пасьля прывітаньня з Янкам.

— Вельмі прыемна,—адказала тая, і, працягваючы Янку руку, дадала: Лапкоўская.

— Я вельмі ўдзячна, Яначка, панне Алесі, што яна мяне прытуліла ў сваім пакоі, бо ня было свабодных пакояў, хоць на вуліцы начуй,— пачала тлумачыць Зося аб сваім выпадковым спатканьні з Алесяй.

— Я далучаюся да тваёй удзячнасьці і з свайго боку дзякую панне Алесі за прытулак для маёй сястры,—азваўся Янка цяпер ужо больш сьмела.

— Няма за што і дзякаваць, магло здарыцца і са мною тое самае; пэўна, і панна Зося мне таксама дазволіла-б памясьціцца. Мне падабаецца,—дадала Алеся,—ваша чульлівасьць да сястры.

— Не, на Яначку я не магу скардзіцца, хоць і ніяк не магла дачакацца, калі ён да мяне прыедзе; абяцаў некалькі разоў прыехаць і ня прыехаў, аж сама сабралася да яго.

— Не ад мяне залежала; пабачыцца вельмі хацелася, асабліва пасьля гэткага адарваньня ад усяго сьвету, ад усіх людзей, там, на спустошаных абшарах, дзе спатыкаеш усё дзікае, страшнае, дзе зусім іншае жыцьцё, калі яго толькі можна назваць жыцьцём,—прамовіў з пачуцьцём Янка.

Алеся зірнула на яго, погляды іх спаткаліся. Было нешта надта прыгожае, спачуваючае ў поглядзе Алесі, што Янка ня вытрымаў яго, апусьціў векі і няпрыкметна ўздыхнуў. Гэта быў першы погляд Алесі, што глыбока запаў у Янкавай душы, абпаліў яго быццам агнём і салодка паласкатаў унутры.

Далей завязалася агульная размова. Гаварылі аб тым, якія былі перажываньні на фронце і ў тыле. Янка даведаўся, што Алеся таксама прыехала да брата і праз пару дзён паедзе дамоў.

Потым Зося запрапанавала пайсьці з ёй на запрошаны абед да знаёмых настаўніц. Хоць Янку хацелася лепш застацца тут, але не выпадала адмовіцца ад просьбы Зосі, дый не хацелася перад Алесяй адкрыць свайго жаданьня пабыць з ёю. Згадзіўся пайсьці. Па дарозе да настаўніц Янка пачаў распытвацца ў Зосі больш падрабязна пра Алесю. Аднак, Зося сама пра яе нічога ня ведала, бо спаткалася толькі сягоньня ноччу, калі прыехала з вокзалу. Гэта яшчэ больш зацікавіла Янку.

Было там тры настаўніцы: адна замужняя маладая яшчэ кабета і дзьве дзяўчыны; больш прыгожая з іх, Янінка, і была знаёмая Зосі. Пазнаёміліся яны яшчэ на паўторных курсах у Петраградзе, потым паехалі ў розныя бакі на службу і пісалі лісты. Зося ведала, што яна працуе тут у мясцовай школе, і захацела наведацца да яе. Янку пацягнула за сабой, каб пазнаёміць з настаўніцамі, асабліва з Янінкай, пра якую пісала нават у сваіх лістох Янку і заўсёды ўспамінала яе з лепшага боку. Ведала, што Янку нявесела ў чужым горадзе, і вось, думала, пазнаёміцца, будзе потым спатыкацца, будзе з кім праводзіць час. А ў глыбіні сваіх думак меркавала нават плян, каб як-небудзь у будучыне мець Янінку сваёй братавай,—вельмі яе любіла і цаніла. Хавала, аднак, ад Янкі гэ-

тыя думкі і толькі праз два гады, калі падзеі зусім зьмяніліся, даведаўся Янка аб гэтым пляне Зосі.

Вось чаму цяпер Зося сачыла за Янкам і Янінкай, сачыла пільна за ўражаньнем, якое яны адзін у другога выклікаюць.

Тымчасам Янкавы думкі былі так захоплены Алесяй, што ён быццам і не заўважыў Янінку. Наадварот, яе прысутнасьць памагла толькі ўпэўніцца ў чаруючай моцы Алесі. Ён параўноўваў іх, запытваў сябе, чаму, напрыклад, гэта маладая, прыгожая настаўніца ня выклікала ў ім таго ўражаньня, таго нявытлумачанага, прыцягваючага пачуцьця, якое выклікала Алеся. І тую, і гэтую ён бачыць першы раз. У чым тут сакрэт? Якая розьніца паміж імі? Хіба мо' ў тым, што ад Алесі вее шчырай прыемнай жывой прастатой, а ў Янінкі заўважваецца нейкая штучная, выкваліфікаваная далікатнасьць, пачуцьцё гонару, што аддаляе, перашкаджае ім зблізіцца? Але-ж гэта мо' дзеля малога яшчэ знаёмства. Мо' пад гэтай маскай чужасьці хаваецца, дрэмле пакуль нікім не абуджаная, самая вялікая шчырасьць, самае праўдзівае глыбокае пачуцьцё.

Стараўся падтрымліваць Янка агульную размову,—ня клеілася неяк. Чакаў, калі скончыцца іх час гасьцін.

Пачынаўся ўжо змрок, калі яны падзякавалі за гасьціны і за запросіны бываць больш часта, разьвіталіся з настаўніцамі і вышлі. Па гразкай вуліцы дзе-ні-дзе сунулася чалавечая постаць. Цьвяканьне ботаў па гразі зьлівалася з плюсканьнем падаючых са стрэх кропель. Праз вокны відаць было, як у дамох, на засланых чыстымі абрусамі сталох запальвалі пастаўленыя ў вычышчаных бронзавых ліхтарох сьвечкі на шабас (была пятніца).

Калі яны падыходзілі да гасьцініцы, Алеся стаяла на ганку, абапёршыся на вушак дзьвярэй, з накінутым на плечы палітом і глядзела задуменна на пустую вуліцу. Па твары відаць было, што ёй было нудна. З новым пачуцьцём да Алесі зьмяшалася пачуцьцё шкадаваньняў у Янкі, што хадзіў да настаўніц, замест таго, каб правесьці час тут; скардзіўся ў душы на Зосю.

Пашлі ў пакой, запалілі лямпу. Янка запрапанаваў пайсьці ў адзінае ў горадзе кіно. Алеся, аднак, адмовілася, бо чакала да сябе брата. Парашылі адлажыць на іншы час.

Хутка надышоў і брат Алесі. Пазнаёміліся і пачалі гутарыць. Размова была агульная, рознастайная па зьместу, усе адчувалі сябе добра і праседзелі да позьняга часу пры самавары. Алеся часам кідала на Янку глыбокі пытлівы погляд, слухала, што ён апавядаў пра жыцьцё на фронце, сьмяялася, калі жартавалі, наогул паказвала адзнакі добрага настрою. Заўсёды, як толькі Янка спатыкаўся сваім поглядам з яе, ён ня мог вытрымаць гэтага погляду, з яго грудзей вырываўся схаваны, няпрыкметны ўздых. Ён зразумеў ужо цяпер, што моцнае, нястрыманае пачуцьцё да

Алесі абхапляе яго. Затрымаць, заглушыць яго ня было моцы. А тутка працінала думка, што праз пару дзён ён страціць Алесю і пэўна больш ня ўбачыць яе. Гэта рабіла яго пачуцьцё асабліва балючым, чульлівым.

Прашло некалькі дзён. Янка ня траціў надзеі быць у Алесі. З Зосяй ён шмат аб чым дзяліўся, адно толькі скрыў—сваё пачуцьцё да Алесі. Вельмі няпэўны атрымаўся-б вынік ад яго каханьня, каб гаварыць цяпер аб ім. Прыезд Зосі ўплыў з лепшага боку на Янкаў настрой; аднак, моц гэтага ўплыву паменшылася ўражаньнем, якое выклікала Алеся. Зося не магла доўга заставацца і выехала дамоў. Алеся парашыла чакаць—а гэта ёй заўсёды прапаноўваў Янка,—пакуль брат атрымае водпуск, аформіць паперы, каб з ім разам паехаць дамоў. Гэта яе затрымала на 3-4 дні. Цяпер Янка часта, калі ў вольны час заходзіў да Алесі, знаходзіў яе адну ў гасьцініцы. Гутарылі праз цэлыя гадзіны аба ўсім, што толькі прыходзіла ў галаву. У гэтай гутарцы ён не закранаў свайго каханьня, не адкрываў яго, не адважыўся прызнацца ў ім,—ня было неяк адпаведнага моманту, дый боязна было адмоўнага адказу Алесі на прызнаньне.

Так няпрыкметна надышоў і дзень ад'езду Алесі. Многа думаў Янка, многа складаў плянаў, меркаваў і вырашыў, нарэшце, прызнацца ў сваім каханьні. Хай яна ня прыме яго спачуваюча, хай не адкажа ўзаемнасьцю—усё роўна ўбачыць больш яе ня прыдзецца. Дык хай хоць даведаецца аб гэтым, хай ён дасьць выліцца са сваёй душы таму нязьмерна-моцнаму, гарачаму струменьню, што затапіў усю яго істоту, усе думкі, жаданьні і паліць непагасным агнём грудзі, сэрца. Трэба апанаваць сябе і ўсё выказаць ёй; будзе ўцеха хоць у тым, што яна даведалася.

У дзень ад'езду Алесі, за некалькі гадзін яшчэ да адыходу поезду пашоў Янка ў гасьцініцу. Алеся сядзела адна. Усе дарожныя клумкі былі ўжо запакаваны. У пакоі было ад збораў пэўнае бязладзьдзе. Калі цяпер ён убачыў Алесю, дык ізноў адвага да прызнаньня зьнікла. Нават бясьпечна-вясёлы настрой Алесі не падмацоўваў гэтую адвагу. Скіраваць размову да таго, каб лепш было пачаць прызнаньне, Янку таксама не ўдавалася.

— Чаму вы сёньня быццам засмучаны чымсьці,—спыталася зьнянацку Алеся.

— Мо' гэта і так,—ёсьць прычыны.

— Дык скажэце, якія прычыны, не хавайце іх. Хіба сакрэт, можа?

— Не, не сакрэт, ня ведаю толькі, ці варта гаварыць аб іх, каб ня выклікаць большага суму,—адказаў з пачуцьцём і ўздыхнуў, ды на гэты раз так не патрапіў схаваць уздых, што Алеся яго заўважыла.

Усьмешка зьнікла з яе вуснаў, выраз твару зрабіўся паважным, як быццам рыхтавалася пачуць нешта вельмі важнае.

— Кажэце, кажэце аб гэтых прычынах, калі хоць крыху верыце мне. Спадзяюся, што ня зробіце мне дакору ў тым, што я няўважліва выслухала вас.

Янка нічога не адказаў, шукаў слоў, з якіх можна было-б пачаць, і не находзіў іх. Алеся таксама маўчала і чакала. У гэту хвіліну ўвашоў у пакой брат Алесі. Прывітаўся з Янкам.

— Ну, здаецца, нам час рушыцца ў дарогу, да прыходу поезду ўжо нямнога, а вокзал далёка.

Сабраліся і вышлі. Брат Алесі прапанаваў узяць возьніка, але Алесі захацелася пайсьці пехатой. Янка падтрымаў яе думку, і яны пашлі. Пакуль дашлі да вокзалу, зусім зьмерклася.

У салі вокзалу было вельмі многа людзей. Лаўкі і падлога былі закладзены клумкамі і пасажырамі. Шмат пасажыраў, не зважаючы на нявыгаднасьць, спалі на падлозе, пакінуўшы толькі вузенькія сьцежкі для праходу. Над галовамі гэтай чалавецкай гушчы плылі шэра-сіняватыя воблакі дыму ад накуранай махоркі, ды амаль такія па колеру, прасякнутыя парам воблачкі халоднага паветра ўрываліся праз адчыненыя дзьверы, клубіліся і расьсяваліся. Каля буфэту, стоячы, пілі гарбату, падыходзілі новыя туды, штурхаліся, дратавалі тых, што сядзелі або ляжалі блізка праходу. Было цесна і душна. Янка запрапанаваў Алесі выйсьці пашпацыраваць на пэрон. Згадзілася. Брат застаўся вартаваць клумкаў. На пэроне амаль нікога ня было. Яшчэ ноччу выпаў сьнег, марозу ня было, але дзьмуў вільготны сьцюдзёны вецер. Усе ад холаду хаваліся ў душнай салі вокзалу. Янка падаў Алесі руку і пачалі шнураваць па пляцформе. Да прыходу поезду было ўжо ня больш поўгадзіны. Янка адчуваў, што кожная хвіліна прыбліжае тое бяздоньне, якое паглыне назаўсёды ад яго Алесю. Балюча дакучала думка аб гэтым, страшыла настроямі, якія ахопяць яго пасьля страты Алесі.

— Ведаеце, панна Алеся, я вельмі шкадую, што вы прыяжджалі сюды,—раптам прамовіў Янка, выказваючы сваю непакойную думку.—Лепш было-б, каб вы сюды ніколі не прыяжджалі.

— Чаму гэта,—спыталася Алеся, зьдзіўленая такой ацэнкай Янкам яе прыезду і пытліва глядзела на яго.

— Бо разам з вамі... ад'едзе, загіне назаўсёды мой былы спакой,— з пачуцьцём і нейкай трывогай у душы, бо ведаў, што зараз вырашыцца лёс яго каханьня, адказаў Янка.

Алеся зразумела, аб чым ідзе гутарка, апусьціла галаву, здаецца пасмутнела. Хвілінку маўчала.

У гэты момант яны затрымаліся ў цяні, якую кідалі неапаўшыя лісьці дрэў, ад праменьняў электрычнай лямпкі.

— Ах, каб-жа толькі гэта, каб і я не пакінула тутка свайго супакою,—прамовіла ціха з уздыхам Алеся.

Не паверыў сьпярша Янка, ці ня прычулася яму, ці-ж гэта сапраўднасьць, ці ня сон толькі. Абдало, нібы полымем, усю істоту пачуцьцё блізкага шчасьця.

— Няўжо...—пачаў пытацца Янка...—але выразны, чульлівы погляд Алесі лепш усялякіх слоў сьведчыў яму, што яна хацела выказаць у сваім адказе. Палажыў руку на яе плечы, схіліўся, зірнуў блізка ў вочы і вядомы нейкай інстынктыўнай, магнэтычнай моцай, схіліўся яшчэ бліжэй і пацалаваў доўгім гарачым пацалункам.

Алеся не баранілася, падалася ласцы, прытулілася бліжэй да яго, схіліла галаву на грудзёх Янкі і векі закрылі цёмныя, глыбокія вочы.

— Алеся, любая, ці ня прычулася мне, няўжо праўда, што і ты мяне кахаеш?

Не адхіляючы галавы, быццам у забыцьці, ціха, як выказваюць сакрэт, адказала яна:

— Праўда, мой адзіны, праўда, любы Яначка.

Ізноў даўгі, палкі пацалунак зьнішчыў, разагнаў імглу сумненьня, асьвяціў навокал радаснымі праменьнямі ўзаемнага шчасьця.

— Алеська, вось нечаканае шчасьце. Яшчэ некалькі хвілін перад тым я адчуваў сябе самым нешчасьлівым у сьвеце чалавекам. Думка аб тым, што я страчу цябе, не давала мне супакою. І вось так нечакана спаткала мяне гэткае шчасьце! Я не адгадаў твайго пачуцьця, не спадзяваўся ўзаемнасьці і не хапала сілы волі прызнацца, бо ня было надзеі.

— А я дык заўважыла, што з табой нешта дзеецца. Спачатку ня ведала, аб чым ты так патаемна ўздыхаеш. Потым пачала дагадвацца, але пэўнасьці ня мела. Твой сум непакоіў мяне. Пыталася, ты не хацеў сказаць, я думала, што памылілася; неяк балюча рабілася пры гэтым, бо я ўжо пакахала цябе. Але-ж ты больш сьмелы, як мне здавалася; былі нашы адносіны праз увесь час такія далёкія, афіцыяльныя—і раптам... без майго дазволу ты пацалаваў мяне,—дадала з усьмешкай.

— Абы не памыліўся ў тваіх пачуцьцях. Каб толькі я ведаў пра іх раней, дык „далёкасьць“ наша зьнікла-б яшчэ пры Зосі. Шкадую, што яна паехала.

— Не, Яначка, ты абяцай мне, што Зося ня будзе ведаць аб нашым каханьні, і брат мой таксама, што ніхто аб ім не даведаецца. Навошта, каб ведалі, так ляпей. Хай толькі будзе наша каханьне праўдзівым.

— Я дык ня ведаю, чаму нам хавацца і быццам баяцца каго?

— Не, не, дай мне слова, што ніхто не даведаецца, калі ты толькі кахаеш мяне.

— Ну, добра, абяцаю, толькі ты, Алеська, вытлумач мне, чаму гэта патрэбна.

— Ня пытайся... так павінна быць.

Гэткае жаданьне Алесі навеяла незьясьнімыя сумненьні на Янку. Трывожыла думку, што ў ім нешта схавана. Але ён занадта быў захоплены шчасьцем, каб даць простор гэтаму сумненьню, і яно хутка зьнікла.

Забылі пра поезд, пра сьцюжу на дварэ, шпацыравалі па пляцформе, затрымліваліся часам над тым „гістарычным“ месцы ў цяні дрэў, дзе прызналіся ў каханьні, дзе спаткалі першыя хвіліны шчасьця.

А поезд спазьніўся; шлі цэлыя гадзіны, і яго ня было. Янка тлумачыў гэта, як спагад нават з боку акалічнасьцяй яго шчасьцю, бо дазваляў яшчэ некалькі гадзін пабыць з дарагой Алесяй. Шпацыравалі па пляцформе, а калі йшлі ў вокзал, дык тады яны вартавалі клумкі, а брат ішоў уздыхнуць сьвежае паветра.

У прысутнасьці брата Алеся зараз-жа мяняла свой тон. Замест простага, шчырага, прасякнутага цёплым пачуцьцём, зьяўляўся вытрыманы, халодны, чужы. Янка таксама інакш зьвяртаўся да Алесі, памятаючы абяцаньне ёй, хоць прыкра было яму гэта рабіць. Затое, калі заставаліся адны,—ізноў надыходзілі шчырасьць, захапленьне сваім шчасьцем. Быццам нейкая камлыга звальвалася з грудзей, рабілася лёгка, прыемна, салодка.

— Я цябе, Янка, пакахала ад першага погляду; ня ведаю, ці ты мяне толькі кахаеш. Мо‘ ты так толькі часова захапіўся. Не супярэч. Трэба аб гэтым давесьці інакш, не на словах, а ў жыцьці. Калі ты сапраўдна і шчыра мяне кахаеш, дык вось што зрабі: прыяжджай да нас на каляды.

— Не сумнявайся, Алеська, у маім каханьні. Я, здаецца, на край сьвету пашоў-бы, каб толькі пабачыцца з табой. Толькі ці выпадае ехаць да цябе? Я-ж для вашай сям‘і зусім незнаёмы, чужы. Каб табе ня было няпрыемнасьці?

— Глупства, я ўгавару брата, каб запрасіў цябе ў госьці. Маму таксама папярэдзім, што ты даўны сябра брата, увесь час служыў з ім у войску. Вось ты і прыедзеш да брата—свайго сябра. Так згаджаешся?

— Хіба-ж ты ня ўпэўнена, што я на тваю просьбу не магу адказаць інакш, як споўніць яе.

— Вось і добра, заўсёды будзь такім. Да нас трэба ехаць так: па чыгунцы—на Бабруйск, а там амаль на палове дарогі між Бабруйскам і Менскам знаходзіцца станцыя Талька. Адтуль крыху больш 15 вёрст і знаходзіцца наш хутар Залужжа. Папытаешся на станцыі, дык кожны жыдок яго ведае і пакажа дарогу. Лепш было-б, каб ты перад ад‘ездам даў тэлеграму, тады брат вышле па цябе фурманку. Я табе зараз напішу падрабязны адрас.

Тутака-ж, на пляцформе, ня здымаючы нават рукавічкі, запісала на шматку паперы дакладны адрас і сваё імя, па бацьку і прозьвішча.

— Хавай гэта і пішы да мяне, а пакуль атрымаеш мой ліст, хай хоць гэты шматок напамінае табе аб Алесі.

Пад самую ўжо раніцу прышоў поезд. Ён быў бітком набіты пасажырамі. Унутры вагонаў, на плошчах вагонаў, у праходах паміж вагонамі, на буфэрох, сходках—усюды ня было вольнага месца; нават на страсе вагону ехалі, ня гледзячы на холад. Ехалі пераважна вайсковыя. А тут

яшчэ, як толькі поезд затрымаўся, пачалі яго штурмаваць сотні новых пасажыраў. Штурхаліся, тапталіся па нагах, лезьлі праз вокны, праз буфэры, лезьлі ў вагон, на страху. Крык, штурханіна, спрэчкі, лаянка. Янка думаў ужо, што Алесі з братам ня ўдасца сесьці ў вагон. Пачаў прабірацца праз натоўп да вагонаў: за ім ішлі Алеся і брат. Дабраўся, нарэшце, да буфэроў, бо да сходак было немагчыма, ускочыў на буфэры, падаў руку і ўцягнуў Алесю, потым уцягнулі і брата. Праціскаліся сяк-так толькі на пярэднюю плашчадку вагона і хоць было надта цесна, але ўсё-ж была пэўнасьць, што паедуць. На плашчадцы, таксама і ў самым вагоне было цёмна,—ня бачылі адзін аднаго. Размова абарвалася. Алеся стаяла каля Янкі, ён чуў яе дых каля свайго пляча і стрымліваў натоўп, каб ёй лепей было стаяць. Яна зрабіла рух, вызваліла сваю руку, адшукала Янкаву і моцна яе сьціснула ў сваёй. Прагучэў трэці званок. Заныла раптам у Янкі на сэрцы, быццам нешта страшнае мела адбыцца, быццам гэты гук лёг непрагляднай сьцяной між ім і чымсьці сьветлым, прыгожым, радасным. Пасьпешна разьвітаўся з братам Алесі, потым моцна сьціснуў руку Алесі. Яна схілілася над вухам і амаль чутна, каб не пачуў брат, прашаптала:

— Пішы, Янечка, не забывай тваю Алесю і абавязкова прыяжджай на каляды. Чакаю!

Праціскаўся Янка да дзьвярэй і праз буфэр саскочыў на пляцформу.

Цягнік засоп, застагнаў, апрануўся клубамі белае пары і паволі, быццам вялікі цяжар не паддаваўся яго патугам, крануўся з месца. Загрукалі ў тахт колы вагонаў, усё больш часта, больш часта. Беглі яны міма, адзін, другі, трэці... Вось і апошні. Мінуў поезд станцыю і пазіраў на яе адным чырвоным вокам на заднім вагоне. Рэхам разносіўся грукат па палетках, засланых першым сьнегам. Усё менш яскравым станавілася чырвонае вока. Зьмяншаўся пучок іскраў над цягнікам, менш выразным зрабіўся рытмічны грук колаў. Але гэты грук адбіваўся глыбока ў сэрцы Янкі. З ім аддалялася, хто ведае, мо' на заўсёды, самае для яго цяпер дарагое. Колькі блізкіх, так патрэбных для жыцьця, як паветра чалавечых істот разлучае гэты цягнік, у колькіх сэрцах з гэтым грукам адбеглі, зьніклі, заглохлі іх самыя лепшыя пачуцьці, парываньні, зруйнаваліся пляны, змарнавалася жыцьцё, таксама, як той кволы організм, што дыша адным толькі лёгкім і чахне. Адлегласьць—наш вораг, бо хоць і нішчыць, разам з часам, нашае каханьне, памяць аб дарагіх істотах, але зьнішчанае нічым замяніць ня можа, як нельга з пагаснутага вугалю стварыць першавобраз спаленага маладога дрэўца.

Змоўк грукат, сьціхлі палеткі, зьнік у водалі поезд, даўно апусьцела пляцформа, а Янка ўсё стаяў і глядзеў у той бок, дзе схаваўся поезд, запытаў невядомую водаль ці надоўга схавала ад яго тое, што толькі некалькі хвілін перад тым ён бачыў, адчуваў сэрцам, адчуваў усёй сваёй істотай. Змоўк грук поезду, але ясна чуў яго Янка, калі па пустой

вуліцы, выбіраючы меней гразкія месцы, ішоў дамоў, паставіўшы каўнер ад сьцюдзёнага ветру. І здавалася, што гэты грук не заціхне, не заглохне і будзе чуцца заўсёды.

* * *

Пасьля ад'езду Алесі жыцьцё Янкі пашло з надворнага боку старымі каляінамі, бязьзьменна, аднастайна, сумна.

А наўкола ішлі вялікія падзеі, якімі так багаты быў 1917 год. За некалькі дзён да спатканьня Янкі з Алесяй адбыліся вялікія кастрычнікавыя здарэньні. Яны, аднак, моцна не закранулі Янку, стаяў ён пакуль з боку ад іх. Так ужо складалася яго жыцьцё, такі яно палажыла адбітак, што ня штурхала Янку прымаць актыўны ўдзел у гэтых здарэньнях.

Радзіўся і падрастаў ён у вясковай глушы. А дзесяці гадоў бацькі аддалі яго вучыцца і, з прычыны Янкавай здольнасьці ў навуцы, настаўнікі раілі бацьком вучыць яго далей. Наскольні дазвалялі сродкі і інтарэсы гаспадаркі, бо бацька быў стары і Янку трэба было працаваць, каб падтрымаць сям'ю, ён усё-ткі вучыўся. Прыходзіў у школу, праўда, позна ў восень, калі ўжо была скончана праца каля гаспадаркі. Вучні за гэтыя два-тры прапушчаныя месяцы шмат вывучылі, ужо нікога ня прымалі. Але Янку ўдавалася папасьці ў школу: настаўнікі ведалі яго здольнасьці і ўмовы жыцьця, прымалі яго,—былі ўпэўнены, што Янка „дагоніць“ сваіх таварышоў па клясе, і не памыляліся. Янка нават апераджаў іх. Так па крысе, з перашкодамі, хоць і было цяжкавата, праходзіў Янка вучэньне. Была надзея, што скончыць як-небудзь сярэднюю школу.

Тут, аднак, здарэньне прарвала назаўсёды Янкаву навуку: памёр бацька, трэба было ўзяцца самому за гаспадарку. А гаспадарка хоць была і невялікая, аднак, патрабавала шмат часу і не дазваляла адарвацца ад сябе. У той год не дачакаліся настаўнікі Янку ў школу.

Выбухнула ўсясьветная вайна. Янку яшчэ не надыходзіў час прызыву: быў малады яшчэ. Думалася, што вайна скончыцца і Янку ня прыдзецца папасьці на фронт. Але падзеі выразшылі інакш. Вайна зацягнулася, пашоў прызыў за прызывам, і Янкаў год мобілізаваўся да тэрміну. Прызыў на вайну быў крутым паваротам у Янкавым жыцьці, стаў мяжой, за якой пачалося іншае жыцьцё.

Лагодна-супакойны выгляд ніў, сенажацяй, чароўна-таемны гоман дубровы ўлетку, срэбна-белы дыван сьнегу і ціхая глуш зімы,—вось абставіны, у якіх жыў Янка і якія ўплывалі разам з кніжкай на характар Янкі, рабілі яго больш уражлівым, захоплівым у імкненьнях, хоць няясных, няпэўных да лепшага. З такім нясконченым у разьвіцьці характарам, з нявыразнымі няпэўнымі парываньнямі, з шуканьнем чагосьці лепшага, з нязнойдзеным яшчэ ідэалам жыцьця—папаў ён на фронт. Сувязь з усім тым, што дагэтуль адтачала яго, абарвалася. Немец заняў яго радзіму ў Віленшчыне, і так хутка, што перашкодзіў наладзіць сувязі нават з тымі, хто пасьпеў выехаць у Расію. Адзіноцтва, цяжкія матэрыяльныя

абставіны, цяжар франтовага жыцьця. Дзікасьць самой вайны, грубыя, нечалавечыя адносіны большасьці афіцэрства да жаўнераў. Чалавечая істота тут траціла сваю годнасьць і вартасьць, нават цалком трацілася ў гэтым крывавым віры. Наўкола спустошаныя палеткі, спаленыя, зьнішчаныя вёскі, крыжы брацкіх могілак. Шэрыя, аднастайныя шынэлі і ўтомленыя, запэцканыя тупыя твары. І ня толькі кабеты, а нават і звычайнага цывільнага чалавека не даводзілася бачыць цэлымі месяцамі, а калі і былі сярод акружаючых людзі з больш чулай душой, таварышы па няшчасьцю, з кім можна было-б падзяліцца сваімі думкамі, перажываньнямі,—дык гінулі яны, быццам зданьне вайны знарок выбірала іх сваімі ахвярамі. Сьвет іншы, што жыве цяпер тым жыцьцём, якім і Янка жыў да вайны, зьнік недзе, адгарадзіўся высокай мураванай сьцяной ад гэтай страшной крывавай завірухі, дзе, замест сьняжынак, круціць, віруе, кудысьці ў бяздоньне нясе мільёны людзей. Той сьвет іншы здаваўся нейкай марай, зьнікшай у бязьмежнай водалі.

Новыя абставіны жыцьця, яго акалічнасьці і перажываньні палажылі свой адбітак і на Янку. Ён зачыніўся са сваімі думкамі ў сабе, расчараваўся ў здольнасьці людзей тварыць добрае. Усё чульлівае, лепшае, сьветлае загінула, заглохла, здаецца, назаўсёды, пакрылася тоўстым пластом адчужанасьці, абыякасьці да ўсяго,—пластом, які накладаўся штодзённым жыцьцём бяз мэты, бяз веры ў сягоньня, без надзеі на будучыну, пластом, які марозіў душу. Трэба было моцнага ўдару, каб вывесьці з гэтага стану, абудзіць. Так беглі сумна, аднастайна доўгія дні франтовага жыцьця.

Надышла Лютаўская рэволюцыя. Сьвежым, вольным ветрыкам павеяла ад яе ў акопах. Матэрыяльнае становішча і цяжар франтовага жыцьця, хоць і засталіся амаль як і дагэтуль, зьмяніліся толькі адносіны, спыніліся надужыцьці начальства, узрасла годнасьць і вартасьць чалавечай істоты. Першым палітычным лёзунгам, к якому больш прыслухоўвалася войска, было—спыніць хутчэй вайну, зьвярнуцца да дому. Дэталі праграм палітычных партый менш цікавілі. Урадавыя камісары і быўшае афіцэрства як мага стараліся перашкодзіць пранікненьню ў войска бальшавіцкіх газэт, стараліся падтрымаць настрої—„Вайна да пераможнага канца“, але ня мелі посьпеху ў гэтым. Дык ня дзіва, што ў Янкі было толькі агульнае спачуваньне рэволюцыі і ня было сьвядомасьці, якім шляхам яна пойдзе. Потым перакінулі частку з фронту ў глухі павятовы горад для пераформаваньня. Тутка і выпала перажыць кастрычнікавыя падзеі. Дый іх тут амаль і ня было, нічым гэтыя дні не адзначаліся і ведалі аб падзеях больш па газэтных вестках. Хіба толькі з надворнага боку быццам больш бязладзьдзя стала. Не патрапіў Янка вытлумачыць сабе няўхільнасьць бязладзьдзя ў першы час рэволюцыі і няўхільнасьць крывавай барацьбы за замацаваньне яе. Ня прымаў актыўнага ўдзелу.

Вось у час гэтага раздарожжа ён і спаткаў Алесю. З гэтым спатканьнем ён пераступіў цераз мяжу ў той іншы сьвет, аб якім у глыбіні душы засталіся толькі ўспаміны. Яна першая прыпомніла Янку, што існуе іншы сьвет, які мае, замест цяжараў і цярпеньняў, радасьць і шчасьце.

Пад яе чароўным поглядам растапіліся пласты лёду на Янкавай душы, і з-пад іх жывым нястрыманым вадаграем прабіліся на волю стрыманыя закутыя жаданьні. Закранутыя ёю абарваныя, здавалася, заглохшыя струны азваліся мэлёдыяй маладой, прагавітай да жыцьця натурай. Гэта быў той моцны ўдар, які здрузгатаў узваленую крывавым вірам камлыгу, абудзіў, падняў да жыцьця. Устрахануўся, перарадзіўся Янка; уваскрос, як прырода вясной пасьля доўгага зімовага сну.

І гэтая шэрая, нудная сьцюдзёная восень сталася для яго вясной,— тэй вясной, што сваім жыцьцярадасным гоманам і чароўнымі фарбамі хараства выклікае жаданьне, стварае пляны на будучыну, навявае фантастычныя сны; тэй вясной, у якую дзяцюк так сквапна бяжыць за першай кветкай, слухае першую песьню жаўранка. А хто ў гэткую вясну мае моц забараніць сэрцу чульліва забіцца або затрымаць думку, раскалыханую песьняй салаўя. Дык ці-ж можна тады не жадаць жыць, нават ведаючы, што ўперадзе чакае шмат ліхіх гадзін, што ясны небасхіл можа заслацца хмарамі.

Раней заглушаныя і сьпячыя, а цяпер абуджаныя, сабраныя на ўласным шчасьці жыцьцярадасныя сілы Янкавай душы амаль аднолькава адрывалі яго ад агульнага, грамадзкага. Беглі дні, кіпела жыцьцё і барацьба, а ён больш думаў аб Алесі, успамінаў кожнае яе слова, стараўся захаваць у выбражэньні яе вобраз. Найвялікшай асалодай былі яе лісты. У лістох і Янка і Алеся выказалі дадаткова тое вялікае нявымоўнае пачуцьцё, якое, здавалася, яшчэ ня выказана, бо папярэднія словы і сказы, здавалася, не маглі перадаць усёй глыбіні яго, тым больш, што гэта былі ня выдуманыя, штучныя і гучныя словы: такіх ні Янка ні Алеся і ня ведалі. У простых і шчырых словах іх лістоў яны яскрава адбівалі настроі сваёй душы. Бо і самае каханьне, у сваім галоўным, адзначаецца прастатою і шчырасьцю.

Ва ўсіх лістох Алесі выказвалася чаканьне тэй хвіліны, калі ізноў яна пабачыць Янку. Была ў іх і прасьцярога, каб ня выдаць хатнім, схаваць ад іх каханьне. Наказвала Янку захоўвацца асьцярожна і нават прыслала яму іншы адрас для лістоў. Відаць, баялася, каб ня было-б нагляду, каб не расьпячаталі часам ліста Янкі.

Праз нейкі час атрымаў Янка і ад Мікалая, брата Алесі, ліст. Той, з свайго боку, запрашаў Янку ў госьці на каляды і наогул пісаў у сяброўскім тоне. Але Янка бачыў і адчуваў у гэтым уплыў Алесі. Цяпер ужо Янка не сумняваўся, што трэба паехаць і ёсьць да гэтага магчымасьць. Дый яму і ня было куды больш ехаць у водпуск; у Віленшчыне быў немец, а да старэйшай замужняй сястры ў Петраградзе не цягнула так. Самая галоўная прычына была—моцнае жаданьне пабачыцца з Алесяй,

пазнаць бліжэй яе ў штодзенным жыцьці, выгашыць лёс будучыны. З тых нялічных дзён пабыўкі яе тады ў горадзе толькі некалькі гадзін яна была такой блізкай. Хто ведае, мо' лісты пісала пад уплывам настрояў тэй хвіліны і цяпер зьмянілася і сустрэне Янку проста, як добрага знаёмага.

Чакаў нецярпліва каляд і рыхтаваўся да паездкі.

Незабавам надышлі каляды. Атрымаў водпуск на месяц і меркаваў яго скарыстаць так: два тыдні прабудзе ў доме Алесі, а потым паедзе ў Петраград да сястры, дык мо' і яшчэ каго адшукае там з сваякоў і знаёмых. З такім намерам і выехаў.

У вагоне час бег хутка, няпрыкметна. Новыя людзі, з якімі прыходзіцца спаткацца ў падарожжы, новыя тэмы ў гутарцы, новыя малюнкі прыроды, што мільгаюць міма вокнаў поезду, як на кіно-стужцы,—усё гэта адрывае ад папярэдняга жыцьця, распрашае папярэднія думкі, мімаволі змушае забыць аб іх. Так і Янкава думка адбегла ад Алесі, пакінула яе на час. Ізноў яна заварушылася толькі тады, калі Янка зышоў на станцыі. Блізкасьць моманту спатканьня ўзварушвала яго. Тэлеграмы аб сваім прыезьдзе ён не пасылаў, не хацелася турбаваць, і цяпер трэба было адшукаць фурманку. Гэта ня было так цяжка. Каля станцыі аказалася некалькі сялянскіх фурманак; адну з іх і наняў Янка. Сеў у развалiны, ухутаў ногі саломай, падняў каўнер,—і крануліся ў дарогу.

У гэтым годзе Янка за акраіны свайго гораду ня езьдзіў і цяпер убачыў у першы раз шырокія прасторы, прыбраныя зімовай вопраткай. Прыглядаўся, любаваўся імі. Куды ні кінь вокам—сьветлая бель; толькі далёка-далёка на кругавідзе чарнее лес. Усе лагчынкі, равочкі, ямачкі зацярушыла сьнегам, зраўнавала. Атуліла ім зямлю, як коўдрай. Ціха ў полі, ані жывое душы. Дрэвы і кусты аблеплены сьнегам і стаяць нярухомыя. Не калыша ніводнае галінкі вецер. Бяжыць трушком павольна конік. Спусьцяцца з горкі ў далінку, з далінкі ізноў падымуцца на горку, а далей ізноў роўна. З аднаго боку пападзецца луг, хмызьнякі, з другога—нівы, бярозавы гаёк на горцы. А ўсё так бела, сьветла, нярухома усьміхаецца, здаецца, Янку, вітае яго.

— Мабыць, вы сваяк Лапкоўскіх?—запытаўся фурманшчык, якому відаць, нудна было ехаць моўчкі.

— Не, не сваяк; служыў у войску разам з Мікалаем Лапкоўскім, дык і еду на пабыўку да яго.

— Так, значыцца, ваявалі разам. Цяпер, кажуць, быццам бальшавікі хочуць скончыць вайну з немцам, але буржуі, значыцца, і іншыя ня хочуць і перашкаджаюць. Калі пагодзімся з немцамі, дык, кажуць, саюзьнікі на нас пойдуць. Як-жа, значыцца, будзе?

— Чуў, што савецкая ўлада запрапанавала немцу згоду, мо' заміранца, калі пойдзе на гэта немец.

— Ну, а як вы думаеце, ці добра будзе, калі гэтая самая савецкая ўлада ўстановіцца?

— Ня ведаю добра і я, ня цікавіўся політыкай, доўгі час быў на фронце; нават і цяпер мала цікаўлюся.

— Чаму-ж гэта вы ня цікавіцеся? З гэтай завірухі хіба-ж павінна быць якая-небудзь зьмена, добрая ці дрэнная, усё-ж нешта выйдзе. Хіба вы мо' ня з простых будзеце?—запытаўся селянін і стаў цікава аглядаць Янку.

— Я сын селяніна, працаваў да вайны на гаспадарцы і да „няпростага“ стану не належу. Чаму ня цікавіўся політыкай, дык, па праўдзе сказаць, і сам ня ведаю. Ня цікавіць,—дый годзе,—адказаў Янка з больш шчырай ноткай у голасе і цяпер сам стаў прыглядацца к фурманшчыку.

Ня зусім стары, гадоў мо' і больш, як 50, шчуплы твар, рэдкая клінком рыжая бародка, з-пад старой з зайцавай скуркі шапкі тырчыць з правага боку камок скудлачаных валасоў, на шыі абкручана нейкая шмата, здаецца, старая з воўны хустка, адзеты ў кажушок, а паверх яго больш даўгая шэрая сьвітка, даматканыя шэрыя палатаныя нагавіцы і лапці з аборкамі; маленькія, рухлівыя, хітраватыя вочы. Наогул шустры, цікавіцца ўсім, цяміць усё, любіць пагаварыць. Цяпер, калі даведаўся, што Янка не з панічоў, пачаў сьмялей гаварыць з ім.

— А вось, памойму, дык трэба цікавіцца, бо як-жа інакш. Калі складаецца жыцьцё так або гэтак, дык яно-ж і нас закранае. Будзе добрая ўлада, лепей будзе жыць, дрэнная—горш, мы ўсе-ж залежым ад улады. Калі скончыцца вайна—надзеляць зямлёй, зьнімуць падаткі, дык і можна будзе чалавеку жыць. І больш нічога ня трэба, толькі сам ня сьпі ў шапку. Толькі і ў іх хіба вялікая сіла?

— Зьбіраюцца, чуў, недзе на Доне казакі дый у Сібіры нешта рыхтуецца. Нашая старая армія ня хоча ваяваць, а чырвонай гвардыі мала ёсьць, ды яна яшчэ слабая: не хапае вайсковых ведаў, дысцыпліны. Адным словам, супакой ня хутка прыдзе.

— Няма цяпер ладу і ў нас. Ад вышэйшай улады нічога ня чуваць, ніхто яе ня бачыць, дык ніхто і не баіцца. Выберам у воласьці камітэт— значыцца мясцовая ўлада,—усе крычаць, спрачаюцца, амаль да бойкі даходзіць. А праз два тыдні ізноў перавыбары. Выберам у камітэт багацейшых, больш сталых, як кажуць, паважных, дык тады наракаюць, што нічога ня робяць, ня хочуць надзяляць зямлёй і мяркуюць толькі сабе што ўрваць. Выберам беднейшых, пачнуць яны зямлю і скаціну на ўчот браць, дык тады крычаць, што ўсіх хочуць у камуну сагнаць, значыцца, бяз ніякай уласнасьці, усё супольнае, з аднаго нават катла есьці. Ізноў перавыбіраем. Боязна неяк гэтай самай комуны. Тыя, што захапілі панскую зямлю, аруць яе, а каму не дасталося, той глядзіць з боку крыва, зайздросьціць ды страшыць яшчэ: прыдзе, кажа, пан, зьвернецца стары лад і ўсіх захопнікаў на катаргу або на шыбеніцу. Няма ладу, няма каму зрабіць лад такі, каб адзін распараджаўся, а ня ўсе.

— Ну, дык каму-ж паводле вас цяпер добра?

— А каму раней жылося добра, той і цяпер жыве. Вось узяць, напрыклад, хоць-бы і Лапкоўскага, недалёка жыве ад мяне. Мае многа зямлі, мае многа хлеба і скаціны, хлеба і сабе хапае і прадаць ёсьць што, і на самагон досыць будзе. Ня трэба йсьці зарабляць, прасіць, кланяцца. Чаго яму, скулы ў бок хіба яшчэ трэба?

— Ён-жа, мусіць, і сам працуе ў гаспадарцы?—спрабаваў бараніць Янка.

— Ну, дык што-ж, што працуе. А я ці не патрапіў-бы працаваць, рукі ў мяне адсохлі, ці што; каб было толькі на чым працаваць, каб было толькі пабольш зямлі, дык я яе ня то што плугам, а рыдлёўкай ускапаў-бы. Ня ўсё і Лапкоўскі апрацоўвае сам, наймае парабкоў і дзяўчат, а ўлетку наймае падзёншчыкаў. Такія вось багацейшыя і задзіраюць нос угару, яны да мужыкоў і ня туляцца. Калі толькі ён крыху багацейшы, дык і разумнейшым сябе лічыць, і больш вартым, і гонару набіраецца часам больш, як сапраўдны пан, бо яны-ж і мяркуюць у паны выйсьці. Працаваць, дык кожны ня хворы, але няма на чым. Вось у мяне тры дзесяціны зямлі на восем душ. Апрача зямлі, ці-ж можна маю маемасьць параўнаць з іхняй. У мяне куды ні кінь вокам—усё ламаніна, усё трэба рапараваць—і колы, і хамут, і саху, і барану, і хатку папправіць, і дзьверы да адрынкі прыладзіць, дык усё трэба, а няма за што паправіць. А каб новае справіць—і ня думай! Цяпер за час вайны, калі сын пашоў у салдаты, дык яшчэ больш зруйнаваўся. А заработкаў, як гэта было раней, таксама няма. Няма на чым даставаць сабе хлеба, дый няма чым і даставаць яго. Да поўзімы яшчэ сяк-так сваім хлебам мяркуемся, а там і думай, адкуль яго дастаць,—хоць голаў аб сьценку бі. Пойдзеш куды-небудзь зарабляць, а не заўсёды заработак трапіцца. Пойдзеш папрасіць да такога багатага: „Так і гэтак, паратуйце, хоць са два пудзікі дайце, паночку“. „Добра, кажа, Зьмітрок Лось“,—гэтак мяне завуць,—„дам, толькі ты мне пакасі ці паары ўлетку“. „Ахвотна, паночак, толькі памажэце цяпер“,—адкажаш, бо інакш нічога ня зробіш. А прыдзе лета, дык папрацуеш не за два, а за пяць пудоў. Дзе-ж тут чалавеку будзе добра жыць! Не, трэба ўсю зямлю на душы падзяліць, тады кожны будзе пры сваім кавалачку, выйдзе на хутар і будзе сабе жыць бяз сварак з суседам. Толькі навошта гэту комуну выдумалі? З нашым народам хіба-ж можна ўжыцца ў комуне?

Янка маўчаў і слухаў жальбу Ляся. Гутарка на хвілінку спынілася. Лось дастаў капшук, набіў самасейкаю люльку, запаліў скалкай кнот і, прыкурыўшы аб яе люльку, запыхкаў клубкамі дыму.

— Не,—пачаў ізноў Лось,—нешта павінна ўсё-ткі быць, нейкія зьмены будуць, так нельга жыць. Невядома толькі, ці ўтрымаюцца бальшавікі. Калі пойдуць ваяваць казакі, дык з імі будзе цяжка ўправіцца. Каб толькі хутчэй лад устанавіўся. Павінна быць інакш, як дагэтуль.

Апавядаў шмат чаго Лось пра сваё жыцьцё, пра парадкі ў воласьці, пра настроі і жаданьні сялян. Скардзіўся на крыўды жыцьця і чакаў, што яно павінна зьмяніцца, хоць і ня ведаў добра, у якім напрамку.

Няўцямку абоім бег час і ўжо сьцямнела, бо выехалі яны пад вечар, а дарога была пасыпана сьвежым сьнегам і не працёрта, як трэба.

---

— А вось і Залужжа,—паказаў Лось на хутар на горцы, калі яны толькі ўзьехалі з лагчынкі на горку. Яшчэ некалькі хвілін, і яны затрымаліся на панадворку каля прасторнага, пакрытага гонтам дому.

„Што яна цяпер робіць?“ мільганула думка ў Янкі і радасна-трывожна забілася сэрца ад блізкага спатканьня. Хацеў апанаваць абхапіўшае яго ўзварушаньне і паслаў у дом раней Лася, быццам, даведацца, ці сюды яны трапілі. Калі забрахаў сабака на двары, дык нехта ў хаце падышоў да акна, але хто—нельга было пазнаць. Янка сядзеў на развалінах і чакаў пакуль зьвернецца Лось. Той, здавалася, марудзіў, і Янка чамусьці непакоіўся. Але гэта толькі здавалася. Праз хвіліну засьвяціўся агонь яшчэ ў двух вокнах дому з левага яго канца. Неўзабаве вышаў Лось і сказаў, што старэйшай дачкі і сына Лапкоўскіх няма дома, паехалі гуляць на вясельле да знаёмых. Гэтая вестка засмуціла Янку, ня ведаў, ці заехаць цяпер, ці лепш паехаць пераначаваць куды-небудзь і прыехаць заўтра. Не выпадае неяк пры іх адсутнасьці заяжджаць—невядома, як яго прымуць. Сядзеў на развалінах і раздумваў, не заходзіў пакуль што ў дом. Хацеў ужо ехаць да Лася пераначаваць. У гэты момант выбегла з дому дзяўчынка і падбегла да Янкі.

— Заходзьце, калі ласка! Мама прасіла, каб заходзілі.

— Не, дзякую, я заеду заўтра, як прыедуць панна Алеся і Мікалай.

— Яны-ж уночы прыедуць, заходзьце,—настойвала тая;—мама просіць, каб вы зашлі. Міколка папярэдзіў яе, што магчыма вы прыедзеце, дык каб вас затрымаць. Заходзьце!

Трэба было паслухацца дзяўчынкі. Пашоў за ёй у дом. Адчыніла дзьверы, і ён увашоў у вялікі, чысты пакой, відаць, ня ўжываны для хатніх патрэб і быў гасьцінный!

Пасярод пакою стаяла ня зусім старая яшчэ кабета, відаць, гаспадыня дому. Упэўніўшыся ў гэтым, Янка назваў сябе, падышоў, прывітаўся. Зьняў, па прапанове гаспадыні, шынэль і сеў каля круглага, пакрытага вязанай рэдкай сарвэтай століка.

— Мне Міколка казаў, што вы яго лепшы прыяцель у войску дый Алеська вельмі хваліла вас. Мы чакалі, што вы папярэдзіце свой прыезд тэлеграмай, і вось дагэтуль не атрымалі яе. А тут знаёмыя запрасілі на вясельле, адмовіцца ня было як, думалі, што вы адлажылі свой прыезд, і паехалі пагуляць.

Размова трымалася, як гэта заўсёды бывае, між гасьцём і гаспадыняй у пэўных далікатна-афіцыяльных рамках. Янка ў часе размовы агля-

даў пакой. Было прыемна яму ў гэтым пакоі, дзе ўсё напамінала Алесю. Тут-жа ўсё аддае Алесяй. Кожная рэч паложана яе рукой, гэта-ж не пакой, а рамы для яе жывога вобразу. Кожную рэч ён аглядаў з натхненьнем. Але больш усяго глядзеў на фотографію, што вісела ў рамах пад шклом на сьценцы. Яе ён заўважыў, як толькі расчыніў дзьверы. Гледзячы, ён асьцерагаўся, каб не заўважыла маці. „Ці-ж гэта тая самая Алеся, з якой ён разьвітаўся на станцыі? Яе вусны, цёмныя вочы, прыкрыты з бакоў валасамі лоб, прыгожы твар? Не. Фотографія непадобна да жывой. Вобраз тэй больш любы, дарагі“, вярцелася на думцы. І ніяк ня мог цяпер Янка выклікаць жывы вобраз Алесі. Ня ведаў, як яна выглядзіць, чым адрозьніваецца ад фотографіі. Але ведаў, што розьніца ёсьць.

Пасьля вячэры Янку была паслана пасьцель у суседнім пакоі, і ён, укалыханы думкай аб Алесі, утомлены пасьля дарогі, смачна заснуў. Прыезд Алесі і Мікалая чакаўся ноччу. Вось будзе неспадзеўку для Алесі, калі даведаецца, што ў суседнім пакоі сьпіць Янка.

Прачнуўся Янка, калі ўжо было сьветла і ўсходзіла сонца. У доме, відаць, усе даўно паўставалі. Пачаў Янка прыслухоўвацца, каб пачуць, што дзеецца ў доме, пачуць голас Алесі. Нязвычайная цішыня. Што-б гэта магло значыць?

Заўважыў недалёка ад ложка, каля сьцяны на зэдліку, міску з вадой, ручнік, мыла. Нехта, значыцца, уваходзіў у пакой, калі ён спаў. Пэўна Алеся. Пры думцы, што гэтая, нават дробная руплівасьць аб ім зроблена Алесяй, зрабілася надта прыемна Янку. Адчувалася, што самая дробная паслуга, выкананая Алесяй, праява нязначнай увагі да яго з яе боку даражэй яму і мілей за самыя вялікія ахвяры іншых людзей, жанчын. Тое, у чым ён бачыў прысутнасьць рук Алесі, набывала асаблівай каштоўнасьці.

Жаданьне хутчэй убачыць Алесю падняло яго з ложка. Устаў, памыўся, апрануўся і вышаў праз гасьцінны пакой на ганак. Хацелася спаткаць Алесю на двары, зьнянацку для яе, адну. Аднак, і тут яе ня было, у доме было вельмі зацішна, відаць, яшчэ ня прыехалі з вясельля. Янка вышаў пахадзіць па аколіцы. Зімовая раніца ўсьміхалася бадзёра ўзышоўшым сонейкам. Лёгкі марозік уначы прыбраў дрэвы срабрыстым інеем. У праменьнях сонейка блішчэлі сьняжынкі яскравымі брыльлянтамі. Шчокі ружавелі ад марозу, пад нагамі скрыпеў цьвёрды, сыпкі сьнег.

Цяпер Янка мог разгледзець аколіцу, бо ўчора ў цемры ня было відаць. З аднаго боку хутару шырокай і доўгай паласой цягнуліся хмызьнякі, балоты. Удоўж, поруч з хмызьнякамі, па лузе бегла зімовая дарожка ў бліжэйшае мястэчка. Улетку яна ішла па ўзгорку, праз поле. За хмызьнякамі на горцы віднеўся панскі маёнтак. У бок мястэчка на некалькі вёрст цямнеў хваёвы лес—бор. З другога боку ваколіцы, насупроць хмызьнякоў, поле канчалася невялічкім маладым лесам. А на ўсходзе, за маладым яловым гушчаром, каля якога яны ўчора ехалі, падымаліся над

вёскамі белавата-бурыя воблачкі дыму ад затопленых печаў. Там віднеліся і прысады старых высокіх бяроз абапал шляху.

Цішыня, супакой, глуш, прасторы, прыгожыя малюнкі прыроды. Воля для сонечных праменьняў,—нястрыманым бязмэтным хвалям ветру і адзінотным думкам.

„Вось дзе расла Алеся“, думаў Янка. „Шум адзінотнай у полі бярозкі, шум хваляванага ветрыкам жыта, гоман птушак у бліжэйшым ляску і кукаваньне зязюлі песьня раньняга жаўранка, стракаты ад красак луг і гэтыя прыгожыя ўлетку і ўзімку прасторы ўплывалі на яе душу, калыхалі думкі ў адзіноце, уторылі яе марам, жаданьням. Моцна, мабыць, яна зроднілася з імі, пакахала іх. Сапраўды, колькі красы, асалоды, шчасьця можна знайсьці і адчуць у гэтых прасторах нават у вадзіноце, а яшчэ больш з каханай істотай. Трэба толькі радзіцца і ўзрасьці на гэтых прасторах і захаваць у душы, пранесьці не зачэпленымі праз жыцьцёвыя прыгоды захапленьні імі“.

І ўспомніў тут Янка сваё юнацтва, сваё жыцьцё ў гэткай самай глушы. Колькі раз ён ні адрываўся ад гэтых прастораў, заўсёды цешыўся, радаваўся, калі толькі ізноў давялося вярнуцца да іх, спаткацца з роднай прыродай. Нават на зьнішчаных вайной палетках патрапіў ён заўсёды адшукаць нешта прыгожае.

Вось і цяпер хадзіў па аколіцы са сваімі думкамі і прыглядаўся прыгожасьці прыродных вобразаў.

„Эх, каб хутчэй толькі зьвярнуцца ізноў да родных прастораў, зьліцца душой, як раней з імі“.

З другога боку хутару пачуўся гук званка. „Едуць“, падумаў і накіраваўся да дому.

Калі Янка ўзыходзіў на панадворак, дык з другога канца яго ўехаў вазок, на якім сядзелі Мікалай з Алесяй. Абодва ўбачылі Янку. Алеся, як толькі ўбачыла, зараз-жа выскачыла з вазка і пабегла насустрач, але потым затрымалася і пачакала, пакуль выперадзіць яе брат,—падышла за ім. Але з яе посьпеху, з якім яна памкнулася бегчы на спатканьне, калі толькі ўбачыла Янку, можна было ўцяміць, што яна была стрывожана. Потым сунялася і трымалася спакойліва.

Пры супольным сьнядальні апавядалі Алеся і Мікалай пра ўражаньне на вясельлі, а Янка—аб прыгодах у дарозе. Пасьля сьняданьня Мікалай пашоў спаць, Алеся таксама вышла, і Янка застаўся ў пакоі адзін.

Узяў нейкую кніжку, якую выпадкова знашоў на камодзе, паставіў крэсла каля акна і пачаў чытаць. Аднак, думкі адрываліся ад кніжкі, Янка палажыў яе ды пачаў прыглядацца, што дзеецца на двары.

Акно выходзіла ў сад і засланялася кустам язьміну. Улетку тут быў цень ад дрэў і язьміну. Цяпер галінкі бяз лісьцяў не перашкаджалі доступу сьвету ў пакой, а сваёй сьнежна-белай вопраткай яшчэ больш

асьвятлялі яго. Некалькі вераб'ёў цьвірыкалі ў кусьце, біліся адзін з другім і сваім рухам абсыпалі на зямлю сьняжынкі інею.

Янка прыглядаўся гэтай барацьбе з усьмешкай, а думкі насіліся вакола пытаньня: ці кахае яго цяпер так, як тады, Алеся. Шмат часу ўжо прашло, як яны ня бачыліся. Магла забыць. Прыпамінаў усе сягоньнешнія словы Алесі і шукаў сярод іх тых, з якіх-бы можна было-б дагадацца аб яе каханьні... і не знаходзіў іх. Параўноўваў яе выгляд; портрэт яе на сьцяне зусім непадобны да яе сягоньня. А яна сама неяк непадобна да тэй Алесі, што жыла ў яго выабражэньні, іншая зусім. Стараўся прыпомніць, як выглядала яна тады, выклікаць ва ўспамінах яе вобраз. „Не, тады была іншай, нават па выгляду...“ кожны раз адказваў сабе. Падцікоўвалася да яго сумненьне, закрадвалася нават шкадаваньне, чаму прыехаў сюды, узьбягала на думку, каб доўга не забавіцца і г. д.

Сумненьне—наш самы небясьпечны вораг. Яно атручае пачуцьцё горкай атрутай, адбірае не адну супакойна-шчасьлівую хвіліну. Асабліва, калі яно бывае ўзаемнае, калі мы не адгадаем гэтага сумненьня ў дарагой для нас асобе і калі ня здолеем, не патрапім зьнішчыць сумненьня ня толькі свайго, але і сумненьня адносна нас. Дый ня толькі ў каханьні сумненьне разбурвае шчасьце. Колькі жыцьцяў разбурана дарма, колькі шчасьця зьнішчана праз сумненьне агульнае. На жаль, толькі тады мы пераконваемся, што наша шчасьце зьнішчана толькі сумненьнем, калі вярнуць яго немагчыма. Сумненьне адбірае сілу-волі, жаданьні, пэўнасьць, надзею ў тое, што мы здолеем дасягнуць свайго,—у лепшую будучыню. А хто без надзеі ў будучыну, бяз веры, бяз пэўнасьці ня спыняецца перад першай перашкодай, замест перамагчы яе, ня спыняе імкненьняў да дасягненьня свайго і такім чынам не дасягае яго, і такім чынам адмаўляецца ад свайго шчасьця і, сам ня ведаючы таго, што яго можна было дасягнуць, калі-б толькі больш энэргіі было патрачана, а галоўнае, калі была-б захавана вера і пэўнасьць у дасягненьні. Ва ўсіх галінах нашага жыцьця сумненьне застаецца амаль самым небясьпечным ворагам.

Вось і да Янкі гэты вораг цікаўся ў самую раніцу яго шчасьця і навяваў на яго сумныя думкі. Затоплены ў іх, ён і не пачуў, як у пакоі адчыніліся дзьверы і ўвашла Алеся. Заўважыўшы задумлёнасьць Янкі, яна затрымалася крыху каля дзьвярэй і сачыла за ім. Потым лёгкім спрытным крокам падбегла да Янкавага крэсла, абвіла шыю рукамі і пачала яго цалаваць.

— Аб чым задумаўся, Яначка? Чым не здаволены?—спыталася, села яму на калені, а рукі трымала сашчэпленымі пальцамі на шыі і глядзела чульліва-пытліва ў вочы.

— Думаў аб тым, ці кахаеш ты мяне,—адказаў узварушаны, шчасьлівы ад такога бурнага пачуцьця Алесі.

— А цяпер верыш?

— Веру, і хачу каб і ты не сумнявалася,—прамовіў і з гэтымі словамі прытуліў Алесю да сябе, а замест слоў упэўніў яе ў сваім каханьні. абсыпаючы пацалункамі.

Хоць прасіў Янка, каб яна пашла адпачнуць, заснуць на гадзінку, бо праз усю ноч не закрывала нават вачэй, яна адмовілася ад гэтага. Выбера ўдатную хвілінку, каб свае не заўважылі, і прыбяжыць ізноў да Янкі. Ізноў успаміны пра спатканьне ў гасьцініцы, растаньне на станцыі, пацалункі, шчыры вясёлы сьмех. Толькі пад вечар неяк прылягла Алеся на ложку, дзе сёньня спаў Янка, і моцна заснула. Так і праспала яна да позьняга вечару, калі ўжо ўсім трэба было йсьці спаць. Нат' вячэраць ня ўстала, абудзілі яе, каб пасьлаць на гэтым ложку пасьцель для Янкі.

---

Застаўшыся адзін у пакоі, Янка сядзеў каля століка, глядзеў на агонь лямпы і перабіраў у думцы ўражаньні першага дня, нястройна зьмешаныя, зблытаныя ў адно моцнае, салодкае ўражаньне. Паўзмрок у пакоі і цішыня, а таксама лёгкае бушаваньне ва ўсёй істоце, яркі вобраз Алесі ў вачох—выклікалі прыемныя мары, і ён паддаўся ім. Сядзеў нярухома праз нейкі час каля століка. Як доўга—і сам не заўважыў. Мо' прасядзеў-бы так усю ноч, каб не ўвашла ў пакой Алеся.

— Ты яшчэ ня сьпіш? Кладзіся, адпачывай пасьля дорогі. Мне так прыемна было сёньня паляжаць на ложку, дзе ты спаў. Я так моцна заснула! Калі пачала драмаць з думкай аб табе, хацела, каб убачыць цябе ў сьне. І вось я заснула. Але нешта перашкаджала сасьніць цябе. Вось, вось ужо бачу цябе выразна, ты, здаецца, падыходзіш да мяне, я выцягваю рукі, каб цябе хутчэй пацягнуць, прытуліць да сябе—і раптам між намі стане нейкая постаць, і вобраз твой плыве ў водаль, робіцца імглістым, нявыразным, зьнікае. Так увесь час перашкаджала нешта. Ну, гэта нічога, я цябе жывога затое бачу... Пара, аднак, спаць... Я сплю тут, у суседнім пакоі адна і вельмі баюся,—такая ўжо натура баязьлівая. Дык я адчыню крыху дзьверы твайго пакою. Тады і страх зьнікне, бо блізка мой Янка. Дабранач!—Моцна, шчыра пацалаваліся і разышліся.

Пад раніцу, калі ўжо крычалі пеўні і пачынаўся сьвет, Янка прабудзіўся і чула драмаў. Праз дрымоту яму здалося, быццам у пакой нехта ўвашоў цераз адчыненыя дзьверы з боку Алесінай каморы і падыходзіць да яго ложка. Няўжо здань? Але хутка нехта крануўся яго, адкрыў крыху коўдру і схіліўся над ім. Янка пачуў:

— Ты яшчэ сьпіш, Яначка?—запытала Алеся.

Янка выцягнуў да яе рукі. Пры гэтым коўдра з грудзей спаўзла і ён прыцягнуў яе да сябе. Пацалункамі яны спаткалі надыходзячы дзень. Янка адчуваў на сваім твары подых Алесі, адчуваў блізка, блізка, бо толькі ценкая сарочка аддзяляла іх, мяккія, цёплыя грудзі Алесі адчуваў на сваіх грудзёх, як білася яе сэрца, білася каханьнем да яго. Ня было слоў пры гэтым раньнім спатканьні. Імглавіліся вочы, як ад нейкага са-

лодкага ласкатаньня або яркага сьвятла пасьля цемры. Алеся прыслухоўвалася да кожнага шораху, як уцёкшы вязень, каб яго не злавілі на ўчынку, калі ён украў для сябе... волю...

— Ну, ты яшчэ сьпі, Яначка, а я пайду па гаспадарцы. Можа яшчэ сюды зайсьці Мікалай. Вось тады я папалася?!—казала жартаўліва Алеся, калі раніца больш цікава заглядала праз акно ў пакой, каб даведацца, што там дзеецца, белячы чорныя сьцены, калі няясна можна было ўжо ўбачыць белы абрыс постаці Алесі.

Але так раніца і не падгледзела Алесю ў Янкі, хоць яна кожны раз гэтай самай парой прыходзіла разам з ім прывітаць новы дзень. Бо палохала яе, відаць, ня толькі цікавасьць раніцы. Бо ня толькі ад яе хавала яна сваё каханьне. Бо ня толькі ад яе крала яна хвіліны і ня толькі яе асьцерагалася.

---

У прысутнасьці хатніх Янка і Алеся трымаліся, як звычайныя знаёмыя. У нутры душы кожны быў упэўнены ва ўзаемнасьці і ў прымушана-вытрыманую размову ўкладваў свой зьмест. Недаказанае ў словах даказвалі асьцярожна-кінутымі поглядамі, усьмешкай, якой-небудзь дробнай прыслугай. Гэта і ў прысутнасьці староньніх не выдавала іх. Мо' крыху і западозрылі іх у гэтай „нязвычайнай дружбе“, але не злавілі на „ўчынках“, што сьведчылі-б аб іх каханьні, і не маглі дагадацца. Плян Алесі—скрыць усё—удаўся. Цяпер і Янка так быў упэўнены, так верыў Алесі, верыў у сталасьць свайго шчасьця, што прызвычаіўся да гэтай двузначнасьці, двузьмеснасьці іх захоўваньня і ня імкнуўся даведацца, наколькі гэта так ужо неабходна. Ён выявіў-бы сваё каханьне і перад роднымі Алесі, не хаваў-бы яго, каб толькі яна на гэта згодзілася.

Перамогшы аднаго ворага—сумненьне, ён так быў захоплены перамогай, што і не прыкмячаў, як цікаўся да яго вораг з другога боку. Іншы вораг—гэта ўсьпёная чуйнасьць перад небясьпекай, неазнаямленьне,—з якога боку чакаць гэтага ворага, не выкрыцьцё ворага, бясьпечнасьць і адсутнасьць падрыхтоўкі сустрэць ворага ў момант яго нападу.

Аднойчы Янка сядзеў каля акна ў гасьцінным пакоі, таго самага акна, пад якім рос куст язьміну. Гэты куток пакою падабаўся яму, і ён праводзіў тут час заўсёды, калі толькі заставаўся адзін са сваімі думкамі. Вось і цяпер Алеся чымсьці была занята, а ён сядзеў і думаў, першы раз з часу свайго прыезду, аб будучыне, складаў пляны яе. Быў упэўнены ў каханьні Алесі, быў упэўнены, што няма перашкод у іх шчасьці. Дый пляны былі простыя, нескладаныя, магчымыя, здаецца, да ажыцьцяўленьня. У часе гэтага раздумоўваньня ў пакой увашла Алеся. Янку захацелася абмеркаваць з ёю свае думкі і пляны.

— Цяпер нам, Алеська, трэба адваяваць толькі сабе будычыну. У тым, што мы павінны належаць адно другому, ні ў мяне ні ў цябе, здаецца, няма сумненьняў. Прынамсі, я і не ўяўляю сабе, як-бы я мог

жыць без цябе,—прамовіў чульліва Янка і затрымаў свой погляд на Алесі, чакаючы ад яе адказу на першае конкрэтнае пытаньне.

— Я так сама думаю, як і ты, Яначка,—адказала яна шчыра.

— Веру я табе. Але ўсё-ж варта нешта практычнае вырашыць. Я думаю, мы так уладзім: пачакаем, пакуль скончыцца вайна,—а яна, пры цяперашніх умовах, скончыцца хутка. Мы і не заўважым, як борзда праляціць час. А тады, прыблізна, у гэтую вясну, сыдземся так, каб больш ужо не разлучацца. У мяне ёсьць гаспадарка, праўда, невялічкая, меншая, як у вас. Але для нас усё-ж яе хопіць. Толькі вось... калі яна зьнішчана... бо там быў фронт,—сказаў Янка, і воблачка сумнасьці пакрыла яго твар.

— Ня сумуй, Яначка. Аб багацьці я ня думаю. З табой мне будзе ўсюды добра. Працаваць мы можам абое і больш нічога ня трэба. Пражывем.

— Усё-ткі мне цяжка было-б бачыць, каб ты адчувала недахваткі і прыкрасьці, хоць мо' праз каханьне да мяне і ня скардзілася-б. Гэта атручвала-б наша шчасьце. Ты прызвычаілася да пэўнага дастатку, і зьмена дабрабыту на горшае адчулася-б няпрыемна.

— Ты гэтымі словамі крыўдзіш мяне. Няўжо ты можаш падумаць, што я бачу шчасьце ў багацьці або што багацьце быццам неабходна для поўнага шчасьця. Шчасьце тады, здаецца мне, і бывае больш поўнае, калі трэба несьці якія-небудзь ахвяры для каханай, дзяліць з ёй ня толькі радасьць, але й гора.

— Выбачай, Алеська, я нат' і ў думцы ня меў скрыўдзіць цябе. Мімаволі вырвалася сумненьне і цяпер яно ўжо зьнікае. Ты трапна выказала маю думку. Я моцна верыў і веру ў тое, што шчасьце якраз і заключаецца ў патрэбе несьці ахвяры для каханай, а ў агульнай справе, у вагульных ідэалах—несьці ахвяры для ўсіх працоўных. Дык,—дадаў ужо пэўным, вясёлым, прасякнутым верай, тонам,—нашае ўсё наперадзе, можам і пачакаць, а ўсё-ткі дасягнуць свайго. Я магу, напрыклад, узяцца скончыць навуку, а потым можна будзе дастаць пасаду і пражыць ня горш, чымся на моцнай гаспадарцы. А пакуль можна будзе пажыць і на разоранай гаспадарцы. Толькі вось што, як спаткаюць наш замер твае родныя, асабліва, калі даведаюцца, што я зусім „нявыгодная партыя“ з з матэрыяльнага боку. Пэўна-ж яны чакалі і чакаюць для цябе жаніха з дзесяткамі дзесяцін зямлі, ну,—наогул багатага, бо каханьне для іх, мусіць, ня зусім каштоўная рэч. Вось як яны спаткаюць—спачуваючы ці адмоўна?—спытаўся Янка, нібы цяпер толькі ўбачыў гэтыя, раней не заўважаныя абставіны.

Алеся маўчала, ня то каб гэтае пытаньне было для яе нечакана і ня ведала адносін да гэтай справы сваіх родных. Не,—на яе твары адмаляваўся нейкі сум; можна было прачытаць на ім, што нейкая барацьба

адбывалася ў яе нутры, хістаньне,—сказаць ці не,—шукала слоў для выказаньня сваёй думкі. Янка чакаў адказу і сачыў за рухам і выразам кожнай рыскі яе твару.

— Ня ведаю,—пачала неяк няпэўна, пасьля хвіліны маўчаньня, Алеся,—як яны адказалі-б нам, каб даведаліся аб нашым каханьні. Пакуль што яны нічога, прынамсі, галоўнага, ня ведаюць і не павінны ведаць. Ты ім спадабаўся...але...—не даказала Алеся, відаць, гняла яе нейкая думка.

— Ну, а калі яны пачнуць цябе прымушаць выйсьці замуж за каго-небудзь з аколіцы, па іх думцы, больш вартага. Што будзе тады?—папытаўся ізноў Янка, не дачакаўшыся сканчэньня папярэдняй, недаказанай думкі Алесі, і ў голасе яго пачулася няўдала схаваная трывога.

— Я не паддамся прымусу—і годзе. Яны ня здолеюць пераламаць маю ўпартасьць і адкараскаюцца ад мяне.

— А, значыць, магчымасьць такога прымусу ёсьць?

— Ат, глупства, кіньма, Янaчка, аб гэтым гаварыць,—прамовіла, стараючыся спыніць гутарку, быццам ад яе нічога, апрача прыкрасьці для абоіх, нельга было чакаць.—Мы сваё павінны ўзяць і возьмем. Аб гэтым сьведчыць нашае шчырае каханьне.

Прытулілася да Янкі, абняла і, калі той хацеў яшчэ штосьці сказаць, перашкодзіла гэта наўмысьля сваім пацалункам.

Адна хвіліна бяз слоў зрабіла тое, што не маглі зрабіць самыя шчырыя словы—разбурыла канчаткова сумненьні, прасякнула верай у моц, усё перамагаючую моц каханьня. Што значаць сотні перашкод, калі два злучаных, згодных у сваім рытмічным стуку сэрцы прысягаюць іх перамагчы? Дый хто шчасьлівы сёньня можа сумна думаць аб заўтрашнім? Як гэтае заўтра можа здацца, як не такім або больш яшчэ ружовым, прыгожым, як і сёньня? Хто здалее думаць аб зімовай сьцюжы цёплай і сьветлай вясной?

Ішлі дні, звычайныя будзённыя дні. Толькі будзённымі яны называліся наогул—дзеля таго, што ня было „сьвята“. Гэта зусім не перашкаджала, каб яны былі для Янкі сьвяточнымі. Спагнаньне часу разам з Алесяй было аж занадта для гэтага. Хадзіў каля гаспадаркі, дапамагаў Алесі у кожнай дробнай гаспадарскай працы. І цяпер, як ніколі, Янка адчуў, як многа прыгожага і прыемнага ёсьць у гэтай, штодзеннай нуднай дробязі. Няма ніякай прыкрасьці ад яе, заахвочвае, прыцягвае. Гэта-ж довад таго, што разам з Алесяй можна кожную прыкрасьць у жыцьці ператварыць у прыемнасьць, сум—у радасьць, будні—у сьвята.

Хутка і прыемна бег час, пакідаючы кожны дзень новыя, моцныя, незабытыя ўражаньні.

За будучыну Янка быў неяк супакойны, забываў пра яе, бо ўсёй сваёй істотай быў паглынены цяперашнім.

---

Няпрыкметна надыходзіў час ад'езду Янкі; прабыў ужо два тыдні і не выпадала неяк далей заставацца, і Янка вырашыў пэўны дзень свайго ад'езду, хоць і яму і Алесі пажадана было пабыць разам лішні дзянёк.

Напярэдадні ад'езду Янкі прышоў да Лапкоўскіх іх сусед і запрасіў Мікалая, Алесю і Янку на заручыны свае дачкі. Алеся адмовілася, кажучы, што ёй не выпадае ісьці і што самыя прысутныя там ня будуць яе цікавіць. Угаворы Янкі не памаглі,—засталася пры сваім. Янка засмуціўся адмаўленьнем Алесі, аднак, пашоў разам з Мікалаем, хоць і чакаў, што і яму будзе вельмі нудна там без Алесі.

Хутар суседа быў недалёка—мо' вярста будзе—каля таго маладога, прыгожага хвойніку, што рос пры дарозе, якая вяла на станцыю. Янка праз гэтае месца праяжджаў у дзень свайго прыезду.

Калі яны прышлі, дык у доме было ўжо шмат гасьцей. Быў час вячэры. Госьці сядзелі за доўгімі сталамі, упрост заваленымі рознай стравай і досыць густа застаўленымі бутэлькамі самагону. Па прасторным, чыстым доме, па багатым частаваньні можна было ўжо даведацца аб заможнасьці гаспадара. Мікалая і Янку прынялі вельмі гасьцінна і пасадзілі на „лепшае“ месца за сталом. Моладзі было нямнога, пераважалі старыя з дужымі барадамі, якім у „старавераў“—а гаспадар і яго госьці былі імі—асаблівая пашана. Пад уплывам выпітых чарак самагону гучна, ажыўлена гаманілі. Часам гутарка зьлівалася ў адзін гук, так што цяжка было разабраць, што гаварылі.

Янку адразу зрабілася нудна. Спрабаваў выпіць чарку-другую—не памагае, толькі адчуўся боль галавы ад непрызвычаеньня да напіткаў. Чакаў, каб хутчэй скончылася вячэра, мо' тады, думаў, знойдзецца якая-небудзь рознастайнасьць у забавах або скоках.

Скончылася і вячэра, а забава неяк не наладжвалася. Гаспадар з гаспадыняй, бацька і маці жаніха і яшчэ пара старых „сватоў“ сядзелі ў „чырвоным куце“—пад абразамі за сталом—і абгаварвалі, абмяркоўвалі справу заручын, будучага вясельля, пасагу і іншае. Час-ад-часу выпівалі па чарцы гарэлкі і цалаваліся ў довад шчырай прыязьні і згоды ў поглядах пры вырашэньні лёсу сваіх дзяцей. Жаніх, малады хлапец, яшчэ бяз вусоў, з даўгімі абстрыжанымі „пад гаршчок“ валасамі (абцятымі кружком навокал галавы—быццам па краі надзетага на галаву гаршка), сядзеў на лаўцы і бязудзельна глядзеў на прысутных, быццам яго нічога не датычыцца, быццам яго зусім ня цікавіць ні тое, аб чым укладаюцца бацькі, ні яго нявеста, ні будучае вясельле. Выглядаў паслухмяным у ваднosінах да бацькоў сынам бяз уласнай волі, у ваднosінах да нявесты—нясьмелым, баязьлівым і бязудзельным. Хай будзе—што павінна быць. Хай сабе жэняць на кім хочацца бацьком—усё роўна.

Сама нявеста, сярэдняга ўзросту, поўная, з круглым тварам, досыць прыгожая дзяўчына, у часе вячэры падавала на стол, а потым дапамагала

зьбіраць са стала, выходзіла з пакою, ізноў варочалася,—была занята, як гаспадыня. З надворнага боку мела спакойны выгляд. Жаніх да яе не падыходзіў, а яна яго быццам не прыкмячала.

„Вось гэта і ёсьць заручыны?“ пытаўся сябе ў думцы Янка. „Так і выходзяцца на ўсё жыцьцё двое людзей? І больш нічога для гэтага ня трэба? Ня ведалі адно аднаго, ніколі ня бачыліся, спаткаліся і пажаніліся. А ці-ж гэта першы такі выпадак, ці-ж ня тысячы, сотні тысяч так зыходзяцца, падлягаючы бацькавай волі? А што... калі нешта хоць крыху падобнае да гэтага чакае Алесю?“ раптам узьбегла на думку, і аж страшна зрабілася і яшчэ пагоршыла настрой.

Захацелася пагаварыць з нявестай, заглянуць у пытаньне глыбей. Янка адчуваў да яе нейкае шчырае спачуваньне. Выбраў адпаведную хвіліну і падышоў да яе. Гаварылі аб тым, аб сім, але Янка накіроўваў размову так, каб выклікаць у дзяўчыны давер‘е сабе і потым запытацца аб яе настроі. Займаў яе апавяданьнямі аб сваіх прыгодах, запытваў пра яе погляды. Гутарка няпрыкметна прыняла дружны зварот. Пачалі гутарыць аб замустве наогул, аб значэньні каханьня ў жыцьці.

— Выбачайце за маё пытаньне,—вы, пэўна, даўно ведаеце свайго жаніха, кахаеце яго?—запытаўся Янка, скіроўваючы гутарку ад агульнай на асабовую.

— Не, да сёньнешняга дня нат‘ ня бачыла яго. Ён жыве ў суседняй воласьці, далёка ад нас.

— Ну, гэта яшчэ нічога, чалавек можа спадабацца і ад першага погляду,—паставіў сваё пытаньне Янка ў такой агульнай форме, каб на яго можна было і не адказваць.

— Бывае і гэтак, але мой цяперашні жаніх нат‘ мне зусім не падабаецца,—адказала тая проста, бяз хітрасьці.

Шкода неяк пры гэтым зрабілася Янку. Ня ведаў, аб чым гутарку далей весьці.

— Я, прызнацца вам шчыра, нешта не разумею, як гэта можна выходзіць замуж або жаніцца, калі той, з кім выпадзе пражыць жыцьцё, нават не падабаецца. Хоць кажуць старыя „сьцерпіцца, зьлюбіцца“, але калі гэта ня спраўдзіцца? Вось, напрыклад, ці можа вам спадабацца чалавек, які спачатку не спадабаўся?

— Мне здаецца, што ніколі не спадабаецца, і я дзеля гэтага не пайду за яго замуж,—коратка і станоўча адказала яна.

— Але-ж бацькі ўжо справу вырашылі і не паслухаць іх хіба можна будзе?

— Хай сабе вырашаюць, усё роўна я не пайду. І нічога яны мне ня зробяць. А калі будуць прымушаць, дык я зраблюся яшчэ больш упартай, і тады я ім яшчэ ня тое зраблю!

Спакойны яе выгляд, станоўчасьць, з якой гаварыла, і бляск шэрых вачэй, як і ўся постаць, казалі, што яна мае шмат волі і ўпартасьці.

Выклікала пэўнасьць, што ў справах свайго лёсу можа бараніць сябе. Зусім іншы характар, чымся ў жаніха, нясьмелага, няпэўнага ў сабе, без сваіх жаданьняў. Відаць з яе постаці было, што там, дзе бывае больш прымусу, дзе ён больш адкрыты, бывае і шмат больш, часам, упартасьці і адпору прымусу, чымся там, дзе прымус бывае напалову з уговорамі, перакананьнямі і інш.

У часе размовы, праз агульны гоман Янка нявыразна пачуў даляцеўшы да яго з пярэдняга пакою чыйсь знаёмы, здаецца, сьмех. Ня ведаў чый, але ён працяў яго, як нешта нечаканае. Прыслухоўваўся— больш не паўтарыўся. Адвярнуўся ў другі бок, і пачалі зноў гаварыць на закранутую тэму,—а калі зьнянацку глянуў на дзьверы, адкуль раней здаўся сьмех,—убачыў Алесю. Не чакаў яе, бо ўжо было позна, і цяпер ня верыў вачом. Ці ня сьветлая якая мара гэта, што сваім зьяўленьнем ахварбавала ўсё наўкола ў пекны, ружовы колер?

Падбеглі разам з маладой гаспадыняй спаткаць яе. Потым утраіх гутарылі, спрачаліся ўсё аб тым пытаньні пра вольнае шчырае пачуцьцё, пра прымус з боку родных, пра жыцьцё двух людзей, якія зышліся жыць у вабодвух гэткіх выпадках. Потым маладая гаспадыня пашла наладжваць стол.

— Які добры дух прынёс цябе сюды?—спытаўся Янка, калі застаўся ўдваіх з Алесяй.

— Вельмі занудзілася мне, ды ведала, што і табе нудна тут—вось і прышла.

— Ці-ж ты не баялася ўначы хадзіць, калі баішся нат‘ у пакоі спаць адна?

— Баялася, дык разбудзіла парабка, ён і правёў мяне.

— Вось гэта, Алеська, першая ахвяра для каханьня, бо ты перамагла сябе і прышла сюды.

— І бачыш, як мне прыемна, як, значыцца, прыемна несьці ахвяры.

Запрасілі йзноў за стол. Ізноў падымаліся чаркі з гарэлкай, і ажыўлялася, зьлівалася ў агульны гоман размова. Але Янка ня чуў гэтага гоману, сядзеў разам з Алесяй і слухаў толькі яе кароткія, недаказаныя думкі, разумеў іх больш бяз слоў і быў здаволены. Цяпер у яго быў зусім іншы настрой, чымся раней.

Гоман, аднак, надаеў, і Янку захацелася хутчэй пазбыцца яго, апынуцца далей, у цішы, на адзіноце з Алесяй. Выказаў свае думкі Алесі. Тая згадзілася, і яны парашылі пайсьці дадому. Алесю пачалі ўпрошваць, каб яна засталася, асабліва брат нявесты, якому, як потым даведаўся Янка, яна вельмі падабалася. „Не, я мушу ісьці, госьць адчувае сябе нядобра, разбалелася галава, а ў хаце нікога няма, дык не магу застацца“. Пачалі ўпрошваць і Янку, бо ведалі, што Алеся тады ня пойдзе. Тлумачылі яго адыход тым, што хіба яму не спадабалася гасьціна. Але Янку

было ласьней удаваць прыдуманую Алесяй хворасьць, і пасьля доўгіх просьб яны, нарэшце, вышлі на двор з пачуцьцём, як-бы сапхнулі з сябе вялікі цяжар.

Цішыня цёмнай ночы была такой прыемнай пасьля гоману ў доме. Так прыемна было ўдыхаць зімнае і вільготнае, з прычыны адлігі, паветра. Шапталі хвойкі ў ляску за гародам, прыемна, ціха, каб ніхто не падслухаў іх патаемныя думкі. Хмары схавалі месяц і зоркі, каб больш цёмнай была зімовая ночка. Яны, аднак, забылі, што сьнежная бель на прасторах адбівае слабы сьвет, азначае абрыс цёмнага хвойніку і дарожкі каля яго. Ды Янку з Алесяй і непатрэбна больш сьвету, і так прыгожай здавалася цемра ночы паміж густых маладых хвоек. Алеся, відаць, баялася ноччу каля лесу і тулілася да Янкі. Шлі павольна па коўзкай, выгладжанай дарозе. Недалёка было да дому і яго чорныя абрысы на горцы выступалі выразна. Цішыня ночы быццам зачаравала, не хацелася нарушаць яе размовай. Бяз слоў, бяз гукаў хацелася перадаваць і прымаць нешта, што ласкатала сэрца і прыемна кружыла галаву.

Мінулі хвойнічак, змоўк ужо яго незразумелы—жальба ці радасьць—шопат. Спусьціліся пад узгорак на лагчынку. Ад вялікай, на працягу некалькі дзён, адлігі, у самым нізкім месцы дарогі, у лагчынцы, сабралася вада, затапіла дарогу, заліла сьнег абапал яе ўдоўж лагчынкі.

— Вось, Яначка, і першая перашкода,—пажартавала Алеся.

— І мы яе зараз пераможам. Чаго табе нельга, дык я даканаю. Каб ты не начэрпала галёшаў і не замачыла ногі, я перанясу цябе,—узяў пры гэтых словах яе на рукі, як дзіця, і панёс цераз ваду, пакаўзнуўся на самай сярэдзіне, ледзь не паваліўся разам з ношай на вадзе, але ўтрымаўся і дашоў да берагу.

— Перашкода пераможана,—радасна з дзіцячай бясьпечнасьцю сказаў, калі паставіў Алесю на сухім месцы.

— Дзякуй, мой рыцар, дай я заплачу табе за багатырства ў перамозе над ёю,—адказала Алеся і пацалавала яго. Потым абодва расьсьмяяліся над сваімі дзіцячымі разважаньнямі. Рэшту свайго падарожжа сьмяяліся і жартавалі.

У доме было пуста і ціха; маці паехала раней у госьці да родных, брат і нават парабак засталіся на заручынах, і толькі адна кабетаслужанка спала ў пярэднім пакоі. Алеся зачыніла перад адыходам дзьверы на ключ і ўзяла яго з сабой, каб ня трэба было будзіць кабеты адчыняць дзьверы.

Агню не хацелася запальваць, і яны сядзелі ў цемнаце на ложку Алесі. Сон ня вабіў да адпачынку, хацелася пасядзець, пакуль прыдуць з заручын. А каб ня выклікаць падазрэньня, умовіліся, як толькі пачуюць стук у дзьверы, рынуцца кожны на свой ложак і спаць. Патрабавалася для выкананьня гэтага толькі скінуць загадзя абуцьцё. Сядзелі на ложку і дзяліліся ўражаньнем аб заручынах, госьцях і г. д. Потым Алеся да-

стала падушку, кінула яе за плечы і яны прыляглі на ёй папярок ложка. Супольная блізкасьць, цішыня і цемра ночы, нябывалая дагэтуль свабода і адзіноцтва ўзварушвалі, бунтавалі, віравалі і без таго ўсхвалёванае пачуцьцё. Абуджала ў крыві жаданьне, цягнула нявымоўнай моцай, засьцілала сьвядомасьць. Словы ўсё больш абрываліся, недаказаныя. Кожнае новае датыканьне электрычнай іскрай прабягала па нэрвах. Усё наўкола, здаецца, панялося карагодам у нястрыманым віры. Месца нахаджэньня зьнікла, а замест яго зьявілася паданьне з нязьмернай вышыні ў бяздоньне, без адчуцьця страху разьбіцца, падобнае да ўзьлёту ў бязьмежныя прасторы. То бурная гураганная моц, то супакойная салодкая млоснасьць праціналі ўсё цела, паліла агнем; трасло, як ад холаду. Нешта моцнае, ад чаго няма абароны, прыбліжалася, папераджала аб сваім прыбыцьці.

— Алеська... а што калі мы цяпер...—пачаў Янка гаварыць, і думка блыталася, словы ня йшлі на памяць, быццам іх і ня было для таго, каб выказаць тое нязвычайнае, абхапіўшае ўсю істоту бушаваньне...— Калі мы цяпер возьмем ад жыцьця ўсё... да дна... ну, не патраплю выказаць.

— Не, Яначка, не цяпер хіба... гэта можа нас загубіць... Трэба пачакаць,—адказала Алеся, моцна ўзварушаная, стрымоўваючы дыханьне, што моцна калыхала яе грудзі.

— Навошта чакаць... Хто ведае, мо' якраз чаканьне нас згубіць... Мо' гэтым мы, наадварот, замацуем самі наша шчасьце; хоць я і сам ня ведаю, як ляпей, але каб я пачаў цябе пераконваць, упэўніваць, упрашаць, дык што-б ты адказала?

— Ты-ж сам бачыш, што са мной цяпер дзеецца, і гэта ўжо дае табе адказ. Пэўна, што здалася-б на тваю волю. Няма, мусіць, такой просьбы тваёй, якую-б я ня выканала. Але-ж ты сам, даражэнькі, выра шы так, каб не зашкодзіць нашаму шчасьцю,—казала яна ня то, каб супярэчыла, ня то, каб згаджалася.—Думкі мае блытаюцца, я і сама ня ведаю, што са мной робіцца. Толькі ўсё-ж, пакуль ёсьць прытомнасьць і пакуль не адбегла яшчэ ад мяне думка, што лепш нам чакаць, я вось і думаю, што будзе так ляпей.

Яшчэ больш вір закружыўся наўкола; захвалявала мацней, зблытала голас розуму і пачуцьця-жаданьня, шчапіла іх у супярэчнасьцях, штурханула на барацьбу. Сваімі словамі Алеся, калі яна амаль не супярэчыла Янку, ускладвала на яго ўсю адказнасьць за іх далейшы лёс, і ў яго ўзбуранай галаве пачалі роіцца роем думкі: „Цяпер ці не цяпер?“—адна думка перамагала другую. „А мо' і сапраўды можа пашкодзіць для будучыны? Але-ж як яно пашкодзіць?“ Ня ведаў, не разумеў, можа, ці не пашкодзіць, толькі так даражыў сваім шчасьцем у будучыне, што гатоў быў дзеля яго адмовіцца ад усяго; думкі пачалі роіцца ў гэтым напрамку. „Ці-ж я ня ведаю, што гэта залатая дзяўчына гатова для мяне на самую вялікую ахвяру? Ці-ж павінен я вымагаць довадаў гэтаму?

Гэтае-ж вымаганьне довадаў было-б абразай яе пачуцьцю. А калі сваімі хвілёвымі нястрыманымі жаданьнямі я пашкодзіў-бы нашай будучыне, дык ці-ж я варты быў-бы яе? А дзе-ж мая моц перамагаць іншыя перашкоды ў жыцьці, калі не магу перамагчы стрымаць сябе і сам павялічваю перашкоду? Не, ёй, мусіць, лепей вядома, калі яна кажа—лепш пачакаць", разважаў Янка ў глыбіні сваёй несапсаванай натуры. Пакрысе пачаў апаноўваць сябе, каб паддацца на прасьцярогу Алесі.

Ён ня ведаў, не западозрываў, што ў гэтую хвіліну мо' вырашаецца якраз лёс, яго шчасьця, яго будучыны. Ня ведаў, як ён вырашаецца.

На другі дзень прыпадаў ад'езд Янкі. Толькі нязвычайная засмучанасьць Алесі прымусіла адлажыць ад'езд яшчэ на адзін дзень. Як ні хацелася затрымаць, спыніць час,—ён непаслухмяна бег наперад і прыбліжаў хвіліну растаньня. Алеся ў дзень ад'езду проста не знаходзіла сабе месца. Усё рабілася нямілым, вывальвалася з рук. Быццам нейкае сумнае прачуцьцё трывожыла яе, быццам цёмнае бяздоньне адкрывалася перад ёю, хацела прыглынуць яе. Сэрца балюча ныла, рвалася на волю, хацелася заваражыць Янку, затрымаць на час бясконца. Выходзіла з дому, забывала куды ідзе і зноў зварочвалася. Янка захоўваў надворна супакойны выгляд, але думка аб растаньні і пераживаньні Алесі мучыла яго, піла п'яўкай сэрца.

Падышла і хвіліна ад'езду. Разьвітаўся з роднымі, крыху раней разьвітаўся бяз сьведак з Алесяй і цяпер толькі сьціснуў ёй моцна руку, сеў у санкі і крануўся ў дарогу. Пакуль даехаў да хвойнага ляску суседа, глядзеў у тыл і часам махаў хустачкай Алесі; яна стаяла каля клеці і глядзела яму ўсьлед. Потым спусьціліся пад узгорак і страцілі з вока Алесю і самое Залужжа. І гоман хвоек у ляску здаваўся цяпер такім сумным, хаўтурным, зусім ня тым, як пара дзён таму, калі йшоў ён тут з Алесяй. І вобразы сьнежнай белі не такія сьветлыя, прыгожыя, мілыя. Чаму ўсё так сумна выглядае, быццам шкадуе Янку і кліча „вярніся?" Няўжо гэта прароцтва, няўжо цёмныя хмары зьбіраюцца на яго сьветлым кругавідзе і хочуць схаваць сонца? Чаму так сумна, калі яшчэ некалькі гадзін таму было так весела, прыемна, шчасьліва?

На станцыі, амаль пустой, да прыходу поезду пасьпеў Янка напісаць яшчэ ліст да Алесі. Падаў яго хлапцу, які цяпер быў апошняю сувязьзю яго з Залужжам, тым самым, дзе так многа перажыў шчасьлівых хвілін.

З грукатам імчаўся поезд па палетках, адвозіў Янку ў водаль ад Алесі, у вір тагочасных падзей—паўночны, халодны Петраград, халодны, але з кіпучым жыцьцём, з вялікай магнэтычнай моцай перантварэньня як усёй краіны, так і паасобных чалавечых адзінак, паводле ідэалаў новага жыцьця.

(*Працяг далей будзе*).

# ВАНДРАВАНЬНЕ ВАСІЛЯ*)

**А. Сянкевіч**

II

Поезд шпарка шыбаваў на захад. Васіль сядзеў каля аконца. Ен з задзіўленьнем аглядаў фэрмы, мястэчкі, гарады, якія мільгалі перад яго вачыма.

Усё было нова, зусім непадобна да таго, што заставіў ён там, на бацькаўшчыне.

Заўважыў Васіль, што паміж фэрмаў праходзяць добра пабудаваныя аўтомобільныя шляхі, часта спатыкаюцца заводы.

У вагоне Васіль пазнаёміўся з земляком-беларусам. Гэта быў Янка Крывель з Меншчыны. Янка быў у гэтых мясцох. Ён ужо гады тры, як швэндаўся па Амэрыцы. Працаваў за гэты час і на фэрмах, і ў капальнях і на заводах. У вапошнія часы страціў працу і апынуўся ў Нью-Іёрку. Тут Крывель папаў у вадну партыю з Васілём. З ангельскае мовы Крывель разумеў тое-сёе, а гаварыць ні ў зуб ня мог.

Васіль, як чалавек сьвежы (green), аба ўсім распытваў у Янкі. Найбольш цікавіла яго жыцьцё фэрмэра.

— Добра жывуць, падлы, — казаў Крывель.—Каб нам тыя машыны да шляхі, да яшчэ даць тых парабкоў, як наш брат, то і мы-б жылі ня горш ад іх. Але-ж вось што мяне зьдзівіла, — расказваў Крывель,—вось гэты фэрмэр трымае кароў, доіць малако, а масла для стала, гад, на рынку купляе. У нас што ні зьбярэцца, дык і зьесца, а ў іх усё на продаж ідзе. Жывуць добра...

„Вось, каб гэтак у нас“, думаў Васіль. „А то, трэшся на тым полі цалюткі год, а толку мала“.

Але-ж як ня кепска дома, а ўсё ўспамінаецца аб родным куточку. І такім мілым здаваўся ён адгэтуль. Праз усю дарогу ў нашых землякоў амаль што і гутаркі было, што аб родных палёх і вёсках.

Пад'ехалі к Пітсбургу. Горад дыму сапраўды агорнут праз цалюткі дзень дымам, як тэю хмараю.

Цэнтр сталёвай прамысловасьці, горад Карнэгі, ён на свае заводы сабраў тысячы эмігрантаў. Яны куюць, гартуюць сталь, будуюць сталёвы трон „вялікаму пану“.

*) Пачатак апавяданьня „Вандраваньне Васіля“ быў надрукованы ў № 2 (10) „Полымя“. Лічачы апавяданьне каштоўным, рэдакцыя зьмяшчае яго канец, спусьціўшы каля двох гадоў. *Рэдакцыя*

Ад дыму ня толькі фабрыкі, але і домікі рабочых сталі чорнымі, мурзатымі. Тысячы фабрычных комінаў высака ў неба шугаюць дымам, засьцілаючы ўвесь небасхіл.

Больш як поўгадзіны ляцеў поезд паміж фабрычных комінаў і вялізарных горнаў. У ночы ўся мясцовасьць выглядала, як сапраўднае пекла. Кругом грукацела. Звон ад стапудовых молатаў, шум машын, лязг жалеза—рабілі нават бразганіну поезда няпрыметнай.

Полымя з горнаў і домнаў шугала доўгімі языкамі ў паветра і здалёк рабіла выгляд вялікага пажарышча.

А на доле, каля агню, каля расплаўленага жалеза шмыгалі чорныя, замазаныя людзі.

— Быў я і ў гэтым пекле,—расказваў Крывель.—Паварышся, як у лазьні, каля домны гадзін дванаццаць, затое глядзіш—і ёсьць трохдаляроўка.

— Чаму-ж кінуў?—пытаў Васіль.

— Ня кожны вытрымае. А тут яшчэ трох рабочых абварыла. Хай яны згараць з грашыма, думаю. Вось і кінуў... Многа тут калечыцца і гіне нашага брата...

Аж на шосты дзень прыехалі яны да месца вызначэньня ў стане Місуры. Тут даведаліся, што павядуць іх на лясныя распрацоўкі.

Агент абяцаў за працу залатыя горы. І работа на сьвежым паветры, і вялікая пэнсія, і найлепшыя ўмовы.

Доўга йшлі гушчарным напоўпадзваротнікавым лесам. Ні Васіль, ні Міхась Крывель не баяліся працы. Яны і ў доме рубілі калоды. падвозілі к Нёмну, а ўлетку ганялі плыты ў Нямеччыну.

Усіх рабочых набралася да ста чалавек. Расчысьцілі палянку, парабілі шалашы і зямлянкі.

Пачалася праца. Але гэта была ня праца, а катарга. На работу выганялі з самага ранку, і рабочы дзень мераўся не гадзінамі, а сонейкам. У часы працы за кожным крокам рабочага сачыў падганячы. Узброеныя рэвольвэрамі і бізунамі падганячыя праз цалюткі дзень стаялі над каркам. Goddamn (праклятым богам) гучна разносілася па лесу разам з посьвістам бізуна.

У ночы рабочых сьцераглі вартаўнікі, узброеныя стрэльбамі.

Змардаваны цяжкаю працаю Васіль хутка засыпаў, а раніцаю, чуць сьвет, яго і другіх пеонаў (нявольнікаў) будзіў ражок. Не хацелася ўставаць. Рукі і плечы прасілі больш адпачынку.

На сьнеданьне давалі заміж кавы і гарбаты якуюсь бурду.

— Ну і папалі ў пекла,—бурчаў пад нос Крывель. Гутарыць за працаю не дазвалялася.

„Вот, згары ты, папаліся“, думаў Васіль аб сваім лёсе. Праклінаў ён той дзень і тую хвіліну, у якую надумаўся ехаць у гэтую проклятую старонку.

У часе паўднёвага невялічкага адпачынку—а на абед давалі больш гнілыя консэрвы і тую-ж бурду, што і раніцаю—Васіль мысьлямі перакідаўся ў родныя Навасёлкі. Як жывы ўсплываў вобраз жонкі—Ганны.

— Як яна там жыве? Што думае, не атрымліваючы весткі ад мяне... Сэрца моцна, моцна шчаміла.

Так працягнуўся месяц. Пачалася выплата пэнсіі. Прыкра стала Васілю і яго сябром, калі яны атрымалі на рукі ня больш як па два-тры доляры. Рэшту адлічылі за яду, за тытун, за той гнілы тавар, які набіралі ў кампанейскай крамцы.

— Ведаеш што, Міхась, — сказаў раз Васіль Крывелю, — трэба ўцякаць адгэтуль.

— Як ты ўцячэш, калі сачаць за кожным тваім крокам. Спаймаюць, дык яшчэ горш будзе, — адказаў Крывель.

Але думка аб тым, каб як уцячы, не пакідала Васіля. Лежачы ў ночы, ён пачаў будаваць плян уцёкаў.

Далейшыя падзеі пераканалі і Крывеля аб неабходнасьці ўцёкаў.

Ад цяжкае працы і дрэннае яды пачаліся хваробы. Шмат людзей перахварэла цынгою, трасцаю. Васіль гэтак сама праз цэлы тыдзень качаўся з жыватом, і толькі моцны організм выратаваў яго. Ужо пахавалі трох рабочых.

Думка аб уцёках усё мацнела. Трэба толькі выбраць адпаведную часіну ды трохі запасьціся сухарамі.

Ня спалі па чарзе і сачылі за ўзброеным вартаўнікам.

У вадну ноч Васіль заўважыў, што вартаўнік задрамаў, седзячы на пяньку.

Васіль паціху штурхануў Крывеля.

Ціхенька падпаўзьлі. Васіль хутка завязаў вартаўніку хусткаю рот, а Крывель скруціў назад рукі і перавязаў ногі.

Забраўшы стрэльбу і сякеры, паімчаліся яны ў лес.

Яны не пашлі сьцежкаю, бо баяліся пагоні, а проста рынуліся ў гушчар.

Ішлі дзень, ішлі другі, а ўсё ня відаць сьлядоў чалавечага жыцьця. Камары і мошкі не давалі спакою. Сухары зьелі на другі дзень.

На трэці дзень вышлі раніцаю, нашча. Здаралася часта, што кружыліся дзьве-тры гадзіны і зноў прыходзілі на тое самае месца. Карміліся ягадамі і арэхамі. У канцы напаткалі ручай.

— Вось, браток—,сказаў Васіль,—пойдзем па ручаю, ён прывядзе нас к рэчцы, а там спаткаем і людзей.

Змораныя, галодныя толькі на чацьвёрты дзень дабраліся яны да вялізарнай ракі, але і тут людзей не спаткалі. Гэта была Місісіпі.

Як быць? Думалі, гадалі; урэшце, парашылі зрабіць плыт і пусьціцца ўніз па рацэ. Зрабілі плыт, зьвязалі яго ліянамі і паплылі.

Плылі ня больш поўдня, як напаткаў іх параход, які шыбаваў уверх ракі.

Чуць жывых узялі нашых сяброў на параход, накармілі і прывязьлі да бліжэйшага гораду.

У горадзе доўга шукалі тлумача, бо ніхто ня ведаў беларускае мовы ўцекачоў. Нарэшце, знашоўся якісь русін. Праз яго і расказалі аб нявольніцтве, якое спаткалі ў лясных абшарах вольнай Амэрыкі.

Справаю Васіля і яго таварышоў зацікавіліся мясцовыя соцыялістыя. Аб пебнажы (нявольніцтве) распачалі кампанію ў рабочым друку. Урад вызначыў камісію дзеля расьследваньня. Тым справа і скончылася.

III

Недалёка ад таго месца, дзе вылядавалі Васіля і яго таварыша, было ўзмор'е. Нашы бедакі даведаліся, што на летні сэзон там магчыма дастаць працу—лавіць астрыгі (устрыцы).

На лоўлю астрыг што-весну зьбіраецца з паўднёвых і сярэдніх станаў тысячы людзей. Беспрацоўныя, трэмпы (вандруючыя басякі) нова-прыбылыя эміграньты, мужчыны, кабеты і нават дзеці. Усё гэта пакрывае бераг, жыве ў немагчымых умовах з санітарнага і моральнага погляду. Частка працуе на беразе—адкрываюць, пакуюць астрыгі, частка выяжджае на мора. Кругом п'янства, блуд, грабеж, здараюцца забойствы. Сюды сабралася ўся галыцьба, тое, што завецца „дном" вялікіх гарадоў.

Васіль зноў на моры. Хоць і цяжкая праца, але-ж прывольле. Любота глядзець на блакітныя хвалі, на бяздоннае мора. Там, за гэтым морам засталося роднае, там Ганна... Туды разам з хвалямі нясуцца думкі Васіля.

Горача. За дзень працы аж скура гарыць ад падзваротнікавага сонца. Нідзе, апрача вады, ад яго не схаваешся. Любіў Васіль выкупацца ў моры. Як прыемна даць нырка ў сьцюдзёную морскую ваду і потым плысьці далёка, далёка...

Заработкі ўсё-ж былі дрэнныя. К восені Васіль сабраў грошай, якіх якраз хапіла-б на чыгунку да стану Колёрадо. Там у капальнях можна дастаць працу. Вось дзе Васіль заробіць грошай, назьбірае якую сотню-другую доляраў—і да хаты: хай яе з гэтай Амэрыкай.

Ад'езд Васіля ў Колёрадо зацемрыўся адным прыкрым здарэньнем, якога ён ніколі не забудзе.

Сярод рабочых на астрыгах было шмат нэграў. Васілю трапілася працаваць з маладым нэграм Джымі. Спадабаўся Джымі Васілю сваёй беспасрэднай вясёласьцю, дзіцячай даверчывасьцю. Асабліва падабалася Васілю, калі Джымі пачынаў рагатаць.

— Вось дык рагоча, сукін сын,—ня раз казаў Васіль. І сапраўды, такога шчырага сардэчнага рогату ён ніколі раней ня чуў.

Хоць і ня ўмеў Васіль гутарыць паангельску, але і Джымі, і Васіль адзін другога разумелі. Размаўлялі на мігі.

Расказваў Джымі Васілю аб тым, што там, на поўначы, у яго ёсьць дзяўчына. Завуць яе Лола. Джымі шчыра кахае сваю Лолу. І ноч і дзень ён толькі і марыць аб ёй.

— Мая Лола белая, як і вашы кабеты,—з задаваленьнем гаварыў Джымі.

„Дармо, што скура чорная, сэрца-ж добрае, як і ў другіх людзей", думаў Васіль аб Джымі. Але не ўва ўсіх людзей было добрае сэрца. У гэтым Васіль скора пераканаўся.

Лола, нявеста Джымі, па пахаджэньні мулатка, яна зусім падобна да белай жанчыны. Джымі горача кахаў Лолу. Ён нават злажыў аб Лоле песьні, якія часта мурлыкаў за працаю.

Лола жыла ў другім горадзе. І вось, якраз перад ад'ездам Васіля ў Колёрадо, прыехала яна да Джымі ў госьці.

Кінуў у той дзень Джымі працу—хоць адзін дзень аддаць для каханьня.

Лола любіць слодыч, Лола любіць цукеркі. Джымі мае грошы. Ён ушыкуе для Лолы баль. Аб адным запомніў Джымі—што яго Лолу могуць прыняць за белую жанчыну.

Ідуць яны, варкуючы, як галубкі, у горад. Яны моцна заняты адно другім. Джымі не заўважыў, што белыя кідаюць на іх сярдзітымі ўзрокамі. Чаго-ж гэта зьбіраецца натоўп? Чуюцца крыкі абурэньня.

Цяпер Джымі зразумеў... Гора яму... Яго мілую Лолу прынялі за белую жанчыну.

Трэба ўцякаць, уцякаць, што ёсьць сілы!

Не паверыць, што яна мулатка.

Кінуўся Джымі ў першую бакавую вуліцу. Натоўп за ім. Чуюцца крыкі „лінч, лінч!" Джымі што мага ляцеў уперад. Натоўп павялічваўся.

Вось Джымі за горадам. Далей рэчка, лес. Хапіла-б сілы, і праз хвілін пяць Джымі выратаваны. Але-ж млеюць ногі, захоплівае дух. А крыкі ўсё бліжэй і бліжэй. Вось яго наганяюць. Хтось кідае лассо. Бедны Джымі! Яго схапілі, вядуць к першаму дзераву. Лінч, лінч: за паруганьне белай кабеты! Узьвілася вяроўка, дзесяткі рук ўхапіліся за яе. Натоўп гагатаў. як ашалелы, любуючыся, як трапяталася цела беднага Джымі...

Кожны разрываў, адразаў вяроўку. Кожны стараўся захапіць кавалачак. Вяроўка з павешанага прыносіць шчасьце...

## IV

Доўгім шнурам працягнуліся горныя хрыбты Колёрадо, раскідаўшы па баках меншыя горы і ўзгоркі. Яшчэ гадоў сто назад тут былі непераходныя гушчары, поўныя зьвярыны.

Вольны індыянін паляваў тут за лосем і дзікім вепрам, а спаткаўшы індыяніна другога племя, курыў з ім люльку згоды.

Аб гэтых часох пачалі забываць. Прышоў белы цывілізаваны эўропэец. Засьвісталі кулі, загукалі багнэты.

Нічога ня мог парадзіць дзікар-індыянін з сваім прымітыўным аружжам. Ня ўтрымацца яму проці шалёнага агню. Усё далей у глыб лясоў адыходзілі індыяне. Не пашлі з пакорай к белым. Лепей сьмерць, чым новае цывілізаванае жыцьцё.

Чаго не даканала куля, тое зрабіла атрута. Сунулі белыя сьпірытус у вабмен на пушніну, ласёвыя рогі. А цяпер днём са сьвечкай ня знойдзеш тут індыяніна.

Як тых зуброў у Белавежы, трымаюць у амэрыканскіх запаведніках астаткі плямён былых гаспадароў паўночнай Амэрыкі. Але-ж, страціўшы волю і шырокія прасторы, яны хутка выміраюць.

Цяпер над гэтымі ўзгоркамі, ужо страціўшымі сваё лясное ўбраньне, пануе новы гаспадар. Імя яму: Джон Д. Рокфэльлер. Ён, як той старадаўны фэўдал, уладае надземным і падземным багацьцем Колёрадо. У яго руках знаходзіцца лёс дзесяткаў тысяч людзей, хто, як тыя краты, залязаюць у падземныя норы і адтуль выкідаюць наверх горы вугалю, жалезнае і алавянае руды.

Але як сталася гэта дзіўная мэтаморфоза?

Гісторыя кажа, што на месцы загінуўшага вольнага індыяніна асеў чалавек англясаксонскае расы.

Як фэрмэр альбо як гандляр за прылаўкам у местачковай краме, ён гэтак сама лічыў сябе вольным. Уцёк ён ад рэлігійнага ўціску з брытанскіх астравоў і тут можа кожную суботу разам з суседзьмі „вазносіць" хвалу богу так, як яму падабаецца. Над ім яшчэ праз якісь час адчувалася рука ангельскага караля, калі апошні глядзеў на гэтую краіну, як на новую колёнію і кіраваў ёю праз сваіх лёрдаў.

Але гэтыя часы мінуліся. Вольныя фэрмэры скінулі каралеўскае ярмо. Кожны фэрмэр, як і кожны стан, ваяваў за сваю свабоду; кожны стан вашоў у новапабудованую рэспубліку, як аўтономная адзінка.

І ці ня ён, вольны фэрмэр, пісаў вялікую хартыю вольнасьцяй, якая давала ўсім і кожнаму поўную свабоду: жыві, працуй роўны з роўнымі— ты маеш свабоду слова, сумленьня; ты можаш выбіраць і сам можаш быць выбраным на любую дзяржаўную пасаду, нават прэзыдэнтам.

А цяпер што сталася? Дзікі калісь край пераніцавалі чыгункі; зьявіліся ўсемагутныя трэсты; яны пабудавалі гарады-фабрыкі і парылі капальні, тунэлі.

Побач з фэрмэрамі і яго местачковым суседам-бюргерам зьявіўся „вольны" пролетары-шахцёр, мэталісты, чыгуначнік-працаўнік.

Гаспадар чыгунак, фабрык і капалень памаленьку прыгарнуў да сябе і зямлю.

Вольны, незалежны фэрмэр няпрыкметна зрабіўся „вольным“ пролетарам, прыкованым тысячамі нябачных ланцугоў да фабрык Рокфэльлераў і К°.

V

К восені да аднаго з гарадкоў Колёрадо прыехаў Васіль з Янкам Крывялём. Тут знашлі яны значную колёнію беларусаў, а Крывель напаткаў нават свайго аднавяскоўца Вальку Рыгора.

Валька, як кажуць, абсталяваўся ў Амэрыцы. Ён ужо дастаў першыя грамадзянскія паперы. Жаніўся Валька на галіцыянцы і яму, як жанатаму, кампанія дала кватэру на чатыры пакоі. На кватэры Валька трымаў чалавек дванаццаць бордэраў (кватарантаў). Жонка здарылася добрай гаспадыняй, толькі трохі была ласа да маладых хлопцаў і любіла пагуляць. Крывель застаўся на кватэры ў Валькі, Янку-ж адвялі пляцоўку ў адным з баракаў.

Крывель пашоў забойшчыкам, бо ўжо раней быў на гэтай працы, Васілю пашэнціла працаваць на версе.

У першую нядзелю ў Валькі здарылася вясельле. Паклікалі і Васіля. Піва, гарэлкі—хоць заліся. Пілі да адурэньня. Моцна гаманілі. адзін стараўся перакрычаць другога. Голас Валькі пакрываў усіх.

— Ты ведаеш хто я?—крычаў ён да Васіля,—я амэрыканскі грамадзянін, а ты—грынгорн (зялёны)... Маю гаспадыню, маю грошы,—а вы галадранцы!

— Маеш жонку, да не карыстаеш!—хтось крыкнуў з-за стала.

Тут Валька аглядзеўся, што жонкі няма ў пакоі.

Ён рынуўся ў суседні пакой.

— А, сьцерва, к...—пачулася адтуль. Пачалася калатніна. За жанчыну ўступіўся малады хлапец, які з ёю гуляў. Хата падзялілася на партыі. І пашла баталія...

Барацьбу спыніла поліцыя. Арыштавалі ўсіх, хто толькі быў у хаце і, як паноў, адвязьлі за краты.

На другі дзень у поліцэйскім вучастку адбыўся суд.

Судзьдзя перш-на-перш даў прысягу, каб усе гаварылі праўду і толькі праўду. А далей пачаў хутка рабіць вырак.

— Гаспадар і гаспадыня, як дапусьціўшыя на сваёй кватэры бойку, штрафуюцца на дваццаць доляраў, прымаўшыя непасрэдны ўдзел у баталіі—па дзесяць доляраў, і ня прымаўшыя ўдзелу, але прысутнічаўшыя пры баталіі,—па пяць доляраў.

Бедны Васіль і грошай ня меў—другія залажылі.

Пачухалі патыліцы нашы хлопцы і пашлі да хаты. Добрае, кажа, было вясельле, але ліхое пахмельле. Апроч штрафу, яны яшчэ страцілі дзень працы.

Далей для Васіля пацягнуліся дні чорнай цяжкай працы. Што-раніцы натоўп людзей спускаўся ў глыб капальні; абвугленыя, чорныя, як жукі, выпаўзалі яны адтуль увечары. Вячэра з півам, спаньнё, а назаўтра зноў праца.

Толькі дзень адпачынку, нядзеля, уносіў сякую-такую зьмену ў гэтае шэрае жыцьцё.

У нядзелю некаторыя йшлі ў царкву, а некаторыя з самага ранку пачыналі цягнуць піва і віскі.

Васіль ня быў занадта богамольны, але ў бога верыў. Малітву гаварыў і раніцаю і ўвечары, але папоў ня любіў.

— Ну, хадзем да царквы,—паклікаў яго Валька. Ён быў сябром царкоўнага савету і заўсёды агітаваў кожнага „навічка“, каб павялічыць праваслаўную парафію.

У царкве было дзесяткі тры-чатыры мужчын і пара кабет—наогул беларуская колёнія небагата. Поп тоненькім галаском выводзіў эктэніі, а яму рознагалосна адказваў хор, які складаўся з двух-трох ахвотных пастаяць за кліраcам эмігрантаў.

Пад канец абедні поп пачаў гаварыць казаньне. Зацікавіла Васіля тое, што ў сваім казаньні поп моцна лаяў соцыялістых—і бязбожнікі яны, і бунтаўшчыкі, і лодыры.

— Вось, хто пойдзе іх слухаць, не паздароўкаецца таму, калі вернецца ў Расію, да і тутэйшая кампанія па галоўцы не пагладзіць.

Не спадабалася гэта Васілю, да і наогул, поп, брыты, у цывільным адзеньні, зрабіў на Васіля кепскае ўражаньне.

— А ці тут сапраўды ёсьць соцыялістыя?—запытаўся Васіль у Валькі, выходзячы з царквы.

— Як-жа, ёсьць, але я табе ня раю хадзіць да гэтых абармотаў; дзяліць усё хочуць, самі гультаі, а чужое-б дзялілі.

Валька сабраў за гэтыя гады тысяч пару доляраў і лічыў, што калі соцыялістыя перамогуць, то падзеляць і яго капіталы.

Васіля ўсё-ж Валька не пераканаў. У той-жа вечар Васіль пашоў у клюб. Там ён знашоў ня менш людзей, як у царкве. Гэта ўсе былі рабочыя-шахцёры. Паміж імі выдзяляўся адзін—сакратар аддзелу саюзу індустрыяльных рабочых, таварыш Гарошка. Ён зьяўляўся палітычным эмігрантам і пакінуў сваю радзіму ў 1906 годзе за ўдзел у рэволюцыйным руху.

У Амэрыцы Гарошка знашоў цёмную, забітую расійска-беларускую колёнію. Ня было аніводнай рабочай організацыі, апроч царкоўных брацтваў. Выдавалася папамі толькі адна чорнасоценная газэта.

І вось сярод гэтых выхадцаў з Гародзеншчыны, Віленшчыны і Меншчыны распачаў Гарошка працу разам з жменяй другіх сяброў—паліт-эмігрантаў.

Няпісьменныя, забітыя цяжкаю працаю, пад уплывам папоў не хацелі спачатку і слухаць. У вадным месцы нават пакалацілі Гарошку, калі ён сунуўся туды з брошурамі і адозвамі.

Але-ж нашы політычныя ўцекачы, поўныя энтузыязму, ня падалі духам.

Пасьля цяжкай працы на фабрыцы яны йшлі к забітым братом з брошурай, з вольнымі словамі.

І цяпер, на сёмы год, Гарошка і яго сябры могуць быць задаволёнымі. Па ўсіх Злучаных Станах раскідана сотня-другая рабочых організацый. Выходзяць журналы і шэраг штодзенных і тыднёвых газэт.

Ужо прашлі тыя часы, калі цёмных, несьвядомых беларусаў можна было скарыстаць, як штрэйкбрэхэраў. Цяпер у барацьбе рабочых яны ідуць першымі.

Вось чаму ў Гарошкі такі адухоўлены твар; вось яго вочы поўны агню і веры ў сваю справу.

Васіля спаткалі прыхільна ў клюбе. Сход яшчэ не пачынаўся. Адны з рабочых гралі ў шашкі, другія чыталі газэты, трэція гутарылі. Васілю спадабалася, што ўсе тут былі нібы родныя. Адчувалася адна, зьядналая сям'я. Толькі тыя, што зашлі сюды першы раз, спачатку пазіралі ваўчком, але пазьней гэтак сама асвойваліся.

Пачаўся сход. На павестцы стаяла адно пытаньне—

Праваное і матэрыяльнае становішча рабочых у капальнях Рокфэльлера.

„Вас пагнала сюды нядоля, царскі бізун і падаткі,—пачаў Гарошка,—вы прыехалі зарабіць сотню-другую доляраў, каб, вярнуўшыся, паправіць сваю гаспадарку. Замест гэтага вы зьмянілі адно ярмо на другое, да яшчэ горшае. Вы спаткалі новы прыгон, дарма што тут завуць вас вольнымі рабочымі. На ўсім сьвеце, апроч Кітаю і царскай Расіі, у капальнях працуюць ня больш, як восем гадзін, а тут у вас дзесяцігадзінны дзень працы і за гэтую катаржную працу вам плоцяць грашы.

А ўмовы жыцьця? Ці-ж гэтак павінен жыць чалавек? Па дваццаць, пятнаццаць душ у вадным брудным бараку. І за гэты „палац“ вы павінны плаціць кампаніі. А калі ты забастуеш, дык цябе выкінуць, як сабаку, і тады як будзеш праводзіць барацьбу?

Зьдзек ужо да таго дашоў, што нават, каб дастаць працу, патрэбна даць майстру хабар.

Што ні дзень у капальнях здараюцца выпадкі сьмерці, калецтва, бо кампанія ня хоча патраціць лішняга гроша на ўмацаваньне гэтых праклятых нор, на вэнтыляцыю. І вас, пакалечаных, альбо вашы сем'і, што застаюцца сіротамі, выкідаюць на вуліцу бяз жаднае дапамогі. Ідзі жабруй альбо здохні пад плотам...

Ці-ж гэта ня прыгон, калі вы нічога ня можаце купіць у прыватнай краме альбо заснаваць свой коопэратыў. Усё, што патрэбна вам, вы

прымушаны купляць у кампанейскай краме, дзе за вашы грошы даюць дрэнны, гнілы тавар.

А тыя штрафы, якія накладваюць на вас за самыя маленькія праступкі ў камеры кампанейскага судзьдзі?

Адным словам, тыя грошы, што зарабіў крывавым мазалём, глядзіш—у канцы месяца зноў застаюцца ў кішэні фабрыканта.

Ці гэта ня прыгон, калі тут і паліцыя, і судзьдзя і нават папы з ксяндзамі знаходзяцца на ўтрыманьні кампаніі?

Папы і ксяндзы патрэбны, каб вас угаварваць эвангэльскім словам—бяз скаргі зносіць гэты прыгон. Але калі ты ўзбунтуешся, тут месца папа заступіць судзьдзя і паліцыя.

Паглядзеце і запытайце, дзеля чаго капальні абгароджаны калючым дротам? Гэта-ж зроблена на выпадак барацьбы, забастоўкі. Вось толькі выйдзі на забастоўку і там за гэтым дротам засядуць вааружаныя штрэйкбрэхэры.

Дзе-ж выхад з гэтага прыгону? Выхад адзін—арганізацыя і барацьба.

Праз цэлую гадзіну лілася гарачая прамова т. Гарошкі. Яна глыбока запала ў душу і сэрца Васіля. Успомніў ён тут і свой прыгон у лясных абшарах Місісіпі і цяжкую працу на астрыгах і сьмерць Джымі.

„Праўду гаворыць Гарошка“, думаў Васіль. Цяпер ён зразумеў папоўскую брахню і больш ужо не пацоў у царкву, як ні клікаў яго Валька. Але ў бога Васіль яшчэ верыў, хаця і тут у яго душы пачало западаць сумненьне.

Трапілася раз Васілю спусьціцца на дно капальні. Там у лябірынце нор і ходаў яго зразу ашаламіла. Крывель павёў яго к месцу сваёй працы. Спачатку трэба было йсьці нагнуўшыся і асьцерагацца, каб ня стукнуцца галавою аб навісшую глебу. Недалёка ад забояў трэба было паўзьці. Цёмна, чорна кругом. Духата. Крывель з лямпачкаю на галаве то на чэраве, то на сьпіне поўзаў і дзёўб вугляную глебу. У гэтым месцы прасочвалася вада, і ён поўзаў у чорнай жыжы...

Аж страшна стала Васілю. Чуць не перажагнаўся, калі вылез ён на верх.

— Вось дзе пекла, дык пекла,—сказаў Васіль.—горшага не намалююць папы.

## VI

Валька з Крывялём працавалі забойшчыкамі ў шахце № 16. Пра гэтую шахту сярод рабочых хадзіла дурная слава. Сёньня ў адным, заўтра ў другім забоі здараліся абвалы. Шмат ахвяр пакалечаных, забітых выкінула яна на паверх зямлі.

Прадстаўнікі ад саюзу не адзін раз рабілі заяву кампаніі аб магчымасьці катастрофы. Але ніхто на гэта не зварачаў увагі. І чаго там

клапаціцца—рабочы не застрахован. Згіне адзін—на яго месца знойдзецца дзесяць.

Усё, што патрэбна было для аховы жыцьця рабочых—гэта даць новае рыштаваньне...

Адзін раз каля поўдню Васіль заўважыў якісь надзвычайны рух. Усе беглі к шахце № 16.

— У чым справа?—пытаўся ён уваднаго, другога.

— Шахту заваліла. Сто пяцьдзесят рабочых пахавала.

Каля шахты ўжо сабраўся натоўп. Тут-жа з боку галасілі жанчыны і дзеці, якіх зайздрасьць капіталістага парабіла сіротамі.

Пачалі адкопваць. Крывяля дасталі няпрытомным. Праз дзён колькі ён акрыяў, але назаўсёды застаўся калекаю. Труп-жа Валькі, паміж іншым, вывалаклі толькі на чацьверты дзень.

Катастрофа ў шахце № 16 выклікала сярод рабочых вялікае абурэньне. У бок адміністрацыі несьліся пагрозы. З вуснаў на вусны перадавалася слова „страйк" (забастоўка). Усе адчувалі, што без барацьбы не абыйсьціся, што так далей працаваць нельга.

У рабочай залі што-вечар рабіліся сходы. На трыбуне выступалі ня толькі офіцыяльныя оратары зд саюзу. Выходзілі замазаныя ў вугаль рабочыя і ў кароткіх, поўных гневу словах звалі на барацьбу.

У гэтыя дні кожны адчуваў сябе чымсь вышэйшым, адчуваў адзінкай вялікага пролетарскага організму. Зьбіраліся тут славяне, фіны, мад'яры, італьлянцы, немцы. Але ўсіх іх яднала адно пачуцьцё, у іх была адна мова—солідарнасьці. На трэці дзень на работу ня вышаў ніводзін чалавек.

---

Высокі, доўгі сядзеў малады Джон Д. Рокфэльлер у габінэце сваёй вілі і абдумоўваў плян заўтрашняга балю. Высокі лоб, празрыстыя, выражаючыя волю, якой ня вольна пярэчыць, вочы бяз броў, прадаўгаваты нос, выцягнутыя ўперад сківіцы, увесь твар даваў выраз якойсь суровай надменнасьці, пачуцьця сілы і ўлады.

Пазваніў. Як з-пад зямлі вырасьлі паслугачы.

— Пазваніць па тэлефоне запрошаным на баль і абвясьціць, што ў програме будзе: зьлёт бабачак і неспадзеўка.

Малады Джон любіў пажыць. Ён не пашоў сьледам свайго бацькі. Бацька яшчэ памятаў расказы дзеда, як той краў коні, як ня раз за гэта даставаў лупцоўку. Ён ведаў, што грошы даліся хоць крадзяжом і разбоем, але даліся цяжка. Вось чаму стары Джон Д. Рокфэльлер жыў аскетам. Ад бацькі малады Джон захаваў толькі адзін звычай. Штораніцы ў нядзелю ён хадзіў у эвангэліцкую царкву. Там, усеўшыся на спэцыяльна пабудаванай для яго лаўцы, ён шчыра расьпяваў побач з рабочымі псальмы і малітвы.

Але ўсё гэта не перашкаджала любіць віно, жанчын і чэрпаць ад жыцьця поўным каўшом.

У назначаны дзень пачалі зьбірацца госьці. Гэта ўсё былі магнаты золата, іх сынкі і дочкі. Надзвычайная програма балю прыцягнула больш як заўсёды кабет і мужчын.

У першым нумары прымала ўдзел уся жаночая палавіна. З падвешанымі крыльлямі, амаль што голыя яны імпровізавалі матылькоў.

Сад Рокфэльлера выяўляў цікавае зьявішча. Паміж элегантнымі кабетамі спатыкаліся тоўстыя з адвісшымі сьцегнякамі бабы.

Але-ж наогул від быў надзвычайны, і мужчыны, з лёрнэткамі, стоячы на вэрандзе, не маглі адарвацца.

Пачаліся скокі. Пад гукі джэс-банд выраблялі уонстэп, фокстрот і другія выкрутасы.

За вячэраю пасьля добрай закускі і выпіўкі на стол прынесьлі вялізарны торт.

Гэты торт сам сабою пачаў раскрывацца. І вось з торту вырастае голая надзвычайнага хараства і прыгожасьці кабета.

Гром воплескаў, крыкі задаваленьня спаткалі кабету.

П'яныя, з павышаным палавым пачуцьцём расхадзіліся пары, каб рэшту ночы правесьці ў іншай оргіі...

У найлепшым настроі зашоў назаўтра Рокфэльлер у сваю кантору.

Ён праслухаў даклад аб навінах біржы, поштыкі, апошніх сэнсацыях і зьбіраўся пазваніць да сваёй каханкі—з Мэтрополітан-опэры, як яму падалі тэлефонную трубку.

— У чым справа?

— У Колёрадо на вашых капальнях абвешчан страйк. Спыніліся ўсе шахты. Рабочых ня можна ўламаць ніякім чынам.—званіў загадчык шахтаў.

— Не чакаючы-ж пазваніць губарнатару і прасіць міліцыю для аховы промыслаў.

— Дайце мне кантору штрэйкбрэхэраў.

— Алё! Джон Брук. Сёньня-ж адправіць у Колёрадо пяцьсот найлепшых хлопцаў.

Заўсёды спакойны твар Рокфэльлера нэрвова падзёргваўся.

— О, мы пакажам гэтай сволачы забастоўку. Век будуць памятаць!

---

Васіль з галавою кінуўся ў барацьбу. Вечары ён прастойваў на мітынгах, слухаў, сам гаварыў з менш сьвядомымі, а ў дзень стаяў у пікетах, сачыў за штрэйкбрэхэрамі. Першыя дні іх, праўда, і ня было. Але-ж на трэці дзень страйку прыехалі штрэйкбрэхэры Брука.

Узброеныя рэвольвэрамі і кінжаламі, атрымаўшы званьне міліцыянэраў, яны заселі ў шахтах, абведзеных калючым дротам. Для аховы промыслаў губарнатар трымаў два батальёны войска.

Пачалася зацятая барацьба. Рабочыя не здаваліся. Яны гэтак сама здабылі зброю. З штрэйкбрэхэрамі пачалася перапалка, як на вайне.

Але-ж Рокфэльлер яшчэ меў у рэзэрве сродкі, каб прымусіць рабочых здацца.

Павыкідалі з дамоў і баракаў жонак і дзяцей рабочых. У восень, халадэчаю, яны прымушаны былі жыць па-за раёнам уладаньня Рокфэльлера ў палатках. Узброеныя рабочыя вышлі ў горы. Распачыналася сапраўдная грамадзянская вайна.

Але ў барацьбе, як кажуць, усе сродкі добрыя.

У начы штрэйкбрэхэры падпалілі палаткі, у якіх жылі сем'і рабочых. Ад палаючых палатак беглі кабеты і дзеці...

Іх спатыкалі кулі рэгулярнага войска „вольнай“ краіны...

Страйк быў зломан.

VII

З забастоўкі Васіль вышаў клясавым сьвядомым чалавекам. Тут ён атрымаў свае баявыя хрэсьбіны. Гэта ўжо ня быў той шэры, думаючы толькі аб сабе да аб заработках дзядзька з Горадзеншчыны. Васіль усьвядоміў сябе, як адзінка сярод мільёнаў прыгнечаных, зьвязаных з ім супольнымі інтарэсамі. Адчуваў ён толькі недахват ведаў. З захапленьнем Васіль кідаецца на кніжку, каб навучыцца спосабам барацьбы, каб знайсьці выхад з таго пекла, у якім апынуўся працоўны.

Як актыўны сябра організацыі, Васіль аддае справе ўвесь свой вольны час. Ён так захапіўся сваёю новаю працаю, што часамі пачаў забывацца аб сваёй Ганьне. Ужо ня так часта ішлі лісты ў родныя Навасёлкі. А тут пачалася вайна. Краіну Васіля занялі немцы. Сувязь паміж ім і Ганнаю зусім парвалася...

Васіль ня меў жаднае кваліфікацыі і кідаўся з аднэй працы на другую. Урэшце ён папаў на фэрму. Праца хоць і цяжкая, дзень улетку доўгі, але-ж затое сьвежае паветра, ды, апроч усяго, і ўмовы фэрмэрскага жыцьця хоць крыху, але нагадвалі тое, што Васіль пакінуў у Навасёлках.

Побач з фэрмаю стаяў завод па вырабу консэрваў. Зімою завод адпачываў. Толькі ўлетку на заводзе пачыналася поўнае жыцьцё.

Яшчэ жывучы ў горадзе, Васіль заўважыў, як перад летам цэлыя сем'і на вялізарных фурах вылядоўваліся з гораду на сэзонную працу ў вёсцы. На фургоне разам з сям'ёй зьмяшчаўся ўвесь скарб гэтага вандроўцы-рабочага. На версе фургону, поруч з дзедам або бабуляю, сядзеў певень і выкрыкваў сваё кукурэку.

Васіля цікавіў і завод і ўмовы працы на заводзе.

Увесь процэс працы быў дзіўна мэханізаваны. З аднаго канца майстэрні пускаўся да машыны ліст бляхі. Гэты ліст бляхі мэханічным спосабам, без даткненьня чалавечай рукі выходзіў на другім канцы майстэрні ўжо гатоваю консэрвнаю банкаю, якая аўтоматычна налівалася зва-

раным гарошкам або садовінай. А на дварэ, навокал заводу, ішла цяжкая, брудная праца. Адны падносілі, другія чысьцілі, трэція варылі гарох, туматы, кукурузу і іншую гародніну. Поруч з маткаю працавала маленькая шасьцігадовая дзяўчынка...

Усе яны з Расіі, Польшчы, Галіцыі прыехалі сюды шукаць долі, лепшага жыцьця...

К восені Васіль кінуў фэрмэрскую працу і накіраваўся назад у горад. Надышлі цяжкія часы. Амэрыка сама ўцягнулася ў вайну. Народ не хацеў вайны. Трэ' было ўтварыць псыхолёгію неабходнасьці вайны, трэба было ўпаяць нянавісьць да „бошаў". Пачаліся штучныя „патрыётычныя" парады. Запрацавала „жоўтая" прэса.

Часта на вуліцах, на плошчы можна было пабачыць такі малюнак. Група афіцэраў і „патрыётаў" падымала „амэрыкан флэг", усе, хто йшоў па вуліцы або стаяў на плошчы, павінны былі спыняцца, здымаць капялюшы. А хто гэтага не рабіў, таго ставілі на калені і прымушалі цалаваць „старс-энт страйпс" (так янкі завуць свой сьцяг з зоркамі і палоскамі).

Невялікія былі сілы сьвядомых праціўнікаў вайны. Але-ж і гэтыя сілы ня спалі. У прэсе, праз дэманстрацыі яны заяўлялі гучны протэст супроць вайны. Уваднэй з такіх дэманстрацый прымаў чынны ўдзел і Васіль. Прыкра было Васілю, калі ён бачыў, як амэрыканскія рабочыя, асабліва моладзь, цкавалі, лаялі дэманстрантаў у той час, калі паліцыя разганяла іх палкамі.

Многіх дэманстрантаў арыштавалі, паміж арыштаваных быў і Васіль. Заперлі Васіля ў адзіночку, падобную да клеткі. Сьцены камеры так пабудаваны, што сюды не праходзяць абсолютна ніякія гукі з надворку. Рэжым турмы, як для крымінальных,—вольная Амэрыка ня робіць розьніцы паміж крымінальнымі і палітычнымі вязьнямі.

А гадзіне першай у дзень дзьверы ўсіх камер аўтоматычна адчыняюцца, і арыштанты, стаўшы ў адзін шэраг і палажыўшы адзін другому на плечы рукі, ідуць у ядальню.

З вонкавага сьвету да іх наведваецца толькі ксёндз альбо пастар з „божымі словамі" аб пакары і спраўленьні.

За чатыры месяцы сваёй няволі Васіль, апроч біблії, ня бачыў ні кніжкі, ні газэты.

Васіль на волі. Але-ж і воля ня лепшая ад турмы. Усе рабочыя рэволюцыйныя організацыі разбураны. Правадыры і актывістыя ў турмах. Зачынена рабочая прэса. Адно толькі моцна ўзрадавала Васіля. Там, у родным краі, рэволюцыя! Там працоўны скінуў векавечнае ярмо няволі. Туды рвуцца думкі і сэрца Васіля.

Васілю ня прышлося клапаціцца аб ад'езьдзе. Як „непатрэбны і шкодны элемэнт", ён, разам з другімі, быў высланы ад берагоў „вольнай" краіны Колюмба.

Цяпер у Васіля каханьне бацькаўшчыны злучылася з энтузыязмам рэволюцыянэра, які знойдзе гэту бацькаўшчыну новую, скінуўшую кайданы, бацькаўшчыну, якая пойдзе шляхам творчасьці вольнага жыцьця. А разам усплываў вобраз Ганны.

Розныя думкі зараіліся ў галаве Васіля.

— Як яна мяне спаткае? А можа забыта? З другім зышлася.

— Не, ніколі! Яна-ж так мяне любіла,—стараўся разагнаць чорныя думкі Васіль.

VIII

А Ганна?

Першыя дні, як паехаў Васіль, яе агарнуў страшны жаль. І на душы стала пуста і ў хаце як-бы чагось не хапала. Уткнуўшыся ў падушкі, Ганна праплаквала дні і ночы.

Страшна стала без Васіля сярод чужых людзей. Часта бегала яна да маткі ў суседнюю вёску, каб там выплакаць сваё гора.

Але-ж час браў сваё. Пamaленьку Ганна прызвычаілася к адзіноце. Яна толькі з нецярплівасьцю чакала лісту ад Васіля. Каб забыцца, каб адагнаць чорныя думкі, яна ўсёю душою аддалася працы па гаспадарцы. Самой прыходзілася і араць, і касіць, і сеяць.

Якая-ж была нязьмерная радасьць, калі яна атрымала першы ліст ад Васіля. Яна чытала яго, перачытвала. Цяпер яна толькі і цешыла сябе тым, што чакала наступнага лісту з далёкай старонкі.

Праходзілі дні, тыдні, месяцы. Ганна пачала штось адчуваць пад сэрцам. І радасна было, і страх браў яе.

„Што-ж я буду рабіць адна з малым? Ня ўпраўлюся“, разважала кабета.

Калі радзілася дачка, яшчэ цяжэй стала жыць аднэй кабеціне. Цяжка дагледзець і гаспадарку і малое разам. Адно толькі, што падтрымлівала яе дух—гэта надзея, што Васіль скора вернецца, прывязе грошай. Яны стануць на ногі і зажывуць, як і другія гаспадары.

Пашлі чуткі аб вайне. Пачалася мобілізацыя. Пазабіралі ня толькі маладых, але і дарослых. На вёсцы што ні дзень сьлёзы, плач і лемант.

Вайна пачалася, і праз нядоўгі час дакацілася да Навасёлак. Вёску занялі немцы. Тут сувязь з Васілём зусім абарвалася.

У Ганны рукі зусім апусьціліся. Праца ня клеілася. Гаспадарка ўсё больш і больш занепадала. Прышлося прадаць апошнюю кароўку. Высахла, змарнела кабета.

З мужчынскага полу на вёсцы засталіся дзяды ды пастушкі. З дарослых дзяцюкоў не пашоў на вайну адзін Андрэй Біруля. Яго не ўзялі, як клыпатага.

Біруля даўно кахаў Ганну, калі яна яшчэ была дзяўчынаю. Але-ж Васіль стаў яму папярок дарогі.

Як толькі Ганна засталася адна, Андрэй пачаў заходзіць да яе. Ад часу да часу памагаў у працы—то ўзараць паможа, то дроў прывязе, асабліва, калі Ганна была хворая.

Аб каханьні Андрэй баяўся заікнуцца. Ён адчуваў, як шчыра кахае Ганна свайго Васіля. Разам з ёю ён успамінаў аб Васілю, спачуваў яе гору.

Невядома з якіх крыніц, але па вёсцы разьняслася чутка, што Васіль загінуў у Амэрыцы. Ганна спачатку ня верыла. Яна ўсё чакала—авось прыдзе ліст. Час-жа праходзіў, а лістоў ад Васіля ня было. Зусім апусьціліся рукі ў Ганны.

А Андрэй сьмялей хацеў гаварыць ёй аб сваім каханьні.

— Ганна, мілая, я-ж цябе даўно кахаю. Увесь час у сэрцы трымаў, бо ты была зьвязана. А цяпер...

— Адстань, слата. Ці ня брыдка табе,—гнала ад сябе Ганна Андрэя.

Але-ж час і маладая кроў бралі сваё.

— А што, калі Васіль жыве ды вернецца?—гаварыла Ганна паміж пацалункаў, зашчаміўшы галаву рукамі.

Скора Андрэй перабраўся ў Ганьніну хату і пачаў гаспадарыць. Ганна зашла на другое.

А тымчасам Васіль поўны надзеі і веры прыехаў у Расію. Але-ж дадому заехаць ня здолеў—фронт перашкодзіў. Васіль дабрахвотна запісаўся ў Чырвоную армію.

Праз паўтары гады біўся ён і з Дзянікіным, і з Юдэнічам, і Урангелем.

Як толькі пачалася бойка з палякамі, Васіль папрасіўся, каб яго паслалі на заходні фронт. Тут ён паступіў у разьведку.

Як хваля морская, нясласе Чырвоная армія па пятах палякоў. Здарылася якраз, што Васілёва часьць праходзіла праз яго родны павет.

Праходзячы каля Навасёлак, Васіль забег да дому, каб хоць вокам зірнуць на Ганну.

У той час, як ён падыходзіў да свае хаты, з вуліцы пабегла на двор дзяўчынка з крыкам:

— Мамка, мамка, да нас салдат ідзе!

Васіль зразу адчуў штось роднае, блізкае ў гэтым крыку дзяўчынкі.

„Вось і дачка“, радасна гаварыў сам сабе Васіль.

На двары ён заўважыў крывога Андрэя. Той накідаў гной на воз. Андрэй, як падняў вілы, дык так і застаўся ў гэтай позе, заўважыўшы Васіля.

Васіль ускочыў да хаты. На ложку каля калыскі ламала сабе рукі Ганна.

— Ганна, Ганначка,—кінуўся да яе Васіль.

Яна адхіліла яго ад сябе.

— Я... я не твая... Я ўжо Андрэева...—сказала і залілася сьлязьмі. Пацямнела ў ачох.

Як няпрытомны, рынуўся Васіль з хаты і пабег даганяць свой полк.

---

Грудзьмі прабіваў сабе дарогу полк Васіля пры адступленьні ад Варшавы. Ня раз здавалася—усё прапала, бо палякі ахапілі з бакоў, сьпераду, з тылу. Але-ж полк усё такі прабіваў сабе шлях на ўсход. Многа палягло лепшых сяброў з палку, а тыя, што засталіся былі змаранымі, па два-тры дні ня еўшы, але ў палон не здаваліся.

Многа дапамог Васіль сваім веданьнем мясцовасьці і характару селяніна-беларуса. Здаралася, што сяляне выводзілі з такіх мясьцін, адкуль, здавалася, ніякага выхаду ня было.

Васіль так быў закален ненавісьцю да сваіх клясавых ворагаў, ён так трымаў сябе пагеройску, што сваім прыкладам падтрымліваў дух і ў сваіх сяброў.

Далей мір. Для дзяржавы працоўных, а разам і для Васіля пачынаецца новы этап жыцьця: адбудова разбуранага, перабудова ўсяго складу жыцьця на новы лад.

Чырвонаармейскую кашулю Васіль зьмяняе на ўбраньне рабочага. Васіль—старшыня заўкому. Ад раніцы да позьняй ночы Васіль на нагах. У дзень—на фабрыцы, у вечары—на сходах і пасяджэньнях.

Яго захапляе працэс творчасьці, посьпехі, дасягненьні. Ён і яго браты твораць не на карысьць павука-ўласьніка, а на карысьць усяго працоўнага колектыву.

Гэтая колектыўная праца памагае загаіць рану, якую Васілю нанёс стары, струхнелы лад.

# ЧЫРВОНЫЯ РОЖЫ

*(Чатыры абразкі мінулага жыцьця)*

**Максім Гарэцкі**

* * *

У чорнай цямноце віхор вечных пастораў.

Там раскашуюць і сьмяюцца, і там церпяць і плачуць.

І там няведамая здань бродзіць і бродзіць, шэпча і шэпча: „Паўстань... паўстань... паўстань пракляцьцем катаваны“...

І троху-патроху ўздымаецца глухі гоман і тупат агромністай грамады людзей... Нехта, як шалёны, з вялікаю злосьцю голосіць: „Ад веку мы спалі!“... Нехта, як няпрытомны ад вялікага імпэту, падпявае: „І нас разбудзілі!“..

Гукі ўсё дужэюць, дужэюць...

І раптам разьлягаецца песьня, дужэйшая за ўсё тое, што было чуваць дагэтуль. Усё заглушае новая мэлёдыя, бадзёрая і прыгожа-вялікая:

— Паўстань, пракляцьцем катаваны!..

А сумныя вятры вечных пастораў шумяць-шумяць...

## I

### „Нех жые Польска!“

Дзеецца сьвяточным днём улетку, у карчме. Грамадка сялян, старых і маладых, скачуць, гуляюць—спраўляюць вясельле...

Г о л а с з в у л і ц ы. Уцякайце! Уцякайце! Пан з аконамам ідуць! Гайдукоў вядуць!

Усе закрычаўшы: „Уцякайма! Уцякайма!“—разьбягаюцца хто куды. У каморы застаецца адзін Лейбка і мітусіцца туды й сюды... Прыходзіць пан, аконам з бізуном, на прозьвішча Нявольскі, а з імі—гуйдукі ў белых халатонах з дубцамі. Лейбка доўга й нізка ўкланяецца.

П а н. А, хамы! А, быдла!

Н я в о л ь с к і. Усе разьбегліся хто куды, ласкавы пане!

П а н. А, галганы! А, псякрэў! А, гультаі! Вольніцу пачулі!.. (На аконама). Пан Нявольскі, добра ты ім казаў, каб па абедзе, як адзвоняць у касьцеле, пшаніцу вазілі?

Н я в о л ь с к і. Добра казаў, ласкавы пане! прасіў, і пагражаў... Сьвята, кажуць. Разьбягаюцца хто куды і ня слухаюць.

Пан. А бізун на хамаў? А гайдукі мае? А дубцы на хамаў?.. Пан Нявольскі, які ты ў мяне аконам?!

Нявольскі. Што-ж я супроць іх усіх зраблю, ласкавы пане, калі ўсе ня слухаюць?

Пан. Хто-ж у іх завадэвуш?

Нявольскі. Ды ўсе, мусіць, змовіліся, ласкавы пане! Мацей... Сьцяпан... Дзяцей сваіх, з панскае волі, шлюбуюць...

Пан. А дзе-ж гэтыя старыя падлы? Паклікаць мне іх зараз! Нагаямі іх пашлюбую! Да абеду мусілі вясельле скончыць, а па абедзе пшаніцу вазіць. А, псякрэў! Прывядзі іх, пан Нявольскі, зараз сюды!

Нявольскі. Слухаю, пане ласкавы! (Нізенька ўкланіўшыся, пабег).

Пан (сеўшы). Кухаль мёду, Лейбка! Маеш добры?

Лейбка. Найлепшы, яснавяльможны паночку!

Пан. А што ў цябе тут хлопы рабілі? Што яны пра вольніцу казалі?

Лейбка (падае кухаль мёду). Хочуць вольніцы, яснавяльможны паночку. Мацей, Сьцяпан пра вольніцу гаманілі, а што—добра ня ўчуў, яснавяльможны паночку.

Пан (п'еця мёд). А, ты ня ўчуў? Патураеш хлопам, дурню Лейбка! А скачы-ка ты мне свае жыдоўскія скокі, глухі дурню! Зараз! Псякрэў, нагаямі вольніцу задам!

Лейбка. Уй, скачу, скачу, пане яснавяльможны! (Прысілена вырабляецца перад панам, а пан злуецца і сьмяецца, адганяючы клопат).

Ідзець з Мацеем і Сьцяпанам Нявольскі, а за імі іншыя старэйшыя сяляне.

Пан (на Нявольскага). А дай, каханку, мне твайго бізуна! (Бярэць бізун). А ходзьце бліжай, хамы! А ходзьце, мае дзеткі! (Б'ець Мацея па плячох).

Мацей (валіцца на калені). Даруйце, паночку!

Пан (на Сьцяпана). А ходзь, мой Сьцяпане! А вось вам вольніца, старыя дурні! (Б'ець Сьцяпана).

Сьцяпан (таксама валіцца на калені). З-пад шлюбу сёнейка нашыя дзеткі... Якое бяз людзей вясельле? Усе засталіся, загуляліся... Даруйце, паночку!

Пан (да іншых сялян). І вы загуляліся, дзеткі? А ходзьце-ж сюды бліжай, хамы! (Трасе бізуном).

Сяляне:—Мы што? Мы нічога, яснавяльможны паночку!
—Мы пойдзем на жніво, яснавяльможны паночку!
—Даруйце, яснавяльможны паночку!

Пан (на аконама). Пан Нявольскі, каб усе зараз вазілі пшаніцу! А Мацею і Сьцяпану дайце па дзесяць вольніц на стайні для добрага прыкладу!

Мацей (жаласна). Паночку залаценькі! Даруйце маёй старасьці... Я перашоў гады...

Сьцяпан. Паночку даражэнькі! І мне той год ідзе, калі інвэнтарным статутам забараняецца сячы старога... Зьмілуйцеся!..

Пан (з вялікай злосьцю б'ець іх бізуном па плячох). А вы мне яшчэ пра статуты гаўкаць будзеце? Вось вам тут статут і канступацыя! Пан Нявольскі! Па дваццаць вольніц усыпце старым дурням! А, якое паскудзтва! Вольніцу пачулі!..

---

Неспадзевана зьяўляецца начальнік ад польскага падпольнага рэволюцыйнага ўраду.

Начальнік (да сялян). Выйдзеце і пачакайце. (Да пана). Маю да пана важную справу...

Пан (важна). А хто пан такі?

Начальнік. А вось, пане, хто... (Дастае з кішэні і паказвае паперу). Хай усе выйдуць і пачакаюць! (Загадна ківае на ўсіх рукою).

Пан (усхопліваецца). Ах! Езус, Мар'я! пане найдаражэйшы! Вон! Усе вон! І Лейбка вон! І пан Нявольскі выйдзі! (Усе выходзяць).

Начальнік. Так пане! Я—начальнік ад нацыянальнага ўраду на ваш павет...

Пан (трасе яго за рукі, скача ля яго). Ах, каханы пане! Пане найдаражэйшы! Мілы госьцю! Як-жа наша сьвятая справа? Ах, пане... Пойдзем-жа да палацу!

Начальнік (сеўшы). Тут лепей. Проша пана сесьці й слухаць... (Пан сядае ў трывозе). Пан мае даплаціць дадатковае ахвяры на справу сто тысяч злотых, сабраць як мага болей валанцёраў і зараз абвесьціць хлопам ад імя нашага ўраду скасаваньне паншчыны на вечныя часы...

Пан. Ой, пане!.. Скасаваньне паншчыны?!

Начальнік. Не перапыняй, пане! Вялікая рухаўка тут у вас пачынаецца за колькі дзён. Нашы аддзелы зьявіліся ўжо ў панскіх лясох. Маскалі, як нам вядома, таксама сунуцца сюды з нямалай сілаю...

Пан. О, Езус, Мар'я!

Начальнік. Не перапыняй, пане! Польска паўстане з мёртвых, хоць далей нам будзе значна цяжэй. Беларусы блага разумеюць нашы мэты. Трэба пацягнуць іх ласкаю. Трэба зараз абвесьціць ім, пане, вольніцу ад польскага нацыянальнага ўраду...

Пан. Але-ж, пане, гэтак толькі мовіцца?.. Хлопы застануцца нашы?

Начальнік. Проша пана, то ня ёсьць жарты. У паўстаўшай з мёртвых Польшчы паншчына не павінна быць. Пан—стары чалавек, то пан інакай мысьліць. Але то ёсьць для нас ганьба перад усёю Эўропаю, пане! Вольніцу мусім абвесьціць. Хай пан сам гэта зробіць. Зараз, тут-жа, пры мне!

Пан. О, Езус, Мар'я! Я не магу! Я сам не магу! Хай пан камісар ім абвяшчае. Гэта пана камісара абавязак. Мала што можа зьмяніцца...

Начальнік. Сорам, ганьба! Я мушу павядоміць аб такіх адносінах да справы наш урад. Пане! Рэволюцыйны ўрад не жартуе! (Стукае па стальніцы далоньню).

Пан. Пане камісар! Не зьневажай, пан, старога патрыоту. Я ўжо заплаціў у часе першую складку... Яшчэ складу, колькі ўрад справядліва загадае... (Са сьлязьмі). Але, пане... дзе-ж возьмем злотых, як скасуюць паншчыну?

Начальнік. Як выйграем справу, высокі сойм зробіць свае справядлівыя пастановы... нікога не пакрыўдзіць. Панства абыватэльства будзе здаволена за свае ахвяры. А цяпер мусім абвесьціць хлопам волю!

Пан. Я... я... ну, але то яшчэ пабачым. Як пастановіць высокі сойме... Ня можа-ж быць, каб хлопаў і ў сойм пасадзілі...

Начальнік. Проша пана, няхай-жа пан пакліча хлопаў.

Пан. Эй, вы там! Пан Нявольскі, гукай, пан, усіх! Ходзьце мае дзеткі, усе сюды! Ну!

---

Прыбягае Лейбка, прыходзіць аконам Нявольскі, Мацей, Сьцяпан і іншыя сяляне.

Начальнік (ціха, пану). Пане, у такім разе мушу ім адкрыць, хто я, але каб зараз былі коні, еду далей...

Пан (таксама ціха). Добра, пане камісар, добра! Толькі абвяшчай, пан, вольніцу сам.

Начальнік. (голасна). Ціха, брацьця крывічы. З вамі гаворыць маімі вуснамі сам высокі жонд найсьвятлейшай Жэчы Посполітай Польскай! Я—яго камісар на ваш павет, значыцца, начальнікам усяго вашага павету...

Сяляне: — Ціха! Ціха!
— А што-ж гэта з намі будзе?
— А што-ж тут яшчэ за навіна?

Начальнік. Браты мае! Крывічы! Наш высокі жонд выгнаў маскалёў з айчыны і абняў у ёй найвышэйшую ўладу. Яго імем, браты мае, я абвяшчаю вам на векі-вечныя, моцна і непарушна, поўную волю! Паншчына касуецца назаўсёды! З гэтага часу вы—вольныя людзі ў вольнай, незалежнай найсьвятлейшай Жэчы Посполітай Польскай... Вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі!.. (Сяляне з подзівам азіраюцца, іншыя штосьці мармочуць).

Лейбка. Нех жые Польска! (Сяляне глядзяць на яго; аконам Нявольскі, зірнуўшы на пана, пакачвае галавою).

Начальнік. Мы вас паклікалі сюды браты мае, каб азнаёміць вам гэтую радасную навіну... Маскалёў з Варшавы польскае валечнае войска, з боскай ласкі, выперла! Па ўсім крулестве шмат іх пабіла! Цяпер, браты мае, каб давяршыць звыцьства і ўмацаваць дадзеную вам волю, нам трэба толькі перабіць і тых маскалёў, што могуць яшчэ знайсьціся ў вашай мясцовасьці.

П а н. Сьмерць маскалю!

Н я в о л ь с к і. Сьмерць! Нех жые Польска!

П а н. Нех жые Польска! (Да сялян). Крычэце-ж, мае дзеткі!

С я л я н е:—Нех жые!

— Ды няхай жыве!

— Даруйце нам, паночку!

П а н. Дарую! Усё дарую! Нех жые Польска!

Н а ч а л ь н і к. Я спадзяюся, браты мае, што вы, забыўшыся ў гэтую вялікую часіну на ўсе старыя крыўды, сваркі і звадкі, і ўсякія непаразуменьні, дружнай грамадою пойдзеце ў вайсковыя аддзелы бараніць бацькаўшчыну ад агульнага нашага ворага, каб навекі скінуць з сябе маскоўскае ярмо!

М а ц е й. Паночку! А што я маю спытацца... што я маю сваім дурным старым розумам ведаць: калі маскалі, крый божа, здужаюць нас... іх сіла вялікая... Паны, можа, паўцякаюць, а што мы ў той час рабіцьмем? Маскалю-ж трапіць у рукі—што шалёнаму сабацы на зубы.

Н а ч а л ь н і к. Глупства гародзіш, стары! Як усе дружна пойдзем, дык ня здужае нас ніякая сіла.

Н я в о л ь с к і. Віват Польска!.. (Зірнуўшы на Мацея). А здраднікаў мы за вяроўку ды на асіну!.. Віват Польска!

Г о л а с з в у л і ц ы. Ратуйце!!! Казакі з лесу лятуць!!!

Усе разьбягаюцца хто куды. Чуваць зводдаль пара стрэлаў...

## II

### Вольніца прышла

Цераз колькі год „вольніцы“. Людзі пастарэлі, хто памёр, хто нарадзіўся. Усё перамяніліся, адно болей, другое меней. Лета, як і тое, што было колькі гадоў таму назад. Пан сядзіць на ганку і чытае польскія заграничныя газэты. З-за будынку, з-за кустоў, час-да-часу вытыркаюцца галавою бяз шапак выбарныя, але ня важацца адразу падыйсьці.

П а н (кладзець газэту на калені і ківае галавою). Нудна стала жыць на сьвеце! Прапала наша сьвятая справа, не паўстала Польшча з мёртвых, і ня цешаць мяне нашы заграничныя газэты. І ахвяры мае на рухаўку за ніц пашлі, і паншчыны няма, і нуда на сэрцы... балазе я да лесу на старасьці лецяў не хадзіў, а то і двор-бы мой забралі-б маскалі на скарб... Па заграніцах, бяз шэлега ў кішэні, мусіў-бы цяпер бадзяцца, як гэтыя гарачыя галовы... (Трасе газэцінай). А колькі добрых паноў пазабівана, а колькі гіне—о Езус, Мар'я! А найгорш зрабілася з таго часу, як далі хлопам волю. Усім стала кепска жыць: і панам, і хлопам... Гаспадарыць болей не магу, не магу! Гаспадарка нялюбаю зрабілася... Вось-бы толькі знайсьці такога пасэсара, каб грошы наўперад за цэлы год даў, і паеду заграніцу адпачыць на водах... О-ох-ць! Да чаго дашло: мой былы аконам, Нявольскі, хоча быць маім пасэсарам! Дае толькі па 5 р. 50 к.,

за поўгода ўсяго наўперад—дый то нешта ня едзе. Мусіць ня можа гатоўкі знайсьці. І яшчэ горш: хлопкі мае, маняцца, чуў, прасіць у мяне ранды!.. Да чаго дажыло наша старае пакаленьне: хлопы лезуць у панскія пасэсары! (Убачыўшы выбарных). А хто там і чаго? (Выбарныя з шапкамі ў руках нясьмела падыходзяць, а тады, быццам па камандзе, цалуюць пану ў руку).

Мацей. Пахвалёны пан Езус Хрыстус, паночку!

Сьцяпан. Дай божа здароўя нашаму пану!

Мірон. Пахвалёны пану залатому!

Пан. Навекі! А чаго-ж прышлі, галубцы?

Мацей. Даруйце нам, дурным, паночку, але прачулі мы, што рачыце зямельку сваю ў ранду здаць.

Пан. Ну?

Мацей. Дык вось просім, вяльможны паночку, ад трох вёсак: я, Мацей, ад Мазалёў, а ён во, Сьцяпан, ад Пяшчанкі, Мірон-жа ад Балотнага Куту...

Сьцяпан. Усім кагалам, знацца, лягчэй, паночку.

Мірон. Справа вядомая: ніводная вёска і пашы свае ня мае. (Ціха). Нарэзалі каморнікі, каб іх за жывот рэзала!

Мацей. Ціха ты, няўвага!

Пан. А якая-ж вашая цана, мае галубочкі?

Мацей. Пан наш, а мы ў яго ласцы: як пан па справядлівасьці скажа, так яно і будзе. (Ціха). Цалуйце ў руку! (Усе па чарзе цалуюць).

Пан. Дык вось як, галубцы, хай будзе... Ворнай зямлі бяз пашы не аддаю... Па сем рублёў за ворную дзесяціну, а паша пойдзе ў дадатку... (Мужыкі ўражаныя рухаюцца). Тысяча дзесяцін, дык разам сем тысяч. Але, галубцы, з аднэй умовай: грошы наўперад за цэлы год.

Мацей. За год?!

Сьцяпан. Знацца, за год?!

Мірон. Жартачкі—за год!!

Пан. І то, галубцы, гэта толькі дзеля вас, як дзеля сваіх, затое што на гэтай зямельцы вы мне, а бацькі вашы маім бацьком паншчыну спрадвеку адбывалі.

Мацей. Ды ўсяго было паночку... Але дзе-ж нам, пане наш ясны, гэткія грошы адразу выбраць? Хіба якую чвэртку ці троха й болей маглі-б пастарацца і наўперад...

Пан. Не, толькі так! (Патроху ўстае). Дык вось, галубцы, падумайце.

Мацей (валіцца на калені ды цалуе пану ў руку). Паночку наш вяльможны! А можа па пяць за дзесяціну?

Сьцяпан (таксама валіцца і цалуе ў другую). Паночку наш ясны! Чвэртку ці троху болей, знацца, і наўперад!

Мірон (абшчапіў пана за калені). Паночак залаценькі! Змарнаваліся бяз пашы дашчэнту!.. Зьмілуйся!..

Пан. Годзе, годзе, галубцы! Цяпер-жа ня паншчына: я вас ня прысілю, а вы мяне дужа і не прасеце. Мне ўсе грошы патрэбны зараз, а ня чвэртка ці троху болей. Вось як аддам ранду Нявольскаму, дык пазнаеце тады! Ну, памоўце-ж тут, галубцы, а я тымчасам і вярнуся. (Ідзець у пакоі, а яны яму кланяюцца ўсьлед).

---

Лейба (падходзіць адзаду і раптам да сялян). Уй, вы, дурныя мужыкі! Ці так трэба прасіць пана? Трэба і сюды цмок! І туды цмок! І так яго за ножкі! І гэтак яго за ножкі! А вы стаіцё, як тыя таўкачы. Што гэта вы за выбарныя?

Мацей. А кінь ты, братка Лейба! Ужо-ж было гэта ўсё, цалавалі туды й сюды,—няма рады.

Лейба. Цалавалі? Як вы цалавалі? Дрэнна цалавалі!

Сьцяпан. Братка Лейба, дык што рабіць? Наўчы нас!

Лейба. Ну, слухайце сюды, пст! Вы толькі слухайце! Я вам наладжу пазыку. Дастанеце пяць тысяч... Ну! Можа пан надумаецца—і сходней аддасьць. Ціха! ціха! Вы слухайце! Ну, аддасьцё вы за гэта цераз год... ну, ну... сем тысяч. Ну? Што? Пст! Збожжам, пянькою, семем... Ведаеце вы Алтара Шульмана з Шамава? Не?! Ой, нічога вы ня ведаеце! А Нявольскі хоча вам перабіваць! Вы ведалі? Гэткаму пасэсару ўсякі пазычыць. Што? А трэба, каб ён вам не перабіў! Ну?

Мацей (засмуціўся). Эй, нічога ня будзе,—ён нам пераб'е. Такая ўжо наша доля...

Лейба. Ну? Што? Чаму?

Сьцяпан (безнадзейна). Дзе-ж нам, сваце Мацею, з такім пасэсарам у перацяжкі гуляць! Не шанцуе нам дый годзе!

Лейба. Як-то не шанцуе? Ну? Што? Чаму?

Мірон. Вядомая справа: кляпнула наша ранда...

Лейба. Дзе там што кляпнула? Нічога яшчэ ня кляпнула! Ня трэба журыцца! Ня трэба шкадаваць грошы на добры інтэрас! Што вы махаеце рукамі? Слухайце, ну! Пст! Дайце мне толькі зараз сто рублёў. Я зараз паеду к Мэндалю Пэўзьнеру, ён радня Алтару Шульману і пахтарам у пана Нявольскага. Ну што, ну што вы махаеце рукамі й галавамі, як коні ў той прыпар? Што такое? Ну дайце семдзесят пяць, ну пяцьдзесят, нарэшце, рублёў! Мэндаль параіцца з Алтарам! Мэндаль так зробіць, што пан Нявольскі ня будзе вам перабіваць... (Гаворачы так, і ён, і ўсе патроху адходзяць ад ганку і хаваюцца за кустамі. Чуваць, як пад'ехала фурманка).

---

Нявольскі (узыходзіць на ганак сядае і абцірае пот). Трэба сёньня скончыць справу. Ня будзь я Нявольскі, калі не вазьму гэтай пасэсіі. Здаецца выходзіць нішто сабе... Заплачу я па 5 р. 50 к. за дзесяціну. Усіх выдаткаў на аднэй ворнай дзесяціне буду мець у год, ну, найболей 25 р. Пашы тут у мужыкоў няма. Калі даваць ім пашу на адработ вор-

най зямлі, дык выдаткі ў мяне на адну дзесяціну будуць яшчэ меншыя. Разам з платаю за ранду адна ворная дзесяціна будзе мне каштаваць у год найболей 30 рублёў. Засею найменш 500 дзесяцін азіміны... Прыбытку буду мець рублёў 60—65 з дзесяціны. Чыстага зыску рублёў 30! Трыццаць на пяцьсот—15 тысяч! Ну, хай нават 12 тысяч! Нішто, дальбог, нішто. Трэба сёньня скончыць справу.

Пан (выходзіць на ганак). А-а! Пан Нявольскі!

Нявольскі. Маё шанаваньне пану, ласкавы пане!

Пан. А я тут з хлопкамі сваімі амаль ня змовіўся. Мусіць, чакаюць на падворку.

Нявольскі. Э, проша пана! Якія з хлопкаў рандары на панскай зямлі!

Пан. А так, пане... слушна, слушна! Як-жа пан Нявольскі намысьліўся?

Нявольскі (цьвёрда гледзячы пану ў вочы). Як адразу за цэлы год наўперад, дык пяць, пане ласкавы, болей ніяк няможна!

Пан (просячы). Э, пяць з паловаю, пан Нявольскі! Былы мой аканоме!..

Нявольскі (сьцюдзяней). Дзякую пану за былую ласку, але болей не магу!

Пан. Ну! Так будзе: пяць тысяч адразу—і ўсе выдаткі па справе за кошт пана пасэсара...

Нявольскі (падумаўшы дзеля гадзіся). Э-э! Хай нам пан бог дае! Згода, пане!

Пан. Дай-жа божа! (Пацiскаюць рукі). А скуль-жа пан Нявольскі дастаў гэтулькі гатоўкі? Мусіць, у пана Нявольскага ёсьць добры павер? (Сьмяецца).

Лейба (цішком падходзіць і расплываецца ў немым сьмеху). А навошта ёсьць у пана пасэсара Лейба, калі ня шукаць паверу гатоўкі? (Крычыць). Мацей! Сьцяпан! Мірон! Выбарныя! Чаго вы там стаіцё, як дурныя? Ужо няма што вам стаяць! (Падходзяць зьбянтэжаныя выбарныя, а пан Нявольскі і Лейба глядзяць на іх і сьмяюцца).

## III

### Мае дзяды—грабары

Ноч улетку. Палатно яшчэ нясконачанай чыгункі. Навакол—нізкае, мокрае, балотнае месца; куп'ё і каросьлівыя бярозкі. Воддаль—крыжы на пяшчаных выспах. Бліжэй на грудку, грабарскія буды з усякага громазду і гальля. Гараць чырвоныя ў цямноце агні: грабары вараць вячэру. Ціхі гоман... Кастусь, грабар з інтэлігентаў-народнікаў, ідзець адтуль сумны, задуманы. Сядае на бярвеньні і з болем азіраецца...

Кастусь. Гэта ня катарга ў Сібіры... Гэта ня праца нявольнікаў-нэграў на плянтацыях у капіталістага... О, не!.. Гэта мой бедны, родны

люд капае чыгункі ў чужым краі. Гэта ён, сам цёмны і дзікі, будуе цывілізацыю новых, сьветлых вякоў... Баліць мне, баліць!

Хлопцы мае маладыя, браты мае родныя! Як падраліся вашы сьвіткі! Як сатлелі вашы кашулі! Як пастарэчаму сагнуліся вашы сьпіны маладыя! Выперліся косьці, запалі грудзі, без пары пагасьлі вочы... А-а, браты мае родныя! Будуем цывілізацыю...

Па махох, па балотах пабягуць цягнікі з культурнымі людзьмі, з багатымі таварамі. І хто там уздумае, і каму якая справа будзе да таго, што тут, побач з гэтаю слаўнаю чыгункаю, пахаваныя ў гэтых пяшчаных выспах і гнілых балотах, тлеюць вашы косьці?

Хіба толькі сумны, дзікі вецер прыляціць сюды з роднага краю і справіць сваім сьвістам і выцьцём вечныя хаўтуры... Заплача тут жальбою матак, жонак і сясьцёр, стагнаньнем дзетак з нашых курных, убогіх хат... Эх!

Дзядуля (падыходзіць і ўглядаецца). Ці ты гэта, Кастусёк?

Кастусь. Я, дзядуля, я...

Дзядуля. Што-ж ты сядзіш тут адзін? Аб чым думаеш?

Кастусь. Э, шмат чаго думаецца, дзядуля. Думаю, ці многа нас жывых вернецца адгэтуль... Думаю, што з нашае справы выйдзе...

Дзядуля. Як бог судзіць, так і будзіць.

Кастусь. Эх, дзядуля, адвярнуліся ад нас усе багі. Самі мусім даваць сабе рады. А што там нашы хлопцы гамоняць, дзядуля?

Дзядуля. Хто што... Адны баяцца, другія кажуць, што лепей хай заб'юць нас казацкімі нагаямі ці вышлюць па этапу дамоў, пасадзяць у вастрогі, чымся нам патроху гніць на зелязьніцы.

Кастусь. Ці хадзіў ты, дзядуля, да хворых?

Дзядуля. Быў. Сяньня ізноў захварэла колькі чалавек на трасцу. Міранёнак, мабыць, ня выкачаецца, сканае, бедны.

Кастусь. Бедны хлопец!.. А што падрадчык?

Дзядуля. Ізноў падсылаў дзесятніка намаўляць, каб адракліся ад пададзенае скаргі, як прыедзе начальства на разбор. А то, кажа, усім будуць розгі, адных згнояць у вастрозе, а другіх вышлюць па этапу і бяз грошы па сваіх хатах... Страшыць, ведама.

Кастусь. А яшчэ што?

Дзядуля. Яшчэ кажа, каб цябе ня слухалі, бо, кажа, ты ўмысьля бунтуеш народ. Шыбельнікам лаець цябе... Але ты, Кастусёк, не зважай: грамадою абстоім цябе... Справа наша агульная і справа справядлівая.

Кастусь. Не, дзядуля, аба мне вы не клапацеце. Во што: трэба нам усім зараз параіцца, бо ўжо начою могуць прыехаць начальнікі. Трэба-ж параіцца, як будзем казаць.

Дзядуля. Трэба, Кастусёк, трэба. Гукнём іх... (Ідуць к зямлянкам).

Мацяёнак і Сьцепанёнак вядуць хворага на трасцу Міранёнка.

Міранёнак. Братулькі мае! Родненькія мае! Заб'ець мяне ліхаманка... Вязеце мяне дамоў. Кінем мы гэтыя заробкі. Не хачу тут гінуць на чужыне.

Сьцепанёнак. Кінь ты, братка, абдумайся. Сядзь тут на чысьцейшым паветры, аддыхайся троху. Ну што нам рабіць? Ну, як мы павязём цябе?

Міранёнак. Як хочаце, так і вязеце... Ратуйце мяне! Ай, ратуйце мяне! Брахненькі родненькія!

Мацяёнак. Пасядзі, браточак, супакойся! Можа ачуняеш, сьвежае паветра...

Міранёнак (калоціцца). Не—я тут не ачуняю. Ня хочаце вы мяне ратаваць. Загінуў я тут з вамі... Вось вы якія...

Сьцепанёнак. Не наракай, братка. Бацькі нашы адзін аднаго ў бядзе ня кідалі, і мы-ж цябе ня кідаем.

Міранёнак. Дык ратуйце-ж мяне! Ратуйце мяне, брахненькі! Заб'е мяне ліхаманка, ай заб'е мяне яна...

Мацяёнак. Як-жа нам, братка, ратаваць цябе? Ну, хочаш: пайду заўтра ў горад, куплю табе сольных агуркоў. Яны памагаюць ад трасцы.

Міранёнак. Ай, не дадуць мне рады сольныя агуркі,—нашто ты будзеш дарма траціцца? Лішні толькі дзень прагуляеш. Вязеце вы мяне дамоў. Брахненькі родненькія! вязеце мяне заўтра дамоў!

Сьцепанёнак. Як-жа мы цябе павязём? За што-ж мы купім білеты? Усё наўперад выбралі, за харч павылічана...

Мацяёнак. А што мы будзем рабіць, вярнуўшыся дамоў. Пасэсар у суд падасьць за няўстойку,—чым заплацім? Прысудзяць розгі за няўстойку. Мусім нядоімку адрабіць, што ён паплаціў, пагнаўшы нас сюды.

Міранёнак. Ну дык што? Ну хай сабе абсякуць,—вялікая бяда! Ай, ня хочаце выратаваць мяне. А вашы бацькі дружылі з маім бацькам. А вы—дык вось якія... Аяй! Вядзеце мяне назад у буду,—што мне ваша сьвежае паветра... Хай там сканаю, як сабака... Аяй, аяй...

Сьцепанёнак. Ну, хадзі, братка, павядзём...

Мацяёнак. Пацярпі! Ну можа-ж неяк ачуняеш... (Вядуць яго ў зямлянку).

---

Ідзець грамада грабароў. Нястройны, трывожны гоман, спрэчкі, жальба. Нехта пачынае пяяць: „Чаму-ж мне ня пець, чаму-ж ня гудзець, калі ў маёй хатачцы парадак ідзець“... Другія спыняюць яго: „Ну ўжо! Паддаў ты нам весялосьці сваёю песьняю!.. Змоўкні ты, вясёлы!..“ Усе атачаюць Кастуся і дзядулю.

Дзядуля. Браткі мае! Хлопцы родненькія! Вы-ж самі выбралі мяне на свайго старасту... Ці верыце-ж вы мне? Ці верыце вы маёй сівой галаве? Дык-жа слухайце, што я скажу!.. Падрадчык вас падбівае,

каб ня верылі Кастусю. А што тут—Кастусь? І я вам, стары, тое самае скажу. Ці-ж можна далей моўчкі гінуць тут ад голаду і пошасьці? Але Кастусь сьвятлейшы за нас! Вось ён параіць, як трэба начальству казаць. Верце яму, як мне, як кожны сам сабе. Ён не падасланы бунтаваць, ён добра нас навучае. Ён такі самы бедны мужык, беднага бацькі сын, як і ўсе мы,—адно, што пісьменны, настаўнікам быў у нас... За народ стаяў, затое скінулі яго з настаўніцтва, зелязьніцы капаць мусіў пайсьці...

К а с т у с ь (перабіваючы). Браты! Справа не ў маёй асобе,—што я? Верце, ня верце...

Г р а б а р ы:— Ды мы-ж верым, верым!
— Дзядуля праўду кажа!
— Кастусь ліху навучаць свайго-ж брата ня будзе!
— Ат, мала што падрадчык брэша!

К а с т у с ь. Дык годзе аб гэтым, браты! Час для нас дарагі: барждзэй трэба ўсёю грамадою параіцца, што рабіць і як казаць, калі прыедзе начальства на разбор. Ці разьлічкі вымагаць і адпраўкі дамоў, ці кінуць работу і ня пусьціць другіх грабароў на наша месца, пакуль начальства не паслухае нашых справядлівых дамаганьняў. Што рабіць? А начальства можа прыехаць з гораду і гэтаю начою, як падрадчык пагражаў. Шукаючы заробку ці за нядоімку запрадаліся мы, і пагналі нас аж у гэты чужы, далёкі ад нашае бацькаўшчыны край, будаваць чыгунку. І што-ж вышла? Паставілі нас насыпаць палатно ў вадзе, у гнілых балотах. Абходзяцца з намі так дрэнна, быццам мы гаршы за ўсякае скаціны. Начаваць нас запіраюць сотнямі ў цесных ды брудных будах, нават бяз лавак, без сталоў, без пасьцелі. Адны блохі нас тут пазагрызалі, казюлькі апанавалі, але аб гэтым ужо і спамінаць ня будзем... А вось харч—самі ведаеце, які па ўмове дакляраваны, а які даюць? Хлеб з высевак, напалам з зямлёю ды апілкамі, варыва з гнілое капусты і з чарвямі...

Г р а б а р ы (шумяць, крычаць):—Ашукалі, абдурылі!
— Самых-бы іх пасадзіць на гэтую капусту!
— Мы ім не скаціна!
— Што гэта за парадкі!

К а с т у с ь. У вечары—ячная нішчымная каша напалам з мышынымі каўцюхамі—вось і ўся наша яда пры цяжкой грабарскай працы. Ня дзіва, што многія сталі хварэць,—хто на трасцу, хто на гаручку, а ў каго дзясны гніюць... Затое што галадуем, кожнаму ўвесь час баліць галава, як ад хваробы каўтуна. У балотах-жа гніём!.. І ўжо колькі нашых таварышоў памёрла без аніякай помачы...

Д з я д у л я (са сьлязьмі). Цэлы могільнік на вачох тут вырас... (Паказвае на крыжы і хрысьціцца; другія грабары таксама хрысьцяцца, зьдзеўшы шапкі). Як так далей будзе, усе тут ляжам, мала хто вернецца дамоў...

Кастусь. Вось, браты! Мы і павінны ўсё гэта сказаць начальству, як прыедзе на разбор. Калі-б прыехаў прокурор, то яму ўсё можна казаць, не баючыся: ён усіх бароніць па закону. А калі будзем маўчаць, ніхто не паратуе нас, усе тут загінем.

Грабары: — Хто будзе ратаваць нашага брата?!
— З нас кожны толькі цягне!
— Каб яны сьвету ня бачылі, як нас тут мучаюць...
— На загубу загналі нас сюды!
— Мы ўсё скажам! Пачакай!

Кастусь. Яшчэ во што трэба сказаць: за кожны прагульны дзень з нас вылічаюць рубля, а за работу платяць па 25—30 капеек на дзень, і шмат хто з нас блізу нічога не зарабіў... як, прыкладам, і наш стараста дзядуля, і хворы цяпер на трасцу Міранёнак, і яго сябры—Сьцепанёнак і Мацяёнак, і шмат хто...

Дзядуля. Хіба-ж усе ведаюць, сярэдзіна мне балела, ня мог выйсьці на работу, а падрадчык за прагул лічыць...

Сьцепанёнак. Праўда, праўда! Во Міранёнак просіць мяне і во яго, Мацяёнка: „Вязеце, кажа, мяне дамоў"... А як-жа мы павязём?! Мы яшчэ і паловы тэй нядоімкі не адрабілі, што пан Нявольскі папла-ціў за нашых бацькоў у воласьць, запрадаўшы нас сюды падрадчыку...

Мацяёнак. На сабе яго павязём ці што?!

Кастусь. А закона такога: штрафаваць хворых—няма. Яны ня маюць права хворых штрафаваць. У другіх дзяржавах нават лечаць хворых на кошт падрадчыкаў, хто захварэе на рабоце.

Грабары.— Ведама... А ў нас гэта што робіцца?
— Ці гэта закон?!
— Ці гэта права?!
— Ці мы гэта вінаваты, што хварэем?

Кастусь. Толькі, браткі, цьвёрда стойце за сваё! Ня бойцеся ніякіх пастрашак, кажэце начальству ўсё, як ёсьць. Помніце: адзін за ўсіх і ўсе за аднаго...

Грабары. — Ведама...
— Смокчуць нашу кроў...
— Мы ўсё скажам...
— Начальства разьбярэць...
— Дойдзем справядлівасьці, няпраўда!

Кастусь. Яшчэ адно... Толькі ведайце, што я не за сябе баюся, не за дзядулю... Але як стануць часам пытацца, хто вас навучаў, хто пачынаў,—кажэце, што ўсе разам, усёю грамадою надумаліся, бо не маглі далей маўчаць...

Дзядуля. Ня бойцеся, хлопцы, калі мяне ці Кастуся, ці каго яшчэ забяруць... можа арыштуюць... Дабівайцеся свайго, а то ўся справа прападзе, і той, каго забралі, пагіне, і вы ўсе пагінеце.

Грабары: — Што там аб гэтым казаць...
— Не дадзём нікога забіраць!
— Калі каго забяруць, ня выйдзем на работу, пакуль ня выпусьцяць.
— Усе за аднаго і адзін за ўсіх,—гэта справядліва.
— Гэтак найлепей!

---

Да грамады грабароў едзе начальнік каральнай экспэдыцыі з казакамі і паліцэйскімі. Ноч яшчэ цямней здаецца, бо агні патроху гаснуць... Падрадчык, грубы, шырокі, у доўгаполым каптане і абшытым маскоўскім картузе, бяжыць з ліхтаром; за ім, з ліхтарамі-ж, яго паслугачыя... Чырванеюць твары і рукі. а постаць—чорная, грамада—чорная... Коні тапочуць, а ўсё сьціхае...

Грабары: — Едуць!
— Едуць!
— Стой-жа, браточкі!..
— Не ўцякай ніхто!
— Усе разам, грамадою, дружна!

Начальнік (пад'яжджае, гоцае з каня і падлятае да грамады). Вы... вы... што? Бунтавацца? Шапкі далоў!! (Усе скідаюць шапкі). Дзе староста?

Дзядуля. Я, пане начальніку, стараста. Мы-ж ня бунтуемся, мы хочам.

Начальнік. Назаві зачыншчыкаў!

Дзядуля. Пане начальніку! Якія-ж зачыншчыкі? Мы ўсе...

Падрадчык. Ваша сіяцельства! Ён—грабарскі стараста, а ў яго ў самога рыльца ў пушку... сам добры зачыншчык.

Дзядуля. Бо трэба-ж народ бараніць, пане нач...

Начальнік (б'е яго поўху). А-а, ты народ бараніць? Абаронца бунтаўніцкі! (Казакам). Забраць старога грыба! (Казакі хапаюць дзядулю. Грабары маўчаць).

Кастусь (выступае наперад). Пане начальнік! Калі ласка, выслухайце нас па закону... Дзядуля не вінават...

Начальнік. А ты што за ўказьнік... мяррзавец?!

Падрадчык. Ваша сіяцельства! Гэта і ёсьць самы чарвяк... Ён точыць... З гэтых, з гінілістых... З настаўнікаў прагналі...

Начальнік. Нігілісты? (Б'е Кастуся па твары). Ррраспраляю мярзаўца! (Казакам). Забраць! Налажыць наручнікі! Цар вам даў зямлю і волю, а вы не задаволены, вы супроць цара йдзіцё, супроць яго начальства, супроць парадкаў. (Казакі хапаюць Кастуся і звоняць жалезам, накладаючы яму наручнікі. Грабары падаюцца назад).

Кастусь (наўмысьля супакойна, але голас яго дрыжыць). Завошта-ж, пане начальнік? Паслухайце, што ўсе грабары скажуць. З намі абыходзяцца не па закону.

Начальнік (казакам). Пакказаць яму закон, ссукінаму сыну! Сто бізуноў! Марш! (Казакі вядуць Кастуся і дзядулю). Я без агітатараў разьбяру справу. (Да грабароў). Выхадзі, хто мае пратэнсіі! (Ніхто ня выходзіць). Ну? Выхадзі, ня бойся, кажы без агітатараў, без падказкі, ну! (Усе маўчаць).

Падрадчык. Ваша сіяцельства! Гэта ўсё—літоўскія хахлы, дурны народ... (Да грабароў). Ну што, хахлы, пойдзеце вы заўтра на работу? Усе маўчаць).

Начальнік. Што?—карова язык вам аджавала? Што маўчыцё, дуракі? Кажы, чым хто не здаволены? (Б'е трэкам па сваіх траскучых вайсковых халяўках). Гэта што за паўзун?

Міранёнак (паўзе ракам. хворы). Паночку залаценькі! Хворы я, хадзіць ужо ня ўздолею... Пусьцеце мяне дамоў! Забіла-ж мяне тут ліхаманка! Хай мяне завязуць дамоў!.. Паночку любенькі, залаценькі!.. (Ловіць руку, каб пацалаваць).

Начальнік (да падрадчыка). Што такое?

Падрадчык. Ваша сіяцельства! Гэта—слабасільны, на прозьвішча Міранёнак; ён просіцца дамоў з работы. Калі супроць скасаваньня яму штрафаў, па слабасільнасьці, нічога мець ня будзеце, ваша сіяцельства, я заўтра разьлічу яго і выдам падарожны білет.

Начальнік. Слабасільны? Разьлічыць і адправіць!

Міранёнак. А дзякую-ж табе, мой паночак! А дай-жа божачка пану здароўя!.. А можа й Сьцепанёнка з Мацяёнкам пусьціце?—яны мяне завязуць, мы з аднае воласьці, паночку...

Начальнік. Добра, добра! Заўтра разьбяром, каго можна пусьціць, каго—не. (Да грабароў). Ну, што яшчэ каму? Га? Заяўляйце... скаты вы бязглуздыя! Бунтаўнікоў слухаеце? Чаго вам трэба? Хто вас прысіляў рабіць контракты? Вы пагражаеце кінуць работу? Дарога будуецца для ваенных патрэб... мяррзаўцы! Хто адмаўляецца ад контракту? Выхадзі! Пойдзе па этапу дамоў, а няўстойку з яго спагоняць у воласьці... з гаспадаркі!

Голас (ззаду, ціха, нясьмела). Народ дужа перахварэў...

Начальнік. Гэтую справу да бога скіруйце.

Падрадчык. Па контракту—мы не павінны іх лячыць.

Другі голас. Каб харч троху лепшы...

Начальнік (да падрадчыка). Вы мусіце ім даваць па раскладцы.

Падрадчык. Па раскладцы і даецца, ваша сіяцельства!

Начальнік. Пакажаце мне пробу.

Падрадчык. Гатова, ваша сіяцельства! Сюды прынесьці скажаце?

Начальнік. Пасьля, пасьля... (Да грабароў). Дык чаго-ж вы хочаце яшчэ? Вы слухаеце розных нігілістых, агітатараў, усякую дрэнь! Помніце: дарога будуецца для ваенных патрэб. За бунт—расстрэл. А што вам належыцца па справядлівасьці—будзе зроблена... Ну, пойдзеце заўтра на работу?

Грабары:—Ды як-жа не пайсьці?..

—Пойдзем...

—Ведамая справа...

Начальнік. Расхадзісь па зямлянках! (Грабары моўчкі расходзяцца).

Міранёнак (стогне). Дай бог яму здароўека! Адпусьціў мяне... (Сьцепанёнку і Міранёнку). Прасецеся, браточкі, і вы: пусьціць...

Сьцепанёнак (бярэцца яго вясьці). Хадзі ўжо... маўчы!

Мацяёнак. Пойдзем...

---

## IV.

### Чырвоныя рожы

Восень 1917 г. Вечар. Страўня ў доме садавода Нявольскага. Вокны глуха зачынены. На стале—самавар, лямпа з прыгожым шаўковым каптуром і вялізны пук нязвычайна буйных харошых чырвоных рож. За сталом Нявольскі, гаспадар лецішчаў (дач) пад адным з большых гарадоў Беларусі; ён—садавод, росьціць рожы і іншыя краскі; яшчэ ня дужа стары, троху падобны да свайго нябожчыка бацькі, пасэсара Нявольскага, даволі самавіты і паважны пан-паляк. Адкінуўшыся ў фатэлі, чытае газэту расійскае паступовае буржуазіі „Речь". Побач з ім—панна Марыня, яго дачка; слабенькая, кволенькая, поэтычная... Хінецца да бацькі і лістае то „Журнал Мод", то польскі часапіс „Tygodnik Ilustrowany".

Марыня (настаўляе вуха к акну). Ізноў цягнік... Мабыць, воінскі з дэмобілізаванымі салдатамі.

Нявольскі. З трусамі, дэзэртырамі і марадзёрамі...

Марыня. А каторай гадзіне, татачка, мы заўтра выяжджаем?

Нявольскі. Калі пакаваньне скрынак будзе да вечара скончана, дык гадзіне а восьмай, як сьцямнеецца, мы выедзем. (Слухае таксама). Іх цяпер многа праходзіць розных...

Марыня. Каго, татачка?

Нявольскі. Цягнікоў, кажу, многа, дзетка, розных праходзіць.

Марыня. А, ну так... (Паслухаўшы). Ведаеш, татачка, мне чамусь нязвычайна прыемна слухаць шум ад цягніка позным вечарам у канцы лета ці ў сухія дні восеньню. Так сумна і поэтычна—шуміць, шуміць, шуміць... Колькі ў гэтым шуме хараства! Аж неяк страшна робіцца: нейкі містыцызм зьяўляецца... Здаецца, гэта шумяць сумныя вятры вечных прастораў...

Нявольскі. Ты радзілася поэткай, Марынька! Толькі ўсяго трэба ў меру, нават поэзіі, каб не даходзіла да страху. (Паварачвае і ахарашвае рожы).

Марыня. Дзякуй, татачка, за комплімэнт, але якая з мяне „поэтка", калі ў мяне і слоў такіх, што да поэзіі, няма. (Абпраўляе рожы разам з ім, задумваецца і раптоўна прымае рукі).

Нявольскі (устрывожана). Што табе, дзетка? (Гладзіць яе дрыжачую руку).

Марыня (туліцца да яго, аглядаючыся на акно). Даруй мне, татачка! Гэта ўсё мае нягодныя нэрвы.

Нявольскі. Акно зачынена акеньніцамі, дзетка!

Марыня. Дык... наадварот... мне хацелася-б яшчэ ясьней чуць, як шуміць цягнік. Цяпер зусім сьціхла: мабыць, цягнік прышоў на Нявольскую пляцформу. Ведаеш, татачка... Мне ўсё здаецца, што з адным з гэтых цягнікоў, якія так часта цяпер шумяць, прост адзін па адным, прыедзе наш Казя. А Казя цяпер так далёка, далёка...

Нявольскі. Я быў-бы вельмі рад, каб яго плаваньне на гэты раз спынілася і каб наш Казя пад час крызісу рэволюцыі быў з намі. (Нахіляе вуха ў бок дзьвярэй).

Марыня. Вецер шумаціць асеньнім лісьцем... Ах, бедненькі наш Казя! Ён усё роўна не засьпее ўжо сёлетніх нявольскіх рож... Да яго прыезду яны заснуць зімовым сном... (Ізноў раптоўна прымае руку ад чырвонага пуку). Рожы заснуць...

Нявольскі. Што табе, дзетка? Ты расстроіла сябе ўспамінкамі. Хочаш, я вынесу рожы на вэранду?

Марыня. Не, татачка, ня трэба. Прост, я падумала аб рэволюцыі.

Нявольскі. Рэволюцыя... Не магу сабе дараваць, што дзеля дагляду за рожамі мы засталіся тут аж дагэтуль. А галоўнае, што я хоць цябе адную ня выправіў раней.

Марыня. Усё адно я не паехала-б без татусі. Дый дарма, татачка, цяпер сябе вінаваціш: бо забываешся на тое, што мы ўсё спадзяваліся, спадзяваліся, чакалі... (Слухае, паслухаўшы ўстаець).

Нявольскі. Дальш цягнік пашоў...

Марыня. А мне здалося, быццам на чым іграюць...

Нявольскі. Можа, праезныя салдаты. (Уздыхае).

Марыня. Іграюць... і пяюць... А мне так сумна.

Нявольскі (устае). Ну, дзетка, спацькі ўжо пара. Ідзі кладзіся— і сьпі спакойна.

Марыня (кладзець яму рукі на плечы). І ты, татуся, не сядзі! Ідзі адпачываць, і дакляруй мне, што таксама будзеш спаць спакойна.

Нявольскі. Добра, дзетка, добра. Дабранач! (Цалуе, і задумаўся).

Марыня. Дабранач, татачка! (Таксама, цалуючы бацьку, мімаволі задумалася і прыслухалася).

Нявольскі і Марыня (разам). На гармоніку дзесь іграюць... (Разьвітваюцца яшчэ раз). Дабранач! Дабранач! Сьпі спакойна! Сьпі спакойна! (Марыня выходзіць, пасылаючы з дзьвярэй пацалунак; пан Нявольскі застаецца—задуманы, шархаючы апушчанаю газэтаю).

---

Нявольскі. Рэволюцыя!.. Так... Доўгачаканая, жаданая... Мне няма чаго баяцца тутэйшага народу — маіх ціхіх, спакойных беларусаў. Дваццаць год з гакам жыву я тут з імі ў суседзкай прыязьні і згодзе. Дваццаць год!.. Праўда, калі я быў яшчэ хлапчуком і студэнтам, а бацька

хай сьвят ляжыць, дзяржаў тут у старога пана пасэсію, можа і былі яшчэ якія крыўды. Але тады-ж і час такі быў. Можа, бацька-нябожчык часам лішне дорага браў з мужыкоў за пашу. Можа, часам і судзіўся за няўстойку, калі плаціў за іх нядоімкі ў воласьць і ад сябе контрактаваў іх падрадчыкам капаць зелязьніцы ў чужым краі, а яны ўцякалі адтуль, спалохаўшыся цяжкай працы... Можа, нават даходзіла калі да розаг па суду... Але-ж судзіў валасны суд, самі-ж мужыкі каралі нядбалых, гультаёў і п'янчуг. Ня думаю, каб даходзіла калі да поўнае нормы— 19 розаг. А пасьля, як бацька памёр і я адрокся ад гэтых пасэсій і заняўся садаводзтвам, і збудаваў гэтыя лецішчы,—не рабіў я ім ніякае крыўды. А ці-ж я не памагаў ім у страшныя гады, калі зьбяднелы народ цярпеў ад недароду ці ад пошасьці? Ніколі, ніводнага разу не параіў я ім перасяляцца на Амур, і памагаў няшчасным, якія варочаліся адтуль назад на раскіданыя гнёзды. Чырвоным лічыла мяне начальства ў бурны 1905 год. Сам я жадаў, каб прышла яна, рэволюцыя, каб паўстала з мёртвых мая многапакутная маці-Польшча, каб з ёю разам аджыўся і гэты бедны Забраны Край, і каб згінуў навекі гэты зьдзек над вольнай асобай чалавека ў Расіі, гэтае праклятае царскае самадзяржаўе... А цяпер? Цяпер... Вось яно спраўдзілася маё жаданьне, і я... і ў душы маёй нейкія падрахункі і страхі... Мне сумна і страшна!..

---

Выходзіць у белым капоце Марыня і кідаецца з наўмыснай вясёласьцю к бацьку.

Марыня. Ну, чаму-ж, татачка, не пашоў яшчэ спаць? Татачка не павінен смуціцца! Мы заўтра выедзем. (Маўчыць троху). Заўтра-ж, татачка, выедзем. (Даўжэй маўчыць). Калі-б нават што... калі-б нават што зьдзеілася... (Нявольскі нэрвова здрыгаецца, яна палахліва кінула вачмі). Сёньня-ж тут яшчэ начуюць некаторыя нашы летнікі (дачнікі). З намі наш верны слуга Ясь. Вось яшчэ гдзесь іграюць і гамоняць...

Нявольскі (думаючы сваё). Так, яшчэ іграюць і гамоняць, Марынька...

Марыня. Урэшце, калі-б сюды зашлі якія праезныя здэмобілізаваныя, я вышла-б наўперад, стала-б вось так... (Становіцца як для прамовы). Узяла-б за руку свайго татуську і сказала-б ім... (Нявольскі стаіць пануры). Таварышы! Хай жыве рэволюцыя! Шапкі далоў! Вы бачыце перад сабою чалавека, які скрозь цэлае сваё жыцьцё стаяў за прыніжаных і зьняважаных, хацеў волі і долі простаму люду...

Нявольскі. Ну, Марынька! Не конфузь мяне.

Марыня. ...Які ўсімі сіламі свае душы хацеў вызваленьня вольнай асобы чалавека ад старога рэжыму, ад зьдзеку і ўціску!.. (Нявольскі вышэй паднімае галаву). Які змагаўся за ідэалы, за культуру...

Нявольскі (горка). Марынька! Яны не зразумеюць цябе. Скажы ім лепей аб хлебе і аб міры...

Марыня (са сьлязмі). Таварышы! Вы бачыце перад сабою таксама бацьку, сын якога, мой мілы братка Казя, за якога мы маем поўнае права на пашану і гонар, бароніць Расію ад ворага, як і вы, хоць ён паляк, а не расіец... (Узнэрвавалася).

Нявольскі (шчыра). Эх, лепей бараніў-бы ён цяпер айчызну Польшчу, што паўстае, бы Лазар з мёртвых... Ну, Марынька, Марынька! Супакойся, дзетка! Выпі сьцюдзёнае гарбаты... (Поіць яе гарбатаю). Супакойся, супакойся!

Марыня. Даруй, татачка! Я ўжо нічога... А калі-ж гэта, татусю, так несправядліва: чаму рэволюцыя карае ня толькі вінаватых, але і зусім-зусім нявінных людзей. (Уздыхае). Вось-жа цябе, татачка, так шануюць усе тутэйшыя сяляне...

Нявольскі Рэволюцыя, дачушка, сьлепа, як стыхія, як усякая навала. Яна не разьбірае, ёй некалі разьбіраць, хто вінаваты, хто нявінны. І нават тутэйшыя сяляне, Марынька, могуць шанаваць ува мне ці наагул, паіхнаму, у пане—добрага, справядлівага чалавека, але ад гэтага яны не перастануць ненавідзець усіх нас, усіх, хто так ці гэтак пан, хто смачна есьць і чыста ходзіць, хто ня з імі...

Марыня (угледзеўшыся ў чырвоныя рожы). Татачка! Але навошта кроў? Я не хачу!

Нявольскі. Марынька, я вынесу рожы на вэранду. Яны дражняць цябе сваім крывавым колерам. Ты, дзетка, супакоішся... (Гладзіць яе па галоўцы).

Марыня. Не, татачка, ня трэба. Я вазьму сябе ў рукі. (Слухае). Во ўсё яшчэ іграюць дзесьці, нават як-бы крычаць ці што...

Нявольскі. Ды не, дзетка: гэта вецер шуміць, і толькі. Як зазвычай у восень.

Марыня. Татачка! Што я татку папрашу: тут гэтая настаўніца, што хоча вучыць дзяцей пабеларуску, нават польскіх...

Нявольскі. Ну-ну! Бо яна і каталіцкіх дзяцей, што нядобра ўмеюць папольску, таксама лічыць за беларускіх... Хацела вучыць, але гэта ёй не ўдалося...

Марыня. Татачка, я ведаю, што яна несправядліва рабіла. Яна такая фантазёрка, усё з сваёй Беларусьсю носіцца.

Нявольскі (перабіваючы). Глупства! Фантазіі!

Марыня. Я ведаю, што татачка не спагадае гэтым фантазіям. Але настаўніца тая цяпер такая няшчасная, адна з маткаю, і схапіла сухоты...

Нявольскі. Ну, і хай ёй памагаюць яе беларусіны, якіх у цэлым сьвеце ня ведаюць, як беларускі народ, а калі й ведаюць, дык пад назовам беларусаў, значыцца, рускіх і праваслаўных.

Марыня. Татачка! А яна сама каталічка...

Нявольскі. Рэнэгатка нашага польскага люду!

Марыня. Татачка, яна думае, што тата перашкодзіў ёй з гэтаю школаю, можа, які жаль мае на тату. А цяпер яе, бедную, поп выганяе з школьнага будынку затое, што царкоўны дом, каб адчыніць там расійскую школу,—дык яна хворая на сухоты, бяз грошы, ня мае куды дзецца. Ёй-бы трэба лячыцца. Татачка! Хай татачка ёй чым пасобіць...

Нявольскі. Я пасабіў-бы ёй, але яна гэты падсобак скіруе не на сябе, а на свае беларускія фантазіі, на гэтую, нячутую спрадвеку, крыўскую школу. Я не магу ёй у гэтым пасабляць, дзетка.

Марыня. А мне яе шкада, татачка, хоць яна такая нейкая недарэчная дзяўчына. Мне так хочацца, каб усім людзям было добра, каб ніхто ні на кога ня меў жалю. Цяпер столькі разьліваецца людзкой крыві. Ах, навошта кроў, татачка?

Нявольскі. Цябе, дзетка, чырвоныя рожы сваім колерам турбуюць. Ідзі сьпі, дзетка! Я ўжо падумаю аб гэтай настаўніцы, хоць і не знаходжу сэнсу ў яе фантазіях.

Марыня. Дзякую, татачка! Дабранач! (Нявольскі вядзе дачку да дзьвярэй, варочаецца, стаіць у задуме).

---

Нявольскі. Навошта кроў? Калі я гляджу на свае пышныя, сакавітыя чырвоныя рожы, мне здаецца, што я знаходжу страшны адказ.

Гэта было так даўно і, здаецца, так нядаўна, у дні маёй маладосьці і гарачага творчага настрою. У разьнікоў я скупліваў тады кроў зарэзанае жывёлы і цэлымі вёдрамі ліў яе на грунт пад рожы. Кроў была густая, чорная, запечаная. Людзкая кроў—весялейшая... Фу, якое брыдкое слова я сказаў! Я хацеў сказаць, што людзкая кроў і з выгляду павінна быць лепшаю, чысьцейшаю... Але мой работнік, Мацяйчук, часам казаў, загіпнотызаваны нябачанай раней масаю крыві, сумны ад яе, млеючы ад яе цяжкага паху, казаў так: „Вось і чалавек... жыве, жыве—дый памрэ!“

Тады яго словы не прылягалі да майго сэрца, ня клаліся цяжкім каменем на думкі... (задумваецца).

Ад тэй жудаснай для мяне цяпер поліўкі—бледныя, пажаўцелыя і хударлявыя рожы рабіліся пышнымі, сакавітымі і чырвонымі, як сама кроў... (Нэрвова махае рукамі, быццам адпіхае ад сябе рожы на стале, і закрывае вочы далоньню).

Можа, яно так і трэба... Але, пане найвышэйшы, не дапусьці, забарані! (Панурэна схіляецца). Вось яны буйныя, раскошна-аксамітавыя, дзіўнаароматныя крывавыя рожы, узгадаваныя маёю думкаю, маімі рукамі на бедным, бяздольным грунце крыві. Ах, нашто, нашто? Гледзячы на іх тады, раней, у часе маладосьці, я адчуваў вялікую слодыч дасягнутага здаволеньня, мусіць, нешта падобнае да таго, што перажывае поэта і ўсякі творчы дух у часе закраднай, вялікай творчасьці. Я любаваўся іх хараством, як чыста, ідэальна закаханы дзяцюк любуецца хараством лю-

бай, чыстай, ідэальнай дзяўчыны. Але цяпер яны мне нагадваюць, як і беднай маёй Марыньцы, кроў... Бедная мая Марынька, як і ўсе тыя, на чыю маладосьць і росквіт прыпадаюць навальныя разрухі ў агульным жыцьці ўсіх людзей!..

Тады я ліў кроў на грунт, ня думаючы аб зарэзанай жывёле, з якой яна выцекла. А цяпер, цяпер я—тая нешчасьлівая, невядомая рэволюцыі жывёла. Я ўжо стары, я ўжо магу пайсьці дабром на грунт, але і мой дух здрыгаецца ад жудасьці, ня хоча сьмерці. А яны-ж, дзеткі мае мілыя, яны маладыя, яны ні ў чым не вінаваты. (Нейкі час маўчыць, тады з глыбокім болем гаворыць далей).

Ціха... Усё ціха... Толькі дзесь, як-бы ля станцыі, увесь час ня сьціхае гармонік і людзкі шум... Пасёлак з леціпічаў, створаны за дваццаць з лішкаю гадоў вось гэтымі рукамі, з рэдкай і, можа быць, лішне раскошнай для беднай Крывіі культурай крывавых рож, гэты пасёлак і сёньня сьпіць так, як спаў многа-многа начэй за тыя дваццаць з лішкай гадоў. Не, ня так... Даўней пасёлак спаў, поўны сытага гультайства, дробненькага романсаваньня і мяшчанскага задаволеньня ў прыезных з места заможных расійскіх урадоўцаў і яўрэйскай гандлёвай буржуазіі, жор, піў, гуляў і распусьнічаў, выклікаючы захаваную да часу, глухую нянавідасьць у галодных, убогіх навакольных вёсках. Вось дзеля чаго стварыў я свой культурны куток Нявольскае! Вось дзеля каго й для чаго расьціў я прыгожыя нявольскія рожы! І ці-ж я не вінават? О, кара лёсу! Цяпер пахаванае, глухое сьмела вышла з вёскі напаверх... (Прыслухваецца да музыкі і п'яных галасоў, якія ўсё бліжэй). Вышла напаверх і з прагавітасьцю шукае способу памшчэньня. Час расплаты наступіў... Скрозь павіс страшны дух помсты за ўсе нашы вольныя і нявольныя грахі, скрозь шукае ён крывавай стравы.

Выедзем заўтра, і мае крывавыя нявольскія рожы, слаўныя на ўвесь край і заграніцаю, за колькі дзён будуць стоптаны і раздушаны. (Стук у дзьверы).

---

Нявольскі. Хто там?

Слуга. Я, пане. Тэлеграму прынясьлі. Расьпісацца трэба.

Нявольскі. Увайдзі! Тэлеграма? Можа, ад Казі?

Слуга (уваходзіць і падае тэлеграму і кнігу для расьпіскі). Паночку, пасыльны кажа, што п'яныя салдаты бродзяць у пасёлку... Трэба тушыць сьвятло, каб часам у дом не ўламіліся...

Нявольскі (дастае грошы пасыльнаму). Дай пасыльнаму. Тушы ў сябе лямпу і кладзіся спаць. Панна Марыня сьпіць?

Слуга. Сьпяць, паночку.

Нявольскі. Ідзі.

Слуга. Дабранач, пане!

Нявольскі. Дабранач!

---

Нявольскі (нэрвова хапаецца за тэлеграму). Гэта ад Казі... Дай бог, каб усё было добра... Хлопчык такі яшчэ наіўны і гарачы... Ах, расхадзіліся за гэты час мае нэрвы... (Чытае, бялее, апускае рукі, схіляе галаву, маўчыць у атупеньні, сударажна плача, ізноў чытае, праціраючы вочы ад сьлёз і сіпла, прыдушана крычыць). „Казя забіт. Маемасьць вышлем. Колегі". За што? За што? Як я скажу Марыньцы? Як я скажу? Казя мой! Казя мой! Казя мой! Сын мой дарагі! Мой злотавалосы, сінявокі хлопчык... (Ламае рукі, рве валасы, плача, кінуўшыся галавою на стол. Тымчасам ізноў прыбягае слуга устрывожаны).

---

Слуга. Пане, пане! Салдаты бродзяць ля дому. Тушэце барждзжэй лямпу.

Нявольскі. Што? Якія салдаты? Якія матросы? Ня ўсё роўна? Жыцьцё—вечнае змаганьне... Казя мой напаіў грунт пад новую эпоху...

Слуга (са страхам). Паночку даражэнькі! Тушэце-ж вы лямпу! Што гэта вы кажаце? Чуеце, які шум?

Нявольскі. Хай шумяць хвалі жыцьця... Усё роўна...

Слуга. Паночку! Што гэта вам? Гэта-ж ня ўсё роўна: сьвятло скрозь акеньніцы можна ўбачыць... Я патушу лямпу... (Тушыць).

Нявольскі. Сьвятла ўжо няма. Цёмна. Дзе мая Марынька?

Слуга. Не, пане, паненку пакуль што ня трэба палохаць... Хай сьпяць. Калі будзе трэба,—абудзім... А вось, можа, дасьцё якую бронь. П'яныя там—і нашы тутэйшыя, і кацапы—лаюцца, бушуюць...

Нявольскі. Якую бронь? Нічога няма. Няма нічога...

Слуга. Можа, пан, левальвер ці што схаваўшы? Лепей аддайце мне, бо ў вас, калі знойдуць,—не падаруюць...

Нявольскі. Ідзі ты спаць. Пакінь мяне аднаго. Усё роўна... Дзе мая Марынька?

(Раздаецца страшны ўдар у парадныя дзьверы. Голас: „Адчыняй, чортаў буржуй!" Нявольскі чыркае сернік, дастае левальвер, аглядае, ці з набоем, тады ізноў хавае. Ідзе адчыняць дзьверы).

Слуга. Я пайду паненцы скажу. (Пабег).

---

Нявольскі (пытаецца скрозь дзьверы). Што вам трэба?

Мацяйчук. А вось нам пана якраз і трэба...

Сьцепанюк. Давай, пан, самагону!

Міранюк. А то дрэнна будзе пану! Ламай дзьверы!

(На вуліцы бязупынку галосіць гармонік і быццам тупае нешта шматногае і цяжкое).

Нявольскі. (Намагаецца быць супакойным). Я сам адчыню. Нашто ламаць дзьверы? Што вам трэба? (Адчыняе).

Мацяйчук (выпіўшы). Пан хай не баіцца... Мы нічога... Мы выпілі самагону, але мы нічога. Пан-жа мяне знае: Мацяйчук я... Мой бацька ў панскім садзе працаваў, кроў на градкі ліў... А гэта во Сьцепанюк,

а тут яшчэ Міранюк—усё нашы хлопцы. Надумаліся: пойдзем да пана, у пана ёсьць выпіўка... пачастуе...

Сьцепанюк. Аружжа, пан, маеш? (Сьвеціць электрычным ліхтарыкам).

Міранюк. Пан, цяпер наша права...

Нявольскі. Ніякай выпіўкі ня маю. Выхадзеце вон...

Мацяйчук. А пан—не маніш?

Сьцепанюк. Трэба зрабіць рэвізію!

Міранюк. Валі, хлопцы! Ванька, Санька! Разанскія халеры, пры за намі на рэвізію! Мы тутэйшыя, мы ведаем...

---

Марыня (выбягае і кідаецца к бацьку). Татачка, родненькі, татачка! (Цягнець яго).

Нявольскі. Супакойся, Марыня!!

Ванька (прабіваецца наўперад). Пусьці, рабята! (Сьвеціць ліхтарыком на даяўчыну). А, мамзэля! (Хоча схапіць).

Нявольскі. Ня сьмей, грубіян!

Марыня. Таварышы!.. Мы... Я... Калі ласка... Не чапайце... Татачка, аддай ім усё, што яны хочуць...

Санька. Рабяты, усё народнае! Бяры!

Мацяйчук. Усё народнае. Бяры, Ванька! Бяры, Санька! Я тутэйшы! Я дазваляю! (Салдаты разьбягаюцца па ўсіх пакоях, хапаючы што пад рукамі).

Слуга. Пан! Паненка! Там улезьлі з задніх дзьвярэй, хапаюць усё, б'юць... (Чуваць звон бітага).

Ванька. Напіліся буржуі нашай кровушкі! Праклятыя!

Санька. Мы ў акопах бяз хлеба дохнем, вошы кормім, а яны тут... А, буржуі! Дабраліся да вас!..

Марыня. Татачка! Хай сабе, хай сабе! Толькі выйдзем адгэтуль, выйдзем...

Нявольскі (страшна гаворыць). Марынька мая! Казя наш... Казя... ня жыве... Вось тэлеграма...

(Марыня млее. У цямноце шум, гвалт, гармонік, на вуліцы песьня: „Мы на страх усім буржуям на ўвесь сьвет пажар раздуем! У-ха!").

Дзьвінск.
1922.

# З ЦЫКЛЮ „ЧЫРВОНАЯ РАДЗІМА“

**Ц. Гартны**

*Капыль*

З сівых вякоў выглядае даўнасьць:
Замчышча, роў, курганы...
Ў казках-байках сумнівая слаўнасьць
Дзеяў яго старыны...
Вёрсты адгону, межы-дарогі
Мералі гала-абшар;
Сэрца нібы ня чула трывогі,
Жыцьце ня мела ахвяр...
Праўда таму, ці мо' дымная здань?
Казкі ўсё гэта чыесь...
Ведама-ведама добра, што пан
Меў тады муштры свае.
Меў тую дзікасьць, якую посьле
Доўгія векі ўжываў;
Долю пакутную едкаю бросьней
Долю тваю спавіваў.
Ведама—замчышча князя-пана—
Гэта быў страшны куток.
Плён свае працы ў яго сяляне
Доўга насілі ў аброк.
Сьлесара браклі ў крыві мазолі,
Мучыла боль катляра.
Колькі пагарды, зьдзеку, няволі
Несьлі князём да двара!
Белыя коні пекнае княжны—
Чорная праца сялян.
Чуе, чуе андарак сярмяжны
Болі старых капылян.
Нёс свае хвалі бурлівы Нёман,
Мыў замкавы сьцены ён.
Ліпы-ж нашэптвалі: будзе зломан,
Будзе, ой, зломан прыгон.

Капля за капляй точаць каменьні,
Іскра разводзіць пажар...
Колькі свабодзе ўжо пакаленьні,
Колькі прынесьлі ахвяр!
Ўгору высока расьлі магілы,—
Нёман у бок пахіліў,
Покуль над сівым буйным Капылем
Волю вяшчун пратрубіў.
Дымам на лес-сухастой спусьціўся
Блутнае казкі павер.
Яў прыгажэйшы ад ёй радзіўся,
Яў, які бачым цяпер.
У Янкавым лесе хвоі шапочуць
Новаму часу напеў...
Узрокам як зьмерадь — ня бачаць вочы
Дзе-бы палац забялеў.
Роўнымі стужкамі поле-нівы,
Ворыва, сеўба, жніво...
Плёны ад працы ратай руплівы
Звозіць к сабе у гумно.
Едзем дарогай — пан не староніць,
Проста, хай курыцца пыл!
Але чуе, добра знае, помніць
Горкую праўду Капыль.
Помніць ён: канчаецца поле—
Ранай крывавай мяжа;
Там-жа, там за ёю — няволя,
Панскага зьдзеку цяжар.
Топчуць капыты нівы-збажыны,
Рэжуць сялянскі загон.
Хочуць дашчэнту зьнішчыць краіну,
Тую, што наша спакон.
Помніць Капыль і, поўны трывогі,
Ўголас пытае: калі
Зьвяжуць суцэльна шляхі-дарогі
Часткі парванай зямлі?
Покуль-жа будуць з гэтым гадзіцца
Родныя Слонім, Нясьвіж?
Ціха, нядоўга! Можна дзівіцца —
Промін чырвоны імжыць.
Паліць ён, паліць краты-завесы,
Туліць ён... чорную быль...
Скора руку працягне на Крэсы

Вольны, трывожны Капыль.
Мые-мые граніцу рэчка Мажа,
Рэжа, як грунт капачы...
Час прадраканьні добрыя кажа,
Хто ў іх ня верыць, ждучы?..
З сівых вякоў выглядае даўнасьць,
Нікне на сьветлай мяжы...
Беражы, беражы, Капыль, дбайнасьць,
Волю краіны свае беражы!

22/VII 25—Менск.

# ХІБА Ў ЗІМЕ ПРЫГОЖАСЬЦІ НЯМА

**А. Гурло**

Хіба ў зіме прыгожасьці няма?
Вось сьцеле сьнег пуховую пасьцель...
Здаецца, што зацьвіўся белы мак,
Здаецца, што і яблыня цьвіце.

Лятаюць-кружацца сьняжыначкі, як рой,
І шчыра так цалуюць мяне ў твар,
А гурбы белыя ўздымаюцца гарой...
О, колькі ласкі тут і колькі хараства!

Хоць холадна, але мяцежны жар
Яшчэ мацней хвалюецца ў душы...
Жыцьця здаецца лёгкім мой цяжар,
Бо бельлю ўсьнежанай калышацца ўся шыр.

І тчэ дыван, і каляровасьць тчэ,
А радасьць прабуджае звоны струн.
Ўзьвівайся-ж, завіруха, ўсё ямчэй!
Тваім жаданьнем моцна я гару.

## ЭХ, БАРЫ...

**А. Гурло**

Эх, бары вы мае цёмна-русыя
Беларускай адзнакі красы!
Не пайду на другія спакусы я,
Калі вабяць балоты, лясы.

Калі вабяць прасторы крынічныя
Ды жытнёвых палеткаў дыван,
Ды травы сакавітасьць сунічная...
Праўда, ёсьць тут ухабы, дзірван.

Праўда, ёсьць тут прыгожасьць і спрэчная
Можа, прыкрая нават каму.
Хто-ж тут вінен, што крыўда адвечная
Дала волю занадта ярму.

Хто-ж тут вінен, што пляма пакорнасьці
У даўгія вякі адбівалася ў ім.
Не завеце-ж яе вы узорнасьцю,
І на ёй ня вінеце ва ўсім.

Але тут ёсьць занадта і шчырасьці,
Якой можа ў нікога няма.
Той, хто здолеў вось тут толькі вырасьці,
Яе ведае добра ён смак.

Вось і я, прабадзяўшыся досыта,
Ўсё-ж ня страціў таго, чым я жыў,
І гарыць сонцавейнасьці досьвітак
Мне на новым жыцьця рубяжы.

Сталі блізкімі родныя гоманы,
Ў кожным шэлесьце чуецца сьпеў,
Бо нядарам жыцьцё зьзяе промінам,
Бо нядарам так многа цярпеў.

За свой край, за сябе і за іншых,
Покуль стаў на сваім рубяжы,
А цяпер бачу шчасьця узвышша,
І хачу я пановаму жыць.

## РЭЧКА СЬПЯВАЕ

**Язэп Вір**

Восень маркотную рэчка сьпявае,
Рэчцы туруе вецер халодны;
Скача ён, плача ён і аблівае
Буйным дажджом дрывяное сяло.

Холадам хваль гутарлівых
Плюхае, плача, плюскоча вада;
Шырацца шэрагі пены шумлівай,
Коціцца хваляў глухіх чарада.

Пеніста-белыя,
Бурныя, сьмелыя,
Як ашалелыя,
Рушацца хвалі
Ў сьветлыя далі...
Коцяцца,
Льлюцца...
Аб бераг б'юцца.
Звоняць,
Гамоняць,
Падаюць,
Гоняць
Яркую плынь.

Кашляе млын, усхліпае калёсамі;
Сварыцца з рэчкаю. Рэчка плюе
І вадзянымі крывымі палосамі
Плюхае, плача, плюскоча, злуе.

## САСНА

**Паўлюк Трус**

. . . . . . . . . . . . . . .

Дзе лозы ніцыя ў тумане
Журбу выплаквалі да дна,
Там,—
Адзінокай на кургане
Стаяла стромкая сасна.

І ў тонкай шэрані галінаў
Пад лёгкі повей
Ветравін...
Я песьні-казкі
І быліны
Вякоў няспыненых лавіў.

Аб гэтых песьнях і былінах
Шумела кволае гальлё,—
Калі жыцьцё танула ў ціне,
Ды цені слаліся ў палёх.

Бывала,—
Ў вечар смугла-сіні
Расою ўпоіцца сасна.
Павеюць ветры па даліне,
І закалышацца яна.

Тады,—
Пасыплюцца брусьніцы—
Сьлязінкі ў сонную крышталь.
Ў дасэнях-тасьмах лозы ніцай,
Застыне ў возеры вада.

І там,
На дне
Цьвілі лілеі...
У багне вечнасьці яны
Цьвілі

І вянулі на глеі,—
Як вянуць кветкі да вясны...

. . . . . . . . . . . . . . .

Стаяў курган па-над ракою,
На ім высокая сасна
Хістала буйнай галавою,
Аб нечым думала яна.

Калі-ж над водамі
Пярсьцёнкам
Ўзыходзіў месяц малады,
Тады,—
Глядзелася сасонка
У люстра сіняе вады.

Глядзела ў смутным задуменьні,
Аб шчасьці марыла на дне.
А вочы плакалі ў адценьні,—
Блукалі вобразам у сьне.

Ды хвалі ў рогаце гульлівым,
Ў гульлівым посьвісьце
Яны
Кацілі вольна ў пералівах
Журбу адвечную сасны.

А ў восень-золь,
Калі над гаем
Ў апошняй песьні верхалін
Краса вяргіняй адцьвітае
Ды смутак сочыцца ўдалі.

Калі лісьцё пасьцеле долу
Узор марознага акна,
Тады,—
Ў раздум'і невясёлым
Гайдала гольлямі сасна.

І ў гэтай песьні адцьвітаньня
Ўсё-ж водгук радасьці зьвінеў,
Хоць ўсё жывое
У тумане,
Ў тумане вечным патане.

Усё цьвіце
І адцьвітае,

Тане
  На дно,—
Плыве
  Са дна...
Таму й галінамі хістае
У смутку й радасьці сасна.
. . . . . . . . . . . . . .

І толькі,
Помню вось адно я...
Як тухлі зоры над гарой.
Сьпявалі ў вечар пад сасною
Сьляпы жабрак з павадыром.

Стаяў жабрак...
І пад крысою
Жывыя струны закранаў.
Яны зьвінелі пад рукою,
А ў лузе вецер з асакою,
Старыя вербы нагінаў.

Глядзелі ў даль сьляпыя вочы,
Шукалі вобмацкам далін,
Шукалі шчасьця апаўночы,
У песьнях—повеях калін.

Ня раз
Увечары вясною
Сядзеў засмучаны жабрак,
Сядзеў у полі
Пад сасною,
Яшчэ ў душы цьвіла зара.

І ўспомніў дзед:
„Хоць гора многа,
Чаго-ж так рана за сялом
Майго жыцьця шляхі-дарогі
Пяском у ветры замяло?..

Чаго так рана ў сэрцы чулым
Зьвініць апошняя струна?..
Яшчэ яна не ўскалыхнула
Маёй душы глыбіні-дна.

Яшчэ ня пройдзены дарогі,
А ўжо на дне маёй душы
Краса пунсовая разлогаў
Туманам-золкасьцю імжыць".

Так думаў дзед...
І ў срэбра-росы
Пажоўклых кветак і травы
З вачэй цяклі
Каралі-сьлёзы,
І там,—
На ростанях бярозы
Хісталі вецьцем, як жывым.
. . . . . . . . . . . .

„Табе дару сваю я ліру,
Ідзі дарогаю у сьвет!..
На дне жыцьця,
Ў прадоньні жвіру
Ты ўбачыш сьлёзы на траве.

Ты ўбачыш цені,—
Гэта людзі
Зьбіраюць сьлёзы у прыпол,—
Пакуль іх песьня не разбудзіць,
Не раскалыша цемень-дол.

Ідзі!..
І ў сэрцы тваім вечна
Хай водгук радасьці зьвініць!"
Сказаў апошняе у вечар,
Сказаў...
І вочы зачыніў.

Адцень паслалася на скроні,
Замоўклі струны...
І ў цішы,
На ўлоньні цьмянага аблоньня
З сасною вецер варажыў.

Ішлі гады,—
Танулі ў вечнасьць,
Плыло аджыўшае на дно...
І толькі ў радасьці аб нечым
Зьвінела песьня пад сасной.

А ў полі кветкі адцьвіталі,—
Адны ўзыходзілі гусьцей.
Ой, песьня—
Песьня дарагая,
Ў душы ты век не адцьвіцеш!..

Не адцьвіцеш
І не завянеш!..
І толькі ў вечары адна
Журыцца будзе на кургане
У жоўтацьвецені сасна.

Ды адцьвіце ў красе асеньняй,
Пажоўкне ў шэрані-імгле,
А песьня ў сэрцы пакаленьняў,—
Ў красе пунсовай яе сьлед!..

## ЗАРОЮ РАЗЬВІТАЎСЯ...

**Залётны Максім**

Зарою разьвітаўся з ёю,
Шапталі дрэвы раньня сказ,
Пацалаваў апошні раз,
Апошні раз назваў маёю.
Рака заснула ў берагох,
Рака дымілася туманам,
І пеўні пракрычалі раньне
На сонных месячных дварох.

Пашоў у думках па дарозе
Туды, дзе дыміцца вакзал;
Нашто далечыня нас розьніць,
Скажы, чырвоная зара?
Рака драмала ў берагох
І плаваў новы дзень ў тумане,
З сярпом ў руках, з гліняным жбанам
Каханка вышла жыта жаць.

## ГУДКІ

**Я. Журба**

Сонцавейнымі крыльлямі раніца
Атуліла зямлю кветнакудрую.
Паплавы за ракою туманяцца,—
Песьняй косаў
прачнуліся
яны.

Сьпевам-гымнам, да працы ўздымаючым,
Крыкам птушкі дзівосна-чароўнае,
Рыкам зьвера магутна-шалёнага
Прасякаюць
паветра
гудкі,

Што лятуць з гучных горлаў заводаў,
Ў перагонкі гуляюць высока,
Буйны горад варушаць-калышуць
І паволі
зьнікаюць
здалёк.

Слупы дыму ад комінаў стромкіх
Падпіраюць далёкае неба,—
Кучаравымі доўгімі мётламі
Расьпісалі
блакітны,
абшар.

Сьпевам-гымнам, да працы ўздымаючым,
Крыкам птушкі дзівосна-чароўнае,
Рыкам зьвера магутна-шалёнага
Прасякаюць
паветра
гудкі.

Але гэта ня кліч да няволі,
Ня кліч пад ярмо капіталу:

Гудкі клічуць да вольнае працы,
Што шчасьце
і радасьць
нясе.

Ў закапцелых гудзячых заводах—
Мазолістых рук міліёны
Ў адзін момант, бы волат дзівосны,
Уздымаюць
цяжкія
кляўцы.

Разьлятаюцца іскры віхорам,
Сталь сьпявае аб зьлітнасьці-гарце,—
І сымфонія сталі і працы
Поўніць сэрца
магутнай
красой...

Дык аб чым-жа сьпяваюць заводы
Пад над горадам бурна-мяцежным,
Калі раніца крыльлямі-золатам
Атуляе
і песьціць
зямлю?—

Гымн адзінства сьпяваюць заводы,
Што вядзе к сонцу—шчасьцю працоўных.
Сьпяваюць яны ўсяму сьвету,
Што праца ў краіне лапцюжнай
Монолітнасьцю—гартам сагрэта,—
І працу магутную гэту
Не пераможа
ніколі
ніхто!

# ДА ПЫТАНЬНЯ АБ ЗАКОНАМЕРНАСЬЦІ ГРАМАДЗЯНСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

**С. З. Кацэнбоген**

Канчатковая мэта ўсякай навукі мысьліцца ў тым, каб сыстэматызаваць азначаную частку чалавечай практыкі. Калі-б навука абмяжоўвалася звычайным пералічэньнем вывучаемых зьявішчаў, дык мы заместа складнай сыстэмы практыкі атрымалі-б награмаджэньне фактаў бязладзьдзя і ня мелі-б ніякіх кіраўнічых асноў да неабходнай практычнай дзейнасьці.

Такім парадкам, мэта ўсякай навукі зьяўляецца ў устанаўленьні агульных разуменьняў і на гэтую мэту паказваюць усе прадстаўнікі розных дысцыплін.

Трэба адмовіцца ад другараднага, ад многастайных конкрэтных формаў і спыніцца на галоўным. Гэта падкрэсьліў яшчэ К. Маркс, калі казаў аб выключнай важнасьці абстрактнага мэтоду. Значыцца, галоўная задача навукі аб грамадзянстве—соцыолёгіі, як і ўсякай навукі—заключаецца ва ўстанаўленьні агульных разуменьняў, тыповасьці зьявішчаў, іх законамернасьці. Асноўнай уласьцівасьцю навуковых ведаў зьяўляецца вывучэньне зьявішчаў з мэтаю ўстанаўленьня законаў, якія кіруюць жыцьцём і эволюцыяй гэтых зьявішчаў. Вынікае, аднак, пытаньне: ці патрэбна ўстаноўленыя навукай законы лічыць толькі ўласьцівасьцю нашых ведаў, ці, наадварот, навука толькі формулюе тыя законы, якія ўласьцівы самой прыродзе, г. зн. носяць гэтыя законы суб'ектыўны ці об'ектыўны характар?

Філёзоф Кант на гэтае пытаньне адказвае: „Законамернасьць ёсьць нішто іншае, як уласьцівасьць нашых ведаў, устаноўленых апрыорна“.

Не об'ектыўна існуючы знадворны сьвет разьвіваецца на грунце ўласьцівых яму законамернасьцяй, але розум наш нараджае законы, укладаючы ў іх схемы сусьвету. Зразумела пасьля гэтага, чаму Кант лічыць час і прастору—асноўныя катэгорыі прыроды—таксама нічым іншым, як уласьцівасьцю нашага розуму.

Далейшае лёгічнае разьвіцьцё гэтай тэорыі няўхільна прыводзіць да суб'ектыўнага ідэалізму. Разьвіцьцё-ж суб'ектыўнага ідэалізму прыводзіць да бэрклііянства, да соліпсызму (ад лацінскага слова solus—адзін і ipse—сам). Паводле думкі прадстаўнікоў гэтай тэорыі існуе толькі „я“ з яго адчуваньнямі, успрыйманьнямі і інш.

Уявім на адзін міг, што сапраўды ў прыродзе ніякае законамернасьці няма, г. зн., няма патрэбнай сувязі паміж зьявамі, тады лёгка давесьці, што наша элемэнтарная штодзенная дзейнасьць стане зусім немагчымай, бо мы можам орыентавацца ў акружаючай рэчаіснасьці толькі затым, што ў ёй ёсьць пэўная сувязь зьяў. Законамернасьць гэта ёсьць нішто іншае, як канечна патрэбная і пэўная сувязь паміж зьявамі. З гэтай прычыны няма ніякага дзіва, што й першабытны чалавек імкнуўся пазнаць акружаючы яго сьвет, разабрацца ў бязладзьдзі, якое яму здавалася, каб магчы зрабіць свой уплыў на яго. Але першабытны чалавек загэтым і быў нявольнікам, што ня знаў законаў прыроды, не ўладаў над імі, а падпарадкаваўся ім, ня гледзячы на тое, што іх ня бачыў, што ня мог пасягнуць іх суровасьці. Але да гэтых ведаў ён ужо тады імкнуўся.

На прадвесьні культуры чалавек стварыў і пранавуку—*магізм*. Гэта і ёсьць першая спроба ўстанавіць сувязь паміж зьявамі. Але магізм не ўстанаўляе сапраўдную прычынную сувязь у прыродзе. Ён спадзяецца падпарадкаваць сабе прыроду магічнымі дзеяньнямі і заклінаньнямі. Другою спробаю ўстанавіць сувязь зьяў трэба лічыць *анімістычны сьветапогляд*. У васнову гэтага пагляду кладзецца вера ва ўсеагульную ажыўлёнасьць прыроды. Праўду кажучы, ідэалістычная філёзофія зьяўляецца заслужанай спадчынай анімізму.

Эволюцыя анімізму, адбіваючы эволюцыю соцыяльных адносін, натуральна давяла спачатку да *політэізму*, а потым і *монотэізму*. Монотэізм, зводзячы тлумачэньне ўсіх зьяў да аднэй прычыны, быў бяссумненьня крокам наперад. Але адно—гэта доўгае ўпартае імкненьне пазнаць прычыны зьяў прыроды, другое—устанавіць сапраўдныя законы разьвіцьця зьяў прыроды.

Самае разуменьне закону было запазычана ў права. Але закон права, бязумоўна, зусім ня тое самае, што закон прыроды. Закон права ўстанаўляецца, паперашае, з вонкавага боку (формуля *Ульпіяна* „што спадабалася монарху, тое мае сілу закону“), а падругое, ня гледзячы на прымусовы характар, можа быць і ня выкананы. Закон-жа прыроды, бязумоўна, ня можа быць ня выкананы.

Слова „закон“ можна вытлумачыць дваяка: з юрыдычнага і натуральна-гістарычнага пунктаў пагляду. У першым выпадку закон зьяўляецца сынонімам парадку, загаду і правіла. У другім выпадку закон паказвае на заўсёдную сувязь паміж зьявамі, тую сувязь, якая ўстаноўлена на аснове назіраньняў. Фізычны закон—гэта нязьменнае аднаўленьне вядомае зьявы кожны раз, як толькі сустракаюцца ўмовы, якія выклікалі яго раней. Такія законы: кіпеньня, параваньня, распаўсюджаньня гуку, хімічных злучэньняў і г. д. („Рэнэ, Вормс—індукцыйны мэтод св. соцыолёгіі“).

Да якіх-жа часоў адносіцца ўстанаўленьне разуменьня аб законе прыроды? Ці ўстанавілі яго вучоныя антычнага сьвету, напрыклад, Плятон і Арыстотэль, ці не? Трэба сказаць, што яны, як і сярэднявяковыя схолястыкі, абмяжоўваліся разважаньнем аб прычынах зьяў і, гаворачы аб законах, мелі на ўвазе толькі норматыўныя законы, г. зн. правілы абыходжаньня ў галіне рэлігіі, моралі і права.

Першым чалавекам, які імкнуўся ўстанавіць законы прыроды, быў Дэкарт. Ён назваў гэтыя законы правіламі, над якімі пануе адзіны магутны закон—гэта ўплыў божы.

Першае навуковае агульнапрыемлемае формуляваньне закону даў Монтэск'ё ў сваёй кнізе „Дух законаў", а іменна: „*законы ёсьць неабходныя адносіны, якія вынікаюць з прыроды рэчаў*".

Гэтае азначэньне, ня гледзячы на няяснасьць выразу „прыроды рэчаў", можа быць прыемлемым і для нас, бо яно дае асноўную прымету закону. Законы прыроды існуюць, гэта прызнаецца і зараз амаль што ўсімі, але адносна законаў гісторыі існуюць вялікія рознагалосьсі.

Шмат хто кажа, што гісторыя ня ведае законаў. Але калісьці Локк лічыў, што і навукі аб целах ня могуць існаваць і скэптычна казаў: „Навуковая філёзофія фізычных сіл заўсёды будзе за межамі нашых ведаў". Міль лічыў, што мэтэрэолёгія настолькі-ж маладая навука, як і соцыолёгія, што яна ня можа ўстанавіць законамернасьці ў зьявах прыроды. Але вось у 1856 годзе роданачальнік новага напрамку ў гэтай навуцы, амэрыканскі вучоны Уільям Фэррыль, ужо ўстанавіў асноўныя законы яе. Калі-ж шмат чаго яна яшчэ ня можа ўстанавіць ці прадказаць, дык гэта выцякае з недасканаласьці мэтодаў яе, з прычыны яе маладасьці.

Тое самае трэба аднесьці і да соцыолёгіі, яе недасканаласьць—гэта ёсьць асаблівасьці, заўсёды ўласьцівыя маладасьці. Затое маладасьці належыць будучына. Спробы надаць сэнсу акружаючай соцыяльнай рэчаіснасьці, г. зн. устанавіць законы грамадзянскага жыцьця, рабіліся ўжо даўно. Але не заўсёды гэтыя спробы мелі пад сабою грунт. Шмат якія вучоныя ўстанаўлялі свае законы скорасьпела, шмат хто з іх асноўваўся на аналёгіі то з біолёгічнымі, то космічнымі ці з механічнымі зьявамі і інш., але не заўважвалі асноўнага, а дзеля гэтага да такога роду законаў натуральна адносіліся з недавер'ем.

Аднэй з ранейшых удалых спроб устанавіць законы грамадзянскага жыцьця зьяўляецца спроба італьлянскага вучонага Вікко, які жыў у эпоху адраджэньня: „Усе народы, казаў ён, незалежна ад сваіх расавых асаблівасьцяй і ад географічнага асяродзішча, праходзяць праз адны і тыя самыя этапы разьвіцьця". Гэты закон сьцьвярджаецца данымі этнографіі. Поруч з гэтым, Вікко ўстанавіў яшчэ адзін закон, г. з. лёс народаў разьвіваецца сьпіральна, падыходзячы да азначанага кульмінацыйнага пункту, ён зварачаецца назад да свае першапачатковае крыніцы. Гэтае палажэньне,

бязумоўна, не зьяўляецца законам, а хутчэй дасьціпнай здагадкай, абагульненьнем некаторых эпізодаў у гістарычным разьвіцьці народаў.

Другая істотная спроба ўстанаўленьня закону грамадзянскага жыцьця была зроблена Сэн-Сімонам. Яго закон, у пэўнай меры, знашоў свой выраз у марксавай тэорыі. Ён кажа, што ў працягу вызначанага пэрыоду народы разьвіваюцца нормальна, гэта так зв. органічны пэрыод, але вынікае награмаджэньне супярэчнасьцяй, у выніку якіх выбухае гэтак зв. крытычны пэрыод (рэволюцыі).

Закон заснаваньня буржуазнай соцыолёгіі Конта аб „трох стадыях" разьвіцьця таксама ня можа быць названы законам у поўным сэнсе гэтага слова. Паводле думкі О. Конта, разумовае разьвіцьцё народу праходзіць праз тры стадыі: ад тэолёгічнай праз мэтафізычную да позытыўнай. Гэтым стадыям быццам-бы адпавядае азначаны соцыяльна-політычны лад грамадзянства. Гэты закон не адпавядае фактычнаму ходу гісторыі і заслугоўвае некаторай увагі толькі як эмпірычнае абагульненьне.

З пункту погляду сучаснай навуковай соцыолёгіі, „законы" францускага соцыолёга Тарда таксама ня могуць быць названы законамі, бо, ў лепшым выпадку, яны датычаць толькі аднэй соцыяльнай сфэры—колектыўнай псыхолёгіі. Тард трактуе аб законах перайманьня, супярэчнасьці і прыстасаваньня, да якіх зводзяцца ўсе процэсы псыхічнай і соцыяльнай эволюцыі. Апрыорныя конструкцыі Тарда з поўным правам маглі-б быць распаўсюджаны і на несоцыяльны сьвет.

Соцыолёг Паландт з скарбніцы сваёй фантазіі здабыў цэлую кучу „законаў" грамадзянскага жыцьця, напрыклад, „закон соцыяльнай згоднасьці", закон „стаднага існаваньня, соцыяльнага адзінства і бязупыннасьці", „жыцьцёвай прыстасаванасьці", „соцыяльнай дыфэрэнцыяцыі", „соцыяльнай нярухомасьці і соцыяльнай рознастайнасьці", „соцыяльнага догматызму і оптымізму", „соцыяльнага формалізму", „захаваньня грамад", „соцыяльнай няшчырасьці" і г. д., і г. д. Зразумела, што падобныя „законы" можна пячы так лёгка, як бліны, але што яны, нарэшце, могуць даць соцыолёгіі?

Бэльгійскі соцыолёг Дэ-Грэеф таксама ўстанавіў досыць дужую лічбу законаў, якія ніякага значэньня ня мелі для вывучэньня соцыяльнага жыцьця: закон злучнасьці, супрацоўніцтва, суадносін, бязупыннасьці, сумеснасьці і ажыцьцёўленасьці, усеагульнай аднастайнасьці, падпарадкаванасьці, роўнавагі і напластаваньня.

Пад непасрэдным уплывам Г. Спэнсэра, сьледуючы бліскучай плеядзе мэханіцыстых—Місмору, Вакевэйлеру, Карэю, Вінярскаму, акадэмік В. В. Бехцераў напісаў сваю „колектыўную рэфлексолёгію". Паводле яго-ж думкі, ён стварыў „новую соцыолёгію", якая, галоўным чынам, „павінна апірацца на дзьве навукі—біолёгію і рэфлексолёгію". Увы,—гара радзіла мыш... Таленавіты рэфлексолёг, апынуўшыся ў палоне свае ўласнае фантазіі, зьявіўся зусім бясплодным соцыолёгам,

злажыўшы цэлых 23 законы: 1) захаваньня энэргіі, 2) пропорцыянальных суадносін шпаркасьці руху з рухомаю сілай, 3) цягаценьня, 4) адпіханьня, 5) процідзеяньня роўнадзеяньню, 6) падабенства, 7) пэрыодычнасьці ці рытму, 8) інэрцыі, 9) бяспрыпыннага руху зьменнасьці, 10) расьсеяньня энэргіі, 11) адноснасьці, 12) эволюцыі, 13) дыфэрэнцыяваньня, 14) аднаўленьня, 15) выбарчых зносін, 16) гістарычнай паступовасьці, 17) экономіі, 18) прыстасаваньня, 19) адбору, 20) узаемадзеяньня, 21) компэнсацыі ці зьмяшчэньня, 22) залежных адносін і 23) закон індывідуальнасьці.

Усе гэтыя „законы“, запазычаныя напракат у фізыкі і біолёгіі, падобны да сухое хвігі, бо зусім бясплодны.

Ужо ў XVIII веку матэрыялісты Гольбах адзначыў, што гістарычнае жыцьцё падпарадкавана тым самым законам, што і прырода. Ён кажа, што мы сумняваемся ў тым, ці існуе законамернасьць да тых часоў, пакуль мы не разабраліся ва ўсім бязладзьдзі жыцьця. Сапраўды-ж у прыродзе існуе строгая законамернасьць і яна дапамагае нам орыентавацца ў барацьбе з прыродаю. У грамадзянскім жыцьці, паводле думкі Гольбаха, пануюць тыя самыя законы.

Пасьля магутнага росквіту прыродазнаўчых навук няма патрэбы даводзіць, што прырода сапраўды падпарадкавана жалезным і „вечным“, кажучы словамі Гётэ, законам. Затое ў адносінах пытаньня аб законах грамадзянскага жыцьця, як было ўжо сказана, існуюць глыбокія рознагалосьсі.

Шмат якія буржуазныя вучоныя, пасьлядоўнікі Рыккерта і Віндэльбальда і нашы расійскія суб'ектыўныя соцыолёгі ўстанаўляюць карэнную прынцыповую адзнаку навук аб прыродзе ад навук аб духу. Паводле іх думкі, навукі аб прыродзе ёсьць навукі аб сьляпой навальнай законамернасьці. Навукі-ж аб духу трактуюць аб сьвеце мэтаў, дзе пануе разумная свабодная воля чалавека.

Няма сумненьня, што гэты пункт погляду ня вытрымлівае крытыкі. Сьвет „духу“—той самы сьвет прыроды, але толькі той, які вывучаецца з асобнага пункту погляду. Апрача гэтага, навукі аб духу не супадаюць з навукай аб грамадзянстве, апошняя шырэй іх, яна ўключае іх у сябе, яны ёй падпарадкаваны. *Рыккерт, Відэльбанд, Мэйер, Зімэль і інш. сьцьвярджаюць, што ня можа быць гістарычных законаў.*

Некаторыя вучоныя лічаць, што законы соцыолёгіі можна ўстанавіць, але адмоўна адносяцца да магчымасьці ўстанаўленьня законаў гісторыі. Да гэтага погляду далучаецца і Рыккерт. Гэтакае адлучэньне грамадзянскага жыцьця ад гісторыі—няправільнае, бо грамадзянскае жыцьцё ня можа разглядацца статычна, а гістарычны процэс гэта ёсьць той самы соцыяльны процэс.

Якія-ж довады пярэчнікаў законамернасьці гістарычнага процэсу? Яны кажуць, што трэба адрозьніваць навукі номотэтычныя, г. з. навукі абагульняючага характару, якія ўстанаўляюць законы, ад ідэографічных

г. зн., якія трактуюць аб адзінічным. Першыя навукі—аб прыродзе; у прыродзе ўсе зьявы паўтараюцца, а з гэтай прычыны і тут можна выявіць пэўную законамернасьць. У гісторыі-ж мы не назіраем паўторных зьяў—усе яны аднаразовыя, нікольні не падобны на папярэднія. Напрыклад, Вялікая Француская рэволюцыя 1789 году зусім непадобна на ангельскую 1649 году, значыцца, нельга ўстанавіць у гісторыі рэволюцыі ніякіх законамернасьцяй.

Нямецкі соцыолёг Зімель пераконвае нас у тым, што гісторык павінен быць мастаком, інтуіцыйна пранікаючы пры дапамозе інтроспэкцыйнага мэтоду, мэтоду саманазіраньня ў „духоўныя" асаблівасьці данае эпохі і яе гэніяльных выявіцеляў. Мастацкая фантазія карысна не для гісторыка, і яна бязумоўна ня можа служыць мэтодам навуковага дасьледаваньня.

Ці адпавядае праўдзівасьці тое, што гісторыя ў адзнаку ад другіх навук ня ведае зьяў і процэсаў, якія паўтараюцца. Бязумоўна, не. Мы на кожным кроку назіраем паўтарэньне зьяў. Прывесьці прыкладаў у падмацаваньне гэтага можна было-б шмат, напрыклад, аналёгічнае разьвіцьцё ў розных народаў інстытуту шлюбу, сям'і, рэлігіі, прыватнай уласнасьці, мастацтва і інш. Ва ўсіх народаў разьвіцьцё гэтых інстытутаў праходзіць праз адны і тыя самыя стадыі. Аднак, праўда і тое, што сёньнешняе здарэньне непадобна на ўчарашняе і заўтрашняе. Але гэта яшчэ нічога ня значыць. Той ці іншы соцыяльны інстытут у розных народаў мае сваё індывідуальнае аблічча, але за ім захоўваецца зусім той-жа самы касьцяк. Вялікая Француская рэволюцыя сапраўды непадобна на ангельскую, але ў аснове як першай, гэтак і другой ляжыць адзін і той самы фактар—барацьба новазьявіўшайся клясы буржуазіі з фэўдальным ладам. Абедзьве рэволюцыі—зусім тыповыя буржуазныя рэволюцыі.

Ці можам мы, аднак, сьцьвярджаць, што ў прыродзе, у вадзнаку ад грамады, усе зьявы абсолютна паўтараюцца, так што яны падобны на копіі з аднаго орыгіналу? Запэўна не. Возьмем, напрыклад, зьявы навальніцы ці маланкі; маланка можа быць больш моцнай ці больш слабай, але гэта не зьмяняе яе асноўнага тыповага характару—раздражэньня электрычнай энэргіі.

Такім парадкам, мы бачым, што ў прыродзе ўсе зьявы маюць сваё індывідуальнае аблічча і ўсё гэта не перашкаджае ўстанаўленьню законаў прыроды, а калі гэтак, дык гэтая акалічнасьць ня можа перашкаджаць устанаўленьню законаў грамадзянскага жыцьця.

Другі довад тых, якія адмаўляюць законамернасьць грамадзянскага жыцьця—гэта складанасьць яго. Гэта акалічнасьць асабліва падкрэсьліваецца Зімелем. Ён кажа, што для таго, каб устанавіць сувязь зьяў, трэба адшукаць асноўныя элемэнты іх, але грамадзянскае жыцьцё настолькі складанае, што мы тут ня можам адшукаць асноўных элемэнтаў, г. зн. таго, што зьяўляецца яго грунтам.

Праўдзівая думка аб тым, што грамадзянскае жыцьцё складанае прыводзіць да непраўдзівага вываду, а іменна, што няма законамернасьцяй у грамадзянстве. У канцы сваёй кнігі сам Зімель адхіляецца ад сваіх поглядаў: ён кажа, што для мэтодолёгічных мэт формуляваньне законаў грамадзянскага жыцьця вельмі карысна. Мы бяз іх не маглі-б зразумець гісторыі народаў, немажлівай задачай было-б выўчыць шмат фактаў гісторыі народаў. Па яго думцы, трэба адкінуць пры вывучэньні грамадзянскіх зьяў усе драбніцы і толькі клясыфікаваць розныя асаблівасьці, г. зн. устанаўляць тыповасьць зьяў. Зімель сьцьвярджае, што ўстаноўленыя законы карысны, хаця і не адбіваюць рэчаіснасьці, бо яны толькі— мэтод ведаў.

Значна большую позыцыю няўзгоджанасьці ўзяў вядомы гісторык антычнага сьвету Э. Мэмэр. Ён дае праціўніку, якога ня бачыць, пытаньне, ці зьяўляецца гісторыя навукай? Выдатны гісторык стараецца давесьці, што ўсё, чым ён займаўся дзесяткі гадоў, гэта не навука, а так сабе, дзеля гэтага гісторыя не вывучае тыповых зьяў, а толькі індывідуальныя і непаўторныя і, значыцца, ніякіх законаў гісторыі ўстанавіць нельга.

Ёсьць яшчэ і другія пярэчаньні супроць законамернасьці грамадзянскага жыцьця. Кажуць, што ў прыродзе ёсьць бязумоўна сталая сувязь зьяў, у грамадзянскім-жа жыцьці пануе выпадак, які перарывае гістарычную сувязь здарэньняў.

Але тэорыя праўдападобнасьці, якая грунтоўна выўчыла прыроду выпадкаў, устанавіла, што ніякіх выпадковасьцяй наогул няма. Усе зьявы, якія здаюцца выпадковымі ў масавым струмені жыцьця, нывэлююцца, а дзеля гэтага і пануе ўсеагульная законамернасьць. Значыцца, і выпадак не перашкаджае ўстанаўленьню законамернасьці. Мы ведаем, што і ў прыродзе ёсьць зьявы, якія здаюцца выпадковымі, аднак, яны не выключаюць законамернасьці ў прыродзе. Выпадкам зьяўляецца толькі тое, прычын чаго мы яшчэ ня ведаем.

Трэцяе пярэчаньне буржуазных вучоных супроць існаваньня законамернасьці ў грамадзянскім жыцьці, самае сур'ёзнае, на якім настайваюць асабліва ўпарта, гэта тая акалічнасьць, што ў грамадзянстве ўсюды дзейнічае свабодная воля чалавека і ёю вызначаецца гістарычны процэс. Гэтае пярэчаньне, паводле праўдзівага сьцьверджэньня Рэнэ Вормса, ня мае ніякага значэньня для тых, хто не прызнае свабоды волі, а дапускае прынцып філёзофскага дэтэрмінізму.

Але і для тых, хто верыць у свабоду, пярэчаньне гэтае не ў выстарчаючай меры можа быць пераконаньнем. Калі чалавек вольны, дык гэта ніколькі ня шкодзіць яму быць талковым. У сваіх учынках ён заўсёды будзе кіравацца тымі ці іншымі меркаваньнямі. Дзеля гэтага можна сказаць, што калі йзноў вынікнуць умовы, ужо раз прымусіўшыя яго прыняць пэўнае вырашэньне, дык яны прывядуць яго да таго самага выніку.

Значыцца, трыманьне яго ў большасьці выпадкаў можна прадбачыць. Можна сказаць і больш гэтага, калі рашэньне зьмяняецца, дык гэта робіцца пад уплывам якое-небудзь прычыны. Нарэшце, нават пры свабоднай волі людзі дзейнічалі-б па вызначаных мотывах і соцыяльныя навукі маглі-б устанавіць законы, якія-б кіравалі чалавечымі ўчынкамі (Рэнэ Вормс).

Зразумела, што ўсякі чалавек ставіць сабе зусім вызначаныя мэты. Але чаму чалавек ставіць гэтыя мэты, а ня іншыя? Яны вызначаюцца тым соцыяльным асяродзішчам, у якім чалавек жыве: воля чалавека дэтэрмінавана. Чалавек зьяўляецца адным са складнікаў грамадзянскага процэсу.

Грамадзянскае разьвіцьцё ёсьць роўнадзейная ці так званая рэзультанта асобных воль, гэта на філёзофскай мове называецца гэтэрогеніяй мэт. Сумарны вынік дзейнасьці людзей зусім не супадае з мэтамі і жаданьнямі асобных асоб. Гістарычны процэс падпадае не тэлеолёгічнаму (мэтаваму) пачатку, а строгай каўзальнасьці (прычыннасьці). Гэты довад буржуазнай школы пакоіцца на рацыяналістычным сьветапаглядзе XVII і XVIII стагодзьдзяў, што розум можа ўсё стварыць. На такой самай аснове пакоіцца і дагаворная тэорыя, аб якой ужо гаварылася.

Шмат вучоных сьцьвярджаюць, што ў грамадзянскім жыцьці ня можа быць, па крайняй меры, настолькі бязумоўных законаў, як у прыродзе. Яны запэўніваюць, што паміж прычынай і вынікам укліньваецца свабодная воля чалавека і лепіць гісторыю, усё роўна, як гліну. Але і ў прыродзе законы дзейнічаюць толькі пры пэўна вызначаных умовах. Сьцьвярджэньне аб бязумоўнай законамернасьці наогул няправільнае. Калі ўспомнім законы хіміі, фізыкі і інш., дык убачым, што яны „бязумоўны“ толькі пры ідэальных дапушчальных умовах. Напрыклад, славуты закон Бойля-Марыотта, які кажа, што пры нязьменнай тэмпэратуры здабытак („произведение“) аб'ёму газу на яго даўленьне ёсьць велічыня сталая. Тут мы бачым—сапраўды гіпотэтычныя, ідэальныя ўмовы—сталая тэмпэратура газу, але такой бязьзьменнай тэмпэратуры зусім ня існуе. Гэта толькі адцягненьне ад конкрэтных умоў для формаваньня вызначанага закону. Характар законаў грамадзянскага жыцьця і прыроды адзін і той самы. Пры вызначаных умовах мы назіраем і вызначаныя вынікі.

Мы чуем голас з боку суб'ектыўнай школы Карэева і інш., што ў гісторыі дзейнічае вольны чалавек, які дае пры вывучэньні грамадзянскіх зьяў сваю суб'ектыўную ацэнку, уносіць у соцыяльную навуку ацэначна-этычны элемэнт. Гэта й ёсьць славутая тэорыя этычнага ідэалізму. Але, як правільна ўжо адзначыў—зусім не марксысты—Мілюкоў, суб'ектыўны мэтод ня мае нічога агульнага з навуковым об'ектыўным мэтодам. Соцыолёгія, паводле Карэева, павінна тварыць законы, але вынікае пытаньне—якія? Тэлеолёгічныя, а не каўзальныя. Ён кажа, што гісторыя ёсьць зьдзяйсьненьне нашых мэт. Мы ўжо раней казалі аб гэтэрогеніі воль. Сапраўды-ж самая воля „свабоднага“ чалавека ёсьць функцыя грамадзянскіх адносін.

Усякая навука, у тым ліку і соцыолёгія, знае і так званыя эмпірычныя законы.

Эмпірычнымі законамі зьяўляюцца такія законы, якія, формулюючы вядомую правільную паўторнасьць зьяў, ня могуць яшчэ ўстанавіць прычын гэтай паўторнасьці. Да ліку эмпірычных законаў адносяцца шмат якія статыстычныя законамернасьці. Напрыклад, штодзенная паўторнасьць ліку адасланых па пошце безадрасных лістоў ці вялікая сьмяротнасьць халасьцякоў у параўнаньні з сямейнымі.

Прынцыпова паміж эмпірычным і агульным законам няма розьніцы; эмпірычны закон зьяўляецца толькі першым крокам да агульнага. Нямецкі соцыолёг Людвіг Штэйн у сваёй кнізе „Уступ у соцыолёгію" імкнецца давесьці, што законамернасьці, падобнай да законаў прыроды, у грамадзянскім жыцьці няма, а назіраецца толькі рытм, які ўстанаўляе толькі сувязь грамадзянскіх зьяў, але сувязь не абавязковую, не бязумоўную. Соцыяльныя законы гэта толькі практычныя абагульненьні, вартасьць якіхвыключна эўрыстычная, мэтодолёгічная. У прыродзе-ж існуе бязумоўная законамернасьць. Але, як мы ўжо бачылі вышэй, бязумоўнасьці ў прыродзе зусім няма. Усё цячэ, усё зьмяняецца, усё падпадае бязупынным дыялектычным зьменам.

Асноўная памылка, дзякуючы якой шмат хто з мысьліцеляў адмаўляюць законамернасьць соцыяльнага процэсу, вынікае з іх няправільнага разуменьня самога паняцьця—законамернасьці. Яны выходзяць з таго, што законы прыроды ўстанаўляюць залежнасьць бязумоўную, калі ёсьць А, дык пры ўсіх умовах будзе й Б.

У грамадзкім жыцьці, кажуць яны, дзейнічае шмат прычын і задаюць яны пытаньне—ці заўсёды тут А нараджае Б. У грамадзкім сьвеце, пераконвалі праціўнікі законамернасьці гістарычнага процэсу няма таго, што ёсьць у прыродзе. У грамадзе вызначаючым пачаткам зьяўляецца асоба, якая актыўна дзейнічае, з гэтае прычыны тут ня можа быць ніякае законамернасьці.

Навейшыя досьледы ўстанавілі важную асаблівасьць усякай законамернасьці—залежнасьць паміж зьявамі прыроды ёсьць толькі пры сталых умовах. Напрыклад, закон радыякцыйнага распаду матэрыі, здавалася-б, дзейнічае незалежна ад тых умоў, пры якіх ён утвараецца. Але ў даным выпадку, відавочна, бязумоўнасьць выключаецца; па думцы Эйнштэйна, поле цяжэньня ў сусьветных абставінах павінна мець уплыў на скорасьць радыякцыйнага распаду.

Ці можам мы быць упэўнены у тым, што законы захаваньня матэрыі захоўваюць сваё значэньне і ў сусьветных умовах прыроды? Ці можам мы прыстасоўваць нашы ўраўненьні да сонечных сьвяціл, дзе электрамагнітныя зьявы і злучэньні распадаючых атомаў ствараюць зусім іншыя абставіны жыцьця элемэнтаў (акадэмік А. Е. Фэрсман)?

Ці можам мы сьцьвярджаць, што законы хімічных рэакцый дзейнічаюць пры ўсякіх абставінах, незалежна ад тэмпэратурных умоў?

Ці будуць мець месца гэтыя рэакцыі пры тэмпэратуры ў 200⁰ ніжэй нуля? Ці маем мы грунт сьцьвярджаць, што тлен і вадарод утвараюць ваду на Вэнэры?

Выходзячы з вышэйзазначанага, можна сказаць, што асноўныя пасылкі мысьліцеляў, якія адмаўляюць законамернасьць гістарычнага працэсу,—няправільны. Законы прыроды і соцыяльнага сьвету маюць абавязковую сілу толькі пры прысутнасьці адпаведных умоў.

Карані сьцьвярджэньняў аб адсутнасьці законаў грамадзянскага жыцьця захоўваюцца глыбока ў соцыяльнай падглебе.

Далёка не апошнім штурхаючым мотывам буржуазных адмоўнікаў законамернасьці грамадзянскага жыцьця зьяўляецца іх імкненьне давесьці, што ня існуе натуральна-неабходных законаў, якія цягнуць капіталізм да згіненьня.

Такім чынам, не падлягае ніякаму сумненьню, што і ў прыродзе, і ў соцыяльным сьвеце аднолькава пануюць законы і прырода гэтых законаў тая самая.

З гэтага, аднак, зусім ня значыць, што можна дапусьціць простае мэханічнае перанясеньне законаў прыроды на грамадзянскае жыцьцё. О. Конт калісьці прабаваў, але зусім бяз посьпеху, давесьці ўсеагульнасьць закону цяжэньня, распаўсюджаньне яго і на соцыяльны сьвет. Аналёгічныя спробы зрабіў і Г. Спэнсэр і інш. мэханістыя. Настолькі-ж бясплодны і спробы мэханічнага перанясеньня ў грамадзянскае жыцьцё і біолёгічных законаў (Дарвінава тэорыя закону барацьбы за існаваньне і інш.).

Соцыяльныя зьявы—зьявы асаблівага парадку і ім уласьцівы свае ўласныя, асобныя законы.

Цяжэйшая канчатковая задача соцыолёгіі заключаецца ў тым, каб устанавіць гэтыя асобныя законы гістарачнага працэсу, памятаючы, што ведаць гэтыя законы патрэбна для таго, каб прадбачыць, а прадбачыць для таго, каб уплываць.

Пераклаў **З. Сакалоўскі.**

# ЗНАЧЭНЬНЕ РАКІ БЯРЭЗІНЫ ДЛЯ ІНТАРЭСАЎ БССР І АБ ПАТРЭБЕ ПАДТРЫМАНЬНЯ НА ЁЙ СУДНАХОДЗТВА

**Е. С. Руткоўскі**

Рака Бярэзіна выцякае з балот Барысаўскае акругі, недалёка ад заштатнага гораду Докшыцы і цячэ па Барысаўскай, Менскай і Бабруйскай акругах БССР і па Рэчыцкім павеце Гомельшчыны; уліваецца ў Дняпро з правага боку ніжэй мястэчка Горвалю, якое знаходзіцца на правым баку Бярэзіны. Сваімі прытокамі Бярэзіна захапляе і іншыя акругі БССР, сумежныя з вышэйадзначанымі.

Па даным Зяленскага, уся даўжыня ракі дасягае да 590 вёрст.

Верхняя частка Бярэзіны на працягу 68 вёрст няглыбокая і з гэтае прычыны годна толькі для сплаву лесу. З таго месца, дзе ў яе ўліваецца Сяргуч, яна робіцца суднаходная аж да самае ўтокі на працягу 437—443 вёрст, з упадам на ўсю даўжыню на 20 сажняў, альбо 0,046 сажн. на вярсту. Шырыня межанага русла ў ніжніх частках дасягае да 50-60 саж., а глыбіня ў часе межаніны не дапускае суднаў, якія хаваюцца ў вадзе больш як на $^3/_4$ аршына.

У сучасны момант верхняя частка Бярэзіны знаходзіцца за межамі СССР. Апошнім грузазваротным пунктам, згодна з данымі ЦСУ за 1924 г., зьяўляецца Ляхава-Гара, якая знаходзіцца трошкі вышэй Барысава.

Па сваім характары ўся комунікацыйная лінія ракі Бярэзіны падзяляецца на тры часткі: 1) ад Сяргуча да Барысава, 2) ад Барысава да Бабруйску і 3) ад апошняга да Дняпра.

Частка ракі да Барысава цячэ па нізіннай мясцовасьці, ня мае высокіх берагоў, шырыня пры нізкім небасхіле 15-30 сажняў.

Глыбіня ракі на фарватары даволі значная, так што нават могуць хадзіць судны, якія хаваюцца ў вадзе на 1,5 аршына; цячэньне вады слабое. На гэтым вучастку сустракаюцца 4 перамелы: 2 каля Барысава, каля Студзенькі і каля Крычыну.

Зьвілістасьць русла ўтрудняе суднаходзтва, а адсутнасьць адпаведных „бічоўнікаў", пры нізкай балотнай мясцовасьці ня спрыяе сплаву: часта рабочыя „на бічове" пераходзяць бродам па пояс у вадзе.

Другі вучастак ад Барысава да Бабруйску цягнецца, згодна з данымі Зяленскага, на працягу 192 вёрст, па Ястрэмскаму—на працягу 224 вёрст; цячэньне зьвілістае, берагі нізкія і ў весну заліваюцца вадой. Тут вельмі частыя тарчавыя забруджаньні. Перамелаў ня шмат: каля Перавоз, Нівак,

Чортавага Куста і інш. Паравое пасажырскае суднаходзтва падтрымлівала ўсю навігацыю на параходах, якія хаваюцца ў вадзе на 3,5 чвэрці аршына.

Трэці вучастак ад Бабруйску да Дняпра, даўжынёю ў 159-161 вёрст, мае таксама нізкія берагі і працякае па лясістай мясцовасьці. Межанае русло, маючы цьвёрдыя пескавыя й пяскава-сугліністыя берагі, мясцамі дасягае ў шырыню да 80 сажн. Цячэньне вады слабое; на паверхні шпаркасьць цячэньня ў сэкунду бывае ня больш 1-1,5 фута. У часе разьліву вада падымаецца да 15 футаў звыш звычайнага ўзроўню вады; уздым-жа вады да 18-24 футаў, па даным Штукенбэрга, бывае вельмі рэдка. Разьліваецца рака на 3-5 вёрст, а ў некаторых мясцох— на 10-15 вёрст. Русло на гэтым вучастку мае да 27 падводных абмяленьняў, якія ў часе межаніны не дапускаюць асадак, зьменшыўшы да 4-5 чвэртак аршына. Асабліва вялікія перамелы знаходзяцца каля Якімаўскай слабады і каля Нова-Селішча. Вузкасьць фарватару і крутыя павароты паміж пясочнымі падводнымі косамі ў гэтай частцы ракі ствараюць вялікую труднасьць для суднаходзтва.

З штучных будоў на рацэ, апроч звычайных мастоў і пераправаў, якія былі пабудаваны ў мірны час, у імпэрыялістычную вайну, згодна з данымі „Управления внутренних вод", у розных пунктах цячэньня ракі было пабудавана 14 стратэгічных мастоў, якія за час чужаземных окупацый і грамадзянскай вайны разбураны й спалены. Ад усіх гэтых будоў згодна з данымі адпаведных устаноў, у сучасны момант застаецца да 1.400 штук тырчачых паляй, якія значна перашкаджаюць праходу суднаў і плытоў. Апрача гэтых перашкод, ёсьць яшчэ шмат іншых, якія ўсе разам робяць раку Бярэзіну ў гэтых мясцох амаль што зусім няпрыгоднай для плаваньня суднаў і плытоў.

Для лепшага суднаходзтва па рацэ ў мірны час было зроблена цэлы шэраг тэхнічных мерапрыемстваў на вадаснабжэньне ракі. Да ліку гэтых мерапрыемстваў патрэбна аднесьці: землячарпальныя працы, карчаваньне, выпростваньне крывізны, абсталяваньне ракі ўказальнымі знакамі, назіраньне за правільным і безастаноўчым рухам і інш. Тэхнічнае абсталяваньне вадаснабжальнага апарату было гэткае: мелася 3 зямлячарпалныя прылады, 3 кранты з іх караванамі, 1 буксырны параход, невялікі параход-назіральнік, тры моторныя лодкі і інш. У Бабруйскім затоне мелася добра абсталяваная вэрф з вялікімі майстэрнямі.

Паправіцельныя будовы, якія мелі на мэце паглыбленьне ракі на перакатах, рабіліся вельмі слаба і па ўсёй артэрыі ракі знаходзіліся ў пачатковым стане.

Галоўная артэрыя Бярэзіны жывіцца грузамі з цэлага шэрагу грузазваротных прытокаў з прыточкамі й каналамі; усяго іх налічваецца да 35, з якіх 5 асушальных каналаў і 30 суднаходных і сплаўных ліній. Галоўныяз іх: Поня, Сяргуч, Гайна, Бароня, Сха, Усяж, Пліса, Мужанка,

Рова, Баор, Ута, Бруята, Плева, Усса, Сьвіслач, Брожа, Баравая, Руднянка, Ога, Сьведзь, Дражэнка, Волма, Балоча, Крынаўка, Нача, Можа, Клевіцы, Гарадзецкі канал, Варанчэнскі, Кабылянскі і г. д.

Усю даўжыню ракі Бярэзіны і яе прытокаў, а таксама грузазваротнасьць на іх, згодна з данымі Ястрэмскага за 1901—5 гады, у параўнаньні з воднымі шляхамі Менскай губ., якія выкарыстоўваліся для зносін, можна выявіць у наступнай табліцы:

| НАЗВА | Водныя шляхі ўсёй губ. па даным 1908 г. | | У тым ліку р. Бярэзіны | |
|---|---|---|---|---|
| | Лік вёрст | % адносін р. Бярэз. | Лік вёрст | % адносіны да ўсёй даўжыні р. Бярэзіны |
| 1) Уся даўжыня карыстаньняў вёрст . . . | 6.432 | 40,4% | да 2.572 | 100% |
| У тым ліку: | | | | |
| 2) Прыгодных для параходзтва альбо суднаходзтва . . . . | 2.628 | 19% | 428 | 19,4% |
| 3) Для сплаву плытоў альбо суднаў . . . | 3.804 | 41% | 1.559 | 61,6% |
| 4) Толькі для сплаву ў ўрассыпную . . . | 2.337 | 22% | 515 | 20% |
| 5) Якія зусім не скарыстоўваліся . . . | — | — | — | 17% |
| Усяго . . . . | — | — | 3.098 | 100% |

Увесь грузазварот па Бярэзіне й прытоках да вайны адбываўся на паравых і непаравых суднах, на плытох і гнаньне лесу ў рассыпную. Непаравыя судны—бярыліны, гіляры, дубы і інш. Бярыліны, як найбольшыя з непаравых суднаў, хадзілі толькі ніжэй г. Барысава. Даўжыня іх 12—20 сажн., шырыня 4—7 сажн. Увесну яны могуць вазіць грузу на 20—70 тысяч пудоў, у часе межаніны да 5—30 тысяч пудоў. Хаваюцца ў вадзе пры поўным грузе на 1,5-2,25 арш. Гіляры й дубы паднімаюцца вышэй Барысава і заходзяць у такія суднаходныя прытокі, як Сьвіслач, Сяргуч, Ольса і інш.

Сапраўднай суднаходнай часткай, уласна кажучы, тавара-пасажырскай лініяй можна лічыць ніжнюю частку ракі ад гор. Барысава. Паравыя судны—грузавыя, буксырныя, тавара-пасажырскія, параходы й розныя моторныя лодкі. Першыя з гэтых суднаў прывозілі ўвесну з Дняпра грузу да 18 тысяч пудоў за кожны рэйс, трэція да 2—5 тыс. пудоў.

Вясной ніжэй Сьвіслачы сплаўляліся лясныя плыты памерам 20×5, 40×5, 55×7, 20×12, а ў часе межаніны троха меншыя; вышэй Сьвіслачы да Барысава памер плытоў меншы; за Барысавам сплаў адбываецца „ла-

вамі“, памер іх у даўжыню каля 30 сажняў, у шырыню 2 сажн., бываюць і меншыя для таго, каб яны маглі прайсьці праз крутыя зьвіліны ракі, якая ў гэтым месцы вузкая.

Прыблізная шпаркасьць руху непаравых суднаў будзе наступная: 1) уверх па рацэ ад Бабруйску да Барысава бічавой цягай судно йдзе 10—15 дзён, а пры аднадарожным ветры 8—12 дзён, у сярэднім 12—18 вёрст за суткі; 2) уніз-жа гэтую самую адлегласьць судны праходзяць за 3—7 дзён, у сярэднім за суткі 25—30 вёрст.

У мірны час сталая флёта Бярэзіны складалася з 6—8 тавара-пасажырскіх параходаў, з 30—40 непаравых суднаў, ня лічачы больш дробных, якія знаходзіліся ў розных пунктах.

Тавара-пасажырскі рух з Дняпра да Бабруйску і далей—да Барысава заўсёды адбываўся кожны дзень; пачынаючы ад Бабруйску, рух адбываўся ў двух кірунках: 1) каб можна было йсьці ўверх да Барысава, тут груз перакладалі на больш дробныя параходы; 2) грузы, прывезеныя па рацэ, абменьваліся на грузы, прывезеныя па чыгунках. На гэта ад ст. Бярэзіна маецца 2 пераваловачныя чыгункі. На Барысаўскай прыстані, якая зьяўляецца апошнім пунктам другога вучастку р. Бярэзіны, таксама адбывалася перакладаньне грузаў, для гэтага, ад станцыі Барысава пралажана пераваловачная чыгунка.

На працягу ўсяе рэчкі Бярэзіны маецца каля 100 застановачных пунктаў, з іх на верхнюю частку ракі прыпадае да 17 пунктаў, на другі вучастак 55—57 і на ніжнюю частку ракі 20—25 пунктаў. На прытоках у 1923 годзе было зарэестравана 15-17 пунктаў, але фактычна іх больш.

Па вартасьці грузазвароту, згодна з данымі статыстыкі 1913 году, Бабруйская прыстань займае першае месца (2.131 тыс. рубл. апавешч. вартасьці); за ёй ідзе Сінічына (517 тыс. руб.), Крывы-Трук (411 т. руб.), вусьце ракі Бобра (351 тыс. руб.), Барысаў (377 тыс. руб.), ст. Бярэзіна (217 тыс. руб.) і г. д. Больш дробныя прыстані з грузазваротнасьцю на 1 тыс. руб.: Бол, Стахаў, Навасёлкі, Блявочы, Ядліна-Палавіна й г. д.

З даўных часоў вызначаецца экономічнае значэньне Бярэзінскага воднага шляху. Брандэнбурскі пасланік Іван Скултэтус у 1675 г. піша: „Бярэзіна—рака шырокая і (у часе разьліву) шпаркая, па ёй накіроўваецца ў Кіеў шмат хлеба й гарэлкі“.

Дасьледчык Менскай губ. Зяленскі грузазваротнасьць ракі Бярэзіны ў першай палове XIX веку вызначае гэтак: „Кожны год у Барысаў прыходзіць каля 50 байдакаў з хлебам і сольлю. З мяст. Бярэзіна ў Крамянчуг і Рыгу кожны год адпраўляецца лесу на 200.000 руб. У бярэзінскім гандлі галоўнае месца займае гандаль лесам, які пачынае сплаўляцца па Бярэзіне ад таго месца, дзе ў яе ўліваецца рэчка Поня, якая знаходзіцца трохі вышэй мяст. Бярэзіна (першае месца); адсюль ён сплаўляецца на працягу ўсёй ракі. Другое месца—вусьце ракі Гуты,—адгэтуль у Крамянчуг кожны год адпраўляецца каля 10.000 гонкіх калод“.

Як відаць з „Трудов Минского Статистического Комитета“ за 1870 год, грузазваротнасьць па рацэ Бярэзіне, пачынаючы ад таго месца, дзе ўліваецца рака Поня, на плытох і ад гор. Барысава—на суднах, па асобных паветах за 1861—1866 г. можна выявіць у ніжэйпаданых лічбах:

1) з васьмі прыстаняў Барысаўскага павету за шэсьць год было адпраўлена грузаў на 750.777 руб., у сярэднім за год на 170.543 руб.;

2) за тыя-ж 6 год у Чэрвеньскім (Ігуменскім) павеце прывоз-вываз грузаў на 750.777 руб. у сярэднім за год на 58.462 руб.

3) увесь грузазварот у Бабруйскім павеце за 7 год, з 1860 па 1866 год, дасягае да 2.000.000 руб., у сярэднім за год 285.000 руб.

Пры гэтым, галоўныя прадметы ў грузазвароце, — лес адпраўляўся, соль, хлеб, цукар прывозіліся.

З даных „Ведомостей ценности груза“ відаць, што за 14 год, з 1844 па 1857 год, з прыстаняй ракі Бярэзіны было адпраўлена тавараў на 5.456.013 р. За гэты-ж самы пэрыод і да гэтых прыстаняў было падвезена на 6.278.014 руб., у сярэднім за год на 448.430 руб. А ўвесь грузазварот па Бярэзіне за год быў роўны 838.145 руб.

Згодна з данымі „Ведомства Путей Собщения“, за час ад 1844—60 гады сярэдні штогодні грузазварот на вышэйазначаных 3-х вучастках ракі Бярэзіны выяўляецца ў наступным:

1) на Лепельскай дыстанцыі (верхняя частка ракі) 112.440 рубл.; 2) на Барысаўскай на 487.044 рубл. і 3) на Бабруйскай на 189.029 руб. Усяго на трох вучастках на 786.513 руб.

Агляд сельска-гаспадарчай прамысловасьці за даны пэрыод паказвае, што рака Бярэзіна працякае па такіх раёнах, у якіх хлеба менш сеецца, чым яго патрэбна для мясцовага ўжываньня. Для таго, каб цалкам задаволіць запатрабаваньні на хлеб, з прыдняпроўскіх губэрань уверх па Бярэзіне прывозіліся хлебныя продукты, менавіта: 1855—60 г. к прыстаням бабруйскай дыстанцыі было падвезена хлебных продуктаў у вагульнай суме на 154.235 руб. і к барысаўскай—на 305.307 руб. З гэтага відаць, якое важнае значэньне мае гэта рака ў адносінах да забясьпекі жыхарства хлебнымі продуктамі.

У 1900 гадох, па даным Ястрэмскага, на аснове перапісу 1897 году і сярэдняга валавога збору хлеба з дзесяціны за 1888—1902 г., выяўлена, што па Менскаму павету не дастае хлеба на душу 2,7, па Барысаўскаму—0,6, па Бабруйскаму—0,6, уся гэта недастача папаўняецца прывозным хлебам. Пры гэтым, маючы на ўвазе, што ўвесь хлебны грузазварот па Бярэзіне з прытокамі быў ровен 264.200 пуд., увоз ува ўсю губэрню 171.000 пудоў, што складае 65 проц. ад усяго грузазвароту па Бярэзіне, і ад грузазвароту па ўсёй губ. 57,6 проц. Азначаная колькасьць прывезенага хлеба вызначае рух зьнізу ўверх, інакш кажучы, з Дняпра на Бярэзіну. Апрача хлеба, Украіна давала на Бярэзіну да

168.600 пуд. солі, 46.600 пудоў цукру і шмат іншых тавараў, якія амаль што цалкам спажываліся ў прыбярэзінскім раёне. Вельмі важнае месца ў грузазвароце Бярэзіны займае лес: лясныя матэрыялы і дровы ў агульнай суме складаюць 11.734.800 п. Частка гэтага грузу спажывалася ў мясцовых раёнах, а частка экспартавалася на Заходнюю Дзьвіну і на Дняпро. Лясны матэрыял, які вывозіцца па Бярэзіне й яе прытоках за год, перавышае ўвесь вываз па Бярезіне ў сярэднім на 75,9 проц. Падлічыўшы ўсе сярэднія гадавыя звароты па галоўным рэкам за 1901—5 гады, атрымаем увесь грузазварот па Менскай губ.—101.222.200 пуд. розных грузаў, па Бярэзіне і яе прытоках—37.420.600 пуд., альбо 37,7 проц., на Прыпяці з прытокамі—45.450.400 пуд., альбо 44,9 проц., ад усяго грузазвароту па быўшай Менскай губ. Ястрэмскі зазначае, што чыгункі працавалі ў два разы больш інтэнсыўна, чымся водныя шляхі, напрыклад, у 1901—5 г. тавараў, якія прывозіліся і вывозіліся ў межах аднэй губ., на чыгунках на адну вярсту прыходзілася—64.425 пудоў, а на водных шляхох толькі 29.030 пудоў. Сярод рэк Дняпроўскага вадазбору па інтэнсыўнасьці грузазвароту першае месца займае р. Бярэзіна з прытокамі, якая на адну вярсту ракі мае 55 тысяч пудоў грузазвароту. Увесь-жа яе грузазварот складае 37 проц., ад усяго грузазвароту па губэрні трэцяе месца займае Прыпяць, грузазвароту на якой на адну вярсту прыходзіцца 21,7 тыс. пудоў, увесь яе грузазварот складае 44,9 проц. ад агульнага грузазвароту.

Па даным статыстыкі шляхоў зносін, увесь грузазварот толькі па рацэ Бярэзіне ў 1913 годзе быў ровен 43.400.000 пудоў, кошт усяго гэтага грузу (па апавешчанай вартасьці)—14.565.000 руб., з гэтага ліку 17.385.000 пуд. прыходзілася на той груз, які перавозіўся на суднах на суму 9.233.000 руб., і 26.125.000 пуд. на той груз, які перавозіўся на плытох на 5.322.000 руб. Азначаны грузазварот адбываўся па галоўнай артэрыі ракі. Але для таго, каб больш яскрава ўявіць грузазварот на рацэ, патрэбна ўзяць пад увагу грузазварот на яе прытоках, бо суднаходна-сплаўныя прытокі дастаўляюць значную частку грузу на галоўны водны шлях. Грузазварот-жа па прытоках Бярэзіны за гэты-ж самы год відаць з наступных лічбаў: усіх тавараў адпраўлена і прывезена 4.555.000 пуд. на 756.000 руб. Увесь грузазварот па Бярэзіне з прытокамі за год быў ровен 47.955.000 пуд. на суму 15.321.000 руб. Уся колькасьць адпраўленьня—2.575, прыбыцьця—2.502, а ўсяго за час навігацыі пракурсыравана 3.075 суднаў і 5.950 плытоў. З гэтага ліку паравых суднаў было адпраўлена 1.044, на якіх было адвезена 541.000 пудоў грузу на 2.003.000 руб. Галоўныя тавары, якія знаходзіліся ў грузазвроце: дровы і лясныя матэрыялы, збожжа, цукар. Рух лясных грузаў па галоўнай артэрыі відаць з наступнага: прыбывала зьнізу і зьверху ракі—11.185.000 пуд, адпраўлялася 26.748.000 пуд.; як бачым, усяго грузу ў звароце—37.933.000 пуд., што складае 87,4 проц. ад усяго грузазвароту.

Калі да ўсяго гэтага дададзім яшчэ гадавы грузазварот па прытоках—4.522.000 пуд., дык атрымаем лічбу 42.450.500 пудоў, якая вызначае ўвесь лесагрузазварот па Бярэзіне і яе прытоках; гэтая лічба складае 97,7 проц. ад усяго грузазвароту па рацэ. З гэтага ліку 11.830.000 п. перавозілася на суднах і 30.625.000 пуд. сплаўлялася на плытох.

Было адпраўлена ўніз па рацэ 22.228.000 пуд. ад усяго лесагрузазвароту, з гэтае колькасьці 7.173.000 пуд. прыбыло ў ніжнюю частку Дняпра на прыстані: Кіеў, Кацерынаслаў, Ніжадняпроўск, Крамянчуг, Чаркас і Хярсон, з іх 584.000 п. на суднах і 6.589.000 пуд. на плытох, а ўсяго—7.173.000 пуд. Гэта ўсё складае 10,6 проц. ад усяго ляснога грузу на Бярэзіне з прытокамі, які вызначаўся для навігацыі. Застаецца 15.055.000 пуд. перакласьці з ракі ў іншыя пункты. З верху прыбыло лясных грузаў у Бабруйск 6.456.000 пуд. і ў Рэчыцу 1.835.000 пуд., а ўсяго ў гэтыя два пункты з Бярэзіны прыбыло 8.291.000 пуд. Нарэшце, астатні груз, які накіроўваўся ўніз, разьмяркоўваўся на дробныя часткі, у розныя пункты для спажываньня.

Цукру і цукровага пяску ўсяго было ў грузазвароце 386.000 пуд., з іх прывезена 350.000 пуд. і адпраўлена 36.000 пуд. Прымаючы пад увагу, што ўвесь цукар не мясцовага вырабу і што ў перагрузачным транзіце знаходзіцца 36.000 п., можна зрабіць вынік, што на мясцовае карыстаньне пашло 314.000 пуд. ад азначанага грузу.

Хлебнага грузу прыбывала зьнізу 592.000 пуд., а адпраўлялася ўверх 89.000 пуд. Як бачым, на месцы заставалася 503.000 п.

Солі ў грузазвароце ўсяго было 308.000 пуд., з якіх адпраўлялася 11.000 пуд., а на патрэбы мясцовага жыхарства прывозілася 297.000 пуд.

Усе грузы прыбывалі з Дняпра.

Рух грузаў з Бярэзіны на Дняпро адбываўся досыць слаба, усяго (ня лічачы лесу) 1.452.000 пудоў. Большую частку гэтага грузу складае сельска-гаспадарчая сыравіна.

Па даным статыстыкі за 1913 год, усяго за год праехала пасажыраў на параходах ад Лоева да Барысава 70.000 чалавек, што складае 36,9 проц. ад усяго ліку пасажыраў па вадазборы Дняпра.

Па даным транспортнай статыстыкі, у 1922 г. па Бярэзіне праехала 3.358 чалавек, гэта складае 0,6 проц. ад усяго ліку пасажыраў Дняпроўскага краю. Рух пасажыраў па Бярэзіне з 1913 да 1922 году зьнізіўся да 4,2 проц., інакш кажучы, для насельніцтва Бярэзіна амаль што зусім перастала быць шляхам зносін.

З статыстыкі шляхоў зносін за 1922 г. відаць, што ўвесь грузазварот па Бярэзіне быў ровен 512.000 пуд., з якіх 427 тыс. пуд. складае лясны груз, а астатні груз прыпадае на соль, хлеб і інш.

Па даным ЦСУ, увесь грузазварот па Бярэзіне ў 1924 годзе вызначаецца ў 8.245.272 пуд. 7.088.898 пуд. ад гэтага ліку складае лясны

груз (3.025.400 пуд. дроў і 4.063.498 пуд. лясных матэрыялаў), 4.393 пуд. збожжа, солі 83.000 пуд. і іншых грузаў 1.058.981 пуд.

Дынаміку грузазвароту па Бярэзіне ў 1901—5, 1913—22—24 г. г. (сярэдняя лічба) у процантных адносінах можна бачыць з наступнай табліцы.

| НАЗВА ГРУЗАЎ | 1901—5 (сярэдн.) | | 1913 г. | | 1922 г. | | 1924 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць | % | Колькасьць | % | Колькасьць | % | Колькасьць | % |
| Увесь грузазварот па р. Бярэзіне | 37.410.600 | 100 | 43.400.000 | 112 | 512.000 | 1,4 | 8.245.272 | 22,1 |
| а) хлебны груз . | 264.200 | 100 | 739.000 | 679 | 23.000 | 8,7 | 5.393 | 1,7 |
| б) лясны груз . . | 37.146.400 | 100 | 37.733.000 | 102 | 427.000 | 1,2 | 7.088.898 | 19.1 |
| в) соль . . . . | — | — | 308.000 | 100 | 83.000 | 27 | 1.000 | 0,3 |

З гэтай табліцы відаць, што грузазварот, які да 1922 году быў у занядзе, у 1924 годзе значна павялічыўся, прычым павялічэньне грузазвароту адбывалася выключна лясным грузам, які сплаўляўся ўніз. Узяўшы пад увагу ёмкасьць лесу (па даваеннай норме), у Бабруйску й Рэчыцы у 1901—13 гадох, з аднаго боку, і з другога, фактычны сплаў (даныя ЦСУ) лясных матэрыялаў па Бярэзіне ў 1924 годзе, патрэбна адзначыць, што сплаў па Бярэзіне ў 1924 годзе пакрывае на 85,5 проц. той прывоз лясных грузаў у вышэйазначаныя пункты, які быў у 1913 годзе.

Па спраўках Лесбелу, увесь сплаў лесу па Бярэзіне ў 1924 годзе быў ровен 22.001 кубу лесавога матэрыялу і 9.810 кубам дроў і бандарных матэрыялаў, а ўсяго лесавога грузу 31.811 кубаў, калі-ж мы гэты груз захочам выявіць у вагавых адзінках, то, бяручы 365 пудоў за сярэднюю вагу ляснога грузу, па сярэдняй простай на лесавы матэрыял прыдзецца 8.448.384 п. і на дровы 3.188.250 пудоў, а ўсяго 11.636.634 п.

Як відаць з даных НКЗ, у вадазборы ракі Бярэзіны знаходзіцца каля 30 лясьніцтваў; 10 лясьніцтваў з гэтай лічбы знаходзяцца амаль што зусім каля ракі альбо ва ўсякім выпадку не далей, як на працягу 0—20 вёрст. Вось гэта й дае магчымасьць без усялякіх цяжкасьцяй даставіць на раку лесавым атэрыял. Увесь запас лесу ровен 740.958 дзес., адпускаючы кожны год на вырубку 5.020,9 дзесяц. з 136.800 куб. сажняў на суму 1.882.600 р. Калі прымем у разрахунак 50 проц. ад усяе колькасьці, якія адпускаюцца на мясцовыя патрэбы, то для экспорту застанецца 34.700 кубаў першых сортымэнтаў і 33.800 кубаў дроў; усё гэта, па таксе 1914 году, каштуе 841.300 руб. Калі перавядзем на пуды запас драўніны, прызначанай для экспорту, якая знаходзіцца ў лесасеках раёнаў Бярэзіны, лічачы адзін кубічны сажань за 365 пуд., то атрымаем наступныя лічбы: 365×(33.800+34.700)=24.902.500 пуд., якія вызначаюць увесь

запас лесу, прызначанага для экспорту; як ужо зазначалася па даным ЦСУ, з усёй гэтай колькасьці ў 1924 г. знаходзілася ў грузазвароце на Бярэзіне 7.088.898 пуд. Як бачым, на іншыя шляхі й у лесасеках застаецца 17.813.602 пуд., альбо 71 проц. ад усяго экспорту, які меўся адбыцца.

Бязумоўна, апошнія лічбы ня могуць быць зусім вычэрпваючымі па дзьвюх прычынах: папершае, пры перакладзе кубічнага сажня драўніны на пуды ўзяты розныя вагавыя адзінкі; мной узят куб за 365 пуд., рахунковая лічба ЦСУ невядома; падругое, гады мірнага часу ня могуць быць бясспрэчнымі паказальнікамі ўжо з тае прычыны, што ў той час агулам быў анархічны спосаб вядзеньня гаспадаркі, а лясы дык асабліва зьніштажаліся іх уласьнікамі, і лесавы груз на рацэ зьяўляўся выпадковай велічынёй, якая залежала ад комэрцыйных выгад, а не ад наліčча сырых матэрыялаў і ад агульнага пляну гаспадаркі, якога пры капіталістычным строі й не магло быць. Узяўшы пад увагу ўсю плянавасьць соцыялістычнай гаспадаркі агулом, надзвычайную вырубку лесу за пэрыод імпэрыялістычнай вайны й асабліва за час пераходу да плянавай гаспадаркі, можна беспамылкова сказаць, што ў сучасны момант вырубка лесу й лесавы грузазварот, якія рэгулююцца адпаведнымі ўстановамі, значна менш таго, што магло быць пры драпежніцкім спосабе вядзеньня лясной гаспадаркі. Такім чынам, колькасьць драўніны, якая была прызначана для экспорту, але ня выкарыстана, павінна быць значна зьніжана ў параўнаньні з мірным часам.

Па спраўкам Лесбелу, у сучасны момант увесь грузазварот лесу не даходзіць да украінскага рынку, як гэта было да вайны, а спажываецца на мясцовых фабрыках і заводах. Разьлічваючы на тое, што об'ектыўныя ўмовы не выключаюць магчымасьці аднавіць сплаў нашага лесу на поўдзень, у будучыне можна чакаць, што драўніна, вызначаная для гадавога грузазвароту й не скарыстаная на бабруйскіх і барысаўскіх фабрыках і заводах, будзе спажывацца на Украіне, а калі адновіцца Бярэзінская сыстэма, то будзе сплаўляцца й на Заходнюю Дзьвіну.

Зусім сьцьвярджаюць гэтае палажэньне лічбы, якія вызначаюць сплаў лесу на Украіну ў 1924 г. а іменна: у 1924 годзе на поўдзень вывезена каля 4.000 кубаў ляснога матэрыялу; калі лічыць у сярэднім кубічны сажань за 365—370 пудоў, то гэта будзе каля 1.480.000 пудоў, гэта складае 20,6 проц. ад усяго лесу, які экспартаваўся на поўдзень у 1913 г.

Зразумела, што аднаўленьне грузазвароту паміж Украінай і тымі раёнамі Бярэзінскага вадазбору, якія спажываюць, залежыць ад дзьвюх прычын: об'ектыўнага парадку й суб'ектыўнага, г. з. ад сучаснай ёмкасьці нашых рынкаў і ад таго, колькі ў нас ёсьць сырых матэрыялаў (об'ектыўныя прычыны), а суб'ектыўныя—гэта тое, ці прыгодны будуць шляхі для бесьперашкоднага руху. У першым выпадку гэтае аднаўленьне магчыма таму, што Украіне вельмі патрэбен лес (аб гэтым сьведчыць тая

цана на лясныя матэрыялы, якая існуе на Украіне), і яна мае іншыя тавары, якія могуць задаволіць патрэбы жыхарства вадазбору ракі Бярэзіны, а таксама й таму, што ў вадазборы р. Бярэзіны, у азначаных лясьніцтвах маецца шмат лесу, які быў прызначаны для вырубкі і які мясцовай прамысловасьцю не скарыстаны нават так, каб задаволіць запатрабаваньні Украіны на лес, хоць-бы па нормах 1905 году. У другім выпадку, аднавіць нормальны грузазварот, які-б адпавядаў колькасьці нашых сырых запасаў і ёмкасьці адпаведных рынкаў, немагчыма, з тае прычыны, што гэтаму не дазваляе дрэнны стан нашага воднага шляху.

Маючы перад сабою малюнак росту ўсёй прамысловасьці, якая жадае ўзьняцца да даваеннага ўзроўню, патрэбна прызнаць, што гэты рост сам сабой пракладае шляхі зносін. Як паказаў аналіз дынамікі грузавароту, рака Бярэзіна зьяўляецца адным з такіх шляхоў, як у адносінах да сувязі з Заходняй Дзьвіной і Украінай, і асабліва адносна пункту мясцовай прамысловасьці, да якіх належаць Барысаў, Бабруйск і Рэчыца. Налічча ў вадазборы р. Бярэзіны, асабліва ніжэй Барысава, сырой драўніны ў поўнай меры забясьпечвае паступовае разьвіцьцё сярніковай і папяровай прамысловасьці ў азначаных пунктах і ва ўсякім выпадку, у мясцох воднай артэрыі й вадазборы Дняпра. На падставе гэтага палажэньня ўзьнікае патрэбнасьць прывесьці водныя шляхі ў поўную прыгоднасьць для таго, каб па іх мог адбывацца грузазварот, гэта значыць для таго, каб задаволіць прамысловыя пункты сырызнай і патрэбнымі харчамі, а таксама для сувязі з раёнамі збыту—патрэбна добрае суднаходзтва.

Калі прыняць пад увагу ўвесь грузазварот па рацэ Бярэзіне ў 1913 г., які быў ровен 37.410.600 пуд., гэта складае 21,5 проц. ад усяго грузавароту па Менскай губ., і ўдзел р. Бярэзіны ў 1922—24 г.г. у вагульным грузавароте БССР у сапраўдных яе межах, то ўбачым, што ў 1922 г., пры агульным грузавароце ў 14.259.000 пуд., на грузазварот па Бярэзіне прыпадае 0,4 проц., а ў 1924 г., пры агульным грузавароце ў 151.400.000 пуд., грузазварот па Бярэзіне складае 8.245.272 пуды, альбо 5,4 проц., і, урэшце, пры агульным водным грузавароце, які ровен 22.718.287 пуд., грузазварот па р. Бярэзіне складае 36,2 проц. ад усяе гэтае колькасьці.

З вышэйазначанага можна бачыць заняпад грузавароту на Бярэзіне да 1922 году і як ён відавочна пачаў расьці ў 1924 годзе; гэта дае права спадзявацца на тое, што грузазваротнасьць па рацэ Бярэзіне будзе павялічвацца да таго часу, покі ня займе ўва ўсёй грузазваротнасьці таго месца, якое займала ў апошнія гады даваеннага часу. Калі будзем раўнаць таваразваротнасьць ракі Бярэзіны з плошчай яе вадазбору (плошча гэтага вадазбору, згодна вылічэньняў А. А. Цілло, роўна 21.438 кв. вёрст), дык атрымаем у процантах такія лічбы: 1901—5 гады таваразваротнасьць на адну кв. вярсту роўна 1.745 п.—100 проц., у 1913 г.—2.024 п.

альбо 116 проц., у 1922 годзе 23 п.—1,4 проц., і, урэшце, 1924 г.—384,6 п. альбо 21,1 проц. Тэндэнцыя да павялічэньня таваразваротнасьці на рацэ Бярэзіне адбываецца, ня гледзячы на ўсе цяжкасьці. Усё гэта кажа аб патрэбе падтрыманьня ракі Бярэзіны з боку суднаходзтва. Гэтае падтрыманьне моцна злучана з разьвіцьцём мясцовае прамысловасьці і агульнымі інтарэсамі ўсяе БССР.

Апошнія (лясныя) грузы, па даным НКЗ, не скарыстоўваюцца цалкам, што ў сыстэме плянавай гаспадаркі з экономічнага пункту погляду зьяўляецца адмоўным бокам.

Індустрыялізацыя нашай гаспадаркі нямінуча вядзе да концэнтрацыі як паасобных галін, так і ўсёй прамысловасьці цалкам. Усе-ж зборныя пункты павінны групавацца як у тых раёнах, дзе знаходзіцца сыравіна, таксама і каля выгодных шляхоў зносін (водныя шляхі); з даўных часоў, на падставе экономічных прымет, такія пункты знаходзяцца ў вадазборы ракі Бярэзіны—гэта Барысаў і Бабруйск, якія жывяцца ня толькі таварамі з водных шляхоў, але яшчэ маюць надзвычайна добрыя чыгункі, шасэйныя і грунтавыя шляхі. Названыя прамысловыя пункты Беларусі, маюць усё патрэбнае для разьвіцьця сваёй прамысловасьці ня толькі да даваеннай нормы, а нават могуць разьвіваць яе і больш, таму што яны могуць скарыстоўваць ня толькі ўсю мясцовую сырызну, а нават і тую, якая падвозіцца па Бярэзіне.

Калі сябра колегіі НКШЗ тав. Халатаў на бягучым пленуме ЦК чыгуначнікаў у Маскве, кажучы аб стане транспорту, зазначае аб утвараньні „ножніц“ паміж прамысловасьцю і транспортам, то адносна прамысловасьці ў вадазборы р. Бярэзіны і грузазваротнасьці па самой Бярэзіне гэтыя ножніцы будуць больш значнымі, а іменна: у той час, як прамысловасьць у саюзным маштабе, у параўнаньні з 1913 г., у 1925—26 г. даводзіць сваю вытворчасьць да 95 проц. даваеннай, а ўвесь транспорт—да 75 проц. даваеннага, і нутраны грузазварот на раках—40 проц., грузазварот на Бярэзіне дасягае толькі да 21,1 проц. даваеннага грузазвароту, ня гледзячы на тое, што прамысловасьць у гэтым раёне расьце ў поўнай меры.

З тае прычыны, што наогул транспорт мае вялікае значэньне ў разьвіцьці прамысловасьці, а яшчэ ўзяўшы пад увагу тое, што Бярэзіна—галоўны шлях, па якому падвозяць сырызну на заводы і фабрыкі Барысава і Бабруйску, то трэба проста паставіць значэньне і разьвіцьцё гэтага шляху ў залежныя суадносіны з паступовым разьвіцьцём прамысловасьці й наогул экономічнага жыцьця ня толькі названых раёнаў, а і цалкам усяе БССР. Такая роля транспорту ўва ўсёй народнай гаспадарцы, а Бярэзіны ў маштабе БССР, бязумоўна, патрабуе найхутчэйшага аднаўленьня суднаходзтва на Бярэзіне. Прамысловае ажыўленьне, у сваю чаргу, у значнай меры дапаможа разьвіць таварнасьць сялянскай гаспадаркі, вызываючы гэтым самым ажыўленьне таваразваротнасьці паміж горадам і вёскай.

Узрост сельскай гаспадаркі на падставе яе спэцыялізацыі разьвівае сельска-гаспадарчую прамысловасьць, якая, па даным НКЗ, будзе мець большы ўхіл у бок жывёлагадоўлі й разьвядзеньня бульбы, а ў ніжніх частках цячэньня ракі Бярэзіны і разьвядзеньня садавіны (Бабруйскі раён). Бязумоўна, у сучасны момант трудна вызначыць паступовы рух разьвіцьця таварнасьці сельскай гаспадаркі, але ўсё-ж такі можна сказаць, што, знаходзячыся пад уплывам такіх фактараў, як абмен прамысловай вытворчасьці на сельска-гаспадарчую вытворчасьць, інакш кажучы, ад вывазу на рынак і ад увозу ў гаспадарку, гэтае разьвіцьцё штогод паступова павялічваецца.

З гэтага можна зрабіць вывад, што рух грузаў па шляхох зносін увогуле, а ў прыватнасьці па Бярэзіне, павінен дасягнуць ня толькі да даваеннай нормы, але прогрэсыўна разьвівацца далей. Ужо зараз інтэнсыфікацыя сялянскае гаспадаркі мае нахіл да пераходу ад зернявое гаспадаркі да працаёмкіх культур (бульба, гародніна, садоўніцтва і інш.). Гэты пераход тлумачыцца недахопам зямлі. Зараз сялянства шукае магчымасьці павялічыць вытворчасьць сваёй гаспадаркі не павялічэньнем засяўной плошчы, а шляхам паглыбленьня культур. Гэта паглыбленьне культур, у сваю чаргу, вымагае шмат працы, а ад гэтага зьмяншаецца лік беспрацоўных. У вадазборы ракі Бярэзіны (Бабруйскі раён) аднэю з працаёмкіх культур зьяўляецца садоўніцтва. У даваенны час тут гэтая культура мела прамысловае значэньне толькі ў панскіх гаспадарках, у сялянскай-жа гаспадарцы яна мела толькі спажывецкае значэньне. З разьвіцьцём коопэрацыі й пасьля вырашэньня аграрнага пытаньня заўважваецца, што садоўніцтва ў сялянскай гаспадарцы імкнецца набыць прамысловы характар. Ідэя аб садоўніцтве на пасёлках як нельга лепей вырашае гэтае пытаньне. Калі-ж садоўніцтва будзе мець прамысловае значэньне, то патрэбна будзе пераапрацоўваць фрукты, а гэта павялічыць сельска-гаспадарчую прамысловасьць увогуле. Пашырэньне прамысловасьці запатрабуе шмат топліва, якое ў выглядзе каменнага вугалю й нафты будзе прывозіцца па воднаму шляху з Украіны. Ва ўсіх гэтых пэрспэктывах рака Бярэзіна, як шлях зносін, павінна будзе адыграць першую ролю.

Што для БССР Бярэзіна мае значэньне, як шлях, па якім адбываецца сплаў і суднаходзтва, відаць з наступнага: вадазбор яе займае досыць вялікую плошчу, па якой цячэ шмат прыток і каналаў, якія прыгодны для сплаву і нават для суднаходзтва; усе гэтыя прытокі й каналы цякуць па самых глухіх мясцовасьцях вадазбору і нясуць у галоўную артэрыю—Бярэзіну—ня толькі свае воды, але і груз, праўдзівей, лясны груз. Лясная гаспадарка на Беларусі мае вельмі выдатнае значэньне. Яна, аддаючы на рынак тавар, здольна даваць працу беспрацоўнаму жыхарству вёскі, аб гэтым сьведчыць практыка мінуўшчыны. Але правільная і экономічна выгодная эксплёатацыя лясных багацьцяў у значнай меры залежыць ад

налічча і становішча шляхоў, якія знаходзяцца ў раёне гэтых лясоў. Вось маючы гэта на ўвазе, раку Бярэзіну патрэбна прывесьці ў такі стан, каб яна была прыгодна ня толькі для сплаву, а, галоўным чынам, для суднаходзтва, бо гэтага вымагаюць інтарэсы мясцовае гаспадаркі.

Згодна даным Мэйена, лясная і дрэваапрацовачная прамысловасьць у 90-ыя гады давала працу ня толькі беспрацоўным Менскай губ., але шмат каму і з іншых губэрань. Зараз на Беларусі маецца шмат беспрацоўных і шмат лясных матэрыялаў, якія на месцы павінны быць пераапрацаваны ў тавар, годны для вывазу на нутраныя і замежныя рынкі.

У мінуўшчыне саматужная прамысловасьць у лясных раёнах давала працу даволі значнаму ліку жыхарства. У сучасны момант гэта прамысловасьць знаходзіцца ў заняпадзе, а гэта сьведчыць аб тым, што шляхі зносін ад месца вырабу да месца збыту знаходзяцца таксама ў заняпадзе. Асабліва гэта тычыцца да водных шляхоў, бо яны, як больш танныя, лепш адпавядаюць для перавозкі тавараў саматужнага вырабу. З гэтага пункту погляду рака Бярэзіна павінна зрабіцца такой, каб змагла ў патрэбнай меры абслугоўваць нашы гарады і вёскі.

Гэтае значэньне павялічваецца таму, што на ўсім сваім працягу яна ня мае конкурэнта—іншых шляхоў зносін, а ў перасячэньнях датыкаецца да галоўных чыгунак, дзе з прычыны неабходнасьці адбываецца перакладаньне тавараў.

Гэтае выгоднае палажэньне ракі стварае для яе гэткую пэрспэктыву: па ёй будуць перавозіцца тавары сельска-гаспадарчага вырабу, якія тут маюцца быць ад пераапрацоўкі бульбы й продуктаў, якія дасьць жывёлагадоўля.

Нарэшце, за разьвіцьцём прамысловасьці ідзе і разьвіцьцё гарадзкога жыцьця, а ад апошняга залежыць комунальнае і інш. будаўніцтвы. Прадбачыцца досыць значны падвоз матэрыялаў для будаваньня, як мясцовага вырабу, таксама й прывознага. Дастаўляць-жа гэтыя матэрыялы больш выгодна па рачных шляхох, чымся па чыгунцы з тае прычыны, што яны досыць цяжкія. Дзеля гэтага ў раёнах, дзе згрупаваны прамысловыя прадпрыемствы, на рацэ патрэбна чакаць значнага грузазвароту будоўных матэрыялаў. Хоць гэта і вельмі важна, але яно стане фактам толькі тагды, калі суднаходзтва на рацэ будзе знаходзіцца ў такім стане, што зможа задаволіць матэрыяламі рабочае й гарадзкое будаўніцтва, якое ўвесь час разьвіваецца.

Прымаючы пад увагу, што разам з ростам насельніцтва, рост якога падпарадкуецца законам складаных процантаў, растуць і сродкі вытворчасьці, то можна лічыць, калі ў 1909 годзе грузазварот быў ровен 5.000.000, а ў 1913 г.—8.000.000, што ў 1928 годзе ў ідэальным выпадку, калі будзе штогод расьці на 10 процант., грузазварот дасягне 40.000.000, альбо 800 процант. сваёй пачатковай базы. Гэты рост таваразваротнасьці на Бабруйскай прыстані, мабыць, павінен быў-бы набліжацца да азначанай

лічбы. Але, прымаючы пад увагу цэлы шэраг акалічнасьцяй, якія існавалі ў часе капіталістычнага спасабу вядзеньня гаспадаркі, а таксама разруху гаспадаркі за час вайны, окупацый і пераходнага пэрыоду да соцыялістычнага будаваньня, патрэбна зазначаныя пажаданьні значна зьнізіць. Пры гэтым у будучыне рух таваразваротнасьці павінен залежыць ад плянавасьці соцыялістычнага будаваньня.

Такі-ж самы малюнак адносна пэрспэктывы на ўсю таваразваротнасьць можна будзе назіраць і ў Барысаве і ў іншых пунктах, а таксама і на ўсёй артэрыі рэкі.

Пры такіх абставінах будзе зусім рацыянальна чакаць належнага паляпшэньня шляхоў зносін як у сэнсе абсталяваньня, так і ў сэнсе ўдасканаленьня транспорту. Вось чаму, у зьвязку з агульным матэрыяльным паляпшэньнем, водны шлях па Бярэзіне патрэбна зрабіць такім, якога патрабуе народная гаспадарка краю, і асабліва важна, каб ён быў прыгодны для абмену тавараў паміж горадам і вёскай.

І калі НКШЗ, грунтуючыся на заключэньні „Правления Речных Гоcпароходств", робіць вывад, што скарачэньне зямлячарпальных, даачышчальных і іншых прац шкодна для дзяржаўных установ і прадпрыемстваў, якія займаюцца суднаходзтвам і сплавам, а калі дапасаваць гэтае з ракой Бярэзінай у сучасным яе стане, то патрэбна прызнаць, што яе сучасны стан проста шкодны як для ўстаноў, якія непасрэдна зацікаўлены таваразваротам па названым шляху, так і для ўсёй гаспадаркі БССР.

Калі параўнаць Бярэзіну з яе сёстрамі—Дзяснои і Прыпяцьцю ў сэнсе значэньня іх, як шляхоў зносін, то ўбачым наступны малюнак.

| Гады | Уся Дняпроўская сыстэма | Проц. | Асобныя прытокі. | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Бярэзіна | Проц. | Прыпяць | Проц. | Дзясна | Проц. |
| 1913 | Вадазбор Дняпра 5,48.928 | 100 | 47.955 | 8,7 | 87,914 | 16 | 33.476 | 5.6 |
| 1922 | Дняпроўская краіна 35.900 | „ | 512 т. | 1,4 | 1.737 | 4,8 | 1.643 | 4,5 |
| 1924 | Дняпроўская сыстэма 22.718.287 | „ | 8.245.272 | 36,3 | 5.033.187 | 22,2 | няма | |

З гэтай табліцы відаць, што ў 1913 г. ў адносінах грузазвароту р. Бярэзіна займала другое месца—ніжэй за Прыпяць і вышэй за Дзясну. У 1922 годзе Бярэзіна сваё месца ўступае Дзясьне, і, апрача гэтага, грузазварот па ёй усё больш і больш зьніжаецца. У 1924 годзе груза-

зварот на Бярэзіне ў сучасных межах БССР перавышае грузазварот на Прыпяці на 165,5 проц. Увесь гэты рост грузазвароту адбыўся, дзякуючы вялікаму сплаву лясного грузу, які ў 1924 годзе складае 86 проц. ад усяго грузазвароту па рацэ. Калі ўзяць лічбы грузазвароту лясных матэрыялаў па раках Прыпяці, Дзясьне й Бярэзіне і паглядзець, які процант яны складаюць ад усяго грузазвароту на кожнай з гэтых рэк, то процант лясных грузаў на р. Бярэзіне досыць вялікі, а іменна: па рацэ Прыпяці—78,7 проц., Дзясьне—87,8 проц., і па Бярэзіне ў 1922 г.—83,4 проц. і 86 проц. у 1924 г.

Хуткі рост руху на рацэ Бярэзіне лясных матэрыялаў, якія йшлі на задавальненьне мясцовых запатрабаваньняў, а таксама й тое, што, маючы на мясцох вялікія запасы лясных матэрыялаў, гэты рост імкнецца заняць на Украіне сваё ранейшае палажэньне,—гэта ўсё разам забясьпечвае паступовасьць гэтага росту. Праўда, у сучасных умовах пытаньне аб экспорце лесу на Украіну патрэбна дадаткова выявіць і вывучыць. Зараз-жа, ставячы гостра пытаньне толькі аб Бярэзіне, як аб водным шляху мясцовага значэньня, усе-ж такі патрэбна гэтае пытаньне ўзгадніць з пытаньнем аб усёй сыстэме; пытаньне-ж аб усёй сыстэме, грунтуючыся на матэрыялах Фінансава-Экономічнай Сэкцыі, было вырашана ў Прэзыдыуме Дзяржпляну 18 лістапада 1924 г. ў тым кірунку, каб аднавіць шлях для сплаву лесу з Бярэзіны на Заходнюю Дзьвіну.

Узяўшы пад увагу: 1) што перавоз на чыгунках наогул даражэй, чымся па рацэ, 2) што, дзякуючы няспраўнасьці воднага шляху, усе грузы, якія зварочваюцца на ім, у даным выпадку тыя, што павінны прывозіцца ў вадазбор ракі Бярэзіны—соль, цукар, пшанічная мука і інш., абавязкова будуць падвозіцца на чыгунках—а падвоз на чыгунках вымагае павялічэньня накладных выдаткаў,—гэтая павялічаная частка выдаткаў роўна тэй розьніцы, якая існуе паміж тарыфнай стаўкай на чыгунцы і на водным шляху, і, нарэшце, 3) што калі адновіцца суднаходзтва па р. Бярэзіне, то ўсе тавары, якія павінны ўвозіцца ў даны вадазбор па рацэ, вернуцца на сваю ранейшую дарогу, а з гэтае прычыны зьнізіцца накладная частка выдаткаў, якая накладалася на тавары, што спажываліся ў большай колькасьці—з гэтага пункту погляду патрэбна прызнаць аднаўленьне ракі Бярэзіны, як шляху для суднаходзтва, мэтазгодным.

Справядлівасьць толькі што зазначанага доваду лёгка сьцьвярджаецца на практыцы. Так, працаўнік І. М. Вільк, які доўгі час працаваў на транспорце, а зараз працуе на Менскай таварнай біржы, дае характэрны падлік кошту за перавозку Менск—Кацерынаслаў па водна-зьмешаным шляху і выключна па чыгунцы. У першым выпадку тавар ідзе праз перагрузачную прыстань Гомель (апошні пункт, дзе ходзяць вялікія нізавыя судны). Пры гэтым, правоз кожнага пуду тавараў, пры максымальнай цане за пуд, каштаваў ад Кацерынаславу да Гомлю 24 кап., перакладка ў Гомлі—3 кап. і ад Гомлю да Менску—30 кап., а ўсяго 57 капеек

за пуд. Знаходзіўся груз у дарозе: ад Кацерынаславу да Гомлю—4 дні і далей да Менску—2 дні, а ўсяго—6 дзён. Калі-ж гэты груз перавезьці на чыгунцы за 6 дзён (даваенны час) то, па тарыфах, якія існавалі ў даваенны час на вялікую скорасьць, перавозка аднаго пуду будзе каштаваць 1 руб. 60 кап. Вышэй тарыфу на водна-мешаным шляху 1 руб. 3 капейкі. Калі-ж бы гэты груз ішоў малой скорасьцю, то ў дарозе ад Кацерынаславу да Менску ён-бы знаходзіўся 14 дзён і правоз аднаго пуду каштаваў 90 кап. Уласьнікі параходаў звычайна зараблялі салідныя сумы, яны падганялі цэны за перавозку блізкія да чыгуначных тарыфаў, але значна выігрывалі ў часе, што давала ім магчымасьць з пасьпешнасьцю конкураваць. Тут розьніца ў часе на 8 дзён. А гэта мае вялікае значэньне для рыначнай кон'юнктуры. З другога боку, калі тавар будзе ў дарозе 14 дзён замест 6, то гэта не дае магчымасьці рабіць вагонам хуткія звароты, а таксама вымагае павялічэньня падвіжнога складу і інш., тады як судно за гэты-ж час можа зрабіць 2-3 звароты. Далей, кошт за правоз цукру, на які, дарэчы сказаць, складаецца асобны тарыф, ад Кіеву да Менску па водна-зьмешаным шляху і ад Кіеву да Менску па чыгунцы—малюецца ў наступным выглядзе. Перавозка пуда цукру па водна-чыгуначнаму шляху з Кіеву ў Менск, калі будзем лічыць перагрузачным месцам з судна ў вагон г. Барысаў, абойдзецца 27 кап. за пуд. Адлегласьць ад Кіеву да Барысава, без заходу ў Гомель. Калі Барысаў лічыць за месца, дзе павінна адбывацца перакладка тавараў з суднаў у вагоны, то за перавоз аднаго пуда цукру з Кіеву ў Менск на баржах па водна-зьмешанаму шляху трэба плаціць: за перавоз па воднаму шляху—ад Кіеву да Барысава (без заходу ў Гомель) 16 капеек, перакладка ў Барысаве—3 капейкі і ад Барысава да Менску па чыгунцы—8 капеек, усяго (16+3+8) 27 кап. Адлегласьць па воднаму шляху ад Кіеву да Барысава роўна 694 вёрст (ад Кіеву да вусьця Бярэзіны 358 вёрст і па Бярэзіне да Барысаву—336 вёрст). Правоз аднаго пуда грузу з Кіеву ў Менск па чыгунцы (адлегласьць 643 вярсты) будзе каштаваць 51 кап., пры тэй умове, калі перавоз аднэй тоны абойдзецца ў 31,13 руб. Калі возьмем увесь прывоз у даваенны час галоўных тавараў у вадазбор р. Бярэзіны (хлеб, цукар, соль), які быў ровен 836.000 пудоў, з такім разрахункам, што ўвесь гэты тавар будзе падвозіцца па чыгунцы, а не па водным шляху, то лішніх накладных выдаткаў атрымаем 200.000 руб.

Калі Бабруйск лічыць за апошні пункт транзіту, з якога хлебныя грузы, соль і цукар расходзяцца на пэрыфэрыю і возьмем за грунт тарыфаў тарыфы на чыгунках у 1925 г. і кошт за перавоз па воднарачному транспорту (даныя Вілька) па даваеннай норме, павялічыўшы яго на 3/4 для таго, каб ён адпавядаў нормам тарыфу 1925 году, а таксама фактычны прывоз грузаў зьнізу ў Бабруйск 1913 г., які быў ровен 836.000 пуд., дык атрымаем наступнае: 1) кошт за перавоз ад Кіеву да

Бярэзіны па чыгунцы: а) збожжа, выходзячы з таго, што вагон зьмяшчае 16,4 тон. і калі перавоз аднаго вагону каштуе 202 руб. 45 кап. вагон, за 503 вагоны (202 руб. 45 кап.×503)=101.832 руб. 40 кап.,— б) вагону цукру 465 руб. 84 кап. і 360 вагонаў 52.504 руб. 45 кап., в) вагону солі 176 руб. 85 кап. і 297 вагонаў 52.504 руб. 45 кап.,—усяго за перавоз 830 вагонаў 222.039 руб. 20 кап. 2) Па водным шляху на баржах ад Гомлю да Барысава (адлегласьць 536 вёрст) перавезьці адзін пуд грузу каштуе (па прыватных умовах) 8 капеек, а ад Кіеву да Бабруйску, згодна з пропорцыянальным павялічэньнем ліку вёрст,— 12,3 кап., кошт-жа за перавоз усяго вышэйазначанага грузу, па тарыфам 1925 году, будзе ровен 179.949 руб.

Калі параўнаць кошт за перавоз тавараў па рацэ з коштам за перавоз на чыгунках, то ўбачым, што кошт перавозу на чыгунках на 42.000 руб. перавышае кошт па водным шляху.

Калі прымем пад увагу тое, што для аднаўленьня Бярэзінскага шляху прадбачыцца расход на 347.726 руб., а экономія на водным шляху, штогод будзе роўна 42 тысяч., то можна сказаць, ня прымаючы ў разрахунак штогоднія выдаткі, якія йдуць на падтрыманьне суднаходзтва на гэтым шляху, што ўвесь гэты расход на 347.726 руб. пакрыецца ў працягу 7—9 год.

Часткова гэтае палажэньне падтрымлівае розьніца паміж тарыфнымі стаўкамі ў 1924 г. на рачных шляхох і на чыгунках. З даных Цэнтраракі відаць, што кошт за перавоз па рацэ—ніжэй тарыфных ставак на чыгунках, менавіта: тарыф за перавоз аднаго пуда збожжа на адлегласьці 1.000 вёрст па чыгунцы 25 кап., а на параходзе—16,5 кап. і г. д.

Калі да таго дадаць дадатковую выгаду ад лясных грузаў і іншых тавараў, то тэрмін на пакрыцьцё выдаткаў нямілуча скароціцца. Але ўсё-ж такі, прымаючы пад увагу тое, што аднаўленьне самага шляху зьяўляецца толькі часткай усіх прац па аднаўленьні таваразвароту, і што другую частку павінны складаць ужо працы па аднаўленьні сродкаў перасоўваньня, патрэбна прызнаць, што ў будучыне магчымы значныя адначасовыя выдаткі, а ў зьвязку з гэтым магчыма і адцягненьне тэрміну, у які павінен пакрыцца расход.

Што-ж датыча бягучых выдаткаў на абслугоўваньне і падтрыманьне суднаходзтва на ўсім шляху, то ў даным выпадку гэтыя выдаткі (каля 150.000 руб.) не павінны прымацца ў разрахунак з тае прычыны, што яны ўваходзяць у гадавы бюджэт шляху, як сталая выдатковая стацьця.

Зараз усё русло ракі Бярэзіны й асабліва на пракатах абмялела (што робіцца з усімі нашымі рэкамі) з тае прычыны, што спыніліся працы па паглыбленьні дна, а таксама і іншыя працы па падтрыманьні глыбіні ракі на тым узроўні, на якім яе падтрымлівалі ў даваенны час. Гаварыць аб поўным аднаўленьні суднаходзтва на рацэ Бярэзіне, мабыць,

ня прыходзіцца, таму што нават пры самых спрыяючых умовах пусьціць судны, якія возяць 50—70 тысяч пудоў грузу амаль што будзе немагчыма. Прыдзецца абмежавацца толькі тым, што па рацэ будуць зварочвацца толькі сярэднія й дробныя судны, бязумоўна, гэта лепш выгадна і для транспортных органаў і для таго, хто адпраўляе груз. Тут нямінуча павысіцца свая цана на фрахты (павялічэньне колькасьці суднаў), а гэта, у сваю чаргу, пры недастачы зваротных сродкаў і аслабленьні платаздольнасьці жыхарства, выкліча належнае скарочаньне грузазвароту на рацэ. Мінаваць гэта магчыма толькі зьніжэньнем фрахтаў, гэтае зьніжэньне можна зрабіць толькі на падставе тэхнічных удасканаленьняў і глыбокага аналізу таго, колькі каштуе сабе правозка, как знайсьці магчымасьці панізіць кошт на правозку. Навуковы элемэнт у працах транспорту зусім забясьпечвае вырашэньне гэтае проблемы, а гаспадарчы разрахунак выпіхае яе ва ўсю постаць.

Рост сялянскае гаспадаркі з аднаго боку, а з другога боку—рост прамысловасьці ўказваюць на патрэбу зьбліжэньня рынкаў гарадзкое й сялянскае гаспадаркі. Гэтае зьбліжэньне магчыма пры зьніжэньні накладных расходаў, якія экономічна аддаляюць гарадзкую і вясковую гаспадаркі адну ад другое. Львіная доля гэтых накладных расходаў атрымліваецца дзякуючы транспортным выдаткам. Тады, калі транспорт не наладжан, гэтыя выдаткі вельмі ўзрастаюць і, наадварот, калі транспорт наладжан, яны значна скарочваюцца.

Вось чаму аднаўленьне суднаходзтва вымагаецца экономічнай неабходнасьцю і тэхнічнай магчымасьцю транспорту, ня гледзячы на тое, што нашы рэкі, у тым ліку і Бярэзіна, значна абмялелі.

На падставе ўсяго сказанага неабходна зрабіць наступныя вывады:

1) Прыроднае састаяньне вадаўздымнасьці на фэрватары р. Бярэзіны такое, што яна пры адпаведных кроках паляпшэньня й наглядзе за рэгуляваньнем вады й суднаходзтва можа зрабіцца здавальняючай для плаваньня сярэдніх і невялікіх суднаў і для сплаву.

2) Р. Бярэзіна зьяўляецца адным з лепшых і значных шляхоў на вялікім водным шляху ад Чорнага мора да Бальтыцкага, хаця гэты шлях зараз мае часовы штучны разрыў на дзяржаўнай мяжы.

3) Гістарычнае мінуўшае ракі сьведчыць, што яна служыла грузазваротнай сувязьзю паміж Беларусьсю і Украінай, а потым і з Прыбальтыкай.

4) У даваенны час (1900—1913 гады) рака Бярэзіна выяўляла сабою адзін з лепшых шляхоў для экономічнай сувязі паміж Украінай, Беларусьсю і Прыбальтыкай з гэтакім грузазваротам: уверх і ўніз—лес, зьнізу—хлебныя грузы, цукар, соль і іншыя тавары першай патрэбнасьці.

5) За час чужаземных окупацый і грамадзянскай вайны водны шлях па Бярэзіне зусім зруйнован і няпрыгодзен для карыстаньня ў тым абхваце, якога вымагае сыстэма будаваньня народнай гаспадаркі.

6) Рост народнай гаспадаркі высоўвае пытаньне аб аднаўленьні па Бярэзіне таваразвароту, дапасаваньня яго з усёй сучаснай прамысловай і сельска-гаспадарчай кон'юнктурай.

7) Аднавіць-жа грузазварот як мясцовага значэньня, так і экспортна-імпортнага можна таму, што ў вадазборы р. Бярэзіны маецца вялікі запас сырцу (лес) і што гэты вадазбор зьяўляецца добрым спажыўцом прывозных тавараў.

8) Нескарыстаньне прыроднага воднага шляху ў поўнай меры, а тым болей дрэнны догляд за ім з гаспадарчага пункту погляду патрэбна лічыць шкодным для ўсёй гаспадаркі краю. Тым болей гэта датыча да БССР і ракі Бярэзіны таму, што Бярэзіна зьяўляецца галоўным нэрвам, які злучае сельскую гаспадарку з мясцовай прамысловасьцю, і наадварот.

9) Рамонт Бярэзіны патрэбна разглядаць, як рамонт аднаго з галоўных нэрваў усёй Бярэзінскай сыстэмы, якая ўсё-ж такі мае і самастойнае значэньне.

10) Разьмеркаваньне фокусных прыкмет нашае прамысловасьці (Барысаў, Бабруйск), якая корміцца мясцовым сырцом (лес), яскрава вызначае першаразраднасьць ракі Бярэзіны, як шляху зносін, перарэзанага другімі шляхамі.

11) Узрост прамысловасьці ў вадазборы ракі Бярэзіны і павышэньне на ёй грузазваротнасьці (1924) выразна сьведчаць аб жыцьцёвасьці ракі Бярэзіны, як воднага шляху.

12) Разьвіцьцё гораду і індустрыялізацыя сельскай гаспадаркі, бязумоўна, выклічуць належнае ажыўленьне на мясцовых шляхох зносін, а ў тым, ліку і на Бярэзіне—у раёнах тых пунктаў, дзе згрупаваліся фабрыкі й заводы (Барысаў, Бабруйск).

# ІДЭАЛІЗМ І МАТЭРЫЯЛІЗМ*)

*(Адказ мітрополіту Введзенскаму)*

**С. Вольфсон**

Свой даклад мітрополіт Введзенскі пачаў заявай пра тое, што ён прызнае матэрыялізм, як „соцыяльна-экономічны фактар“, але адмаўляе яго значымасьць, як „філёзофскага і псыхолёгічнага вучэньня“.

Як прыхільнік матэрыялізму, я, зразумела, вельмі ўзрадаваны тым, што мітрополіт Введзенскі прызнае „поўнавагу“ матэрыялізму ў сфэры грамадзкіх навук. Я павінен выказаць глыбокае сваё задавальненьне наконт таго, што сучасныя грамадзкія адносіны і сучасны стан соцыяльнае навукі прымушаюць нашых супраціўнікаў яшчэ да бою з матэрыялістычным сьветапаглядам добраахвотна ачышчаць першую лінію акопаў, і яны спрабуюць замацоўваць свой антыматэрыялістычны сьцяг толькі на тэрыторыі „філёзофії і псыхолёгії“.

Я думаю, што робячы так, мітрополіт Введзенскі паказаў сябе ня дрэнным стратэгам, каторы загадзя кідае абарону зусім безнадзейных позыцый у надзеі замацавацца на тых, якія яму здаюцца за больш моцныя. Ці ўдалося яму гэта зрабіць, мы скора ўбачым, а пакуль што зазначу толькі наступнае. „Частковае“ прызнаньне мітрополітам Введзенскім матэрыялізму даказвае толькі вельмі слабае знаёмства нашага дакладчыка з тым, што ўяўляе з сябе сучасны матэрыялізм. Для кожнага, у выстарчаючай меры знаёмага з гэтым сьветапаглядам, зусім ясна, што ён *адзіны*, што ён *цэльны*, што ён *моністычны*, што ён пашырае свае прынцыпы і на сфэру філёзофскую, якая дасьледуе пытаньні пра адносіны сьвядомасьці к быцьцю і на сфэру соцыяльную, якая дасьледуе грамадзкія адносіны людзей. Мітрополіт Введзенскі гэтага ня ведае і таму для яго сьветапагляд падобен да фурмана, на якім можна даехаць да пэўнага пункту, расплаціцца і пайсьці далей пехатой. Калі дакладчык думае так зрабіць (а ён так і робіць), дык яму пагражае небясьпека трапіць у вельмі нязручнае становішча. Прызнаючы „поўнавагу“ матэрыялізму, як „соцыяльна-экономічнага фактару“, мітраполіт Введзенскі будзе прымушаны, напрыклад, меркаваць пра ролю асобы ў гісторыі, як матэрыялісты. Але-ж пра ролю асобы ў гісторыі можна гаварыць, толькі папярэдне разабраўшыся ў

*) Аўторэфэрат прамовы, выказанай 5-га студзеня 1926 году на дыспуце „Ідэалізм і матэрыялізм“ паводле дакладу мітрополіта Аляксандра Введзенскага.

пытаньні пра свабоду або дэтэрмінаванасьць нашай волі, а гэтае-ж пытаньне мітрополіту Введзенскаму прыдзецца разьвязваць у сфэры філёзофскай—тут-жа ён зьяўляецца ідэалістым. Такім парадкам, на падставе ідэалістычнай прадпасылкі мітрополіт Введзенскі будзе будаваць матэрыялістычныя вынікі... Такіх канфузных няэручнасьцяй яму пагражае шмат. Назаву хоць-бы пытаньне пра тэлеолёгію і каузальнасьць, разумную мэтазгоднасьць і прычынную абумоўленасьць. Прыкладаў шмат і ўсе яны вачавідкі паказваюць, як нямоцная і ўбогая тая спроба адлучыць гістарычны матэрыялізм да філёзофскага, з якой мітрополіт Введзенскі пачаў свой даклад. Цяпер пяройдзем к існасьці дакладу.

Асноўнае палажэньне, якое высунуў мітрополіт Введзенскі, гаворыць, што ён разглядае сьвет, як „духоўную данасьць". Ен абвяшчае наяўнасьць духу, як „непрацяжальную існасьць". На чым ён трымаецца ў гэтым сваім катэгорычным зацьвярджэньні? На двох кастылёх. Адзін з іх—інтроспэкцыйны мэтод, другі—віталістычная тэорыя. Тут я павінен зазначыць адно вельмі цікавае зьявішча. У сваіх пісоўна-формуляваных тэзах грамадзянін Введзенскі трымаецца пераважна першага з гэтых кастылёў. Гэта, іменна, інтроспэкцыйны мэтод „цьвёрда ўстанаўляе" наяўнасьць духу, як „непрацяжальнае існасьці". Але на працягу ўсяго свайго дакладу мітрополіт Введзенскі нават ані разу ня ўспомніў пра гэты павper важны мэтод. Адно з двух. Або дакладчык выпадкова прапусьціў адноску на інтроспэкцыю і аргумэнтацыю ад яе. У такім выпадку я пераканальна папрасіў-бы яго запоўніць у сваім заключным слове гэты прыкры пропуск, і тады я пакідаю за сабой права рэплікі наконт гэтага. Або-ж... або-ж мітрополіт Введзенскі з часу напісаньня сваіх тэзаў пасьпеў расчаравацца ў магічнай сіле інтроспэкцыйнага мэтоду і знарок змаўчаў аб ім. Тады тым лепей... [1])

Калі дакладчык такім парадкам адкінуў адзін з сваіх кастылёў, то тым больш шчыра ён спрабаваў трымацца на другім з іх—віталістычным. Нэовіталізм зьяўляецца для мітрополіта Введенскага безапэляцыйным довадам існаваньня ў сьвеце нейкай жыватворчай сілы, нейкага асаблівага духоўнага пачатку „непрацяжальнай існасьці". Але што-ж такое віталізм? Хто жадае даведацца аб гэтым, разгортвае 12 том Вялікай Энцыклёпэдыі Брокгауза-Эфрона і чытае там: „Пакуль у навуцы пра жыцьцё організмаў панавалі толькі адны тэорыі і адцягненыя гіпотэзы, да тых пор віталізм у біолёгіі і фізыолёгіі меў бясспрэчную перавагу, але з ужываньнем з канца мінулага стагодзьдзя к распрацоўцы зьявішч жыцьця экспэрымэнтальнага} мэтоду... біолёгія і фізыолёгія пачалі ўзбагачвацца шматлікімі фактамі, якія даводзяць... што і зьявішчы жыцьця, падобна ўсёй рэшце зьявішч прыроды, падлягаюць строга законамернай прычыннасьці, г. зн., што кожнае жыцьцёвае, псыхічнае або цялеснае

[1]) Мітрополіт Введзенскі ў заключным слове так і не заікнуўся ані словам пра інтроспэкцыйны мэтод. Ня было сэнсу...

зьявішча адбываецца толькі пры строга азначаных фізыка-хімічных умовах. Адначасна з гэтым было даведзена, што ў склад жывых організмаў не ўваходзяць такія целы, якіх-бы ня было ў неажыўленым сьвеце... З прычыны такіх вялізных набыткаў... жывыя організмы рабіліся ў вачох дасьледцаў полем гульні ўсё тых самых агульных фізыка-хімічных сіл прыроды... Гэты мэханічны пагляд на зьявішчы жыцьця, дзякуючы высокай навуковай продукцыйнасьці яго за апошнія дзесяцігодзьдзі, зусім выціснуў пагляды віталістых, і цяпер фізыолёгію, якая найбліжэй за ўсё закранае зьявішчы жыцьця, называюць ні чым іншым, як практычнай фізыкай і хіміяй жывых організмаў".

Вось якая навуковая ацэнка, каторую даў, ні шмат ні мала, 33 гады таму назад, віталізму не які-небудзь кляты марксысты (я сягоньня стараюся абыходзіцца, па магчымасьці, без марксыстых), а архіпэўны профэсар Ленінградзкага унівэрсытэту, акадэмік і адзін з самых выдатных фізыолёгаў свайго часу Р. І. Тарханаў.

Дазвольце, прадбачу я, пярэчаньне, вы гаворыце пра віталізм, а я гавару пра нэовіталізм. Калі ласка, у тым самым артыкуле Тарханаў дае адпаведнае месца і нэовіталізму. Гэтае месца ён канчае наступнымі словамі: „Нэовіталізм, такім парадкам, ня ў сіле сапхнуць сучасныя мэханічныя спосабы дасьледваньня жыцьцёвых зьявішч з іх сапраўднага кірунку, які дзень у дзень робіць вялізныя послугі навуцы і жыцьцю"...

Дакладчык грунтаваўся тут на працах Дрыша і Рышэ. Калі мы зьвернемся к гэтым аўтарам, а таксама к іншым яшчэ больш яскравым ідэолёгам нэовіталізму, пачынаючы айцом школы Бунгэ і канчаючы Гэртвічам, Наймастэрам і найноўшымі яе ідэолёгамі, як Эйхгорн, дык што мы павінны будзем паказаць у якасьці прынцыпу, які найбольш характарызуе гэты кірунак?

Тое, што яго прыхільнікі крыху меней пасьлядоўна і крыху болей саромна, чымся гэта рабілі старыя віталістыя, абмяжоўваюць жыцьцёвыя зьявішчы дзеяньнем асаблівай жыцьцёвай, няўцямнай сілы, мэтазгодна накіраванай і чужой для неорганічнага сьвету.

Мы бачылі, як характарызаваў такога роду падыход да зьявішч жыцьця акадэмік Тарханаў,—ён лічыў яго зусім зьніштожаным становішчам прырода-навуковых ведаў яго эпохі. Але з тых часоў, таварышы, прашла-ж цэлая траціна веку, тры дзесяцігодзьдзі—і якіх! калі кожны год, кожны месяц пасуваў чалавецтва ўсё наперад па шляху адгадваньня так званай „таемнасьці жыцьця!"

У чым цэнтральнае зацьвярджэньне віталістых? У тым, што нашым жыцьцём кіруе асаблівы спэцыфічны пачатак. Што кажа пра гэта сучасная навука? Яна зазначыла ў функцыях організму праяўленьне строгіх законаў фізыкі і хіміі. Яна давяла, што організм, бяручы знадворку энэргію, зьмяняе яе з адных формаў у другія і што пры гэтым жыцьцёвым процэсе адбываецца поўная ўрачыстасьць непарушальнага закону заха-

ваньня энэргіі. І дыханьне, і зварот крыві, і страўленьне ежы, і вышэйшая нэрва-мазговая дзейнасьць—усё тое, што якіх-небудзь некалькі дзесяцігодзьдзяў таму назад яшчэ было асьвенчана орэолем таемнага, няўцямнага, цудоўнага, навука нашага часу амаль што абмежавала (і працягвае абмяжоўваць) хіміка-фізычным процэсам, які прынцыпова нічым не адрозьніваецца ад таго, што адбываецца ў рэшце прыроды. Навука сучаснасьці з яскравасьцю, якая не пакідае месца для хістаньняў і эківокаў, устанаўляе адсутнасьць у нашым організьме якіх-бы то ні было элемэнтаў, чужых для знадворнага сьвету.

Для таго, каб паказаць, як мала месца пакідае фантазіі паноў стара і нова-віталістых сучасная навука, якая праганяе „таемнае" і „цудоўнае" з апошніх куткоў, у якіх яно хаваецца, патрэбна было-б даць падрабязнае выкладаньне сучасных природа-навуковых вед. Гэта, зразумела, вымагла-б спэцыяльнага дакладу і павяло-б занадта далёка за межы майго пярэчаньня мітрополіту Введзенскаму.

Я абмяжуюся таму толькі напамінаньнем пра тыя два скачкі, якія на нашых вачох зрабіла навука ў тлумачэньні раней „таемнага" і „цудоўнага", цяпер такога простага і яснага...

Я кажу, паперш за ўсё, пра вучэньне аб унутраной сэкрэцыі, якая абумоўлівае сабою мноства нашых фізыолёгічных і псыхічных функцый. Там, дзе яшчэ некалькі дзесяткаў гадоў назад была прастора для ўсякіх віталістычных выдумак наконт асаблівай жыцьцёвай сілы, цяпер у наяўнасьці непарушны і ясны факт: залозы нашага організму выпрацоўваюць асаблівыя хімічныя рэчы—гормоны, якія пранікаюць у кроў і робяць самы рознастайны і магутны ўплыў на ўвесь наш організм. Вучэньне пра нутраную сэкрэцыю яшчэ вельмі маладое, але яно зьявілася ўжо выключна-плодным у сэнсе высьвятленьня цьмяных да таго часу бакоў у павядзеньні чалавека.

Далей. Вучэньне пра ўмоўныя рэфлексы дазволіла навуцы стаць на шлях абмежаваньня складаных псыхічных процэсаў простымі рэакцыямі. Яно дазволіла сучаснай навуцы вызначыць, што падобна таму, як каморка—асноўны элемэнт тканін, якія ўтвараюць цела чалавека, якраз таксама рэфлекс—асноўны элемэнт нашага псыхічнага жыцьця. Разам з тым навука сьцёрла тую дэмаркацыйную лінію, якая адлучала сьвядомае ад бесьсьвядомага. Тут мы падыходзім к асноўнай, так сказаць, ідэі віталістых: пра мэтазгоднасьць, якой падлегла нашае жыцьцё...

Добра,—можа нам сказаць мітрополіт Введзенскі—рэфлексы, сэкрэцыя, гормоны, хіміка-фізычныя процэсы, але няўжо-ж вы не адчуваеце ўва ўсім гэтым мудрай мэтазгоднасьці? Няўжо-ж вы не адчуваеце ўва ўсёй гэтай прыгожай жыцьцёвай гармоніі ўрачыстасьці разумнага мэтазгоднага пачатку? Так гавораць віталістыя ў наш час, так гаварылі і іх духоўныя продкі сотню год назад. О, мы добры ведаем гэтую філёзофію мудрай мэтазгоднасьці, адносна якой Гейнэ яшчэ заўважыў, што з яе пунк-

ту погляду ў нашым сьвеце ўсё пабудавана на дзіва разумна: „Створаны быкі для таго, каб з іх гатаваць булён, створаны аслы для таго, каб на іх класьці груз, і створаны людзі для таго, каб есьці булён і ня быць падобнымі да аслоў"...

Дык вось, сучаснае прыродазнаўства хіба толькі з гіронічнай усьмешкай спатыкае гэту думку пра мудрую мэтазгоднасьць. Яно вачавідкі паказвае, што не разумная мэтазгоднасьць, а прычынная абумоўленасьць зьявішч пануе ў прыродзе (пры гэтым, зразумела, на глебе практычнай дапасоўнасьці выпрацоўваецца пэўная адносная мэтазгоднасьць). Яно выклікае, скажам, у жабы з адцятай галавой які-небудзь рэфлектарны акт, прымушае яе дзейнічаць таксама „рэгулярна і мэтазгодна", як тады, калі ёю кіравала нібы то таемная сіла, якую ўхваляюць паны віталістыя.

Выдатнае вынайдзеньне амэрыканскага вучонага Леба, што тычыцца так званых „тропізмаў", паказала, што калі казюлька імкнецца к сьвету або расьліна к сонцу, дык гэта мае месца ня з прычыны разумнай мэтазгоднасьці, а з прычыны вельмі дакладна выяўленага Лебам фізыка-хімічнага процэсу, які прымушае жывёлу або расьліну паварачвацца пэўнымі часткамі організму да сьвету.

Так, у наш час далёка не заедзеш на віталізьме! Калі якіх-небудзь 40 гадоў таму назад прабавалі ўсё непазнанае, недасьледжанае і незразумелае ў органічным жыцьці аднесьці наконт асаблівай жыцьцёвай сілы, мудра мэтазгоднай, дык гэта было ўбогім відавішчам. Ну, а калі цяпер, як мы маем за сабою досьледы Сячэнава, Паўлава, Бехцерава і амэрыканскай школы біговірыстых у галіне нэрва-мазговай дзейнасьці, досьледы Лазарава адносна іённай тэорыі нэрвовага раздражненьня, шырака разьвінута вучэньне пра ўнутраныя сэкрэцыі, зграбную тэорыю констытуцыі і шэраг іншых, самых вялікіх пасуваньняў навуковай думкі па шляху зьнішчэньня таемнага і цудоўнага, калі цяпер, як-бы нічога ня было, пачынаюць паўтараць віталістычныя зады, дык я дазволю сабе сказаць, што гэтае відавішча ўжо ня ўбогае, а ганебнае.

У сваёй абароне ідэалізму гр. Введзенскі надумаў трымацца на двох кастылёх: адзін з іх—інтроспэкцыя, другі—нэовіталізм. Мы мелі выпадак пераканацца ў тым, што кастылі гэтыя гнілыя і, як патруха, рассыпаюцца ад першай крытычнай думкі. А дзеля таго, што трымацца на гнілых кастылёх—справа небясьпечная, дык мітрополіт Введзенскі прадбачліва надумаў пасьля экскурсіі ў галіну навукі падняцца ў туманную вышыню рэлігійнага пачуцьця. Зрызыкую па абавязку опонэнта пайсьці за ім і туды... „Назваўся грыбом, лезь у кошык"...

Мітрополіт Введзенскі хоча зацьвярджаць, што ідэалізм знаходзіць сваё падмацаваньне ў рэлігійным пачуцьці. Бачыце, раз мною ўладае рэлігійнае пачуцьцё, раз у мяне ёсьць рэлігійны сьветапагляд, гэта знача— я адчуваю сьвет, як нейкую „духоўную данасьць". значыцца, ён такі і ёсьць. Я адчуваю нейкую рэальную космічную сілу, якая кіруе сьветам.

Значыцца, яна існуе. Мітрополіт Введзенскі не зьяўляўся-б у трэцяй стрэчы ўнукам біскупа Бэрклея, калі-б ён не зрабіў гэтага, будзем ухіляцца рэзкасьці, сьмелага зацьвярджэньня. Але мы ня выявілі-б усёй каштоўнасьці падобнага роду зацьвярджэньня, калі-б не паставілі паважнаму дакладчыку на гэты конт некалькі добрадушных пытаньняў.

Вы зацьвярджаеце, што раз вы адчуваеце пэўную космічную сілу, якая кіруе сьветам, дык, значыцца, яна існуе. Дык вот ці ня здолееце вы мне растлумачыць наступнае?

Д-р В. Якавенка ў „Вестнике психиатрии" за 1887 год, апісвае, напрыклад, такі выпадак эпідэмічнай галюцынацыі.

У 1874-1875 г. ў Седлецкай губэрні быў зьдзейсьнены акт далучэньня да праваслаўя вуніятаў (больш за 200 тысяч сялянскага насельніцтва). Гэты акт выклікаў выбухі рэлігійнага фанатызму. Шмат тых, хто не жадаў зьмяніць вунію на праваслаўе, не спакараліся. Сярод вуніятаў Седлецкай губэрні вялікім ушанаваньнем карыстаўся абраз боскай маткі ў манастыры Лесна. Па загаду ўлады гэты абраз быў перанесен з Лесны ў праваслаўную царкву. Хутка сярод рэлігійна-ўзьнятага насельніцтва зьявілася чутка, што абраз сам пашоў з праваслаўнай царквы і ідзе ў хмарах назад у Лесну. Натоўпы народу кінуліся на ўшанаваньне яго і ішлі па пятах, ідучы зрокамі за абразом, які то хаваўся ў хмарах, то зноў зьяўляўся, і тады ўсе, хто верыў, бачылі яго.

„Тысячы людзей ня толькі адчувалі, але і бачылі, як „рэальную сілу", абраз, які сам рухаецца. У іх было зусім яснае адчуваньне абразу, які сам рухаўся. Мы павінны, значыцца, прызнаць, што ён існаваў?..

Або вось другі выпадак.

22-га траўня 1919 году на вуліцах Жытоміру зьявілася дзіўная абвестка, у якой жыхары гораду заклікаліся на плошчу, дзе салдат Багунскага палка, па мянюшцы Міцька Багунец, будзе даводзіць сваё вялікае чараўніцтва. „Я—цар цароў, бог багоў, пан панаючых,—пісалася ў абвестцы,—даваду вам, што мяне ніякая куля не бярэ. Аб „спробе", якая рыхтавалася, горад ведаў больш як тыдзень. Міцька Багунец карыстаўся шырокай вядомасьцю ня толькі сярод чырвонаармейцаў, але і жыхароў, бо ўся яго знадворнасьць прыцягвала агульную ўвагу. Хадзіў ён заўсёды ў доўгай белай кашулі, падпяразанай шырокай папругай. На папрузе быў вышыты залатымі ніткамі надпіс: „Цар цароў, бог багоў, пан панаючых".

Адзін раз, калі полк адпачываў у Жытоміры, у часе мітынгу, які адбыўся ў гарадзкім тэатры, Міныч нечакана папрасіў слова. Яму дазволілі. І вось выходзіць на сцэну „бог багоў" у сваім звычайным убраньні і ўрачыстым голасам сярод салі, якая сьцішылася, абвяшчае літаральна наступнае: „Шмат якія таварышы ведаюць, што мяне кулі не бяруць; але ёсьць і такія, якія сумняваюцца ў маёй цудоўнай сіле. Хачу гэта давесьці на справе, а таму прашу дазволіць наладзіць мне такое

„прадстаўленьне“. Можна страляць з чаго хаця, аж да кулямётаў. Вольныя таксама могуць быць усіх узростаў і нацыянальнасьцяй“.

Іван Мiныч пасьпеў заваяваць сабе ня мала прыхільнікаў сярод мала сьвядомых чырвонаармейцаў, якія скрозь бубнілі пра яго цудоўную магутнасьць. Ня даць яму дазволу пры такіх умовах было вельмі рызыкоўна, бо падобнае адмаўленьне магло толькі падняць славутнасьць гэтага чараўніка ў вачох усяго гарнізону. І вось, спадзяючыся на тое, што ў Міныча ўсё роўна ня хопіць адвагі і што ў апошнюю мінуту ён адмовіцца ад спробы, яму было дадзена права надрукаваць вышэйазначаную адозву да насельніцтва.

Прышоў дзень 22-га траўня. К штабу палка натоўпам сыпалі чырвонаармейцы, якія з оркестрам музыкі на перадзе кінуліся за горад, на месца „спробы“—за турмой. Тут, на шырокай пляцоўцы, заўчасна выбранай самым Мінычам, чырвонаармейцы сталі шырокім сярпом. Урэшце, з-за груду, на белым кані паказаўся Мiныч, апрануты ў бель. На галаве белая шапка, убраная кавалачкамі люстэрка; такія самыя люстэркавыя кавалкі былі на грудзёх. Усё гэта яскрава зьзяла на сонцы.

Бачачы накіраваныя на яго з усіх бакоў стрэльбы і кулямёты, Міныч быў здрыгануўся, але конь яго ішоў наперад. Сярод напружанай цішыні пачулася выразная каманда:

— Па „богу багоў“—агонь!

І адразу затрэскалі стрэльбы і кулямёты. Міныч разам з канём, як скошаны, зваліўся з груду...

Я падаў два выпадкі. Я мог-бы падаць іх безьліч. Хто цікавіцца, знойдзе іх у якім хаця падручніку псыхіятрыі...

У чым гэта пераконвае нас? У тым, што сьведка, на якога паказваў дакладчык, гэта—сьведка аслаўлены, сьведка нічога ня варты, які не заслугоўвае давер'я. Ён сьведчыць толькі адно: або, што мы маем справу з разладжанай нэрвовай сыстэмай, або з невуцтвам.

У першабытнага дзікуна было „адчуваньне“ таго, што сьветам кіруюць духі, ён уяўляў сабе сьвет заселеным тысячамі духаў. Стоячы на пункце погляду мітрополіта Введзенскага, нам трэ' было-б прызнаць існаваньне ўсіх тых духоў, у якія верыць першабытны дзікун, або дамавікоў, якіх адчувае, як „рэальную касьмічную сілу“, не адна богамольная бабка хоць-бы ў нашай беларускай вёсцы.

У мяне, спадзяюся, і ў большасьці слухачоў, ня болей падстаў прызнаць рэлігійнае сьветаадчуваньне Броўнэля або мітрополіта Введзенскага довадам таго, што сьвет гэта духоўная данасьць, што ім кіруе нейкая актыўная, што стаіць па-за ім сіла.

Ёсьць у прачытанай сёньня лекцыі момант, за які—кажу гэта зусім бяз іроніі—я вельмі ўдзячны мітрополіту Введзенскаму. Калі мы, пераконаныя і палкія супрацоўнікі ідэалістычнага сьветапагляду, надаём краў-

насьць ідэалізму і рэлігіі, дык нас часта вінавацяць у перакручваньні сапраўднасьці, у дэмагогіі і іншых сьмяротных грахох...

Аз, шматгрэшны, неаднокраць спатыкаўся з падобнага роду пярэчаньнямі—як слоўнымі, так і пісоўнымі. І вось, сёньня мітрополіт Введзенскі зрабіўся крыху нечакана нашым „саюзьнікам", саюзьнікам ваяўнічых матэрыялістых, якія зацьвярджаюць, што ідэалізм—адна з формаў рэлігійнага сьветаўспрыйманьня. Ці-ж могуць у нас быць сумненьні ў тым, што ідэалізм—гэта саромная форма рэлігіі, якраз таксама, як рэлігія ёсьць адкрыты і найбольш прымітыўны від ідэалізму? Тут можна гаварыць пра *колькасныя* розьніцы, але ніякай *прынцыповай* розьніцы тут няма. Прызнаньне таго, што сьвет створан нейкай сілай, якая стаіць па-за ім, што ён кіруецца нейкім спэцыфічным актыўным пачаткам, робіць сьветапагляд ідэалістычным. А як уяўляецца надзвычайная сіла, што кіруе сьветам: ці дзікунскі простадушна, у выглядзе якога-небудзь хвастатага і агністага бога полінэзыйцаў або гегелеўскага „*абсолютнага духа*", канстытуцыйна абмежаванага бога дэістых або „псыхоіда", з якім круціцца любы сэрцу мітрополіта Введзенскага Дрыш,—для нас гэтае пытаньне другараднае. *Ідэалізм—гэта рафінаваная і апранутая ў філёзофскую тогу рэлігія.*

У гэтым мы маглі сёньня лішні раз пераканацца. Калі дакладчык спрабаваў абараніць ідэалізм, дык ён прымушаны быў апэляваць к рэлігіі. Хай пра гэта добра падумаюць усе тыя, каму яшчэ няясная сувязь паміж ідэалізмам і рэлігіяй. Хай добра падумаюць і ўлічаць пры гэтым, што наш дакладчык не выпадкова так зрабіў: мітрополіт Введзенскі для гэтага занадта спрактыкаваны ў дыспутах чалавек і занадта спрактыкаваны лектар. Але так зрабіць ён быў прымушаны, бо добра зразумеў, што на адных навуковых аргумэнтах яму ў абароне ідэалізму далёка не заехаць... Ён прымушан быў з цьвёрдай глебы навукі, на якой так безнадзейна спрабаваў угрунтавацца, падняцца ў паднебную вышыню на паветранай кулі рэлігійнага пачуцьця. Але ад добрага жыцьця, як кажа адна з гарбуноўскіх асоб, не паляцім.—асабліва, дадам, на такім ненадзейным лётавым апараце, як рэлігійнае пачуцьцё...

Выступаньне мітрополіта Введзенскага двойчы паказальна: яно давяло па-першае, што ідэалізм у нашыя часы ня мае сілы абараніць сваё права на існаваньне без звароту к рэлігіі і, па-другое, што рэлігія, якая гіне, для свайго спасеньня сударгліва хапаючыся за саломінку псэўдо-навуковай фразэолёгіі, на захадзе год распачынае залёты з навукай. Сапраўды, „як дашла ты да жыцьця такога?"

Яшчэ якіх-небудзь 400 год таму назад рэлігія адна панавала над розумам чалавецтва, трымаючы філёзофію ў становішчы сваёй служкі... Philosophia—ancilla theologiae est, і таму рэлігія к большай славе боскай паліла на кастры кожнага прыхільніка незалежнай навукі і жалезнымі абцэнгамі вырывала язык кожнаму, хто меў адвагу пярэчыць ёй... Але

стагодзьдзі, якія прашлі з тых часоў, былі эпохай нячуванага разьвіцьця вытворчых сіл, пераможнага спакарэньня чалавекам прыродных стыхій і пазнаваньня таго, што раней заставалася таемным. Таму яны былі таксама эпохай пасьлядоўнага згасаньня боства. І таму-то, магчыма, мітрополіт Введзенскі прымушан лета ад нар. хр. 1926-ае рабіць канонічнае ўшанаваньне інтроспэкцыйнаму мэтоду і нэовіталізму. Не абмінуў мітрополіт Введзенскі паказаць і на эмоцыянальнае значэньне рэлігіі. Рэлігія, бач, дае нам радасьць новых адчуваньняў быцьця, напышлівасьць захапленьняў і г. д. і т. п.

Што-ж псыхіка, чалавечая—наогул рэч надзвычайна суб'ектыўная, і вызначаецца асабістай нахільнасьцю індывідууму.

Вось заяўляў-жа пакойны Есенін, што ён

...Склонялся над стаканом,
Что-б, не страдая ни о ком,
Себя сгубить в угаре пьяном...

Адны адчуваюць эмоцыянальную патрэбу рассеяць душэўную нуду, схіляючыся над шклянкай; другія гэта робяць, цягнучы опіум; трэція, як скупы рыцар, напаўняючы куфэркі золатам; чацьвертыя адчуваюць, як гётэўская Маргарыта, патрэбу

„К нему прильнуть
И отдохнуть...
Его обнять
И тихо млеть,
И целовать,
И умереть...

А пятыя,—пятыя патрэбу схіляць калені перад фантастычным абразам боства і ставіць сябе ў нявольніцкую залежнасьць ад яго. І калі доктар багаслоўя Введзенскі адчувае „першастковую патрэбу“ стаць ніц перад гэтым продуктам чалавечай выдумкі і „дакранацца краю рызы боства“, дык я не адчуваю роўна ніякай патрэбы пярэчыць супроць такой траты часу, якраз таксама, як я ня думаю пярэчыць супроць чыёйсьці патрэбы „себя сгубить в угаре пьяном“, і чыёйсьці патрэбы „тихо млеть и целовать“... Весьці карысныя для душы гутаркі на тэму пра „шкоду курэньня тытуну“ ёсьць шмат ахвотнікаў,—я ня з іх ліку.

Я толькі пярэчу і протэстую супроць замаху мітрополіта Введзенскага надаць сваёй эмоцыянальнай патрэбе сан жыцьцёва-каштоўнага біолёгічнага фактару“.

Пра што-што, але пра рэлігію, як біолёгічны фактар, мне здаецца, мітрополіту Введзенскаму трэба было-б замаўчаць, хоць-бы з пачуцьця самазахаваньня. А калі ён гэтага не зрабіў, дык я прымушан зазначыць дакладчыку, што сучасная навука з вялікай пэўнасьцю выяўляе блізкую крэўнасьць паміж *рэлігіяй і нэўрозам прычэпных становішч*. Тэорыя псыхоаналізу выразна паказвае мэханізм перанясеньня сэксуальных цягненьняў

на мару боства. Я не магу гэтага мэханізму як сьлед тут абмаляваць і тых, хто цікавіцца, пасылаю к працам Зыгмунда Фрэйда і іншых псыхоаналітыкаў. Але маю адвагу пераканаць, што прыгавор, які сучасная навука выносіць рэлігіі, як біолёгічнаму фактару, даволі суровы і нядвохсэнсны...

Голаслоўным і нязначным паказаньнем на рэлігію, як на біолёгічны фактар, дакладчык зацямняе яе сапраўдную каштоўнасьць, як фактара *соцыолёгічнага*. Некалькімі словамі, якія прысьвечаны гэтай ацэнцы, я і скончу сваё слова, якое мімаволі зацягнулася.

Правільны мэтод дасьледваньня грамадзкіх зьявішч вымагае з нас разглядаць які-хаця соцыяльны факт у гістарычнай пэрспэктыве. Вядомы гостры выраз Вольтэра пра тое, што рэлігія паўстала тады, як пермы круцель на зямлі спаткаў першага дурня... Мы, марксыстыя, не разглядаем так праставата пытаньня рэлігіі. Мы, ведаем, што рэлігія паўстала ў сілу азначаных законных прычын, што яе паяўленьне было абумоўлена імкненьнем першабытнага чалавека орыентавацца ў таемным сьвеце, які абкружаў яго. Мы не адмаўляем таксама і таго, што рэлігія на пэўных усходках чалавецкай гісторыі грала організацыйную ролю грамадзкую, што, урэшце, рэлігійным рэчышчам часамі імкнулася жаданьне мас, якія душыліся пад ярмом соцыяльнага ўціску, зьмяніць свой лёс. Але мы яшчэ больш дакладна ведаем і з усёй сілай непарушнага навуковага пераконаньня даводзім, што вось ужо шмат вякоў, як рэлігія зьяўляецца адным з самых рэакцыйных зьявішч грамадзкага жыцьця. Мы ведаем і даводзім, што ў ракавым гістарычным паядынку, які ўцісьнутае чалавецтва вядзе з паразытычнай кучкай эксплёататараў, рэлігія нязьменна робіць самае істотнае падтрыманьне апошняй. Мы ведаем і даводзім, што рэлігія, якую ціcьне з усіх бакоў і рост прырода-навуковых ведаў і высоўваньне наперад новай рэволюцыйнай клясы, ужо не рызыкуе фарсіць ува ўсёй цынічнай голасьці, а ўскідае на сябе туль навуковай фразэолёгіі. Сьмешныя, убогія хітрыкі!..

Рэлігія пачынае залёты з ідэалізмам, рэлігія пасылае праклёны матэрыялізму... Ды няўжо-ж гэта можа быць інакш?

У 1710 г., хутка пасьля таго, як разьвеелася туманная ймгла сярэднявякоўя, ангельскі біскуп Джордж Бэрклі клікаў „усіх сяброў ісьціны, сьвету і рэлігіі“ выйсьці супроць вучэньня пра матэрыю, „на падставе якой высунуты ўсе бязбожныя пабудаваньні атэізму“.

У 1870 г., калі работніцы Парыжу ўжо вышывалі чырвоныя сьцягі будучай комуны, дык рымскі сабор абвясьціў запаведзьдзю бога канонічную прапанову, якая абвяшчала, што „хай будуць—анафема—праклятыя ўсе, хто ня мае сораму зацьвярджаць, што няма нічога, апрача матэрыі, хто не прызнае, што ўвесь сусьвет і ўсе прадметы ў ім створаны богам з нічога“...

У 1926 г., калі найвялікшая сусьветная рэволюцыя йдзе к першаму свайму дзесяцігодзьдзю, д-р багаслоўя мітрополіт Аляксандар Введзенскі дзеля славы рэлігіі скідае блюзьнерскі матэрыялізм за дапамогай інтроспэкцыі, віталізму, унутранага вопыту, псыхолёгічных эмоцый і біолёгічнай нормы.

Што-ж, зьмяняючы словы поэты, скажам:

Новаму часу—
Новыя вопраткі,
Для старое—справа пахавана.

Але марны і няплодны клопаты тых, хто хоча пераплясьці сваю рэлігійную казань з сэрэнадамі наконт навукі.

Трубадурам рэлігіі, мінэзэнгерам ідэалізму навука коратка і рашуча прапануе:

Для этаких прогулок
Подальше выбрать закоулок..

---

Некалькі дадатковых заўважаньняў у зьвязку з пярэчаньнем мітрополіта Введзенскага.

Грамадзянін Введзенскі з вялікім пафосам пытаўся мяне: „Няўжо вы ня бачыце ва ўсім сьвеце, што навокал вас, цудоўнага пляну і дзіўнай гармоніі?“ Ён паказваў пры гэтым на працы Рэзэфорда і Астона і іншых навуковых аўторытэтаў, якія нібы-то бачаць навокал нас разумную мэту. На адказ яму мы паказваем, што бачым у прыродзе, якая абкружае нас, ня „цудоўны плян“, а практычную дастасаванасьць, якая вядзе, зразумела, к пэўнай адноснай мэтазгоднасьці. Але гэтая-ж адносная мэтазгоднасьць зусім далёкая ад абсолютнай і „мудрай“ мэтазгоднасьці, якую ўшаноўвае мітрополіт Введзенскі.

Характэрны меркаваньні дакладчыка наконт навукі. Навукі соцыяльныя, заяўляў ён, тыя—могуць быць клясавымі, але навука, як навука, навука наогул,—яна бясклясавая. І мітрополіт Введзенскі, не бяз іроніі, меркаваў пра „клясавы аналіз“ хімічнага складу вадароду і бясклясавай табліцы лёгарытмаў. Але мітрополіт Введзенскі ня ведаў (ня хоча ведаць) таго, што навука—не бясплоцьная красуня, якая знаходзіцца за хмарамі, а соцыяльны факт вялізнага, першараднага значэньня. І няўжо не разумее ён, няўжо ня ведае ён, з чаго і чаму пануючыя клясы сярэднявякоўя такім шалёным супраціўленьнем спаткалі, здавалася, зусім „бясклясавае“ вынайдзеньне Копэрніка. „Бясклясавая“ ісьціна пра рух зямлі наўкола сонца стукала па рэлігійнай традыцыі—ідэолёгічнай апоры пануючых, і таму яны адказалі на яе жорсткім царкоўным тэрорам. А няўжо-ж яшчэ якіх-небудзь 50 год таму назад у школах Ватыкану не выкладалі нябеснай мэханікі па Птолёмэю? І ці не вядома гр. Введзенскаму, чаму і чаго ў сучаснай Амэрыцы часамі вотуюць більлі пра забарону выкладаць прыродазнаўства па Дарвіну і наладжваюць

„малпавыя процэсы?“ Так, у клясавай грамадзе нават табліцу лёгарытмаў умеюць выкарыстоўваць для клясавых мэт, і ў гэтым сэнсе ў клясавай грамадзе няма бясклясавай навукі...

Урэшце, пра „няскрушальнасьць і нязьнішчанасьць“ рэлігіі, аб чым з такім уздымам гаварыў дакладчык.

Я разам з дакладчыкам гатоў прызнаць, што рэлігія будзе яшчэ доўга, магчыма, дурманіць галовы людзей. Але што-ж з тэтага вынікае? Мітрополіт Введзенскі абвяшчае несьмяротнасьць рэлігіі. Я гатоў прызнаць гэту „несьмяротнасьць“, але разумеючы яе толькі так, як поэта, які сказаў, што „ўсё ў сьвеце сьмяротна—несьмяротна толькі глупства людзкое“. На гэтую „несьмяротнасьць“ прэтэндуе мітрополіт Введзенскі?

Так, за абразам рэлігіі сунуцца яшчэ сотні тысяч, хай мільёны. Што-ж з таго?... Хто там? Там цёмныя і няпісьменныя масы, што не дасьлі да роўню элемэнтарных прырода-навуковых ведаў. Там скнцды і фальшыўцы, што ня вераць ні ў бога ні ў чорта, што выкарыстоўваюць рэлігію ў сваіх карысна-клясавых мэтах для замацаваньня свайго панаваньня, для ўзмацненьня інэртнасьці і пасыўнасьці мас. Там—служкі культу, гэтыя „профпрацоўнікі рэлігіі“. Там—баязьлівыя фантазёры, якія баяцца здані сьмерці і таму будуюць розныя фантазіі пра несьмяротнасьць. Там—няўдачнікі, задушаныя жыцьцём на зямлі і накіраваныя думкай на неба. Так, яны ўсе з Вамі. Але няўжо гэта пераканальна?

Гісторыя зрабіла канчатковы прыгавор над рэлігіяй. Мы сьведкі таму, як ён выконваецца. Яшчэ звоняць царкоўныя званы, але іх звон усё больш упарта глушаць фабрычныя гудкі. І таму іх звон не заклікальны, а хаўтурны...

# НЕКАТОРЫЯ МОМАНТЫ З ДАРЭВОЛЮЦЫЙНАЕ АСЬВЕТЫ НА ТЭРЫТОРЫІ СУЧАСНАЕ МАГІЛЕЎШЧЫНЫ

Я. ТРОСЬКА

### Сельскія асьветныя ўстановы

На тэрыторыі сучаснае Магілеўшчыны (акругі) ў 1913-14 вучэбным годзе ўсяго, лічылася 494 міністэрскіх, земскіх і ц.-прых. школ—прымітываў. Апошнія складалі 43,5 проц. ад агульнага ліку школ.

У гэтых школах навучалася 30.545 дзяцей, што складала 31 проц. ад агульнага ліку дзяцей школьнага ўзросту. Настаўнікаў, агульным лікам, было 611 чалавек.[1])

Адзначаны лік культ-асьветных устаноў на вёсцы згодна з проэктам, уложаным Магілеўскім Губэрскім Земскім Зборам і ўхваленым Міністэрствам Народнай Асьветы, павінен быў штогодна пашырацца з такім вылічэньнем, каб на 1917 год „Магілеўская губэрня ўвашла ў лік тых губэрняў Імпэрыі, дзеля якіх забясьпечана ўжо агульная магчымасьць першапачатковага навучаньня дзяцей!“

Невядома, ці напраўду гэта вышла-б, што старая царская школа стала-б агульна „даступнай“ на 1917 год у тым выпадку, калі-б ня здарылася імпэрыялістычная вайна, толькі-ж напэўна магчыма сказаць, што прышоў 1917 год і школьная сетка далёка не дацягнула да „нормы“ і што, наогул, пры ўмовах царскага імпэрыялізму ня так скора прышлося-бы дачакаць больш-менш здавальняючага агульнага навучаньня, бо самы імпэрыялізм заўсёды ў пэрспэктыве павінен быў нажыдаць экономічныя катастрофы, якія бязумоўна ў першую чаргу адбіваліся-б на школьнай сетцы. У дадатак-жа і асьвету імпэрыялістычны ўрад праводзіў і праводзіў-бы ў нас такую, ад якой было-б больш шкоды, ніж карысьці.

Цікава заўважыць, што названы магілеўскі земскі проэкт зусім не даваў пэрспэктыў на навучаньне хаця-б элемэнтарнай пісьменнасьці ўсяе тае масы дзяцей, якая штогод заставалася за сьценамі школы і якая пасьля мінаваньня 8 год (з 1906) па шляху да „агульнага навучаньня“ ў 1913-14 г. складала 70 проц. з агульнага ліку дзяцей школьнага ўзросту.

Нарада інспэктароў народных вучылішч Магілеўскай губ. ад 1913 г. зазначае, што „нядзельных“ школ (васкрэсных) на падтрыманьне дзяр-

---

[1]) Вылічана паводлуг даных памятнай кніжкі па Магілеўскай губ. за 1914 г.

жавы ці земства „пакуль што нямаш“, хаця й „ёсьць попыт на гэткага роду школы сярод сялян Магілеўшчыны“. Напрыклад, сяляне вёскі Старасельля Нежкаўскае вол. ў 1913 годзе прасілі адчыніць дзеля іх нядзельную школу на 21 чалавека; сяляне вёскі Савелінкі Шклоўскае вол. гэтак сама заявілі „аб сваім жаданьні мець вузорную ці нядзельную школу дзеля дарослых на 16 чалавек“.

Што тычыцца паўторных школ дзеля масавага рэцыдыву з мэтаю ізноў навучыць іх „чытаць і пісаць паруску“, дык іх па прызнаньні тэйжа нарады гэтак сама „ў межах Магілеўшчыны пакуль што няма зусім, хаця адчыненьне іх складае жыцьцёвую патрэбу“.

Гэткім чынам мы бачым, што сетка нават царскіх русіфікацыйных асьветных установ, у якіх асьвета будавалася на асновах „рэлігійна-маральнага і патрыотычнага“[1]) выхаваньня, магчыма, на карысьць працоўных „інародчаскіх мас“ пасьля вайны ня хутка ахапіла-б гэтыя масы, а калі і ахапіла-б праз 10-15 год, дык толькі школьны ўзрост, які, дзякуючы навучаньню „чытаць і пісаць паруску“, без канца перараблуся-б у рэцыдыў.

У такім становішчы была сеткавая справа са школьнымі і па-зашкольнымі культ-асьветнымі ўстановамі па сельскіх мясцовасьцях; што-ж тычыцца гарадоў, дык у іх было куды горш. У гарадох па прызнаньні тэй-жа нарады „колькасьць пачатковых школ у вапошнія гады зусім не павялічваецца“. Аб справе ўкладаньня плянаў на заснаваньне агульнага пачатковага навучаньня нарада гаворыць, што „для гарадоў Магілева і Быхава проэкты школьных сетак уложаны, але яшчэ ня прыняты гарадзкімі думамі (1913 г.), для г. Чавус школьная сетка нарыхтоўваецца і будзе закончана на 1914 год.

Між тым, як у 1924-25 вуч. годзе, ня гледзячы на ўсю нядаўнюю нашу беднасьць, спадчыну імпэрыялістычнае і грамадзянскае вайны, сетка культ-асьветных установ, пастаўленая на моцны экономічны грунт, ужо перавысіла паказаную сетку 1913-14 г. і мае пэўныя пэрспэктывы ў напрамку ахапленьня школьнага і па-зашкольнага ўзросту; апроч таго праз нацыянальны прынцып свае пабудовы самая асьвета забясьпечвае ад масавасьці рэцыдыву.

Сетка 1924-25 году ў параўнаньні з 1913-14 г. перавысіла на 11 школ прымітываў ці на 84 комплекты; дзяцей школьнага ўзросту ахапіла на паўтраці тысячы болей. Усяго дзяцей ахоплена 33 проц. на сяле і 65 проц. па гарадох.

Адначасна на тэрыторыі акругі ў названым годзе працавала:
ліквід. пунктаў сеткавых . . . . . . . . 10
„ „ для пераменьнікаў . . . . . . . 90
„ „ пры т-ве „Прэч няпісьменнасьць“ 200

[1]) Аб рэлігійным і патрыотычным выхаваньні глядзі ў главе аб „характары асьветы“.

Яны прапусьцілі блізка 65.000 чалавек [1]).

За вучэбна-выхаваўчаю справаю на тэрыторыі сучаснае Магілеўшчыны ў 1913 годзе назіралі тры вучастковых інспэктары і тры павятовых „наблюдацелі“. На аднаго інспэктара або наблюдацеля прыходзілася каля 120 школ.

Такі значны лік школ, што прыпадаў на інспэктарскі вучастак, быў шчасьлівым выпадкам дзеля Магілеўшчыны. Гэтым хаця трохі сельская школа забясьпечвалася ад шчыльнае сувязі з „ісьціна-рускім“ начальствам, якое ня мела магчымасьці ўзорна настаўляць школы на русіфікацыйныя рэйкі, надаваць ім асаблівага імпэту ў гэтым напрамку, і якое часта абыходзілася тым, што запісвала візытацыю, запатрабаваўшы да сябе школьную візітацыйную кнігу.

Нявыгоднасьць дужа вялікіх інспэктарскіх вучасткаў была зусім зразумелаю Віленскай вучэбнай акрузе, якая яшчэ з 1863 г., калі „ўсякая школа для беларусаў павінна (была) стаць праваднікам ісьцінае асьветы ў духу хрысьціянскім і дзяржаўна-рускім, і мова ў школе павінна быць выключна руская“ [2]), устанавіла, каб на аднаго інспэктара прыходзілася ня больш 50 школ. І, відаць, толькі экономічныя ўмовы ці выпадковая нядбайнасьць асобных урадоўцаў не дазвалялі прытрымлівацца вызначанай нормы.

## Характар асьветы

### *а) Школы Мн. Нар. асьветы*

Калі паглядзець на старую школу ў Беларусі за часы з 1864 і да 1917 году, дык адразу кідаецца ў вочы страшэннае яе ўбоства, шкадлівы дзеля нацыянальнае самабытнасьці кірунак, амаль што поўная адсутнасьць прогрэсу ў напрамку пэдагогічных патрабаваньняў.

Не зважаючы на тое, што кіраўнікі ня толькі міністэрскіх, але нават і царкоўных школ, офіцыяльна лічыліся з аўторытэтамі Я. А. Каменскага, Ушынскага і інш, ня гледзячы на тое, што ім былі добра вядомы пэдагогічныя думкі першага—„аб школе роднае мовы“ (6—13 г. г.) другога—аб выхаваўчым значэньні роднае мовы, гэтыя кіраўнікі фактычна зусім ігнаравалі беларускую мову ў школе, заплюшчвалі вочы на яе, і чым бліжэй да рэволюцыі 1917 году, тым мацней уціскалі беларускую самабытнасьць, тым энэргічней насаджвалі праз школу русыфікацыю, расійскую вялікадзяржаўнасьць!

У школьнай русіфікацыйнай політыцы адзіным фронтам з адзінаю солідарнасьцю йшлі ўсе ведамствы—і Мн. Нар. Асветы, і Царкоўнае, і, пазьней, Земства са ўсімі тыпамі сваіх „культ-асьветных“ установў.

Калі яшчэ ў часы Мураўеўшчыны, 1863 году, у часы пературварэньня школы па Беларусі з фактару полёнізацыі ў фактар русіфікацыі, „высо-

---

[1]) Лічбы пераняты са справаздачы Магіл. акр. АНА ў 1925 годзе.

[2]) Брошура „К 50-летию Виленской дирекции Нар. Училищ“.

кія прадстаўнікі“ Мн. Нар. Асьв. у васобе, напр., В. Золатава[1]) і іншых, як-бы жадаючы апраўдаць гэтую „надзвычайна спрыяючую асьветным патрэбам народу акалічнасьць“ (русіфікацыю заместа полёнізацыі), прызнавалі, што на Магілеўшчыне, як і ва ўсёй Віленскай вучэбнай акрузе існуе „местное наречие, крестьянская *мова*“ (курсіў Золатава) і што патрэбны настаўнікі, якія павінны ведаць гэтую сялянскую мову, дык у пазьнейшыя часы ніхто не хацеў і запнуцца аб тым, што ў беларусоў ёсьць свая „сялянская мова“ і што яе трэба ведаць настаўніку.

Наадварот, кожнаму беларусу, вучню якой-небудзь настаўніцкае вучэбнае ўстановы або настаўніку школы ўвесь час дзяўблі, што ніякае беларускае мовы, як такое, няма, што настаўнік, калі часам і ведаў „простыя мужыцкія словы“, дык павінен чым хутчэй выкінуць іх з галавы, забыцца на іх, павінен ганьбаваць імі і адшліфаваць сябе ў расійскай мове.

Папраўдзе-ж і пераконаньне чыноўніка, напоцат Золатава і самога Мн. Нар. Асьв., у тым, што настаўнікі на Беларусі павінны ведаць „сялянскую мову“, хутчэй трэ' было разумець так, што настаўнік можа і ня ведаць гэтае мовы, што ён нават абавязаны змагацца з ёй, выкараняць яе, але-ж ён толькі павінен быць з тутэйшых мясцовасьцяй, а чаму?—каб не выклікаць сярод сялянства „недавер'я!“

У тых-жа „Записках о сельской грамотности в Могилевской губ.“ Золатаў ставіць нават задачу перад міністэрствам „знайсьці спосаб для сталай падрыхтоўкі сельскіх настаўнікаў з туземцаў і туземак“.

У выніку падобных думак Мураўёўскі ўрад у 1864 г. адчыняе ў Маладзечыне на Віленшчыне настаўніцкую Сэмінарыю. Пазьней на Беларусі адчыняецца яшчэ некалькі настаўніцкіх сэмінарый. Усе яны маюць на мэце падрыхтаваць настаўнікаў-русіфікатараў з „туземцаў і туземак“.

Па сутнасьці справы, такія мерапрыемствы, бязумоўна, былі ня ўступкай беларускай нацыянальнасьці, а хітрым манэрам расійскага ўраду ў зьвязку з аб'ектыўнымі ўмовамі, якія склаліся на Беларусі і прыватна на Магілеўшчыне.

З абвяшчэньнем у 1864 г. „палажэньня аб начальных вучылішчах для Паўночна-Заходняга Краю“, якое ўстанаўляла прадметамі вучэбнага курсу школ—а) закон божы, б) расійскую мову, в) першыя чатыры дзеяньні арытмэтыкі і г) царкоўныя сьпевы—і зазначала, што выкладаньне павінна вясьці паруску; тутэйшыя сяляне, што раней праз сваю прыхільнасьць да асьветы часта школы ўтрымоўвалі на свой кошт, „самі наймалі дамы і настаўнікаў, якім плацілі грашыма ці хлебам“[2]), раптам не ўпадабалі „новае рускае школы“.

---

[1]) „Записки о сельской грамотности в Могилевской губ.“ Золотов. 1864 год.

[2]) В. Золатаў—„Записки о сельской грамотности в Могилевской губ., стар. 7.

„Сяляне-беларусы катэгорычна адмаўляліся ад навучаньня дзяцей расійскай пісьменнасьці і ад адчыненьня дзяржаўных школ у іх сёлах“— зазначаецца ў „Юбілейным аглядзе 1864—1914 г.“ Віленскае дырэкцыі нар. вучылішчаў.

У гэтым-жа аглядзе падкрэсьліваецца, што нават і да 1914 году ў „Паўночна-Заходнім краі“ трапляюцца мясцовасьці, „дзе насельнасьць ня толькі не спачувае рускай школе і распаўсюджаньню рускай пісьменнасьці, але бачыць у ёй свайго ворага“ (стар. 18).

Настаўнікаў з мясцовага жыхарства, якія-б былі благанадзейныя („неблаганадзейных настаўнікаў па загаду зьверху безадкладна звальнялі“) і якія-б ведалі расійскую мову, у 1864 г. было зусім мала. Мураўёў-шыбельнік, хаця „дапамагаў“ у „запрашэньні скончыўшых і нескончыўшых духоўныя сэмінарыі“ з цэнтральных губэрань на настаўніцкія пасады (гл. „юбілейны агляд“ стар. 11), толькі толку ад гэтага было мала. бо і ў гэткіх ахвотніках быў недахват. Справа ў тым, што гэткі элемэнт толькі з гвалтам мог асесьці на працы сярод сялян.

Малакарыснасьць для ўраду ад такога спосабу русіфікацыі была ўжо тады зразумелаю. Аб гэтым сьведчаць наступныя словы з „запісак“ Золатава: „Цыркулярнае запрашэньне сэмінарыстых, скончыўшых і ня скончыўшых курс, на пасады настаўнікаў і з тым разам валасных пісароў, лічу зусім непрактычным—папершае, не даволі нават добра скончыць сэмінарскі курс, каб прыняць на сябе два такія надзвычайна важныя абавязкі без папярэдняе падрыхтоўкі да тае і другое, што і вызначылася ўжо на самай справе; падругое, нават добра падрыхтованы на пасаду настаўніка чалавек, але незнаёмы з мясцоваю гаворкаю, сялянскаю *мовою*[1]), сустрэне перашкоды пры выкладаньні; патрэцяе, якое-ж будзе становішча чалавека яшчэ бяз практыкі ў жыцьці, адарванага ад роднага месца і закіненага на адзіноту ў край, зусім дзеля яго новы, і да таго-ж проста ў дзярэўню, у кола людзей, з якімі на першых парах яму цяжка будзе нават паразумецца. На такое дабрахвотнае выгнаньне можа прымусіць – ці страшэнная бедната, ці надзея на абы. ці шчыра місыонэрскае захапленьне справаю; пачацьвертае, на чалавека, які прыехаў бог ведае адкуль, будуць узірацца з некаторым нават варожным недавер'ем“[2]).

Такія, натуральна, вынікалі перашкоды на Магілеўшчыне і ва ўсёй Беларусі ў плыні русіфікацыйнае політыкі 60-х гадоў, накірованай праз школу на змаганьне з беларускасьцю непасрэдна ў шырокіх масах сялянства. Каб абыйсьці або зьнішчыць іх, былі прыдуманы новыя сродкі — спэцыяльна організаваныя настаўніцкія сэмінарыі, дзе беларусоў перараблялі часткаю ў „ісьціна-рускіх“ людзей, якія, працуючы пасьля ў сельскай школе, праводзілі чарнавую работу русіфікацыі і прышчаплялі ідэі расійскае вялікадзяржаўнасьці.

---

[1]) Курсіў Золатава.

[2]) Золатаў.—„Запіскі“, стар. 8.

Кіравалі ўсім напрамкам выхаваўчае працы „міністэрскіх асьветных устаноў“—папячыцель, дырэктар, інспэктар—людзі бязумоўна „пэўныя“ з боку „ісьціна-рускае і хрысьціянскае“ ідэолёгіі, якія пераважна былі выхаванцамі расійскае духоўнае акадэміі і запрашаліся на Беларусь пераважна з вялікарускіх губэрань. Каб ілюстраваць гэту думку, даволі ўспамянуць аб папячыцелях віленскае вучэбнае акругі—кн. Шырынскім-Шахматаву, Карнілаву, Папову; аб дырэктарох магілеўскае дырэкцыі—Садакову, Папову і К°.

Самым бліскучым момантам русіфікацыйнай політыкі ў сельскіх школах Магілеўшчыны з 1864 году — эры русіфікацыі быў факт пераліцаваньня школы з польскае мовы на расійскую, з аднэй народнае мовы на другую. Беларуская мова, як сродак школьнага выхаваньня, да тэй пары амаль што зусім была ўжо выцісьнена ранейшаю полёнізатарскаю політыкаю. Самая-ж сыстэма выхаваньня патрыотызму да расійскага прастолу перад 1864 годам ня была тады яшчэ добра ўдасканалена.

Прычына гэтага хавалася ў ранейшым напрамку політыкі, што і адбілася ў маласкладанасьці самае праграмы сельскае школы.

Да 1863 году, напрыклад, уся праграма „рускае“ школы, на чале якой пераважна мог быць парафіяльны поп, складалася з трох кніжак—„буквара, часаслова і псалтыра“ [1]). Пасьля 1864 году яна зьменена была ў тым напрамку, што „закон божы“ выкладаўся больш сыстэматычна, уведзена была арытмэтыка „з некаторымі разуменьнямі па геомэтрыі“, і „граматнасьць“ была пашырана болей падрабязнымі географічнымі ведамі, пераважна аб Расіі, гісторыяй Расіі ў сувязі з гісторыяй іншых народаў!

Аднак, і такая праграма, з пагляду пазьнейшага начальства, не магла забясьпечваць патрэбнага патрыотычнага выхаваньня, дзеля чаго яно без перастанку клапацілася аб палепшаньні гэтае справы дадатковымі мерапрыемствамі. Асаблівую шчырасьць у гэтым напрамку выказалі магілеўскія „асьветнікі“ напярэдадні імпэрыялістычнае вайны 1914 г.

Вельмі добра аб гэтым сьведчыць протокол губэрскае інспэктарскае нарады ад 28-XII—1913 году ў г. Магілеве, орыгінал якога захаваўся ў магілеўскім архіве [2]). Па пытаньні „аб патрыотычным выхаваньні ў пачатковых школах“ у гэтым протоколе гаворыцца, што „для палепшаньня патрыотычнага выхаваньня ў пачатковых школах“ нарада прызнала неабходным зацьвярдзіць абавязковасьць ва ўсіх такіх школах наступных мерапрыемстваў:

---

[1]) Золатаў.—„Запіскі“, стар. 1.

[2]) Нарада адбылася ў складзе — дырэктара С. А. Лосева і інспэктароў Л. І. Сухабокава, В. С. Чыкідоўскага, Л. Д. Дзьмітрыева, І. А. Крукава, М. М. Кароткага, І. В. Дуброўскага, І. В. Кавалёва, О. К. Лявіцкага, А. С. Багдановіча, Г. В. Блешанкова і Н. С. Зацімоўскага.

1. Чытаньня ў клясе артыкулаў аб выдатных падзеях з „Отечественной истории" ў сыстэматычным парадку.

2. Чытаньня ў клясе артыкулаў географічнага характару, якія датычаць радзімы і бацькаўшчыны (Расіі!).

3. Экскурсій вучняў, калі магчыма, у больш аддаленыя месцы, асабліва ў тыя краі, пункты, якія зьяўляюцца дарагімі рускаму сэрцу па тым ці іншым гістарычным і рэлігійным успамінам.

4. Магчыма больш шырокага распаўсюджаньня ў школах народных чытаньняў гістарычнага, географічнага і руска-бытавога зьместу са сьветавымі малюнкамі.

5. Нарыхтаваньня ва ўсіх трапных выпадках школьных сьвят, прысьвечаных успамінам аб выдатных падзеях і асобах з рускае гісторыі і жыцьця.

6. Вывучэньня і падрабязнага высьвятленьня ў школах патрыотычных вершаў, гымнаў, песень.

7. Выдачы кожнаму скончыўшаму курс навучаньня ў пачатковай школе портрэтаў іх вялічастваў гасудара імпэратара, гасударыні імпэратрыцы і насьледніка цэсарэвіча або асобных альбомаў (!) з портрэтамі аўгусьцейшых асоб царственнага дому.

8. Уважлівага сачэньня за тым, каб ва ўсіх клясных пакоях пачатковых школ абавязкова мелісь „правильно исполненные" портрэты іх імпэратарскіх вялічастваў у адпавядальных абалонках і памагчымасьці такія-ж портрэты ранейшых цароў сучаснага царскага дому.

Паданая вынятка, як ня трэ' лепш, паміж іншым, гаворыць аб дарэволюцыйнай так званай „аполітычнай" асьвеце ў школах Магілеўшчыны.

Гэтая „аполітычнасьць" у чужаслове, або, справядлівей, зусім выразная політычнасьць школьнае асьветы на Магілеўшчыне, як і ва ўсёй Беларусі, настолькі праела мазгі яе нядаўніх кіраўнікоў—інспэктароў на чале з дырэктарам, што яны вялікадзяржаўнае патрыотычнае выхаваньне, русіфікацыю ўдасканальвалі і вывучалі ня толькі як асобны бок школьнага выхаваньня, а яшчэ як і складовую частку рэлігійна-моральнага выхаваньня, якое ставілася на чале ўсяе выхаваўчае справы ў пачатковай школе.

Адзначаныя падумкі падмацоўвае протокол тае-ж інспэктарскае нарады 1913 г. па пытаньні аб рэлігійна-моральным выхаваньні ў пачатковых школах, дзе перш-на-перш зазначаецца kredo тагочаснае сельскае школы ў разуменьні магілеўскіх кіруючых „асьветаўцаў" наступнымі словамі: „на пачатковай школе, апроч распаўсюджаньня ў народзе пісьменнасьці і элемэнтарных навуковых ведаў, ляжыць яшчэ *найпершае* па свайму значэньню заданьне выхаваньня і ўмацаваньня ў сьвядомасьці вучнёўства, а праз яго і ў народнай масе, рэлігійнага пачуцьця, правілаў хрысьціянскае моралі. шчырае любасьці да цара і бацькаўшчыны. На да-

сягненьне ўсяго гэтага і павінна быць накірована ўся пабудова школьнага жыцьця і ўся службовая дзейнасьць кіраўнікоў пачатковае школы" (!).

Далей прапануецца „дзеля забесьпячэньня посьпеху ў гэтай справе" ўсім настаўнікам пачатковых школ наступнае:

„1. У кожнай пачатковай школе штодзень з богабойнасьцю павінны прачытвацца ў прысутнасьці настаўніка, а пры магчымасьці і законанастаўніка, паложаныя малітвы са сьпяваньнем некаторых з іх у наступным парадку"...

Падлічыўшы гэтыя малітвы, даведваемся, што іх трэ' было прачытаць і прасьпяваць 14! перад пачаткам заняткаў, 4 пасьля заняткаў, адна перад палуднем, адна папалудні. Апроч таго, зранку ў дадатак да 14 малітваў павінна прачытваць дзьве (!) главы з эвангэльля „*паруску, без тлумачэньняў!*"

У трэцім пункце зазначаецца, што ў кожным пакоі школьнага памяшканьня павінен быць сьвяты абраз, а ў клясах, памагчымасьці, „налой у прылічным аблачэньні" з эвангэльлем на ім.

Прачытаўшы гэты пункт, міжвольна спамінаецца, як у тым-жа 1913 годзе ў другой частцы Беларусі, Сакольскім павеце Гарадзеншчыны, пры інспэктары Дзьмітраўскім і дырэктары Тымінскім, пішучага гэтыя радкі, зьнялі з пасады настаўніка Шудзялаўскае сельскае школы за тоё, што ў яго пакоях ня было „сьвятых абразоў", а віселі портрэты Талстога, Горкага і інш.

У чацьвертым пункце падаецца падрабязнае настаўленьне аб тым, як павінна вучням разьмяшчацца (хлапцы асобна ад дзяўчат !) у царкве і што ў якую пару выконваць у часе імшы.

У пятым пункце адзначаны ўсе сьвяты царкоўныя і царскія, у якія вучні павінны прыходзіць у царкву на імшу і „прызнаецца пажаданым устанаўленьне штогодняга сьвяткаваньня пачатковымі школамі Магілеўшчыны 26 лістапада,—дня памяці выдатнага паборніка праваслаўя і рускіх нацыянальных інтарэсаў у Паўночна-Заходнім краі—архібіскупа Г. Каніскага!" і г. д., і г. д.

Дужа характэрным дзеля 1913 году—пярэдаднем імпэрыялістычнае вайны—зьяўляецца тое, што „выдатная" губэрская інспэктарская нарада на працягу тыднёвае свае працы галоўную ўвагу адмежавала, апроч закранутых вышэй пытаньняў, дакладу дырэктара народных вучылішчаў аб законе божым і ц.-сл. мове ў сельскай школе і іх адносінах да рэлігійнамаральнага выхаваньня дзяцей.

І цікава, што ўсё гэта йзноў такі пераблытвалася з русіфікацыйнымі тэндэнцыямі пры падмешваньні „орыгінальных" пэдагогічных думак на манер „корэляцыі" закону божага з расійскаю моваю: „пісьмовыя працы на лекцыях закону божага павінны быць срога ўзгоднены з програмаю гэткіх-жа прац па расійскай мове і йсьці роўналежна з гэтымі апошнімі" (гл. стар. 30) або тое, што „ўвясьці біблію наогул і сьв. эвангэльле,

галоўней усяго і перш за ўсё, у сям'ю—няхай будзе нашым бліжэйшым заданьнем і нязьменнаю мэтаю . . . . . . . . . . (бо) нам, рускім, зрабіць гэта няцяжка!“ Дзеля чаго „прадпісваецца“, каб у кожнай школе штодзень „неапусьціцельна“ прачытвалася (паруску?) дзьве (!) главы з эвангэльля „і так, каб адчувалася сьвятло ціхае сьвятое славы!!!“ І гэткая тэолёгічная філёзофія разводзіцца на 15 друкаваных машынкаю лістох!

Дамінуючае месца, якое прыпадае на рэлігійна-моральнае і патрыотычнае выхаваньне ў старой школе 1864—1917 г. г., слабы і да таго-ж ненормальны разьвітак так званае „граматнасьці“ (гуманітарныя веды!), зусім выразна гавораць пра тое ўбоства асьветы на Магілеўшчыне аб якім зазначана ў пачатку гэтае главы.

У такім становішчы і пад такім страхотным кіраваньнем знаходзіліся так званыя міністэрскія, а з 1907 году і земскія народныя школы.

Міжвольна ўстае пытаньне, што-ж тады павінна было чаўпсьціся ў кіраўніцтве царкоўна-прыходзкімі школамі, падуладнымі „пастырам сьвятое царквы?“

І вось, пазнаёміўшыся з гісторыяй царкоўна-прыходзкіх школ Магілеўшчыны за 25-лецьце (1884—1909) і пазьнейшыя гады, прыходзіцца ўявіць сабе, што гэткага кірунку „асьвета“ на Магілеўшчыне мела выдатнае разьвіцьцё ў параўнаньні з іншымі краінамі Беларусі, чаму, відаць, і сьвецкія „асьветныя“ колы знаходзіліся не бяз уплыву з боку кіраўнікоў царкоўна-прыходзкіх школ—пастыраў Магілеўскае эпархіі.

*в) Царкоўна-прыходзкія школы*

Гэтыя школы, складаючы 43,5% (у 1913-14) ад агульнага ліку школ, займалі значнае месца ў сетцы вясковых культасьветных устаноў. Са слоў эпархіяльнага наблюдацеля Магілеўскіх царкоўна-прыходзкіх школ— І. Барнатнага (гл. „25-лецьце ц.-прых. школ Магіл. эпархіі. 1884—1909 г.г.“) „па процантавай адносіне вучнёўства ў ц.-прых. школах дзяцей да агульнае масы дзяцей школьнага веку і, гэткім чынам, па наліччу і распаўсюджанасьці цар.-прых. школ сярод жыхарства,—Магілеўская эпархія на 1906 год займала другое месца ў Расіі, даючы пяршынство ў гэтых адносінах адной Тульскай!“

Царкоўныя школы, аднаклясавыя, двохклясавыя і ўтараклясныя, яшчэ ў 1900 годзе мелі значную вагу, рабілі значны ідэолёгічны ўплыў на акаляючыя масы.

Па думцы таго-ж Барнатнага, двохклясавыя царкоўныя школы „вельмі многім асобам мясцовага сялянства далі выхад у жыцьцё да рознага роду іншых шляхоў дзейнасьці“.

Для ілюстрацыі Барнатны падае прыклад па Мілаславіцкай двохклясавай школе, з якое „пяць выхаванцаў прашлі ў Віленскі Настаўніцкі Інстытут, чатыры мелі гонар прыняць сан бацюшкі, 21 займаюць месцы

дыяканаў і дзякоў, адзін—на пасадзе начальніка п.-т. канторы, адзін—афіцэрам, адзін—прыставам, адзін урадаўцам контрольнае палаты і г. д.!"

Прыклад добры, адразу відаць, што эпархіяльныя ўрадаўцы вялі рэй сваіх школак, як належыць, пладзілі выцятых настаўнікаў ц.-пр. школы, ды яшчэ значны % накіроўвалі ў дзякі і прыставы.

Відаць, толькі нязначная частка з гэтых выхаванцаў змагла захаваць у сабе здаровую вольную думку.

Сваёю здольнасьцю да організацыі царкоўнае асьветы Магілеўшчына ў асобе эпархіі вызначалася і была выдатнаю са старых гадоў. Іня дзіва, што кіраўнікі царкоўных школ заўсёды, і нават у вапошнія гады, мелі такі моцны ўплыў на кіраўнікоў іншых Магілеўскіх школ. Тож яшчэ за год да 1884 году, калі „раздаўся па ўсёй рускай зямлі дабравесьнік царскага слова, заклікаўшага духавенства да руля народнае асьветы,—Магілеўская царква ўжо была на варце і з запаленымі ліхтарамі ўстрэла царскі вокліч!"[1]) Магілеўская эпархія пры захапленьні „ўладыкі Віталія" на сваю дзейнасьць сумесна з губарнатарам Дэмбавецкім „стварыла цуды" ў організацыі царкоўных школ. Пры выключных субсыдыях ад цара, сыноду і нават Мін. Нар. Асьветы (!) Магілеўская эпархія (у старых межах) да 1884 году адчыніла 898 цар.-прых. школ на 17.887 вучняў, пасадзіўшы на настаўніцкія пасады з духоўнага званьня (папоў, дыяканаў, дзякоў) болей 50%[2]).

Гэты момант, у які з агульнага ліку школ зразу адчынілася 600 Вітальлеўскіх, быў гістарычным развоем царкоўнае асьветы на Магілеўшчыне, ён быў падвалінаю для царкоўнага мардаваньня ўсяе асьветы да апошніх гадоў царызму.

Спэцыяльны орган па царкоўнай асьвеце—эпархіяльны вучылішчавы савет, які выдзелены быў з адноўленага Дэмбавецкім Багаяўленскага брацтва, пры чынным удзеле найбольшага фанатыка царкоўнае асьветы Д. І. Ціхамірава, умеркаваў цэлую „сыстэму царкоўна-школьнае справы", цымусам якое зьяўляецца думка, каб выхаваць для царкоўнае школы асобнага настаўніка, бо, бачыце, „царкоўнае школы няма, пакуль няма настаўніка свайго, у царкоўнай-жа школе і ў царкоўным духу выхаванага!"

Побач з ц.-прых. школаю ў Магілеўшчыне пад ідэёвым і адміністрацыйным кіраўніцтвам эпархіяльнага *ведамства* была дужа пашырана й сетка „школ пісьменнасьці", асаблівы росквіт якіх прыпадае на 1901 г., калі іх налічвалася 1.376 (у старых межах). Адзначаная вышэй, штучна ўтвораная сетка ц.-прых. школ, трымаецца ня зьніжаючыся да часоў рэволюцыі, ня гледзячы на тое, што міністэрскія і земскія школы павінны былі ў сваім разьвітку скарачаць гэтую сетку. Тым болей, што

[1]) „25-лецьце",—Барнатны, стар. 20.
[2]) „25-лецьце",—Барнатны, стар. 19.

царкоўная школа, не зважаючы на ўсе вынікі, далёка ня была „забясьпечана ўсімі прыметамі нормальнае школы: памяшканьнем, пэўнай пэнсіяй, вучэбнымі дапаможнікамі і юрыдычна-поўнапраўным настаўнікам“.

Толькі-ж, хаця школа й ня была забясьпечана ўсім „патрэбным“, затое лінія і ідэолёгічны напрамак гэтае царкоўнае школы, укладзеныя кіраўнікам яе—эпархіяльным саветам—да апошніх дзён былі моцна забясьпечаны.

Асабліва гэты напрамак быў забясьпечаны ў Магілеве, дзе ён падтрымоўваўся агульнымі сіламі—у тым ліку земствам і „прадстаўнікамі міністэрства нар. школы“. Не дарма-ж у юбілейнай кніжцы Барнатнага сказана: „Прывітаньне асаблівае земскім людзям губэрні, заўсёды дабрахвотным да царкоўна-школьнае работы і гэтак няскупа задаваляўшым царкоўна-школьную справу. Братэрскае нашае дзякуй супрацоўнікам на ніве народнае школы (міністэрскае), *пасяброўску*—не перашкаджаючы—ішоўшых поруч з намі“.

### Ідэолёгія настаўніцтва

Калі мы задамося пытаньнем, няўжо-ж так удала пабудаваная на Беларусі, з благаслаўленьня Мураўёва-шыбельніка, сыстэма зацямненьня мас праз школы, прасякнутыя русіфікацыяй, рэлігійнасьцю і вялікадзяржаўным монархізмам гэтых яе тварцоў, як Шырынскі-Шахматаў, Карнілаў і К°, так такі сапраўды адбіла нашага асьветніка ад палітыкі, наогул, і беларускага нацыянальнага пытаньня, асобна? Няўжо-ж настаўнік Магілеўшчыны зрабіўся казённаю прыладаю ў выконваньні казённых заданьняў?

З афіцыяльнага і надворнага выгляду гэта было амаль што так; фактычна і па сутнасьці гэта было, бязумоўна, йначай.

Дакумантальных матэрыялаў, якія-б характарызавалі палітычнае kredo настаўніка дарэволюцыйных часоў, яго адносіны да русіфікацыйнае царскае ўлады, такіх матэрыялаў захавалася дужа мала.

Толькі недалёкая мінуўшчына, сьведкаю якое зьяўляемся мы самі, гаворыць, што нацыянальнае пачуцьцё настаўніка Магілеўшчыны, асабліва беларуса, моцна было задушана, у большасьці было атулена як-бы летаргічным сном; сам настаўнік, заспакоіўшыся тым, што школа нібыта павінна быць „аполітычнаю“, афіцыяльна ў школе з апатыяй выконваў казённую школьную програму, прасочаную расійскаю вялікадзяржаўнасьцю і рэлігійнаю моральлю; разуменьнем сваім настаўнік быў атэісты, хоць і вешаў на покуці абраз ад „усякае небясьпекі“; ідэі монархіі для яго былі чужымі і ён лятуцеў аб іншых часох, „калі дадуць працоўным права грамадзянства, а магчыма і рэспубліканскі лад“.

„Крамолы“ якой-небудзь супроць старога ладу, шляхам удзелу ў рэволюцыйных організацыях, настаўнік да 1917 году амаль што ня строіў, хаця ў ім заўсёды і поп, і ураднік, і губарнатар мелі на падазрэньні гэтую „крамолу“.

Сядзеў настаўнік у большасьці ціха, сядзеў як-бы ведаў, што сакрэтны стол канцэлярыі Магілеўскага губарнатара штомесяц непакоіўся аб тым, каб акуратна дастаўляліся весткі ад „пэрыфэрыяй" аб усякай неблаганадзейнасьці з боку мяшчан, рабочых, сялян, студэнтаў і настаўнікаў. Матэрыялы сакрэтнага стала канцэлярыі Магілеўскага губарнатара сьведчаць аб тым, што магілеўскае настаўніцтва, як рэволюцыйны актыў, дужа мала сябе выяўляла.

Прагледзеўшы справы гэтае канцэлярыі[1]) ад 1905 году „аб асобах, якія знаходзяцца пад асаблівым наглядам паліцыі", ці аб вулічных дэманстрацыях і непарадках у Магілеве, ад 1909 году „аб асобах, якія пад асаблівым наглядам паліцыі" ці даносы іспраўнікаў і земскіх начальнікаў адносна організацыі сялянскіх братваў, якія ўваходзяць у партыю соц.-рэв."; ад 1915 году „аб зусім сакрэтнай перапісцы". Прагледзеўшы ўсё гэта, кідаецца ў вочы, што сярод асоб політычна неблаганадзейных, якія ў большасьці папалі ў гэты лік за прыналежнасьць да рэволюцыйных організацый, амаль што зусім няма настаўнікаў. З ліку ўзятах пад нагляд за прыналежнасьць да організацый с.-д., с.-р., за ўдзел у супроць урадавых дэмонстрацыях ці падбухторваньні сялян супроць паноў—блізка ўсе 100 проц. прыпадаюць на „мяшчан" (фактычна местачковых саматужнікаў і рабочых), студэнтаў, рабочых, сялян, дактароў і вучняў.

Адна толькі справа сакрэтнага стала ад 1910 году пад назваю „Перапіска аб Чавускай організацыі с.-д." сьведчыць аб рэволюцыйнасьці двух настаўнікаў Чавускага раёну.

Па данясеньнях паліцыі ў Чавускай організацыі „Камітэту партыі с.-д.", якая была „ліквідавана паліцыяй 26-IX-1909 г.", лічыліся віднымі дзеячамі настаўнікі—Паўлюк Іванавіч Дунаеў і Фрадкін Мэндэль Ехіелеў.

Аднак, і ў іх пры вобыску былі знойдзены толькі недазволеныя брошуры, а прымет удзелу іх у організацыі і самае організацыі не дазнана, дзеля чаго пастановаю губарнатара Дунаеў і Фрадкін, якія праседзелі ў астрозе да поўнага дазнаньня па поўшаста месяцы, былі асвабоджаны і справа аб Чавускай організацыі была прыкарочана.

Паданы дакумант гаворыць, што ўсё-ж такі частка Магілеўскага настаўніцтва мела дачыненьне да рэволюцыйнае справы, хаця-б як перадатчык нелегальнае літаратуры.

Апошняе сьцьвярджаецца і сучаснымі жывымі сьведкамі з быўшых Магілеўскіх працаўнікоў асьветы, якія падаюць наступныя факты аб рэволюцыйнасьці, або бязбожніцтве настаўнікаў.

1. Настаўнік Матраеў быў высланы з Магілеўшчыны ў 1910 годзе за распаўсюджваньне Выбарскае адозвы.

---

[1]) Цэнтрархіў. Менск.

2. Настаўнік Лініч у 1913 годзе быў зьняты з пасады за атэізм. Ён-жа быў добрым перадатчыкам нелегальнае літаратуры, толькі гэта ня выкрылася.

3. Настаўнік Ноханаўскае школы—Антонаў у 1912 г. быў звольнены за палітычную неблаганадзейнасьць па настаяньні Аршанскага маршалка Андрыянава. Ён меў дачыненьне да рабочае арганізацыі.

4. Настаўнік Максімаў у Гомельскім павеце па захадах архірэя Варлаама быў звольнены за тое, што прычасаўся перад вобразам маткі боскае.

5. Настаўнік П. Хв. Кулешоў „Старэйшы бязбожнік“ Чавускага павету быў звольнены ў 1913 г., як неблаганадзейны [1]).

Зазначаныя факты, якія мелі афіцыяльнае выяўленене, усё-ж такі сьцьвярджаюць, што сярод настаўнікаў Магілеўшчыны ў гады даімпэрыялістычнае вайны былі фэрмэнты рэволюцыйнасьці і што яны, ня гледзячы на жорсткі рэжым старога ладу, прабіваліся на паверхню афіцыяльнае грамадзкасьці.

Дакумантаў, якія маглі-б засьведчыць выразную нацыянальную сьвядомасьць Магілеўскага настаўніцтва дарэволюцыйных часоў, у нас пад рукамі амаль што няма. Ёсьць толькі адзін дакумант, які ўкосна гаворыць, што сярод зрусыфікаванага беларускага настаўніцтва, наогул, і Магілеўскага, прыватна, прабівалася жывая крыніца нацыянальнае сьвядомасьці. Гэты дакумант—часопісь „Белорусский учитель“,—1909 году, якому суджана было пабачыць сьвет толькі ў трох (здаецца) нумарох і які пачаў выдавацца па ініцыятыве Віцебскага і Магілеўскага настаўніцтва.

Тыраж 1-га выпуску—1.000 экз., коштам на 135 рублёў. У вадным з артыкулаў „1-га выпуску“ гэтае часопісі аб Магілеўскім Т-ве за 1908 г. зазначаецца, што „праўленьнем было пастаўлена ў проэкт каштарысу 925 рублёў на выданьне настаўніцкае часопісі. Па гэтым пытаньні, якое выклікала гарачыя спрэчкі, ухвалена з прычыны недакладнае распрацоўкі проэкту выданьня часопісі—запытаць суседнія настаўніцкія Т-вы, ці ня прымуць яны ўдзелу ў выданьні раёнавае настаўніцкае часопісі, распрацаваць к наступнаму агульнаму сходу праграму часопісі і запытаць пісьмова ўсіх сяброў Т-ва аб згодзе“.

У выніку таго попыту на настаўніцкую часопісь ня толькі ў губэрскім, а нават усебеларускім маштабе, і пачаў выдавацца „Белорусский Учитель“.

Ва ўступнай увазе ад рэдакцыі якраз зазначаецца, што „ў межах Беларусі была зроблена спроба“ выдаваць часопісь настаўніцтвам Віцебшчыны („Голос учителя“) і што „ў Магілеўскім Настаўніцкім Т-ве

---

[1]) Здарэньні 3, 4 і 5 сьведчацца т. Лосевым, 1—т. т. Лосевым і Сілкіным, 2—т. Ермаковым.

ўзьнята пытаньне аб утварэньні пэрыодычнае настаўніцкае часопісі для свае і суседніх губэрань.

Далей рэдакцыя гаворыць аб абуджэньні сярод беларусаў нацыянальнае сьвядомасьці, у зьвязку з чым лічыць неабходным на старонках свае часопісі высьветліць пытаньне „аб нацыянальнай беларускай школе, а разам з гэтым і аб мове выкладаньня“, заклікаючы к вырашэньню гэтага пытаньня беларускага настаўніка, якому яно найбліжэй і які павінен выказаць адносна беларускай школы „свой аўторытэтны погляд“. Прагледзеўшы 1-шы вупуск „Белорусского учителя“, адразу відаць, што новая часопісь з першага нумару зьявілася настаўніцкім друкаваным пэрыодычным органам усебеларускага маштабу. У першым-жа нумары маюцца корэспондэнцыі, артыкулы ад настаўнікаў Віцебшчыны, Магілеўшчыны, Горадзеншчыны і інш. У першым-жа нумары пытаньне аб нацыянальнай беларускай школе, як кажуць, адразу ўзята за рогі; супрацоўнікам часопісі С. Ф. Русавай у артыкуле „На якой мове вучыць у школах Беларусі“ выводзіцца на чыстую ваду ўся беспадстаўнасьць у вывадах тых асоб і організацый („Белорусское общество“ у Вільні), якія лічаць, што найбольш адпавядаючай зброяй культурнай дзейнасьці беларускіх організацый і культурнага разьвітку беларускае народнасьці можа зьявіцца толькі руская мова“.

Т. Русава, зладзіўшы такія організацыі, як чорнасотніцка-русыфікатарскае „Белорусское общество“ ў Вільні на супярэчнасьцях іх абгрунтаваньняў у вывадах адносна беларускай мовы ставіць пытаньне рубам: „Ці патрэбна беларускаму народу школа з выкладаньнем на яго сялянскай мове, з кнігаю на тэй-жа мове, ці ён павінен, „прычасьціцца да агульна-чалавечае культуры“ на „панскай расійскай або польскай мове“. І выказвае ўпэўненасьць, што кожны сьвядомы беларускі настаўнік падтрымае погляд аб неабходнасьці для беларусаў свае нацыянальнае школы.

Такім чынам, настаўніцкая часопісь, якая стала выходзіць па ініцыятыве Магілеўскага і Віцебскага настаўніцтва, ужо ў 1909 годзе стала на варце правільнага вырашэньня пытаньня аб нацыянальнай беларускай школе; гэтая часопісь мела на ўвазе і клясавае разьмежаваньне ў Беларусі і ў гэтым заслуга Магілеўскага настаўніцтва.

Прыходзіцца толькі пашкадаваць, што наступныя 1910 і іншыя гады рэакцыі і вялікадзяржаўнага ўціску не далі магчымасьці працягнуць існаваньне часопісі, якая ўзяла правіловую клясаваю і нацыянальную лінію і недазволілі магілеўскаму настаўніцтву ўпісаць у старонкі часопісі больш выразныя заслугі справе высьвятленьня нацыянальнага пытаньня на Беларусі.

25 кастрычніка 1925 году.

# У СПРАВЕ БЕЛАРУСКАЕ НАВУКОВАЕ ТЭРМІНОЛЕГІІ

Антон Лёсік

**„Беларуская навуковая тэрмінолёгія. Выпуск першы. Элемэнтарная матэматыка“.** *Выданьне Інстытуту Беларускай Культуры. Менск, 1922.*

З прадмовы да гэтага выпуску „навуковае тэрмінолёгіі“ відаць, што, складаючы яе, аўтары кіраваліся наступнымі палажэньнямі:

1) „У васнову матэматычнае тэрмінолёгіі паложаны словы, што йснуюць („існуючыя“) у жывой народнай мове“. Але дзеля таго, што „чыстых тэрмінаў народная мова мае надта мала,... прыходзілася або ўтвараць нэолёгізмы, або браць чужаземныя тэрміны“.

2) „У тых выпадках, калі ў народнай мове ня было адпаведных слоў, або калі ўтвораныя нэолёгізмы былі вельмі штучныя, або ўрэшце, калі даныя тэрміны прынялі ўжо інтэрнацыянальную ахварбоўку,—прымаліся чужаземныя тэрміны“.

3) „У некаторых выпадках (як компроміс пры асабліва спрэчных тэрмінах) прымаліся па два тэрміны: чужаземны і беларускі (нэолёгізм)“.

4) „...калі расійскі тэрмін можа ўжывацца ў двох сэнсах..., тады ў слоўніку сустрачаюцца па два беларускія тэрміны на адзін расійскі“.

Карэнная памылка аўтараў „навуковае тэрмінолёгіі“ заключаецца ў тым, што яны стараліся палажыць „у васнову матэматычнае тэрмінолёгіі словы, *існуючыя* ў жывой народнай мове“. Але дзеля таго, што жывая народная мова ня можа выразіць у патрэбнай меры дакладна навуковую мысьль, яна і ня можа служыць асноваю навуковае тэрмінолёгіі; самі аўтары прызнаюць, што „чыстых тэрмінаў народная мова мае надта мала“. Навуковая мова зусім не зразумелая таму, хто ўладае толькі жывою народнаю моваю. У васнову тэрмінолёгіі трэ' было палажыць ня „словы, існуючыя ў жывой народнай мове“, а тэрміны, што ўстанавіліся ў навуцы; тэрміны гэтыя ў пераважнай большасьці чужаземнага пахаджэньня (грэц., лацн., франц.) „прынялі ўжо інтэрнацыянальную ахварбоўку“, а дзеля таго і няма ніякае патрэбы перакладаць на родную мову, бо пры такім перакладзе па 1-е, не ўдаецца дакладна выразіць тое паняцьце, што заключаецца ў тэрміне, які перакладаецца, а па 2-е, у пераважнай большасьці вытвараюцца „нэолёгізмы вельмі штучныя“, як, напр.: „ускосіна“ без азначэньня яе не дае паняцьця *дыяганалі*; тое самае можна сказаць аб усіх іншых тэрмінах, пераложаных на

беларускую мову: „прамер“ замест *дыямэтр*, „адрозьнік“ замест *дыскрымінант*, „абрыс“ замест *контур*, „концавосьсе“ замест *полюс* і іншыя.

Пераклад гэтых тэрмінаў толькі павялічыў лік іх ды абцяжыў вывучэньне элемэнтарнае матэматыкі, бо прыходзіцца знаёміцца з двума тэрмінамі, замест аднаго чужаземнага ў расійскай мове. Апроч таго, некаторыя тэрміны ў перакладзе не выражаюць таго паняцьця, што заключаецца ў чужаземным тэрміне, напр.: 1) „простастаўная лінія“ не выражае пэрпэндыкулярнасьці, бо калі пэрпэндыкуляр у суадносінах да горызонтальнае лініі будзе йсьці наклонна, то згодна з жывою народнаю моваю гэтую простую лінію нельга назваць „простастаўнаю“, а „нахіленаю“, бо „проста стаяць“—значыць стаяць вэртыкальна;

2) „асяродак“ не выражае геомэтрычнага паняцьця „цэнтр“, бо слова „асяродак“ перадае ня пункт наагул, а сярэднюю часьць цела; 3) „сукосьнік“ зусім не перадае паняцьця „ромб“: „сукосьнікам“ можна назваць і параллелёграм; 4) „вогнішча“ ня можа выразіць матэматычнага паняцьця „фокус“. Гэта можна сказаць аб большасьці перакладзеных тэрмінаў. Яно і зразумела: у жывой народнай мове тыя словы, каторымі заменены чужаземныя тэрміны, ня ўжываліся ў матэматычным значэньні і ня могуць перадаваць таго паняцьця, якое зьмяшчаецца ў навуковым тэрміне. У народнай мове з вядомым словам злучаецца пэўнае прадстаўленьне, але не навуковае паняцьце; напр.,—тэрмін „струна“ ня можа замяніць геомэтрычнага паняцьця „хорда“, бо з паняцьцем „струна“ злучаецца прадстаўленьне аб прыналежнасьці музычнага струмэнта, але не аб простай лініі, што злучае два пункты акружнасьці; або, напрыклад, „вогнішча“—ні ў якім выпадку ня можа падмяніць матэматычнага паняцьця „фокус“, як пэўнага пункта, з каторым ня злучаецца прадстаўленьне аб агню.

Вось чаму трэба згадзіцца з Чыкагскім профэсарам матэматыкі Юнгам, каторы кажа ў прадмове да расійскага перакладу свае кніжкі „Як выкладаць матэматыку“: „Математика в своем содержании, быть может, наиболее глубоко характеризует свойства человечества, как целого, и менее, нежели другие области мысли зависит от изменений, определяемых национальными условиями, разнообразием народов и языков“.

Ёсьць выпадкі перакладаў матэматычных тэрмінаў з грэцкае і лацінскае мовы і на іншыя мовы, напр., на француcкую і нямецкую і таксама ў пераважнай большасьці няўдала, так: 1) пафранцуску „ромб“ перакладзен словам „losange“, што значыць „косавугольнік“, але гэты-ж назоў можна даць і параллелёграму: 2) „процант“ перакладзена словам „interet“, што значыць „карысьць“, „дабро“, „прыбытак“, „выгода“. Ніводнае з гэтых слоў ня можа замяніць лацінскага слова „procentum“, і немцы лепш зрабілі, калі пакінулі лацінскі тэрмін das Procent свае. У нямецкай мове, поплеч з чужаземнымі тэрмінамі, ужываюцца і

напр.: 1) din Diwnstwib u Lnitlinin (руководящая, направляющая); 2) dnw Rombúb u din Raútn (грань у драгоценного камня, бубны в картах); 3) dnw Lonúb u Dngnl (кегли); 4) dab Pngmnnt u dnw Dúgnlabjynitt (шаровой отрезок). Але ўсе гэтыя паняцьці нямецкае мовы не перадаюць таго тэрміна, каторы ім заменен. У некаторых выпадках, для больш дакладнага выражэньня зьместу чужаземнага тэрміна немцы перадавалі яго складаным словам, напр., „цэнтр"—Mittelpunkt (сярэдні пункт), гэтак сама, як „полюс" у „навуковай тэрмінолёгіі" пераложан складаным словам „концавосьсе"; тым-жа часам Mittelpunkt не выражае паняцьця „цэнтр", як пункта, ад якога аднолькава аддалены ўсе пункты акружнасьці. Апроч таго, трэба сказаць, што ў беларускай матэматычнай тэрмінолёгіі зроблена многа штучных тэрмінаў, не зважаючы на тое, што самі аўтары стараліся ўхіліцца ад гэтага, напр., такія тэрміны, як „пэўнік", „адрозьнік", „прыпростакутная", „спад", „прамень", „прамень рухомы", „мімасяроднік", „складнікі", „вымога", „кантаслуп",—тэрміны ўсё такі штучныя.

Трэба згадзіцца, што лепш зрабілі расійскія ўкладальнікі матэматычнае тэрмінолёгі. Калі ў 1-ай чвэрці прошлага сталецьця сталі перакладацца на расійскую мову чужаземныя (галоўным чынам, француcкія) матэматычныя кнігі, вышла блытаніна ў матэматычнай тэрмінолёгіі: часта перакладчыкі рабілі так, як цяпер беларусы і ўкраінцы. Каб унесьці аднастайнасьць у матэматычную тэрмінолёгію, матэматык акадэмік Бунякоўскі ў 30-х гадох прошлага веку ўстанавіў навуковую тэрмінолёгію, выдаўшы многатомную працу пад назовам „Лексикон чистой и прикладной математики".

Праўда, у сваім „Лексиконе" Бунякоўскі ня толькі вызначыў тэрміны,—ён вылажыў і іх зьмест, выдаўшы як-бы матэматычную энцыклёпэдыю. Але асноўная цэль Бунякоўскага была ў тым, каб устанавіць аднастайнасьць тэрмінолёгіі ў матэматыцы, дзеля чаго і назваў ён сваю працу „Лексикон". Расійская мова прыняла ў матэматычнай тэрмінолёгіі найбольш чужаземных слоў у параўнаньні з француcкаю і нямецкаю. Шмат гэтых матэматычных тэрмінаў пасьпелі так абрусець, што ўвашлі ў расійскую літаратурную мову, напр.: „центр, параллель, горизонтальный, вертикальный" і іншыя. І няма ніякіх падстаў для таго, каб не зрабіць нам так, як зрабілі гэта расійцы, бо ўсе пераклады матэматычных тэрмінаў, зробленыя аўтарамі беларускай тэрмінолёгіі, не перадаюць таго паняцьця, якое яны павінны выражаць.

1. „Кут" не адказвае геомэтрычнаму паняцьцю „вугал". „Кут"—паняцьце шырэйшае за „вугал". Паняцьце „кут" выражае і навогул месца, напр., „Мой родны *кут*; у гэтым значэньні ўжываецца і памяншальнае „куток", „куточак", падобна да таго, як і ў расійскай мове ўжываецца слова „уголок" у значэньні якога-небудзь месца, цікавага ў некаторых адносінах. Геомэтрычнае паняцьце „вугал" у памяншальным сэнсе

ня ўжываецца. Выходзячы з гэтых меркаваньняў, лепш увесьці замест „кут“ слова адназначнае з расійскім, а ўласна „*вугал*“.

2. Тэрмін „сьценка“ замест расійскага „грань“ не выражае геомэтрычнага паняцьця „грань“ аднаго кораню з словам „граніца“ і дзеля таго роднага сэнсам з паняцьцем „поверхность“, якое выражае свойства геомэтрычнага працяжэньня двух памераў. Тымчасам як „сьценка“ мае свой пэўны сэнс: гэтае паняцьце ўжываецца для абазначэньня часткі будынку, часткі, якая мае тры памеры, а ня два. Дзеля гэтага лепш увесьці і ў беларускую тэрмінолёгію слова „грань“, зьвязаўшы яго з паняцьцем „граніца“, якое ўведзена ў тэрмінолёгію: „безгранічна“ (32), „якая ймкнецца за граніцы“ (61).

3. Тэрміны „расходящийся“ і „сходящийся“ (рады) нельга перадаць словамі: „разьбежны“ і „зьбежны“, бо гэтыя словы выражаюць быстрыню схадзімасьці, а не наагул схадзімасьці радоў і дзеля таго могуць адносіцца толькі да радоў, што борзда сходзяцца і расходзяцца. Вытвараныя ад дзеясловаў „расходзіцца“ і „сходзіцца“ тэрміны „расходзячы“ і „сходзячы“ больш адказваюць матэматычным паняцьцям; і ў граматыцы ёсьць тэрмін з падобным вытварэньнем: *будучы* час.

4. „Прилежащий отрезок“ (вугал) трэба перадаць тэрмінам „прылягаючы адрэзак“, а ня „прылеглы адцінак“, бо „прылеглы“ азначае „затхлы“, што „пачынае гніць“, і дзеля таго не выражае геомэтрычнага паняцьця „прилежащий“.

5. „Отрезок“ можна дакладна выразіць словам „адрэзак“ ад дзеяслова „адрэзаць“, а ня словам „адцінак“ ад дзеяслова „адцяць“, што выражае быстрыню дзеяньня; тым больш трэба ўвесьці тэрмін „адрэзак“ замест „адцінак“, што і самі аўтары тэрмінолёгіі ўжываюць ад дзеяслова „адрэзаць“ тэрміны: „кругадрэз“ (641), „адрэзак“ (893).

6. „Правильная“ і „неправильная“ (дробь) ня было патрэбы замяняць новымі тэрмінамі „ўласьцівы“ і „неўласьцівы“ (дроб), бо і самі аўтары ўжываюць тэрміны: „правільны“ і „няправільны“; бач. 82, 119, 120, 368, 522, 546.

7. „Предложения“ (матэматычныя) ня трэ‘ было замяняць новым тэрмінам „цьвярджэньні“, а лепш было ўзяць больш удалы тэрмін, што ўжываецца ў граматыцы, а ўласна—„*сказ*“.

8. У тэрміне „способ последовательного деления“ (691) выражэньне „последовательного“ заменена словам „вычэрпваючага“, што не перадае значэньня тэрміна. Тымчасам у іншых выпадках (бач. 511, 512) гэтае самае выражэньне—„последовательный“—перакладзена словам „паступовы“. Гэты апошні тэрмін трэба пакінуць і для першага выпадку, бо ён дакладней перадае зьмест тэрміна „последовательный“.

9. Тэрмін „уяўная“ (велічыня) замест „мнімая“, як няўдалы зьместам і формаю, трэба выкінуць і замяніць тэрмінам „несапраўдная“, пры-

няўшы пад увагу, што тэрміны „действительная“ і „мнімая“ (величина) адваротныя па свайму значэньню.

10. Выражэньне „непрямая“ лепш замяніць словам „*няпростая*“ замест „абернутая“, бо тэрмін „прямая“ заменен тэрмінам „простая“ (253).

11. Тэрмін „полупрямая“ (линия) (306) ня зусім удала перакладзен словам „аднаканцовая“, бо ў паняцьці „аднаканцовая“ не зьмяшчаецца паняцьця „прямая“; „аднаканцовай“ можна прадстаўляць і крывую лінію. Вось чаму лепш гэты тэрмін пакінуць і ў беларускай мове: „поўпростая“.

12. „Характеристика логарифма“ заменена тэрмінам „азнака лёгарытму“, каторы ў істоце не зьмяшчае ніякае прыметы, якая-б паказвала на зьмест паняцьця „характеристика“, і таму ня было патрэбы замяняць гэтага слова новым. Прымаючы пад увагу, што корань слова „характеристика“ грэцкі, лепш пакінуць гэтае слова і ў беларускай мове—„характарыстыка лёгарытму“.

Што да тэрмінаў-амонімаў, то тут такая справа. Аўтары „Беларускае навуковае тэрмінолёгіі“ прынялі „па два беларускія тэрміны на адзін расійскі... тады, калі расійскі ўжываецца ў двох розных сэнсах“, інача кажучы, яны не хацелі дапускаць у матэматыцы тэрмінаў-амонімаў і гэтым павялічылі і без таго вялікае чысло (900) тэрмінаў у элемэнтарнай матэматыцы, а расійскія тэрміны: „двузначнае“, „пятизначныя“ і „многазначнае“, што маюць супольную часьць слова „значный“, перадалі нават трыма рознымі словамі: „двохзнакавы лік“ (124), „табліцы пяцёхцыфровыя“ (716), „функцыя многазначная“. Такую замену расійскіх слоў-амонімаў трэба прызнаць лішняю: па 1-е, ужываньне ў матэматыцы амонімаў з філёлёгічнага пагляду такжа законна, як і ў народнай, і літаратурнай мове; па 2-е, тэрміны-амонімы ў патрэбнай меры перадаюць сэнс тых паняцьцяў, якія ў іх зьмяшчаюцца, і таму няма патрэбы замяніць іх новымі; па 3-яе, часта сэнс амонімаў так мала розьніць іх паміж сабою, што мова ня мае патрэбы ў асобных словах, напр., тэрміны: „соизмеримое число“ і „соизмеримыя велічыны“ маюць адзін сэнс; „соизмеримое число“, як і „соизмеримая величина“ маюць агульную меру з адзінкаю або з яе часткаю; па 4-ае, ужываньне амонімаў зьменьшае лік патрэбных тэрмінаў, не становячы ніякіх перашкод для іх разуменьня, а нарэшце, уведзеныя аўтарамі тэрмінолёгіі новыя тэрміны, як і расійскія, патрабуюць усё-ж такі асобнага для іх азначэньня, напр., „перайначваньне“ і „ператварэньне“, „збудаваньне“ і „пабудова“ і інш. ня могуць быць дакладна зразумелыя без асобнага ў кожным выпадку аб'ясьненьня.

І вось, прымаючы пад увагу ўсё, што вышэй гаварылася, я прапаную:

1. Усе чужаземныя тэрміны (грэцк., лацінск., франц.), што ўжываюцца ў расійскай мове, увесьці і ў беларускую мову, выключыўшы бела-

рускія тэрміны і пакінуўшы іх, як пераклады, для аб'ясьненьня адпаведных чужаземных тэрмінаў, напр.: сэгмэнт—кругадрэз і г. д.; бач табліцы №№ I і II.

2. Увесьці тэрміны, што могуць быць выражаны словамі аднаго кораню з расійскімі. Бач табл. III.

3. Дапусьціць у матэматыцы ўжываньне тэрмінаў-амонімаў. Бач табл. IV.

4. Трэба выкінуць няўдалыя тэрміны. Бач табл. V.

5. Выключыць тэрміны, непатрэбныя ў элемэнтарнай матэматыцы. Бач. табл. VI.

Пры паказаных зьменах беларуская матэматычная тэрмінолёгія выграе як сваім зьместам, так і лічэбна, бо лік тэрмінаў зьменшыцца.

Апроч таго, трэба мець на ўвазе адну акалічнасьць: гістарычныя ўмовы злажыліся так, што расійскія вышэйшыя школы зьяўляюцца тымі цэнтрамі, куды будзе ймкнуцца моладзь БССР.

Падобная да расійскае тэрмінолёгія шмат палегчыць вывучэньне матэматыкі ў расійскай мове, ня кажучы ўжо пра тое, што яшчэ доўгі час у беларускіх школах будуць ужывацца поплеч з беларускімі падручнікамі і расійскія матэматычныя падручнікі.

# ТАБЛІЦА I

Чужаземныя тэрміны, перакладзеныя пабеларуску, якія трэба выключыць.

| №№ слоў | У расійскай мове | | У француск. мове | У нямецкай мове | У беларуск. мове | Выключыць |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Абсурд, 2 | (лац.) | Absurde | die Absurditat | Недарэчнасьць. | |
| 2 | Базис, 25 | (грэц.) | Base | die Basis | Падстава. | |
| 3 | Эквивалентная, 56 | (лац.) | Equivalente | | Роўнаважная. | |
| 4 | Горизонтальный, 110 | (фр.) | Horisontal | horizontal | Паземны. | |
| 5 | Концентрический, 261 | (лац.) | Concentrique | concentrich | Супольнаасяродкавы. | |
| 6 | Перпендикуляр, 456 | (лац.) | Perpendiculare | die Perpendikularlinie | Простастаўная. | |
| 7 | Параллельные, 312 | (грэц.) | Parallèle | Parallellinie | Роўналежныя. | |
| 8 | Параллелепипед, 443 | (грэц.) | Parallélipipède | das Paralleyiyed | Роўналежнасьценьнік. | |
| 9 | Параллелограмм, 445 | (грэц.) | Parallélogramme | das Parallelogramm | Роўналежнабочнік. | |
| 10 | Периметр, 453 | (грэц.) | Périmètre | das Perimeter | Абвод. | |
| 11 | Вертикальный, 790 | (лац.) | Yertical | wertikal | Вертыкальны. *(применить и к углам)* | |
| 12 | Фокус, 833 | (лац.) | Fokale | der Faus | Вогнішча. | |
| 13 | Эксцентриситет, 898 | (фр.) | Excentricité | excentricitet | Мімасяроднік. | |
| 14 | Эксцентрические (окруж.), 889 | (фр.) | Excentrique | excentrisch | Рознаасяродкавыя. | |

# ТАБЛІЦА II

Ужываньне двух тэрмінаў: „чужаземнага і беларускага“.

(Асабліва спрэчныя тэрміны).

| №№ слоў | У расійскай мове | | У француск. мове | У нямецкай мове | У беларуск. мове | Выключыць |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Аксиома, 5 | (грэц.) | Axiome | das Axiom | Аксіома. | Пэўнік. |
| 2 | Анализ, 13 | (грэц.) | Analise | die Analyse | Аналіз. | Разбор. |
| 3 | Ассимптоты, 23 | (грэц.) | Asymptote | | Асымптоты. | Амальнедатычныя. |
| 4 | Биссектриса, 37 | (лац.) | Bissection | | Бісэктрыса. | Роўнасечная. |
| 5 | Гипотенуза, 106 | (грэц.) | Hypoténuse | die Hypothenuse | Гіпотэнуза. | Проціпростакутная. |
| 6 | График, 115 | (фр.) | Graphique | Graphisch (графический) | Графік. | Вобраз графічны. |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | Детерминант, 137 | (фр.) | Determinant | | Дэтэрмінант. | Вызначнік. |
| 8 | Диагональ, 138 | (грэц.) | Diagonale | die Diagonallinie | Дыяганаль. | Ускосіна. |
| 9 | Диаметр, 139 | (грэц.) | Diamètre | der Diameter | Дыямэтр. | Прамер. |
| 10 | Директрисы, 141 | (лац.) | Directrises | die Directrix | Дырэктрысы. | Кіраўніцы. |
| 11 | Дискриминант, 143 | (фр.) | Discriminant | | Дыскрымінант. | Адрозьнік. |
| 12 | Проценты, 182 | (лац.) | | das Procent | Процанты. | Адсоткі. |
| 13 | Иррациональный, 231 | (лац.) | Irrationel | irrational | Ірацыянальны. | Нявымерны. |
| 14 | Катет, 239 | (грэц.) | Cathéte | die Kathete | Катэт. | Прыпростакутная. |
| 15 | Конгруэнция, 252 | (лац.) | Congruence | | Конгруэнцыя. | Сумяшчаньне. |
| 16 | Контур, 256 | (фр.) | Contours | | Контур. | Абрыс. |
| 17 | Конус, 257 | (грэц.) | Cone | der Conus | Конус. | Стажок. |
| 18 | Медиана, 324 | (лац.) | Médian | die Medianlinie | Мэдыяна. | Сярэдніца. |
| 19 | Полюс, 506 | (грэц.) | Pôle | der Pol | Полюс. | Канцавосьсе. |
| 20 | Постулат. 517 | (лат.) | Postulat | das Postulat | Постулят. | Вымога. |
| 21 | Период, 454 | (грэц.) | Période | die Periode | Пэрыод. | Паўторнасьць. |
| 22 | Призма, 514 | (грэц.) | Prisme | das Prisma | Прызма. | Кантаслуп. |
| 23 | Проекция 559 | (лац.) | Projection | die Projection | Проекцыя. | Спад. |
| 24 | Радиус, 596 | (лац.) | Слова Radius ужыв. ў анатом. (луч. кость) у геом. Rayon (луч). | der Radius | Радыус. | Прамень. |
| 25 | Радиус вектор. 597 | (лац.) | Rayon vecteur | | Радыус-вэктор. | Прамень рухомы. |
| 26 | Рациональный, 619 | (лац.) | Rationnel | rational | Рацыянальны. | Вымерны. |
| 27 | Ромб, 624 | (грэц.) | | der Rombus | Ромб. | Сукосьнік. |
| 28 | Сегмент, 641 | (лац.) | Segment | das Segment | Сэгмэнт. | Кругадрэз. |
| 29 | Сектор, 643 | (лац.) | Secteur | der Sektor | Сэктор. | Кругавыраз. |
| 30 | Симметрия, 654 | (грэц.) | Symétrie | die Symmetrie | Сымэтрыя. | Суразьмернасьць. |
| 31 | Система, 658 | (грэц.) | Système | das System | Сыстэма. | Уклад. |
| 32 | Спираль, 689 | (лац.) | Spiral | die Spirale | Сьпіраль. | Скрутак. |
| 33 | Транспортир, 739 | (лац.) | | der Transportnur | Транспортыр. | Кутамер-пераносьнік. |
| 34 | Трансцендентный, 740 | (лац.) | Transcendante | Transcendent | Трансцэндэнтны. | Пераступны. |
| 35 | Трапеция, 741 | (грэц.) | Trapèze | | Трапэцыя. | Трапэз. |
| 36 | Триангуляция, 754 | (лац.) | Triangulation | Triangulation | Трыангуляцыя. | Трыкутнікаваньне. |
| 37 | Формула, 835 | (лац.) | Formule | die Formul | Формула. | Узор. |
| 38 | Хорда, 871 | (грэц.) | Corde | die Yhorde | Хорда. | Струна. |
| 39 | Центр, 873 | (лац.) | Centre | das Centrum | Цэнтр. | Асяродак. |
| 40 | Цилиндр, 876 | (лац.) | Cylindre | der Cylinder | Цыліндр. | Валец. |
| 41 | Элементы, 900 | (лац.) | Eléments | das Element | Элемэнты. | Складнікі. |

## ТАБЛІЦА III

Тэрміны, якія можна выразіць словамі аднаго кораню з расійскімі.

| №№ | У расійскай мове | У беларускай мове | Выключыць |
|---|---|---|---|
| 1 | Бесконечно большая, 54 | Без канца вялікая | Бязьмежна-вялікая |
| 2 | Бесконечно малая, 55. | Без канца малая | Бязьмежна-малая |
| 3 | Дробь правильная, 163 | Дроб правільны*) | Дроб уласьцівы |
| 4 | Дробь неправильная, 164 | Дроб няправільны*) | Неўласьцівы, роўны адзінцы, меншы за адзінку |
| 5 | Отрезок 206. | Адрэзак*) | Адцінак |
| 6 | Равноделящая, 308 | Роўнадзелячая | Роўнасечная |
| 7 | Погрешность, 485 | Пагрэшнасьць | Хібнасьць |
| 8 | Развертка, 599 | Разьвертка | Разьвіненьне |
| 9 | Развернутая поверхность, 598 | Разьверчаная паверхня | Разьвінутая |
| 10 | Развертывать, развернуть. 600 | Разьвертваць, рязьвярнуць | Разьвінаць, разьвінуць |
| 11 | Разделительный закон, 601 | Разьдзяліцельны закон | Разлучны |
| 12 | Разложение бинома, 604 | Разлажэньне біному | Расклад, разьвіненьне |
| 13 | Расходящийся (ряд), 633 | Расхадзячы*) (ад расхадзіцца) | Разьбежны |
| 14 | Сходящийся, 6[illegible]6 | Схадзячы*) | Зьбежны |
| 15 | Сходимость рядов, 709 | Схадзячасьць радоў | Зьбежнасьць |
| 16 | Угол, 766 | Вугал*) | Кут |
| 17 | Угол прилежащий, 782 | Вугал прылежачы*) | Кут прылеглы |
| 18 | Углы накрестлежащие, 797 | Вуглы накрыжляжачыя | Наўскосьлежныя |
| 19 | Усеченный, 821 | Адсечаны | Сьцяты |

## ТАБЛІЦА IV

Ужываньне тэрмінаў-амонімаў у тым выпадку, калі яны ўжываюцца ў расійскай мове.

| №№ | У расійскай мове | У беларускай мове | Выключыць |
|---|---|---|---|
| 1 | Двузначное число, 124 | Двохзнач. лік (напр. „24“) | |
| 2 | Двузначный, 125 | Двохзначны (маючы два значэньні) | Двохзнакавы |
| 3 | Деление (как действие), 130 | В обоих случаях: | |
| 4 | Деление (разделение), 131 | *Дзяленьне* | Падзел |
| 5 | Корень (1-й степени), 263 | Корань | |
| 6 | Корень уравнения, 264 | | Разьвязак |
| 7 | Построение, 515 | Збудаваньне | |
| 8 | Построение корней ур-ия, 516 | | Пабудова |
| 9 | Преобразование, 534 | Перайначваньне | |
| 10 | Преобразование координат, 535 | | Тератварэньне координат |
| 11 | Соизмеримое число, 679 | Вымерны лік | |
| 12 | Соизмеримые величины, 680 | Вымерныя вялічыні | Супольнамерныя |
| 13 | Срочные взносы, 698 | Тэрмінавыя ўклады | |
| 14 | Срочные уплаты, 699 | Тэрмінавыя выплаты | Пэрыодычныя |
| 15 | Таблицы пятизначные, 716 | Табліцы пяцізначныя | Табл. пяцёхцыфр. |
| 16 | Функция многозначная, 847 | Функцыя многазначная | |
| 17 | Результат, 621 | Рэзультат | |
| 18 | Результат решения, 623 | | Разьвязак |
| 19 | Совмещение, 674 | Сумяшчальнасьць | |
| 20 | Совместимые ур-ия, 672 | Сумяшчальныя раўнаньні | Згодныя |
| 21 | Совместимый 673 | Сумяшчальны | Згодны |
| 22 | Углы совместимые, 805 | Вуглы сумяшчальныя | |
| 23 | Углы несовместимые, | Вуглы несумяшчальныя | |
| 24 | Знаменатель дроби, 192 | Ува ўсіх трох выпадках: | |
| 25 | Знаменатель отношения, 193 | *Назоўнік* | Зьмест стасунку |
| 26 | Знаменатель прогрессии, 194 | | Множнік прогрэсіі |

*) Тэрміны, аб каторых ёсьць увагі ў тэксьце.

## ТАБЛІЦА V

Няўдалыя тэрміны, якія трэба выключыць.

| №№ | У расійскай мове | У беларускай мове (пакінуць) | Выключыць |
|---|---|---|---|
| 1 | Возвысить в степень, 78 | Падняць у ступень | Праступеняваць |
| 2 | Возвышение в степень, 79 | Падняцьце ў ступень | Ступеняваньне |
| 3 | Извлечение корня, 199 | Дабываньне кораня | Караняваньне |
| 4 | Производная, 562 | Выводная | Паходная |
| 5 | Мнимая, 5[illegible] | Несапраўдная | Уяўная |
| 6 | Мнимый, 330 | Несапраўдны | Уяўны |
| 7 | Гипократовы луночки (лат.), 105. | Гіпакратавы луначкі | Гіпакратавы сярпочкі |

## ТАБЛІЦА VI

Тэрміны, непатрэбныя ў элемэнтарнай матэматыцы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | Линии прилежащие, 314. | Лініі прылеглыя | |
| 2 | „ прямые скрещивающиеся, 315. | „ простыя мімабежныя | |
| 3 | Ошибочность, 4·0. | Абмылковасьць | |
| 4 | Пространственная сеть кубов, 574 | Прасторавая сетка кубаў | |
| 5 | Троичный, 759. | Тройчы | |

# БАРАЦЬБА БЕЛАРУСКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ГРАМАДЫ ЗА ЗЯМЛЮ Ў 1905 г.

**М. Мялешка**

У рэволюцыйным уздыме працоўных у 1905 г. Б. С. Г. прымала актыўны ўдзел. Яе праца ў гэтым годзе адбывалася, галоўным чынам сярод сялянскіх мас Беларусі.

Беларусь зьяўляецца старонкай сялянскай. 20 год таму ўзад прамысловасьць яе была разьвінута слаба. Працоўных, занятых на фабрыках і заводах, у параўнаньні з сялянствам, было вельмі мала. Пагэтаму сялянства ў Беларусі павінна было ў рэволюцыі 1905 г. адыграць значную ролю. Але сялянства, якое няшчадна эксплёатавалася памешчыкамі і капіталістымі, царскім урадам, трымалася ў цемры, ды само яно было неорганізаваным і зусім несьвядомым політычна. Б. С. Г. усё гэта было ўзята пад увагу, якая добра ведала ўсе асаблівыя ўмовы сялян Беларусі і мела свой уласны падыход да іх. Меткія прыклады з жыцьця сялянства, з падзей ураду, апісаньне нядолі мужыка, злачынства яго ворагаў,—вось на вошта напірала яе агітацыя моўная і літаратурная.

Вось як у сваёй проклямацыі: „Што такое конституцыя“, выданай у сакавіку 1905 г., Б. С. Г. тлумачыць сялянам аб царскім парадку: „Ужо даўна ўсякі мужык жаліцца, што кепска жыць на сьвеце бедным людзям,— усякі дзярэ, усякі бярэ, усякі крыўдзіць. Ня знойдзеш нідзе ні суда, ні справядлівасьці. Падаткі за зямлю ды ўсякі акцыз зусім нас заелі, а тут яшчэ пачалася гэтая праклятая вайна—і хоць памірай. Колькі работнікаў павыбіралі з вёсак, колькі кармільцаў павысылалі на ўбой, колькі падаткаў панакладалі новых. А гэта-ж яшчэ толькі пачатак. Цар і яго чыноўнікі кажуць, што людзей многа, — людзі растуць, а зямля не расьце, — кажа цар. Бо і чаго-ж ім шкадаваць—сваіх галоў яны пад кулі не падстаўляюць. Вось і цяпер кажуць, што хутка возьмуць апалчэньне, надта многа нашых салдат выбілі японцы. Скажэце, людзі, за што мы ваюем? За што мы свае галавы нясём? На што нам патрэбна гэтая Манчжурыя і якая была-б нам карысьць, каб мы яе сваёй кроўю заваявалі? Зямлі ў нас колькі хочаш, толькі ня ў бедных людзей і ў нас на Белай Русі цэлыя сотні тысяч дзесяцін належаць да казны, каторая гэту зямлю раздае ўсякім царанятам і крыўдзіцелям беднага народу. Таксама было-б і з гэтаю Манчжурыяй, каб мы яе заваявалі. Манчжурыя патрэбна ня нам, а толькі

правіцельству і багацеям, каторыя хочуць ссаць кроў з таго працоўнага народу, каторы жыве на тэй зямлі. Ня мы хацелі гэтай вайны: цар і цараняты і ўсё правіцельства хацела пажывіцца, ды і пажывіліся. Гэта вайна ўжо каштуе дзьве тысячы мільёнаў рублёў, і гэтыя грошы выціснулі з народу, а ці-ж вы думаеце, што ўсе гэтыя грошы папраўдзе пашлі на вайну? Ой не! Палавіна (грошай) паразыходзілася па кішэнях царскіх сваякоў-чыноўнікаў. Дык чаму-ж ім не ваяваць, для іх гэта вайна— жніво! Ну і скажэце, людзі, чаму-ж усё гэта так? Чаму мы ўсё гэта дазваляем, чаму мы так цяжка працуем, здымаем з сябе апошнюю кашулю, пасылаем на сьмерць сваіх сыноў і братоў, чаму мы дазваляем, каб нас абкрадалі, ды яшчэ зьдзекваліся над намі? А мусіць таму, што мы народ цёмны і дурны; каб мы былі разумнейшыя, то мы-б ведалі, што за намі сіла. Палічэце колькі нас, а колькі царскіх чыноўнікаў, гэта-ж у царскім войску нашы сыны і браты, каб яны і мы былі разумнейшыя, ці-ж яны пашлі-б проці нас? Гэта разумеюць добра цар і яго чыноўнікі і стараюцца ўсімі сіламі, каб мы былі сьляпыя, бо ведаюць яны добра, што канец іх панаваньню, як толькі мы пазнаем праўду. Дзеля гэтага ўсюды вучаць паны, жандары, паліцыя, казённыя настаўнікі, што цар усё роўна, што бог, што ён дае мужыкам усякае дабрадзейства".

Далей, у гэтай-жа проклямацыі, даводзіцца сялянам,—які існуе лад за рубяжом у другіх старонках і што маглі-б зрабіць для народа, каб дзяржавай кіравалі народныя выбарныя. Прапануецца сялянам ня верыць у царскія абяцанкі, што прасіць у цара няма чаго. Гэта зразумелі і рабочыя, якія пашлі да цара са сваімі просьбамі, а цар іх пастраляў на пляцу каля Зімняга дварца ў Пецярбурзе, і працоўныя зразумелі, „што цар такі-ж самы жывадзёр і грабіцель, як і яго чыноўнікі; зразумелі, што ніякіх ласак і зьмілаваньня чакаць ад яго нельга, і парашылі ўзяць сабе права сілай... Цар спужаўся, бо чуе, што і яму такі канец будзе, і захацеў ашукаць народ: ён даў цяпер указ, што будзе прызываць выбарных ад народу, каб разам з імі пісаць законы, пакуль народ не супакоіцца, а пасьля іх вон пагоніць".

У выданай у кастрычніку 1905 г. спэцыяльнай проклямацыі „Царава Дума" высьвятляецца ўся шкоднасьць для працоўнага народу ад Думы і даводзіцца аб неабходнасьці скліканьня беларускага сойму ў Вільні.

Б.С.Г. добра разумела, што авангардам рэволюцыі зьяўляюцца працоўныя фабрык і заводаў—пролетары. Што сяляне ў сваёй рэволюцыйнай барацьбе без працоўных ня змогуць атрымаць перамогі над сваімі ворагамі і што, злучыўшыся разам, рабочыя і сяляне скінуць царскі лад і ўстановяць соцыялістычны парадак на зямлі. І Б.С.Г., даводзячы сялянам, чаго ім патрэбна дамагацца, кажа: „Бяз гэтага для вас ня будзе лепшай долі, будзеце заўсёды ў зьдзеку і паняверцы, *трэба вам ісьці разам з вашымі братамі рабочымі і прыяцелямі*, каторыя дабра хочуць усяму бедна-

му народу“ [1]). Б.С.Г. ня раз яшчэ зьвярталася да сялян з заклікам, каб яны прымалі добра рабочых, якія будуць да іх прыходзіць, і верылі ім, калі яны будуць казаць пра царскае зьдзекваньне над народам. „Талкуйце сыном вашым,—гаворыцца ў проклямацыі,—каторыя ідуць у войска, што ім вялікі грэх страляць у сваіх братоў, каторыя дабіваюцца права свабоды для ўсіх нас“ [2]). Гэта вельмі цікава пры вывучэньні наогул Б.С.Г.

Заклікаючы сялянства да організацыі ў грамады, Б.С.Г. раіла сялянам не разважаць, а чынна прыступіць да барацьбы з панамі за зямлю. З самага пачатку году Б.С.Г. выкінула такія лёзунгі: „Прэч усіх крыўдзіцеляў народу! Не чакайце, а ганіце сельскіх стражнікаў, вураднікаў, прыставоў, земскіх! Прэч царскую поліцыю! А як з добрай волі не пакіне службу,—забівайце іх (поліцыю) на сьмерць! Патрабуем аслабаніць усіх арыштованых за веру, за народную справу і свабоду і спыніць політычныя справы! Не плаціць падаткаў усім разам! Прэч вайну! Прэч царава правіцельства! Хай жыве конституцыйны сход выбарных ад народу! Хай жывуць новыя законы і новы парадак—конституцыя!“

Пасьля першага беларускага сялянскага зьезду ў Менску ў сакавіку м-цы 1905 г. Б.С.Г. выдае проклямацыю: „Першы мужыцкі зьезд“, у якой кажа: „Усякі ведае, што мужыку цяжка жыць на сьвеце. З мужыкоў цар дзярэ падаткаў больш, як з усіх: паны плацяць 236 мільёнаў рублёў у год, а мужыкі 700 мільёнаў, значыць, у тры разы больш, а зямлі ў цара і ў паноў два разы болей, як у мужыкоў, і цар, і паны, і чыноўнікі—усе жывуць з цяжкай мужыцкай працы: калі нават лічыць, што на аднаго пана працуе толькі сорак мужыкоў, дык-жа ж і так крыўда мужыку. Як гэта можа быць, каб 40 чалавек працавала ды на аднаго? І гэтага мала. Яшчэ і чыноўнікі, і паны робяць з мужыком, што захочуць. Земскі пану за сажань дроў дык і крэсла падстаўляе, і сядзець просіць, ды яшчэ і справу павядзе так, каб пан выйграў. А вураднік мужыку дык і морду разаб‘е, калі яму працівішся. На мужыкоў, як на сабак, цар войска насылае, страляць у іх загадвае, хоць-бы то быў бацька ці брат салдата, што страляе. Пан за дровы ды за пашу, ды за сенакосы апошнюю шкуру дзярэ, а за работу дык зусім-бы не плаціў, каб толькі мог. От і выходзіць, што з голаду паміраць трэба: зямлі мала, падаткі вялікія, a заработкі малыя, дык хоць ты сеўшы плач“.

„Гледзячы на ўсё гэта, мужыкі і некаторыя з людзей вучоных, ня страціўшы сумненьня, надумаліся, каб зьехацца ў горадзе і пагаманіць, як бяду ўменшыць або і зусім зьвясьці. Перш-на-перш усе як адзін сказалі, што пакуль зямля будзе да казны, да цара і да паноў належаць, то шчасьця на сьвеце мужыку і ўсякаму працуючаму чалавеку ня будзе. Мужык на зямлі працуе, сваім потам кожны кавалак яе некалькі разоў

[1]) Проклямацыя; „Што такое конституцыя“.
[2]) Ibidem.

у год перавярне, а казна, цар і паны грошы бяруць, жнуць там, дзе не пасеялі. Па справядлівасьці, то з зямлі павінны карыстацца тыя, што на ёй працуюць, але бяда ў тым, што зямлю тую забралі ў свае рукі цар і паны. Ці-ж гэта справядліва? Дык вось, сабраўшыся на зьезд, мужыкі надумаліся, што трэба зрабіць так, каб кожны, хто хоча на зямлі працаваць, мог дастаць столькі зямлі, колькі яму трэба, каб з яе сваёй працай пражыць; трэба, значыць, каб уся зямля належала да ўсіх тых, што на ёй працуюць. Дзеля гэтага, трэба ўсю зямлю адабраць ад цара, казны ды паноў"... І тут селяніну даюцца развагі, як-жа гэту зямлю дастаць ад паноў? Купіць можа толькі багаты, а бядак так голым і застанецца, ды ўсёй зямлі ніхто і не прадасьць. Прасіць паноў і цара, каб надзялілі мужыкоў, няма рацыі, бо цары ў сваіх маніфэстах кажуць, што ніякіх новых надзелаў зямлёй ня будзе. А калі пайсьці прасіць да цара, то ён пастраляе так і сялян, як пастраляў рабочых. „Калі ні купіць зямлі нельга, калі ні цар, ні паны самі яе мужыкам не дадуць, *то трэба, значыцца, дастаць зямлю сілай*. Вядома, што цар мае войска і пасылае тое войска біць і страляць мужыкоў, калі яны дзе захочуць справядліва падзяліць зямлю"... „А каб-жа мы ўсе, колькі нас ёсьць, зрабілі адну грамаду, каб усе сто мільёнаў ці болей мужыкоў падняліся як адзін чалавек што тады мог-бы зрабіць нам цар, яго войска ды паны?"[1]).

„Каб гэтага дабіцца, трэба нам усім згаварыцца, трэба каб кожны мужык ведаў, што адзін мужык, — гэта толькі мужык, а ўсе мужыкі разам — гэта сіла. Як мы будзем мець тую сілу, то зробім усё, што захочам". Дзеля гэтага на мужыцкім зьезьдзе рашылі што: „Трэба, каб мужыкі на вёсках рабілі грамады-брацтвы, дзе-б усе маглі згаварыцца, што і як ім рабіць. Тыя брацтвы павінны злучацца адно з другім праз сваіх выбарных, каб зрабіць адну вялікую мужыцкую грамаду". Такая схэма для організацыі сялянства. Мажліва, што такая схэма організацыі разьлічвала на вясковую беднату, якая перш за другіх павінна была выступіць, як актыўная сіла ў вясковых грамадах. Далей раілася сялянам зьбіраць грошы, на якія купляць і чытаць кніжкі, уцягваць у грамаду найболей людзей, і каб найболей ведалі чаго селяніну патрэба. Раілася ўлетку ня йсьці ў двор да пана на працу, калі пан ня згодзіцца прызнаць, што зямля родзіць пры сялянскай працы на ёй, і не захоча „па справядлівасьці" падзяліцца ўраджаем. „Калі на гэта згоды ня будзе, то каб панскае і казённае ня глумілася, зьбярэмся ўсім сялом, скосім, сажнем, падзелім на ўсіх і завязём да сваёй хаты, бо ўсё гэта зрабілі мы самі сваёй працай, а не казна ды паны. *Пасьля забярэм усю зямлю, каб усе тыя, што на зямлі сваімі рукамі працуюць, маглі роўна з яе карыстаць*... Але павінны мы ведаць, што цар пашле на нас паліцыю, жандараў, казакаў ды салдат, каб бараніць сваю і панскую зямлю, ды біць і страляць нас. Тады выйдзе

[1]) Проклямацыя „Першы мужыцкі зьезд".

вялікая сварка, выйдзе вайна, і трэба нам да гэтага прыгатавацца. *Трэба даставаць стрэльбы, рэвольвэры і вінтоўкі, каб было чым абараніцца і заваяваць новы парадак* карыстаньня зямлёй кожнаму, хто на ёй сам працуе“ [1]).

Такім чынам Б.С.Г. ясна разумела, што без грамадзянскай вайны не абыйсьціся, што дабравольна ніхто ня ўступіць селяніну зямлі. Пагэтаму неабходна запасацца зброяй ня толькі, каб абараняцца, але каб і заваяваць новы парадак карыстаньня зямлёй.

Цяпер пабачым, які парадак зямлякарыстаньня Б. С. Г. у 1905 г. мела на ўвазе ўстанавіць, калі зямля будзе заваёвана сялянамі. Перш, чымся запрапанаваць сялянам свой проэкт, Б. С. Г. робіць невялічкі ўступ, так разважаючы: „Можна было-б даць кожнаму па кавалку, няхай сабе, па валоцы на сям‘ю, але што з таго? Ужо нашы сыны ня мелі-б пароўну, бо адзін чалавек падзяліў-бы сваю частку на двух, а другі на пяцёх сыноў, ці болей і ізноў пашло-б тое самае, што і цяпер. Трэба, значыць, зрабіць інакш“ [2]).

І тут Б. С. Г. прапануе два проэкты. Па першаму проэкту прапануецца колектыўнае карыстаньне зямлёй. „Добра было-б,—гаворыцца тут, —каб уся вёска, чы там часьць яе, калі вёска надта вялікая, не дзяліла зямлі, але каб вяла гаспадарку гуртом. Выбрала-б яна сабе чалавек пяць такіх, што ўмеюць чытаць ды пісаць і шчоты ўмеюць вясьці, і тыя выбарныя каб запісвалі, колькі дзён кожны мужык на зямлі працаваў. Прышла восень, з поля ўсё сабралі, кожны ўзяў сабе столькі хлеба ці чаго, колькі трэба, каб яму пражыць, пракарміцца, а рэшту прададуць гуртом і дадуць кожнаму столькі грошай, колькі яму па рабоце прыходзіцца. Тады гультай будзе мець меней, чымся працавіты, бо гэтага справядлівасьць вымагае“ [3]). Праўда, проэкт гэты вельмі нясталы. Але Б.С.Г., улічваючы тагочасны настрой сялянства, яго дробна-ўласьніцкія імкненьні, відаць, баялася гэты проэкт свой разьвінаць і дэталізаваць, каб не адхіліць сялянскую масу ад рэволюцыйнай барацьбы за зямлю. Калі такі колектыўны спосаб карыстаньня зямлёй каму не спадабаецца, то Б. С. Г прапануе другі свой проэкт, па якому „кожная сям‘я дастае столькі зямлі, колькі на яе выпадае, няхай сабе па пяць дзесяцін на чалавека. Калі ў мужыка ёсьць жонка і двое дзяцей, то атрымае ён 20 дзесяцін. Ён на гэтай зямлі працуе 12 гадоў ці можа і меней, а пасьля выбарныя з усёй вёскі глядзяць: калі ў яго дзяцей прыбыло, то яму зямлі прыбаўляюць, а калі дзяцей паменшала—адымаюць. Калі-б ён якія-небудзь грошы ўлажыў у тую зямлю, так гэта выбарныя ацэньваюць і, адымаючы зямлю, грошы аддаюць. Пры гэтым спосабе кожны вядзе гаспадарку асобна“ [4]).

---

[1]) Проклямацыя „Першы мужыцкі зьезд“.

[2]) Ibidem.

[3]) Ibidem.

[4]) Ibidem.

Барацьба працоўнага люду ўздымалася ўсё больш. Трэба было выкарыстаць усе магчымыя сродкі барацьбы за зямлю.

Летам 1905 г. Б. С. Г рыхтуе ўсеагульную забастоўку парабкаў і беднага сялянства Беларусі, якая (забастоўка) павінна парабкам і падзёншчыкам даць больш заработак, а сялянам значныя палёгкі, залежныя ад двору. З гэтай мэтай Б. С. Г. у чэрвені месяцы выдае проклямацыю „Да ўсіх работнікаў і работніц дваровых, да ўсіх дзеравенскіх людзей на туташняй зямлі Беларускай“, у ліку 10.000 экз. Звычайна ў агітацыйнай літаратуры 1905 г. гаварылася аб сялянстве, як аб адным цэлым і рэдка сялянства падзялялася на батракоў, вясковае сялянства і кулакоў. Б. С. Г. падзяляе сялянства на некалькі груп, якія маюць свае ўласныя экономічныя патрэбы і падыходзіць да кожнай гэтай групы асобна. Тут мы бачым гадавых дворных парабкоў, падзённых работнікаў, дворную чэлядзь і наогул сялянства — „усе дзеравенскія людзі“. Спачатку даводзіцца, што мужыкі abліваюць зямлю сваім потам і што іх крывавай працай жывуць паны, чыноўнікі і другія дармаеды. Што зямля нічыя і павінны карыстацца з зямлі тыя, хто на ёй працуе сваімі рукамі. Што, каб адабраць ад паноў і казны зямлю, трэба быць організаваным у вадну грамаду, а пакуль такой грамады няма; адабраць зямлю немагчыма, дзеля гэтага трэба зараз дабівацца, каб мець больш карысьці ад сваёй працы. Пагэтаму трэба і працавітай вясковай беднаце, таксама як гэта робяць работнікі на фабрыках і заводах, дабівацца ад паноў большай платы за сваю працу — забастоўкай. Дзеля гэтага трэба ўсім разам згаварыцца і не пайсьці на панскую працу, пакуль пан не здаволіць выстаўленых запатрабаваньняў. Пану прыгразіць, што калі ён вытрабуе на іх поліцыю і казакоў „то памешчыкам будзе кепска“. У паасобку падзённым работнікам і работніцам раілася: „Сёлета ад Пятра і Паўла згаварыцеся і ня йдзеце на работу, калі памешчыкі ня будуць плаціць за работу на палавіну болей, як цяпер, а дзе зусім мала плацяць — у два разы болей. Калі дастанецца гэты лісток пасьля Пятра і Паўла, то пачынайце зараз забастоўку“ [1]). Далей ідзе запатрабаваньне людзкага абыходжаньня, 4 гадзіны на адпачынак, 1 гадз. на сьняданьне і 3 гадзіны на палудзень і прыбаўкі платы за працу пасьля захаду сонца. „Усім гадавым работнікам і работніцам і ўсёй дваровай чэлядзі“ раілася гэтак сама запатрабаваць на палавіну падвысіць плату, а малую — у два разы, прасторных хат і асобных для сямейных, дзяўчат і хлапцоў, даваць даволі ардынарыі і харчу, разы 2-3 у тыдзень мяса і ад вясны да восені „на падвячорак, хоць па квартцы, несабіранага салодкага малака кожан дзень“. Калі жонкі парабкоў дояць дворных кароў ці што другое робяць, то павінны за гэта браць плату. Каб лячэньне хворых было на кошт двара. „Усім дзеравенскім людзям“ прапанавалася паменшыць арэнду на пала-

[1]) Проклямацыя „Да ўсіх работнікаў і работніц... і інш“

віну, не плаціць пану за пусткі, якія знаходзяцца ў вёсцы, зьбіраць у лесе грыбы, ягады, мох, хвораст, сукі, „нікога ня пытаючыся“. Разбурыць у панскіх млынох застаўкі, калі вада затапляе вясковыя сенажаці, і не дазваляць іх адбудаваць нанава. Не хадзіць на адработкі ў двор за пашу і за іншае, а перакладаць гэта на плату. „Цьвёрда трымайцеся,—гаворыцца ў канцы проклямацыі,—згаварыцеся разам усе і ня ўступайце, ня ідзіце на работу, пакуль усяго гэтага, што вы патрабуеце, вам ня зробяць. Калі ёсьць у вас яшчэ якія патрэбы, апрача гэтых, то і аб іх заявіце памешчыкам. Паліцыі, земскіх і ўсіх царскіх чыноўнікаў ня слухайце, бо яны трымаюць за багатых і брэшуць за грошы. Стражнікаў і ўсю паліцыю ганіце вон, не давайце ім жыць у вёсках, бо яны пасаджаны на ваш карак, каб вас яшчэ больш прыцісНуць і памагаць багачам, цару і яго чыноўнікам абдзіраць і душыць вас. Затое добра прымайце вашых братоў—работнікаў, каторыя да вас прыходзяць з гэтым нашым лістком або і бяз лістка, падгаварваюць вас да забастоўкі і хочуць праз тое палепшыць вашу цяжкую долю. Верце ўсім, хто подлае правіцельства лае, як трэба,—гэта ўсё вашы браты—работнікі соцыялістыя. Гэтых нашых пасланцоў да вёскі прымайце і хавайце іх ад паліцыі“.

Б.С.Г. накіравала сваіх таварышоў на вёску для правядзеньня забастоўкі. Праўда, няма ніякіх ведаў аб выніках гэтага прадпрыемства, але адбыўшыся шэраг забастовак дворных работнікаў у Беларусі ў 1905 г.— ці не належыць іх аднесьці да працы Б.С.Г? Бунд у 1905 г., галоўным чынам, працаваў сярод яўрэйскіх рабочых гарадоў і часткай сярод местачковага яўрэйскага пролетарыяту. У РС-ДРП, у меншавіцкай яе частцы ў 1905 г. былі размаітыя погляды на сялянства.

Толькі Ленінская частка—бальшавікі гаварылі аб неабходнасьці саюзу рабочых і сялян. ПС-Р не вяла плянамернай паступовай організацыйнай працы сярод сялянства і наогул ПС-Р на Беларусі ў 1905 г. вяла вельмі нявыразную палітыку. З аднаго боку, яна прапаведывала тэрорыстычныя ўчынкі, а з другога боку, эсэры стрымлівалі сялянства ад рэволюцыйнай барацьбы з панамі. Віцебскі камітэт эсэраў нават выдаў па гэтым выпадку проклямацыю: „Революция, а не грабеж“. Такім чынам, прыходзіцца прызнаць, што ў сялянскім руху на Беларусі ў 1905 г. Б.С.Г. адыгрывала адну са значных роляй, накіроўваючы барацьбой сялянства за зямлю.

Дзеля перамогі рэволюцыі над царызмам Б.С.Г. лічыла неабходным: саюз сялянства з рабочымі, організацыю сялянства ў грамады праз пярвічныя вясковыя ячэйкі, захоп зямлі сілком, што можа здарыцца пры грамадзянскай вайне, дзеля чаго неабходна організаваны народ узброіць, бойкот Дзяржаўнай Думе, змагацца з паліцыяй, не застанаўліваючыся нават перад забойствам паліцэйскіх.

На жаль, яшчэ да гэтага часу не адшуканы дакумантальныя даныя аб дзейнасьці Б.С.Г. сярод сялянства ў канцы 1905 г. Бязумоўна, рэволю-

цыйная чыннасьць Б.С.Г. у гэты час была разьвінута яшчэ шырэй. Ужо пад канец 1905 г. была наладжана ў Менску ўласная друкарня. Быў організаваны Б.С.Г. „Беларускі Сялянскі Саюз", былі наладжаны ўласныя баявыя дружыны. Пры такіх ужо організацыйных дасягненьнях барацьба Б.С.Г. за зямлю, пад канец 1905 г., павінна была стаць яшчэ больш інтэнсыўней, чымся яна была ў пачатку году. Узьнятая шырокая хваля сялянскіх паўстаньняў па восені на Беларусі гэта сьцьвярджае.

## „МУЖЫЦКАЯ ПРАЎДА“ К. КАЛІНОЎСКАГА

**Ал. Шлюбскі**

У толькі што вышаўшай у Коўні літоўскай часопісі „Karo Archywas, rebagawo majoras V. Steponaitis. I. Kaunas Vyriausiojo štabo karo mokslo skyriaus leidinys MCMXXV“, паміж іншым, зьмешчаны цікавы беларускі матэрыял часоў паўстаньня 1863 г.: 1) „Malitwa dziejszaja“ (зьвяртаньне да бога і сьвятых, каб ён дапамог прагнаць „maskalou“ і дапамог атрымаць „swabodu“), на стар. 211-212; 2) „Hutorka staroho dzieda na Biełorusi“, з прадмовай „ad staroho dzieda“, на стар. 216-219; 3) „Mużyckaja prauda“ Nr 3, на стар. 222-223; 4) „Muzyckaja prauda“ Nr 7, на стар. 223-224; 5) Aukso dromata gudams. „Rząd Narodowyj Polskoj“, на стар. 224-225. (гэтая адозва была выдрукавана ў „Савецкай Беларусі“ 1923 г. № 192)

З усяго пералічанага асаблівую значнасьць пры вывучэньні беларускага рэволюцыйнага і грамадзянскага руху мае першая беларуская газэта „Мужыцкая Праўда“, якая нелегальна выдавалася К. Каліноўскім і з прычыны таго, што №№ гэтай газэты ў сучасны момант зьяўляюцца вялікай бібліографічнай рэдкасьцю, дашло ня толькі да таго, што мы ня ведаем іх зьместу, але нават ня ведаем, колькі №№ газэты выдаў К. Каліноўскі: адны кажуць, што 6, другія—7, а трэція—9. І цяпер пасьля выхаду ў сьвет „Karo Archywas“, у якім выдрукаваны 7-мы нумар газэты—бясспрэчна, што ўсяго вышла ня менш 7 №№.

Газэта пісана пабеларуску польскімі літарамі, мы падаем іх кірыліцай з літаральным захаваньнем тагочаснага правапісу.

Для паўнаты мы зьмяшчаем № 5 „Мужыцкай Праўды“, які быў выдрукаваны ў „Савецкай Беларусі“ ў 1923 г. № 192, тым больш, што пры адсутнасьці спэцыяльных паказацеляў да газэтнага матэрыялу гэты № „Мужыцкай Праўды“ застаўся-б няпрыкмечаным чытачом і дасьледчыкам.

**№ 3** **Мужыцкая праўда.**

Дзяцюкі!

Жывучы пад rządom маскоўскім кожны ведае, што ён нас абдзірае і глуміць; но мало хто добрэ падумаў чы можно ад его спадзеваці ся чэго сей для нас, альбо дзецей нашых. Я дзяцюкі лепш знаючы ад вас издумау напісаці пісьмо, каб не маглі туманіць розуму вашаго. Для таго чытайце з увагаю, а як перэчытаеце давайце да другой вёскі.

Чэлавек то такую мае натуру, што калі даведаецься, то хочэ зразумеці добрэ і дастаці usięko, што ему належыць. Гэто велікая прауда. От ешчэ не дауно гаварылі, што ены створэны для того, каб служылі паньшчызну і былі невольнікамі, а гаварылі для того, што нічого неведалі і нічого меці не хацелі,—а чы сегодня гэтак скажуць, калі ужэ ведаюць много і много хочуць. Сегодня усе ужэ паразумнелі, усе ужэ мужыкі талкуюць, што бог створыў человека каб ён карыставаў з вольносьці справедлівой і смеюць ся як гэто таглі інак думаці. Гэто право, што народ робіць ся разумнейшым, выходзіць ад самого бога, а хто ему схочэ спраціуляці ся, таго альбо сам бог альбо народ па прыказу боскому з землёю змешае!

Вы Дзяцюкі пеуне вельмі секавые скул жэ гэто народ так паразумнеу? Я вам скажу скул гэто.

Калі Пранцуз пад Свістополем заусім пабіў маскаля, то для тога, каб маскаль не меу сілы і грошы, пріказау нарадові даці вольносьць, не браці рэкрутов і велікіх падаткоу. Маскаль згадзіў ся на гэто, бо думау што народ дурны і патрапіць его окураці. Ён то czacien адно перэменіць няволю, но бачу вельмі ошукау ся, бо хаця nadurąd маскоускі нічого и шэсьць лет не зрабіу, но мы як почулі, што і мужык можэ быць вольны, так пачэлі пытаці ся и людзей разумнейшых і талкаваці памеж сабою, аж зразумелі, што то вольносьць значыць. От скуль гэто узяло ся, што народ паразумнеу. Мы сегодня усе ужэ ведаем, што чэлавек вольны гэто калі мае кусок сваей землі, за которы ані чыншу і аброку не плаціць, ані паньшчызны не служыць,—калі плаціць малые падаткі і то не на царскіе стайні, псярні і курвы, а на патрэбу цэлаго народу, калі не ідзіць у рэкруты чорт ведае гдзе, а ідзе бараніці сваго краю тагды тольке, калі які непрыяцель надыйдзе—калі робіць usięko, што сподобае і што не крыўдзіць бліжняго і хвалы боской,—і калі вызнае тую веру якую вызнавалі его бацькі, дзеды і прадзеды. От што вольносьць значыць. Сегодня то rąd маскоускі нас не атуманіць, бо мы цепер не такіе дурные, як былі уперад і пазналі, што нам не маніхвэстау царскіх а вольносьці патрэба.

Маскаль то хітры, ён то Дзяцюкі хочэ, каб не даці нічого, а народ думау што ужэ мае усё як належыць. Не мерыушы судзеце хаця з гэтаго, а его хітросьці. Два рокі ужэ таму, калі ешчэ ніякіх маніхвэстоу, а вольносьці не аб'яулялі, народ у Пецербургу, Маскве і па цэлой Россеі пачау вельмі крычаці, што калі rąd не дасьць ему вольносьці, то ён цэлаю грамадою 19 февраля збунтуець ся, тагды цар бачу збаяу ся і велеу Сенатаві з'ехаціся, а народові аб'явіць и Росьце вольносьць дастане.

Народ дурны паверыу да і разышоу ся, а цар з Сенатом паталковаушы, як мінула трэвога, так і аб'явіў у мейсцу вольносьці маніхвэст, а у маніхвэсьце прыказывае мужыкам служыць да часу паньшчыну пастаро-

му, а па новому заплаціць больш грошэй у казну на пісароу, пасьрэднікоу, да і чорт іх ведае на што. Судзецеж цепер самі чыж не ашуківыюць нас?

Но не на доуго здадсце ім круцельство, бо як я казау мы ужэ пазналі што нам не маніхвэстоу а вольносьці патрэба—і то вольносьці не такой, якую нам цар схочэ даці, но якую мы самі мужыкі памеж сабою зробімо. А для того Дзяцюкі, каб ніхто вас не мог ашукаці, цепер ужэ талкуйце памеж сабою, якой вам вольносьці патрэба і якім адно способом мужык ею дастаць можэ. Только Дзяцюкі смело, бо з намі бог і прауда, а калі мы з богом, то з намі ваяваці трудно, бо боска моц веліка, а народу много.

Так з гэтаго пісьма і відно—што нема чэго ждаці ад нікого, бо той только жне, хто пасее. Так сейцеж Дзяцюкі, як прыйдзе пора pamoju rukoju—не шкадуйце працы—каб і мужык был чэлавеком вольным, як ён на цалюськом сьвеці, бог нам дапаможэ!!!

*Яська гаспадар з пад Вільні.*

*Каштуе грошы 3.*

### № 5. Мужыцкая прауда

Дзяцюкі!

Мало того, што з мужыка дзеруць усякіе Падаткі астатню кашулю, мало таго што ніколі неможэш дабіціся да куска хлеба, а усё што заробіш аддаці мусіш чорт ведае каму і чорт ведае на што, мало таго, кажу, што жыце нашэе горш сабачаго, а скажэце мае міленькіе чые помеж намі хто каб не аплаківаў ешчэ альбо своего сына, альбо сваго брата, альбо сваго мужа, што цар забрау его у рэкруты, да і загнау чорт ведае гдзе?

Працуе бацько цяжко на дзецеткі свае, гадуе маці сына, ночэнькі ня спіць а цар сабача вера, як гэты воук закраушыся вяліць лавіці, у дыбы скуці і гнаці ад родні далёко. А маскоўское жыце—горка не доля. Забыці нам трэба, што е у нас наша бацькоушчына, што е у нас наша радня, а аддаці жыце не за дабро і шчасьце усіх, а за ліхо і вечну неволю нашых братоу. Гэтакаго ліха Дзяцюкі і скаціна не знае—вы мае міленькіе пэуне і не падумалі скуль ено на нас навязалося, чы гэтак мусіць быці? Усё я вам разтолкую, а хто мае прауду у сэрцу і добра хочэ той мене паслухае.

Помняць ешчэ нашые дзеды. паказываюць ены, што за іх часоў мужыкі рэкрута і не зналі. Было войско то прауда, но войско польское усё было зэ шляхты, а калі мужыкі часамі захацеліісьці на вайну, так зараз з іх знімалі мужыцтво да і паншчыну давалі землю, а усю вёску рабілі шляхтою—стуль то у нас і парабіліся гэтые аколіцы шляхэцкіе. Так за тое, што чэлавек шоў на вайну бараніў сваю бацькоўшчыну, то Ронд польскі давау землю, давау вольнасьць, давау шляхэцтво, а маскаль чы гэтак робіць? За тое што мы ему 25 лет на войнах

служымо бэз людзкой справы і адзежы, мало таго, што не дае шляхэцтва, но сабача юха не дае навэт куска землі, каб хаця цяжко гаруючы дабіціся да спакойной сьмерці. Праслужыушы 25 лет да і торбу узяушы ідзі жабраваці. А што грэху наберэшся перад Богам спрыяючы Маскалеві, таго ніколі бог не даруе. Ідзе Француз даваці вольносьць мужыкам, бунтуюцься местэчковые да маладзеж за сваю і нашу вольносьць і веру, а мы то даемо рэкрута і нашымі грудзямі цар маскоускі застауляецца і нашымі рукамі усмерае бунты і запрагае нас усіх у вечну неволю.

Того хто нам добрэ думае мы выганяем, таму хто нам ліхо робіць мы памагаем—чыж не грэшно перад Богом, а не стыдно перэд цэлым сьветом?

Самі скажэце прауда што мы былі дурные, і як гэтые авечкі нічога не знали; но здаецься пара ужэ паразумець, угледзець прауду.

Вы ведаеце дзяцюкі добрэ, што Француз прыказау недаваці ужэ больш Маскалеві рэкрута, для того калі Цар захочэ узяці так цэлаю грамадаю згаварыўшыся нігдзе ему не даці. Ён цепер хочэ узяць 5 тысяча, но як дамо 5, то ён позней захочэ узяці 10, і зноу пойдзе пастараму. Цепер мы ему аддамо гыцьлёу, позней трэба будзе аддаці і своіх сыноу. Так для того Дзяцюкі талкуйце добрэ і не давайцеся ашуківаць. За мужыцкую крыуду стойце сьмело усе разом і калі хто захочэ крыудзіць, выцягаці рэкрута, то хто-бы ён ні быў, чы то Старшына чы Акружны, чы хоць сам Губэрнатор, то вы его таучыце мужыцкою рукою, а будзе вольносьць і рэкрута не будзе і бог нам дапаможа!!!

Так Дзяцюкі па добросьці да ладу не дойдзем.

*Ясько гаспадар с под Вільні.*

## № 7. Мужыцкая праўда

Дзецюкі!

Доуго моучау я неказау вам нічого, бо хацеу розглідзецса добрэ да розобраць, што гэта дзеецса на сьвеці, штоб ужэ сповесьціць Вас по справедлівосьці да сказаць як наказуе бог да сумленьне, што нам цепер трэба робіці. Ждаць моучкі больш ужэ не змога! Поміркуймо толькі што думаюць цепер зробіць з намі.—Обецау нам цар землю,—чыноунікі, попы, да москалі, усі у адэін голас дурылі нас, што цар нам шчыро думае, да дасьць волю, Справедлівую Волю,—І слухалі мы цара. Казау ён нам ешчэ два годы служыць паншчыну і паншчыну мы адбувалі.—Наказау цар некрута далі мы ему і некрута, а самі моучкі гледзелі, як нашых сынкоу да братоу на край сьвета пагналі.—Накінуу нам подушного—плаціли мы подушне за жывых і умерлых, за дзецей да за старцоу недужых,—плаціли мы земску павінносьць, да вялікіе зборы, плаціли на пасярэдніка, на праулене, старшынам, пісарам окружным, асэсорам—да бог ведае каму не плаціли—да усё непыталісь куды ідуць нашы

грошы. Усі нас крыудзілі да усі абдзіралі і біу нас сільнейшы, крыудзілі багатыі—а на тое нідзе небуло справедлівосьці.—Мы усё маучалі, да слухалі, усім кланялісь, за усё плацілі, усё церпелі ждучы канца, бо сподзеялісь справедлівой вольносьці, сподзеялісь, што дадуць вольную землю да у подушном справедлівы побор будзіць.—Заміст того штоб оддаць нашу земельку, да якуюж землю?! гэту што з дзедоу прадзедоу, кроуною працэй дзесяць раз ужэ на ее зарабілі да заплацілі.—За гэту землю цар наказуе нам чыншы плаціць у казначэйство. Да якіеж чыншы? Якіе уздумаецца постановіць чыноунікам, да судовым кровопійцам, да ешчэ з кожным годом усё большые да большые.—Так волі нам ужэ і не будзе: век цэлы плаці, да на век несі астаткі, штоб адплаціцса Палатам да Праувленям. Падмануу жэ нас цар, а его служкі попы, чыноунікі да москалі подвелі нас як чорт добру душу.

Мало того: беручы некрута на весьні казау цар, што больш браць ня будзе:—мы як тая дзеціна і поверылі, што не будзе, а цепер бач! і зноу цар наказуе з кажное волосьці растановіць по сто хлопцоу, што пойдуць у москалі по ахвоце, а як ахотнікоу не будзе так грамада прысудзіць кому ісьці у некруты. Скруцюся хіба! штоб то хто ішоу у москалі по ахвоце.—Так ось ужэ у друге подмануу нас цар з некрутом. Узяу пяцёх з тысячы, а цяпер давай сто з волосьці, а у осені ешчэ можэ двесьці або трыста захочэ, бо цар со своімі москалямі не падужае мужыкоу што подняліся у Польшчы і не подолее Пранцуза, што за Польшчу уступіуся. У Польшчы мужыкі так само як і мы сподзеялісь на цара, да ждалі волі од него,—да як побачылі, што цар толькі лёсточкамі душу выймае, а новымі податкамі, некрутом да чыншамі остатню сорочку з ніх здзерці хочэ,—от усі разом з вілами да з косамі пойшлі добівацца землі да прауды, а іншу і сьвятой уняцкой веры. От і добілісь. Выйшоу ужэ Польскі Маніхвэст. Земля вольно даецца усім мужыкам; бо гэто іхня земля з дзедоу прадзедоу, за гэту землю ніхто не мае одробляць паншчызны і чыншоу ніякіх нікому плаціць; подушного больш не будзе, а толькі подымне, як колісь плацілі; некрута больш не будзе, а усі мужыкі і паны і мешчанне, усяк одслужыць 3 годы у своей землі і зноу собе вольный.—Уняцкіе косьцёлы, што маскалі забралі, аддаюцца назад уніятам і хто хочэ, мае право хрэсьціць дзецей по уніяцку, да до уніяцкіх ксендзоу ісьці до споведзі і по старому богу моліцца, як ешчэ бацькі нашы молілісь.

Но цепер самі розбірайце: дзе больша прауда, ці у польском маніхвэсьці, ці у царском?—Цар обецау даць вольносьць—да недау. Обесау не браць некрута—а цепер ужэ другого наказуе. Польскі Маніхвэст дау землю, не берэ некрута, скінуу подушне, повернуу унію.—Но, скажыцеж, браткі! хто нам лепш думае? Помогбы Пранцуз—дык штож - цар адказуе што у нас мужыкі усім довольны, іншое волі нехочуць, што ены любяць цара, да душы, што шлюць ему лісты, да зносяць податкі, да ахвотно

плоцяць чыншы, а некрута постановяць колькі цару заугодно, а Уніі ніхто не хочэ! І так нас цар подманывае, скрывіць хочэ прауду, штоб нас соусім погубіць. А Француз на нас толькі ждзе і да комуж ён помагаць стане, калі у нас будзе ціхо. А мы хоць нам царскіе служкі зневерілісь надто, робім усё што ены нам ніскажуць. Такім способом не зазнаць нам волі, да справедлівосьці.—Не так думалі мужыкі у Польшчы. Служылі ены ему верно, як і мы, да побачыушы, што не выслужаць нічого, сталі добівацца і добілісь волі.—А іх царскіе служкі дурылі, як нас цепер дураць—подмоулялі штоб слаць лісты до цара перэпрошаючы, да по старому несьці податкі, да даваць некрута,—учылі іх як доносіць одзін на одного, як ловіць да москалям одстаноуляць, да мало знайшлося такіх, штоб то небаючысь бога ні сорому людзкого служыць москалям, бо ужэ спозналі мужыкі царскую думку. А такіх, што за грошы не побоялісь служыць ворогам нашым, што не хацелі мужыкам землі, да прауду на сьвеці, да спрэчны былі новой вольносьці, да новому польскаму маніхвэсту гэтакіх вешаюць, як подлых собак, селішча іх опусьцелі, пошлі з дымом іх хаты, пропала марно худоба.

Подумайце добрэ, да помоліушыся богу станьмо дружно разом за нашую вольносьць! Нас цар ужэ не подмане—не подведуць москалі! нема для ніх у нашых сёлах ні воды ні хлеба—для ніх мы глухі і нему—нічога не бачылі і не чулі.—А покуль ешчэ пора, трэба нашым хлопцам спешыць з віламі да з косамі там, дзе добіваюцца волі да прауды—а мы іх бацькі да жонкі нашы, сцерэчці будзем дауведомляць одкуль на ніх цяхне нечыста маскоуска сіла—да ад душы помогаць уселячімі способамі дзецюкам нашым, што, за нас пойдуць біцса.—А будзе у нас вольносьць якой не было нашым дзедам і бацькам.

*Ясько господар з под Вільні.*

*Коштуе грошы 5.*

**Літаратура аб К. Каліноўскім**

Адозвы Каліноўскага, „Савецкая Беларусь", 1923 № 192-193.

*Гансіороўскі Я.* Bibliografija druków dotyczących powstania styczniowego 1863—1865. Warszawa 1923 (гл. №№ 435, 533, 632, 657).

*Гарэцкі М.* Гісторыя беларускае літаратуры. Масква-Ленінград, 1924; стар. 212—214.

*Ігнатоўскі У.* Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX ст. Менск, 1925 г.; стар. 124—127, 138—144.

Karo Archyvas. Redagevo V. Steponaitis. I. Kaunas. 1925 стар. 222—225 (гл. і стар. 211, 216—219).

Рэц. *Пруса*, „Крывіч" 1925, № 1 (9); стар. 113-114.

*Карский Е. Ф.* Рэволюционные брошюры и прокламации шестидесятых годов („Белорусы", т. III, в. 3. Петроград 1922; стар. 83—90).

N. Кастусь Каліноўскі. Савецкая Беларусь. 1923 № 86.

Pamiaci Sprawiadliwaho. „Biełaruski kalendar“ „Swajak“ na 1919 h. wydawiectwo W. Iastoŭskaho. Wilno, 1919; стар. 52-55.

*Ружанец-Ружанцоў А.* Беларускія друкі часоў другога паўстаньня. „Крывіч“, Коўна, 1924. № 1 (7), стар. 95.

Swajak. Pamiaci Sprawiadliwaho. „Homan“. Wilnia 1916. № 1.

Gołoćka U. Z minułych polska-biełaruskich adnosin. „Biełaruskaje życcio“ Wilnia, 1919, № 9.

Gołoćka U. Chto był Konstant Kalinoŭski? Ibidem, 1919, № 10.

*Трызна Ів.* (Цьвікевіч Ів.). Константын Каліноўскі „Беларускі сьцяг“. Коўна, 1922, № 4; стар. 10—19.

*Цьвікевіч Ів.* Кастусь Каліноўскі. „Полымя“, Менск. 1924 № 2 (10), стар. 3—18.

У вапошняй працы ёсьць паказаньні на другія выданьні, у якіх, паміж іншым, каротка памінаецца К. Каліноўскі.

# НАША ЛІТАРАТУРА ЗА 1925 Г.

(*Увагі й гадкі*)

**М. Байкоў**

Уздым літаратуры знаходзіцца ў простай залежнасьці ад экономічных фактараў. Гэта—ісьціна, супроць якой няма чаго й спрачацца.

Першыя гады нашай рэволюцыі—гады ваеннага комунізму й нябывалай гаспадарчай разрухі, годы страшэннага экономічнага заняпаду. Гэтым тлумачыцца тое, што, ня гледзячы на памысныя, як здавалася-б на першы погляд, умовы для разьвіцьця беларускага пісьменства на зары нашага рэволюцыйна-нацыянальнага адраджэньня, у гады ваеннага комунізму ў рачавістасьці меў месца ня ўздым, а заняпад нашага слова ў параўнаньні з дарэволюцыйным часам, або лепш казаць, даваенным часам. Гэты заняпад стаіць перад маіма вачыма, як факт,—і я зусім не згаджаюся з тэй сантымэнтальнай ацэнкай беларускай літаратурнай сучаснасьці, якую даў у сваім артыкуле на гэткую тэму на старонках „Полымя“ за мінулы год (№ 1 і 2) с. У. Чаржынскі. Сапраўды, тая сучаснасьць, аб якой гаворыць с. Чаржынскі, на $^{4}/_{5}$ зусім ня сучаснасьць, а дарэволюцыйнае мінулае, бо і „Новая зямля“ Я. Коласа, і „Спадчына“ Я. Купалы, і „Пад родным небам“ З. Бядулі і нават „Сокі цаліны“ Ц. Гартнага зьявіліся ў сваёй істоце ў думках іх аўтараў яшчэ да рэволюцыі і толькі з пэўнай напружанасьцю іх можна прыплесьці да рэволюцыйнай сучаснасьці. Праўда, пры жаданьні можна ў кожным літаратурным творы ўгледзець сучаснасьць, як, напр., тое і робіць с. Чаржынскі ў адносінах да „Песьні аб паходзе Ігаравым“ у перакладзе Я. Купалы. Чытаем у яго артыкуле: „У момант найвялікшага напружаньня працаўнікоў, калі лёсы рэволюцыі вырашаліся сілай збройнай там, на палёх Палаўчан старадаўных, у гэты момант прагучэла „Песьня“. З бяздонных нетраў гісторыі яна, вынесеная на сьвет на струнах ліры поэты-грамадзяніна, загаманіла, можа несьвядома, можа цалкам выпадкова, але загаманіла ў тон з сучаснасьцю. І ў гэтым гомане сплялася медзь старажытнага вечавога звону з поклічам—„Вызваленьне працаўнікоў“ у сучаснасьці, і ў гэтым гомане сплялiся лязгатаньне мячоў „харалужных“, а шчыты паганыя з грымотамі барацьбы 1920-1921 г. там, у стэпах Украіны і Дону „сінявокага“, і ў гэтым гомане сплялася слава „кметам“ Куршчыны старадаўнай з славай кметам сучасным—чырвоным гэроям...“

Але ня буду цытаваць далей... Бо ясна, што, ідучы па сьцежках кваціστага крытыка, патрапім знайсьці першатравеньскія мотывы ў казаньнях Кірылы Тураўскага...

Да..., пакуль не пачалося экономічнае адраджэньне Беларусі, наша літаратурная рэволюцыйная сучаснасьць была вельмі ды вельмі небагатай.

Шэраг рэволюцыйных вершаў Ц. Гартнага, два-тры „грамадзянскія“ вершы поэтаў-народнікаў ды невялічкі зборнічак вершаў Кудзелькі-Чарота й яго-ж невялічкая поэма аб „босых“,—вось і ўсё, што мы маем ад эпохі галадовак ды гаспадарчага абмізарненьня.

Нават тое, што было напісана раней, з вялікімі перашкодамі маглозьявіцца на старонках друку ў сыстэматызаванай постаці. Хаця думка аб выданьні поўных збораў твораў пісьменьнікаў дарэволюцыйнай мінуўшчыны паўстала ўжо ў першыя гады рэволюцыі, але мінула цэлых 7 год, пакуль не прыступілі да яе практычнага ажыцьцяўленьня.

Бо ня было экономічнага грунту,—і добрыя пажаданьні і імкненьні таялі ў паветры без таго, каб вылітавацца ў цьвёрдых матэрыяльных формах.

І толькі ад часу экономічнага адраджэньня пачынаецца наша літаратурная сучаснасьць...

Ужо што-кольвек у гэтых адносінах даў 1922 г., калі вышлі з друку зборнікі „Адраджэньня“. А сьледам, па меры экономічнага росту, літаратурны ўздым робіцца ўсё больш і больш прыметным. 1924 год дае ўжо два новыя зборнікі твораў рэволюцыйнай эпохі ў прозе—„Веснаход“ Кудзелькі ды „Трэскі на хвалях“ Ц. Гартнага, а акром таго, „Безназоўнае“.

Ад 1925 г. можна было чакаць яшчэ большага. У гэты год мы падышлі да даваеннай нормы вытвораў. Экономічная падваліна тонкай псыхічнай творчасьці пашырылася й паглыбілася.

Сапраўды, у 1925 г. відзен пэўны поступ у нашай літаратуры.

Напершае, мы маем пачатак поўнага збору твораў Я. Купалы. Прыгожа выдадзены паводле правіл друкарскае тэхнікі І том твораў Купалы будзе добрым помнікам нябожчыку-году прошласьці. Ня буду ўжо гаварыць аб тым, што *першыя* творы Купалы якраз і выяўляюць поэтычную істоту песьняра, бо пара яго красаваньня прыпала на рэволюцыйныя гады. „Жалейка“, „Гусьляр“, а асабліва „Шляхам жыцьця“,—вось сапраўдныя пэрлы творчасьці поэты і разам з ім пэрлы ўсяго нашага краснага пісьменства.

Як-бы ў згоду да 1 т. Купалы ў 1925 г. дачакалася свайго выдруку поэма *Коласа* „Сымон музыка“. Жыцьцёпіс гэтае поэмы добра вядомы. Кожны, хто сочыць за нашай літаратурай, ведае, што Колас апрацоўваў сваю поэму ўжо ў час рэволюцыі, што другая рэдакцыя была страчана ім у час вандроўкі на Каўказ, што ў выдрукаваным тэксьце дадзена

ўжо трэцяя рэдакцыя поэмы. Гэтак выходзіць, што нібыта поэма прыналежыць амаль да самаго 1925 г... Аднак, подых рэволюцыі бадай што не даткнуўся сутнасьці поэмы. Касьцяк яе—дарэволюцыйны.

Тым ня менш поэма славутага песьняра беларускай прыроды й быту ў тым выглядзе, у якім яна вышла з друку ў мінулым годзе, ёсьць вельмі выдатнай зьявай у галіне нашага прыгожага пісьменства. Некалькі можна было-б папікнуць аўтара за тое, што ня зусім поўна разьвінуты сужэт поэмы. Аднак, вельмі высока стаіць тэхніка вершу, больш высокая, чымся тэхніка вершу ў „Новай зямлі“. Тутака Колас стаіць на аднакавай вышыні з Купалай...

„Крок за крокам“ і „У ціхай вадзе“ Коласа ёсьць старыя творы, хаця і ў новым выглядзе...

Подых рэволюцыі адчуваецца ў другім зборніку прозаічных твораў поэты, які пашоў у публіку ў 1925 г.,—яго зборніку „На рубяжы“, хаця аўтар апісвае не беларускую, а курскую быль часоў рэволюцыі.

Больш удалымі ў сэнсе мотываў і выкладу зьяўляюцца прозаічныя творы пісьменьніка, якія надрукованы на старонках „Полымя“, у № 3—„Прокурор“ і № 7—„На парозе“. Тутака аўтар знаходзіцца ўжо проста пад уплывам зьяў рэволюцыі і яе ідэолёгіі.

Наогул-жа ў адносінах да нашай прозы мінулы год зьявіўся багатым годам...

У першую палову году вышаў з друку зборнік апавяданьняў *Зарэцкага* „У віры жыцьця“. Гэты зборнік крытыка справядліва палічыла „багатым укладам у нашую літаратуру“ (гл. Полымя № 3). Сапраўды, лёгкія для чытаньня, сучасныя па сюжэту, напісаныя прыгожай мовай апавяданьні Зарэцкага значна пасуваюць уперад разьвязак проблемы нашай рэволюцыйнай мастацкай прозы. Невялічкі зборнічак новых апавяданьняў аўтара пад загалоўкам „Пела вясна“, выдадзены ў сэрыі „Кніжніца Маладняка“, можа замацаваць прыемнае ўражаньне ад яго творчасьці. За пэўны мінус аўтара можна палічыць хіба адно,—яго моладасьць і адпаведна гэтаму адсутнасьць глыбокага аналізу жыцьцёвых адносін, прадпасылкай для якога павінна быць наяўнасьць у аўтара шырокага, вырасьлага на грунце філёзофскага разьвіцьця і жыцьцёвага дасьведчаньня *свайго* закончанага сьветапогляду. Такога сьветапогляду няма ў маладога пісьменьніка. Адсюль хаця факты жыцьця наогул зафіксаваны аўтарам правільна, аднак, ён нібыта коўзаецца па жыцьцёвай паверхні і не дае глыбокага псыхолёгічнага аналізу. Адсюль і пэўная „хадульнасьць“ гэрояў аўтара і самая кароткасьць яго апавяданьняў. На мой погляд, Зарэцкі—таленавіты пісьменьнік, але ён яшчэ не дарос да таго, каб даваць творы з складанай інтрыгай, глыбокім аналізам, прадуманым сьветапоглядам.

У гэтых адносінах вышэй за Зарэцкага стаіць *Я. Нёманскі*, зборнік апавяданьняў якога „На зломе“ вышаў у самым канчатку 1925 г. Нёман-

скі ў сэнсе агульнай адукацыі, псыхолёгічнага разьвіцьця, жыцьцёвага дасьведчаньня на цэлую галаву падымаецца над нашымі маладымі пісьменьнікамі. Яго зборнік знойдзе сабе не абы-якога, а сур'ёзнага чытача. І можна думаць, што кола яго чытачоў не абмяжуецца толькі беларусамі. Зборнік прачытае ад пачатку да канца і расіец, і украінец, і паляк. Тэмы аўтара сучасныя, тыпы гэрояў рознастайныя, жыцьцёвыя абставіны абрысоўваюцца памастацку, мова лёгкая й апрацаваная, псыхолёгічны аналіз глыбокі й правільны. Адзін з галоўных сюжэтаў творчасьці Нёманскага, як і творчасьці Зарэцкага,—гэта каханьне паміж мужчынай і кабетай, але ёсьць пэўная розьніца паміж гэроямі Зарэцкага і Нёманскага: першыя кахаюцца, як хлопец і дзяўчына, другія—як мужчына і кабета. Падаснова апавяданьняў Нёманскага больш глыбокая. Праўда, і ў яго ёсьць пэўная „хадульнасьць“ гэрояў, ёсьць пэўныя шурпатасьці, што асабліва выяўляецца ў першым па часе яго апавяданьні „Ромэо і Джульета на Беларусі“ (першы раз надрукаваны на старонках „Полымя“ ў 1923 г.), але апошняе апавяданьне зборніку—„Абмылка“ ўжо ня мае шурпатасьцяй.

Наогул, зборнік Нёманскага можна палічыць ня менш багатым укладам у нашую літаратуру, як і зборнік Зарэцкага.

Шэраг апавяданьняў і эскізаў, дадзеных на старонках „Полымя“, апроч ужо названых апавяданьняў Я. Коласа, паасобку апавяданьні і эскізы *М. Гарэцкага, Ц. Гартнага, Я. Лімаіноўскага, Алеся Гародні*, з яскравасьцю даводзіць, што ў мінулым годзе наша літаратурная творчасьць пэўна вышла на шлях утварэньня багатай па зьместу мастацкай прозы, якая па сваіх мотывах ёсьць выразам рэволюцыйнай сучаснасьці.

Што да вершаў, дык мінулы год даў нам, апроч поэмы „Сымон Музыка“, зборнік вершаў Ц. Гартнага „Урачыстасьць“, як урачыстасьць рэволюцыі і ўрачыстасьць жыцьця. У свой час на старонках-жа „Полымя“ (№ 3) Улідзе, падкрэсьліваючы мастацкасьць паасобных вершаў зборніку, галоўным чынам, вершаў з часьціны „Урачыстасьць жыцьця“ („Случчына“, „Слуцак“ і г. д.), паказваў на шурпатасьць іншых вершаў, якая, на яго погляд, „яшчэ больш увыпукляецца (вось так слоўца!—дадам ад сябе) на фоне мастацка-прыгожых вершаў“. Я дазваляю сабе не згадзіцца з ранейшым крытыкам. На мой погляд, праз увесь зборнік праходзіць рыса мастацкасьці, адзнака поэтычнага таленту, які ўсё больш і больш разьвіваецца з формальна-мастацкага боку, найбольш-жа ўдалымі вершамі я лічу тыя, што дадзены ў часьціне „Урачыстасьць рэволюцыі“. Тутака няма аніякай шурпатасьці. Тое, што здаецца крытыку шурпатасьцю, ёсьць хутчэй выразам рытму рэволюцыйнага змаганьня. Гэта ня шурпатасьць, а цьвёрдасьць, і не „неахайнасьць“, як кажа крытык, а поэзія рэволюцыянэра, якому няма калі думаць аб літаратурных каўнерчыках ды брыжыках. Можна пашкадаваць аб адным, што ўвесь зборнік

вершаў поэты-рэволюцыянэра не ахвяраваны ўрачыстасьці рэволюцыі. Бо без рэволюцыі няма жыцьця.

У галіне нашай мастацкай поэзіі, апроч паасобных выданьняў, дужа высока стаіць поэма *М. Чарота* „Марына“, якая зьявілася на старонках „Полымя“ (№ 3). Яна сьведчыць аб няўхільным поступе таленту маладога поэты.

У мінулым годзе, амаль што ў самым канцы яго, у выданьні Дзяржаўнага Выдавецтва выходзіць з друку зборнік вершаў *Крапівы* пад такім-жа самым загалоўкам „Крапіва“. Другія зборнічкі гэтага-ж поэты зьяўляюцца ў выданьні „Кніжніцы Маладняка“ (Асьцё).

Крапіва—поэта асаблівага яшчэ ня спробаванага ў нашай літаратуры жанру.

Поэта сам гэтак характарызуе сваю творчасьць:

Не цягнусь я за Чаротам,
І Купале не раўня,
А жыву сабе пад плотам
Ціха дзень тут ада-дня.

Я ў мастацкім агародзе
Толькі марная трава.
А якая?—сьмех ды годзе
Я—пякучка-крапіва.

Я расту вось тут пад плотам
І ня так даўно ўзышла,
А ўжо многім абармотам
Рукі-ногі папякла...

Такім спосабам, сам поэта выдае сябе за беларускага сатырыка і за ім асталявалася ў некаторых колах нашага грамадзянства рэпутацыя „беларускага Дзем'яна Беднага“.

Зборнікі Крапівы „Асьцё“ ў вершах і „Апавяданьні“ ў прозе, што вышлі ў „Кніжніцы Маладняка“, таксама выяўляюць прад намі імкненьне аўтара заняць стан беларускага сатырыка (ляпей было-б сказаць—шаржыстага).

Да гэтага часу ад пякучкі-крапівы больш за ўсё даставалася сучаснай вёсцы, бо на фоне вясковай цямноты, някультурнасьці і напружанай барацьбы старога і новага быту цьмяныя бакі рачавістасьці асабліва выразна кідаюцца ў вочы. Але я маю пэўнасьць, што ў далейшым гэтая-ж самая крапіва напячэ і абармотам з гораду і датыркнецца да цьмяных бакоў і пролетарскага быту.

Няма сумненьня ў тым, што Крапіва ёсьць не абы-які пісьменьнік сярод сучасных беларускіх пісьменьнікаў, і яго зборнікі, якія вышлі з друку ў 1925 г., трэба лічыць каштоўным здабыткам нашае літаратуры.

Зарэцкі, Нёманскі й Крапіва,—вось зоркі, якія пачалі яскрава мігціць з мінулага году і вашлі ў нашую літаратуру не паасобнымі эпізо-

дычнымі творамі, а цэлымі зборнікамі твораў, аб якіх ня можа не гаварыць літаратурная крытыка.

З лічбы гэтых пісьменьнікаў Зарэцкі й Крапіва—пісьменьнікі маладнякоўскага лягеру.

Пэўны поступ у 1925 г. выяўляецца й наогул з боку маладнякоўцаў.

Выразам гэтага поступу, ня кажучы ўжо аб часопісі „Маладняк“, зьяўляецца „Кніжніца Маладняка“, якая да пачатку 1926 г. налічвае ўжо да 20 выпускаў. Нават маладнякоўцы, хаця й колектыўна, зрабілі спробу напісаць больш-менш монумэнтальны твор, цэлы роман „Ваўчаняты“, продукт творчасьці трох аўтараў.

Аднак, трэба зрабіць і некаторыя ўвагі аб гэтых посьпехах.

Папершае, хаця ў выданьнях маладнякоўцаў, бязумоўна, ёсьць талентна напісаныя рэчы (як, напр., вершы Чарота, Пушчы, Дубоўкі, Труса і інш.), але ў іх ёсьць і шмат тандэтнага матэрыялу. Такі матэрыял знайдзецца амаль што ў кожным выпуску „Кніжніцы“. З гэтага погляду я знаходжу часткова няўдачнай самую ідэю „Кніжніцы“. Калі на кожнага аўтара адводзіцца спэцыяльны выпуск, дык ня дзіва, што аўтар, каб запоўніць адведзены яму асабіста лік аркушаў, пушчае ў друк свае нявынашаныя й неапрацаваныя творы. А гэтая спакуса асабліва моцная для маладых пісьменьнікаў. Вось чаму у Якімовіча, напр., амаль што зусім няма „багатых“ рытмаў, недахопы ў рытміцы знойдзем і ў Труса, і ў Пушчы і ў інш. поэтаў. Здавалася-б, што ляпей было-б, замест „Кніжніцы“, выдаваць зборнікі Маладняка на манэр хаця-б, тых зборнікаў, якія выдае група „Звенья“. Шлях зборнікаў—гэта самы натуральны шлях маладых поэтаў. Толькі тады будзе пэўная забясьпека ад тандэтнасьці. Свае-ж аблічча, якія маюцца на вокладках „Кніжніцы“, маладыя поэты, калі гэта дужа патрэбна, маглі-б бачыць на старонках зборнікаў.

Падругое, значным бракам большасьці вершапісцаў з лягеру маладнякоў зьяўляецца мова,—адарваная ад народнай глебы. Вось, напр., мова Пушчы, які кажа:

> Сьмяецца нам
> расой апырсканы быльнёг,
> мы жнём усход нязнаных слоў.

І такіх „нязнаных“ слоў, на манэр „быльнёг“, шмат ня толькі ў аднаго Пушчы. Нядарма з лёгкай рукі Дубоўкі маладнякоўскія поэты пачалі даваць тлумачэньні-лексыконы да сваіх твораў. Тутака вялікая разьніца паміж пачынальнікам маладнякоўскага руху М. Чаротам і яго працягальнікамі. Наколькі добрая, ясная, зразумелая мова першага, настолькі цьмяна пішуць другія. Хіба мова аднаго Труса блізка да мовы народнай.

Пры такіх умовах ня дзіўна, што вершы маладнякоўцаў незразумелы і для сялян, і для рабочых. І гэтая адарванасьць ад жывой народ-

най мовы падвойваецца лацінскімі назвамі некаторых выпускаў. Хіба думае т. Дубоўка, што яго „Credo“ зразумее просты беларус не-католік? А калі не зразумее, дык навошта ўся гэта творчасьць? Для мяне, прынамсі, і поэзія, і проза маюць сэнс толькі, як сродак комуністычнага выхаваньня шырокіх народных гушч. Па-за гэтай мэты няма аніякіх мэтаў у пісьменьнікаў-марксыстых. Калі-ж ня так, калі поэзія Маладняка ня будзе даступнай селяніну ды работніку, які сэнс будзе ў самай філіі „Маладняк“?

Колектыўны маладняякоўскі роман „Ваўчаняты“, па згоднаму прызнаньню крытыкі (у „Полымя“ № 7—Engel, у „Сав. Беларусі“ № 300,— П. Галавач), аўтарам ня ўдаўся. Замест роману, вышла якаясь бязладзіца й няпрыстойнае тарахценьне. Шкада паперы й друкарскае фарбы, якія пашлі на гэты колектыўны твор.

Але затое з паасобных маладнякоўцаў прозаікаў значна высунуўся наперад *Кузьма Чорны* (Вып. 3 „Кніжніцы“—„Апавяданьні“, і вып. 11 „Срэбра жыцьця“). Кузьме Чорнаму належыць добрая будучына ў галіне беларускай прозаічнай літаратуры. Як стыліста, ён стаіць вышэй і Зарэцкага, і Нёманскага. Па сіле мастацкай здольнасьці ён зьліжаецца з Я. Купалай. Сужэты К. Чорнага сучасны й вельмі ўдалы. І разам з тым, у кожным апавяданьні Чорнага адчуваецца шчыры беларускі настрой.

Такім спосабам, бачым што і „Кніжніца“ Маладняка пакінула пасьля сябе сьлед у нашай прозе ад 1925 г.

Разьвінаць далей мастацкую беларускую прозу,—вось задача, якую наказаў год-нябожчык году-наступніку.

## С. А. ЕСЕНІН

*(Уваґі на краёх газэт)*

**П. Леанідовіч**

Есеніну, калі ён павесіўся, было толькі 12 поэтычных год...

Ён нарадзіўся ў 1895 годзе, у сям'і беднага селяніна Разанскай губ. Дзяцінства мінулася пад чужой страхой. Сяргея, яшчэ дзіцем, „аддалі“ дзядзьку—заможнаму кулаку.

У выхаваньне ён атрымаў узаконеныя для ўсіх гадаванцаў кулацкіх сямей—кпіны ды пабоі; у адукацыю—навукі, „ухваленыя Міністэрствам Народнай Асьветы для царкоўна-прыходзкіх школ“.

І толькі.

Але, як сам Сяргей Аляксандравіч казаў:

> Все живое особой метой
> Отмечается с ранних пор...
> Если не был-бы я поэтом,
> то наверно был мошенник и вор...

*Злодзеем* зрабіцца было ня цяжка, „надыхаўшыся“ „с ранних пор“ атмосфэрай кулацкай навучальнасьці, а *ашуканцам*—тым болей (сем год вучыўся прыкідвацца набожнасьці ў царкоўна-прыходзкай школе).

„Вершы я пачаў пісаць рана, год 9-ці, але сьвядомую творчасьць адношу к 16-17-ці гадам, друкавацца пачаў з 18-ці год“, піша Есенін у сваім жыцьцяпісе.

Есенін—поэта. Гэта яго „особая мета“.

І вось, у сваіх раньніх вершах (частка іх зьмешчана ў „Радунице“), Есенін сьпявае пра карову, у каторай зарэзалі цялё, пра пухавы хлеб, пра старыя лясы, з якіх будуюць простыя хаты, пра суку, якую пазбавілі шчанят. Есенін сьпявае *пра тое, што бачыць*. Калі-б яго творчая, поэтычная існасьць толькі ў гэтым выявілася, дык сучасьнікі, у лепшым выпадку, мелі-б яшчэ аднаго Радзімава. Але Есенін, не адводзячы *вачэй* з калыскі сваёй музы, прыклаў к ёй і чулае поэтычнае *вуха*.

„Сьвядомую творчасьць адношу к 16-17-ці гадом“, піша ён.

Гэты пэрыод ахапляе цыкль вершаў, напісаных „у глыбіню“. У іх гэтых вершах, Есенін ужо прыслухоўваецца да „настрояў вёскі“...

Гэта вершы—пра „Міколу, ласкового угодника“, які зьбірае боскія стварэньні і корміць „просом с подола“, пра „господа“, які „шел пытать людей в любви“ і „нищим на кулижку выходил“, пра тое, што ў „богородицин покров“ усім „нужно верить от рожденья“...

Вёска, цёмная вёска—

Край заброшенный,
Край пустырь.
Сенокос некошенный,
Лес да монастырь,—

з яе „кондовым избяным мистицизмом“, на восі якога круціліся ў агоністычны пэрыод рэакцыі—інтарэсы, настроі і патрэбы сялянства,—гэта вёска надала поэце даўкую атруту...

Навучна-гістарычнаму дасьледцу, бытапісальніку і ўдумліваму мастаку аднолькава прыгадзяцца раньнія зборнікі Есенінскіх вершаў, як матэрыял, у якім усебакова, знадворку і з сярэдзіны, вычэрпваецца вёска, у эпоху перад-соцыяльных навальніц. У гэтых зборніках вельмі яскрава і поўна адбіта вёска, але... *на гэтых зборніках канчаецца С. Есенін, як сялянскі поэта.*

„18-ці год я кінуўся ў Пецярбург... і быў прыняты вельмі ветліва“ (жыцьцяпіс).

1913 год. Есенін, жытнёвы юнак, у лапцях і кажуху, чыстымі, вазёрнага колеру, вачыма ўбірае ў сябе іншы сьвет—*горад.*

І вось пачынаецца перараджэньне яго мастацкай асобы, распаданьне творчай тканіны яго музы:

Видели-ли вы,
Как бежит по степям,
В туманах озёрных кроясь,
Железной ноздрей храпя,
На лапах чугунный поезд?
А за ним—
По большой траве,
Как на праздник отчаянных гонок,
Тонкие ноги закидывая к голове,
Скачет красногривый жеребенок.
Милый, милый, смешной дуралей,
Ну, куда он, куда он гонится.
Неужель он не знает, что живых коней
Победила стальная конница?..

Горад высмактаў з Есеніна асабістасьць яго поэтычных успрыманьняў. Горад атруціў Есеніна скэпсызмам.

Горад адразу стаў чужым для душы поэты, бо неба гораду не з „голубого, простенького ситца“ ня „близкое“, а... „далекое и в копоти и гари“; бо людзі гораду—не „бесхитростные труженники и озорники“, а „расчетливые злодеи“ і г. д. і гэтак без канца.

Гораду Есенін ня прыняў. Ад вёскі Есенін адкалоўся.

Чалавек, які ў 16 год пісаў:

> В окна бьют без промаха
> Вороны крылом,
> Как мятель, черемуха
> Машет рукавом,—

раптам пачаў нудна цягнуць:

> Скучно слушать под небесным древом
> Взмах незримых крыл:
> Не разбудишь ты своим напевом
> Дедовских могил.-

Чалавек, які дагэтуль неперaймальна адбіваў містычны ўхіл сялянскага сьветапогляду, паншчынную залежнасьць сялянскага духу аб ліхіх стыхій прыроды і чалавечых „наветов“ на гэтыя стыхіі, стаў

на раздарожжы.

Поэта, які аддаў *зямлі* залатое зерне сваёй беспасрэднасьці, убачыў, што гэта зерне прарастае не зялёным голкавым паросткам, а... фабрычным комінам!

Чалавек, які дагэтуль поэтызаваў бяздумную чорназёмную прастасьць і пустасьць, раптам пачуў канечнасьць:

> воспеть динамо и турбину
> и даже спичечный завод.

Гэта было нязносна сваёй незразумеласьцю, хваравіта ў сваёй нечаканасьці...

„Рассудку вопреки, наперекор стихиям“—Есенін уздумаў, па вельмі ўдаламу выразу В. Львова-Рагачэўскага—„згадзіць рэлігійнае з рэволюцыйным“, г. зн. знайсьці роўнадзейную сіл, якія ўзаемна выключаюць адну другую. г. зн. узяць на сябе цяжар, які быў не па сіле Блоку і яго „Дванаццаці“.

Духоўную сувязь між горадам і вёскай гэты натхненец мысьліў па лініі нейкай гармонізацыі—наскрозь матэрыялістычнага (горад) і творчапотэнцыянальнага (вёска)—пачаткаў.

Адгэтуль падарожніцтва Есеніна.

Канцова фосфорэнцавальны, прагнілы эстэцызм, як адрыжка кваліфікаванага гарадзкога мяшчанства, у васобе сваіх Марыенгофаў, і эмігранты з Расіі № 2, што профэсарствуюць, залічылі Есеніна ў лік сваіх сьвятых.

Есенін, аднак, ніколі ні фізычна, ні духоўна не эміграваў, а ўвесь час з усімі перажываў Кастрычнікавую рэволюцыю.

Есенін гэтую рэволюцыю *перажываў* з усімі, і толькі. Ён фіксаваў асаблівыя моманты гэтай рэволюцыі ў яе знадворных праявах—і толькі. Адгэтуль падарожніцтва Есеніна. Палітычнай культуры Есеніну не хапіла для таго, каб паглыбіць сваю творчасьць гэтага пэрыоду. Апошні-ж момант пакінуў яго адзінотным, у колектывістычным бунце спакутаваных працоўных нізоў. Есенін ніколі ні фізычна ні духоўна не эміграваў. Эміграцыя—гэта парываньне фізычных і духоўных сувязей індывіда

з абставінамі, якія стагодзьдзямі выгадоўвалі гэтага індывіда. Мы ведаем, што абсолютнай эміграцыі ня можа быць без эміграцыі фізычнай. Падарожніцтва Есеніна было вынікам таго, што ён спрабаваў ашлюбіць горад з вёскай і зрабіць у гэтым шлюбе гаспадаром любую яму вёску, з яе анархічным тэмпэрамантам, знадворку ахварбованым у пантэістычны пасэізм. Гэтым розьніцца Есенінскае падарожніцтва ад Эрэнбургаўскага і шмат іншых, падарожніцтва зарубежнага, якое зьявілася вынікам няплодных намаганьняў яго прадстаўнікоў не пагодзіць, а разлучыць, пасварыць, разьмежаваць горад і вёску, гэтыя дзьве блізкія не па духоўным настроі, а па соцыяльна-гістарычных умовах існаваньня—стыхіі.

Наагул—Есенін, як падарожнік—гэта мастак, якому было-б занадта цесна ў памыйным вядры эміграцыі і было вельмі прасторна ў шырокіх хвалях кастрычнікавага шторму.

Мы ўжо казалі, што горад атруціў Есеніна. Узяўшы прычасьце урбаністычнага пачатку, разанскі пастух разьвеяў у пахах бэнзіну—„миро и елей“. Гэты адзіночка ў рэволюцыі адчуў толькі тэмп яе увэртуры і заўсёды, як і ў кожнай рэволюцыі,—тэмп крыху анархічны ў сваім гучэньні...

Поэта „пришедший в город“—зразумела спачатку... яго *ўбачыў*. І—толькі.

Але як убачыў?

У Маскве—Есенін убачыў толькі... „кабацкае!?“

У дабры новага соцыялістычнага строю—наступнае:

> Да—богат я. Богат с излишком...
> Был цилиндр, а теперь его нет.
> Лишь осталась одна манишка,
> С модной парой избитых штиблет...

Удумліваму чытачу гэтых радкоў павінна было кінуцца ў вочы, што не дарма гэта перапісваньне Есеніным самога сябе начыста.

Удумліваму чытачу гэтых радкоў, а галоўным чынам, пільнаму дасьледцу Есенінскай творчасьці павінна было кінуцца ў вочы, што Есенін, як поэта, разьвінаецца ў нейкім пляне кругоў, якія концэнтруюцца.

Сапраўды,—успомніце: калі Есенін пачаў тварыць (успомніце першыя радкі гэтай увагі), мы па даным жыцьцяпісу поэты зазначылі,—што ён *ня пісаў, а апісваў*. Есенін у першыя гады сваёй працы пісаў *пра тое, што бачыў—і толькі*. Разанскі Лель пісаў пра суку, якую пазбавілі шчанят, пра старыя лясы, з якіх будуюць простыя хаты, пра няпрытульнае цялё.

Потым пачаўся нейкі адыход Есеніна ад Радзімаўскіх крыніц і шляхоў, пачаўся процэс *паглыбленьня* поэтай сваіх тэм і вобразаў. Есенін зрабіўся *выказчыкам* настрояў перадрэволюцыйнай вёскі... Есенін вёску спачатку апісаў, потым пачаў казаць пра яе духоўныя імкненьні. Есенін,

чапіўшы пяром свае крылатае музы рэволюцыйнага гораду, таксама спачатку, а потым злавіў тыя імкненьні і надзеі, якія хвалююць гэты горад з сярэдзіны...

Я вижу все
И ясно понимаю,
Что эра новая—
Не фунт изюму Вам,
Что имя Ленина
Шумит, как ветр по краю,
Давая мыслям ход,
Как солнечным крылам.
Вертитесь, милые!
Для Вас обещан прок.

Было надта позна. Поэта пачуў усю адсталасьць ад веку. Прызначэньне быць „*последним* поэтом деревні“ лягло цяжарам на сьвядомасьць бяздумнага разанскага Леля. Поэзія, як і кожны від мастацтва, павінна ў нашу эпоху організаваць псыхіку мас. А такая задача была не па сіле духоўнай організацыі поэты, падцятай цэлым шэрагам крызісаў: расчараваньнем у жыцьцёва-творчай ролі вёскі, неразуменьнем і адгэтуль няпрыняцьцем гораду, як новага фактару ў будаўніцтве соцыялістычнай будучыны і г. д., і т. п.

. . . . . . . . . . . . .

Цяпер любяць шмат пісаць пра тое, што Есенін сьпіўся, што яго згубілі абставіны, усе гэтыя прыліпшыя к яго імені і жыцьцю бесклапотныя авантурнікі Маскоўскіх кабарэ і прахвосты ад літаратуры. У гэтым, зразумела, шмат праўды. Есенін, у васабістым жыцьці, быў ахвярай уласнай слабой волі, і ніхто ніколі ня прышоў на помач таленавітаму юнаку, не памог разабрацца ў яго пакутных сумненьнях і трагічных духоўных нястроях.

Яго прымушалі напівацца, з яго выцягвалі саромныя вершы, уздымалі яго на саромныя ўчынкі, чалавек дашоў да таго, што, будучы гэроем шматтомных дасьледчых прац аб сабе, зрабіўся таксама „гэроем“ крымінальнай хронікі вячэрніх газэт.

Сьмерць Есеніна—няслаўная і бульварная, але яго жыцьцё, напоенае да поўна чыстым лірычным настроем, пакінула вечнымі вершамі яскравы сьлед у расійскай народнай літаратуры.

Павесіўся праўдзівы народны поэта: *народны* па мотывах сваёй творчасьці, *поэта* па выключнай эмоцыйнай сіле. Памёр прадоўжнік традыцый стыхійнай творчасьці ў расійскай літаратуры. Памёр маладым. Савецкая краіна шчыра аплаквае гібель аднаго з лепшых сваіх поэтаў, і хоць гэта гібель знадворна, па форме мае ў сабе адзнакі ўнутранога, духоўнага распаду асобы, гэта краіна аплаквае ў асобе Есеніна — тую потэнцыю і творчыя магчымасьці, якія гэтая асоба хавала ў сябе.

Бясспрэчна, у Есеніна хапіла-б сілы, каб адарвацца ад балота гарадзкіх падвароцень, якое засмактвала яго. Незадоўга да сьмерці ён напісаў:

> Я полон дум об индустриальной мощи,
> Я слышу голос человечьих сил.
> Довольно с нас
> Небесных всех светил,
> Нам на земле устроить это проще.
> И самого себя по шее гладя,
> Я говорю:
> — Настал наш срок,
> Давай, Сергей,
> За Маркса тихо сядем,
> Чтоб разгадать
> Премудрость скучных строк.

У гэтых радкох—забясьпека новых пуцявін пасуваньня Есеніна на поэтычнай ніве. Іх ня дадзена было прайсьці поэту.

І цяпер мімавольна напрашваецца вынік:

Мы бедныя на поэтаў, мы ня можам так шчодра траціць сваіх Есеніных. Жыцьцё і сьмерць С. А. паказваюць, што партыя, адпаведныя культурныя ўстановы павінны зрабіць вывад аб патрэбнасьці пільна прыглядацца нават у побыт лепшых сыноў сваёй краіны.

Сваячасовым зваротам увагі на жыцьцё Есеніна разумным і ўдумлівым кіраваньнем яго жыцьця магчыма было-б папярэдзіць яго сьмерць.

Памёр Есенін—*апошні* поэта вёскі? Не, памёр поэта *апошняй* вёскі. А бач, Есенін з размахам свайго творчага прадбачаньня мог-бы зрабіцца першым поэтам гораду.

# КНІГАПІС

**Я. Нёманскі. На зломе.** *Апавяданьні. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Менск, 1925 г., 232 стар.*

Зборнік апавяданьняў Я. Нёманскага папраўдзе павінен заняць выдатнае месца ў шэрагу нашых літаратурных твораў.

Творчасьць аўтара, папершае, адзначаецца багацьцем і рознастайнасьцю жыцьцёвых праяў, на якія ён адгукаецца сваім словам.

Калі з гэтага боку разглядаць апавяданьні Я. Нёманскага, дык нельга не палічыць яго творчасьць багатай і зьмеснай. Вось пэрсонажы, што праходзяць перад намі ў апавяданьнях: смалакуры, плытнікі, дзесятнік, („Над Кроманьню"); закаханыя сялянскі хлопец і дзяўчына, атручаныя рэлігійнай варажнечай, праваслаўныя й каталікі, ксёндз і сьвяшчэньнік, ахмістрыня ксяндза й пападзьдзя, карчмар Бэрка („Ромео і Джульета на Беларусі)", жаўнеры чырвонае й белапольскае арміі, „(Дэзэртыр"), бальшавік і белагвардзеец першых дзён рэволюцыі, беларусінка-маці („Маці)", мяшчане—урадавец і яго жонка, зноў чырвонаармейцы („Зварот"), селянін кулак, яго забітая сваячніца, вясковы піонэр, адмоўныя пэрсонажы рэволюцыйнай вёскі („Тодар Базылёнак"), загадчык павятовага аддзелу народнае асьветы і яго жонка, тыповая мяшчанка („Абмылка)".

Як відаць, Нёманскі не абмяжоўваецца толькі вясковымі або толькі гарадзкімі тыпамі. Ён бярэ Беларусь з розных бакоў яе соцыяльнага складу. Жыцьцёвае дасьведчаньне пісьменьніка рознастайнае. Праўда, тутака мы не патрапім знайсьці чыстага высокапробнага пролетара, — працаўніка фабрычнай прамысловасьці буйнога гораду, і гэта можна было-б палічыць за мінус творчасьці аўтара. Але ў гэтых адносінах ён мае пэўную рацыю. Запраўды, дзе ў нас, у саматужнай пакуль што Беларусі, буйныя фабрычныя гарады, на глебе якіх мог-бы вырасьці чысты пролетар Лёдзінскага, напрыклад, або маскоўскага тыпу? Нёманскі ведае Беларусь такою, якой яна ёсьць, г. зн., мяшчанска-сялянскую, саматужную Беларусь плытнікаў, смалакураў, ксяндзоў і папоў, мяшчан, а таксама чырвонаармейцаў, якія яшчэ могуць дэзэртыраваць, — і вось гэту-ж Беларусь апісвае, як яна ёсьць у нашыя дні, калі дзе-ні-дзе прабіваюцца паросткі новага.

Сучаснасьць — гэта другая рыса творчасьці пісьменьніка. Аўтар ня выдумвае жыцьцёвых зьяў, ён бярэ тое, што запраўды было ў нашу пераходную эпоху вялікага соцыяльнага зрушша,—эпоху пераломў. Чытаючы зборнік Нёманскага, нібыта разгортваем яшчэ ня зусім цалком пережытае, сьведкамі якога ёсьць усе пераломаўцы. Адпаведна гэтаму і самы зборнік мае загаловак „На зломе" (я казаў-бы: „На пераломе").

Злому ў соцыяльных адносінах адпавядае і „Зломны" (лепей было-б казаць: „пераломны") характар настрояў і пачуцьцяў пэрсонажаў апавяданьняў. Вось перад намі стары дзед Язэп, які з паслухмянага панскага быдла гатовы зрабіцца бунтаўніком („Над Кроманьню"), або мяшчаначка Ядзя, якая з брыдкай мяшчанкі робіцца амаль што комуністкай

(„Зварот“) і, найдалей, дэзэртыр, які пераконваецца ў вялікай праўдзе комуністых і паміраe на полі бою ў барацьбе за комуністычную ідэю („Дэзэртыр“).

Праўда, некалькі раптоўнымі зьяўляюцца гэтыя пераходы і, пасобку, у выпадку з Ядзяй нават ня можна было чакаць такога пераходу. Калі Ядзя ў вялікую пятніцу, скончыўшы сьнеданьне, выходзіць з хаты з адказам на запытаньне Гукоўскага:

— Куды-ж ты пойдзеш?

— Рабі сабе, што хочаш, а мне трэба ісьці хлеб зарабляць, а ня цацкамі займацца... аўтар задае ня лёгкую задачу свайму чытачу й нават наводзіць думку на тое, што Ядзя пачала з галадоўлі практыкавацца няйначай, як у гандаль сваім целам... Але тут-то ўжо часткова вінавата манера аўтара... І з другога боку, ці жыцьцё ў нашы дні ня ведае раптоўных пераломаў?

Рысай сучаснасьці, на мой погляд, тлумачыцца і некаторая „хадульнасьць“ гэрояў апавяданьняў. У Нёманскага ксёндз павінен быць бязумоўна ў сувязі з сваёй ахмістрыняй, урадовец мінулай „Казённай палаты“ Гукоўскі павінен баяцца нават абломку зброі, загадчык павятовага аддзелу народнай асьветы—выяўляць сабою ідэальнага комуністага і г. д. І зноў такі, у Нёманскага заўсёды перамагае комуністычная цнота ў канцы апавяданьняў. Адсюль, прачытаўшы некалькі апавяданьняў, пры чытаньні далейшых па пачатку апавяданьня можна дагадвацца аб канцы...

У гэтакай манеры пісаць, якая выяўляецца ня толькі ў Нёманскага, але і ў Зарэцкага, на мой погляд, зьмяшчаецца пэўная небясьпека для нашай маладой пролетарскай літаратуры. Мы рызыкуем стварыць шаблённую і дзеля гэтага нудную літаратуру. Трэба больш асабістасьці, больш разнастайнасьці індывідуальнага й соцыяльнага трыманьня літаратурных тыпаў. Патрабуецца больш глыбокі аналіз жыцьцёвых адносін.

Тым ня менш, у Нёманскага знаходзім пэўны псыхолёгічны аналіз. Незаўсёды гэты аналіз зроблены памастацку, не на ўсіх апавяданьнях маецца адзнака натуральнасьці, але ў кожных з іх знойдзем памастацку абмалёваныя тыпы...

Што датычыць паасобных апавяданьняў, дык здаецца, што найбольш слабым апавяданьнем зьяўляецца „Рамео й Джульета на Беларусі“ (нібыто першы літаратурны дэбют аўтара). Мацнейшымі зьяўляюцца апавяданьні, што адносяцца да нашай рэволюцыйнай сучаснасьці. Гэтыя апавяданьні чытаюцца з неаслабнай увагай.

Мова аўтара мае пэўныя недахопы (русізмы), але наогул яна правільная.

З боку тэхнікі зборнік выдадзены бездакорна і можа сьведчыць аб значных посьпехах у выданьні кніг Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва.

**М. Байкоў.**

**М. І. Некрашэвіч. Жыцьцё і праца.** *Ухвалена Навукова-мэтодолёгічным Камітэтам НКАБ, як падручная рабочая кніга па беларускай літаратуры для профтэхнічных школ, школ ФЗУ, школ рабочай моладзі, індустрыяльных тэхнікумаў, рабфакаў і інш. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. 1925 г., стар. 295. Цана 1 р. 50 к.*

У васнову гэтае кнігі паложаны прынцып тэматызацыі. Усяго ў кніжцы 10 разьдзелаў або тэм: 1) Падростак у мастацкай літаратуры; 2) Жыцьцё і праца сялян, рамесьнікаў, рабочых, чырвонаармейцаў і служачых; 3) Праца і яе ўплывы на чалавека; 4) Адбітак працоўнага вопыту (!) ў народнай творчасьці і ў новай мастацкай літаратуры; 5) Вызваленьне працы і поэзія рэволюцыйнай барацьбы; 6) Адбітак у літаратуры станаў і асобных соцыяльных груп; 7) Працоўная інтэлігенцыя і моладзь у беларускай

літаратуры; 8) Поэзія, як імпульс у вытворчасьці; 9) Галоўныя літаратурныя кірункі і 10) З чырвонага пісьменства нашых дзён.

Ужо з самых загалоўкаў тэм кніжкі кідаецца ў вочы пэўная хаотычнасьць і бясплянавасьць данае тэматызацыі. І запраўды.

У першай тэме М. І Некрашэвіч паказвае падростка, а моладзь чамусьці ўшчаміў да працоўнае інтэлігенцыі ў 7 тэму. Якая розьніца паміж моладзьдзю і падросткам—сакрэт аўтара. Прынамсі, матэрыял, які „характарызуе“ ў першай тэме падростка, нічым не адрозьніваецца ад матэрыялу, што „характарызуе“ ў 7 тэме моладзь. Чым-жа, напр., адрозьніваюцца ў адносінах да характарыстыкі падростка-моладзі, з аднаго боку, „Вясковае навучаньне“—Я. Коласа, „Скора“—Калантай, „У вырай“—Я. Купалы і, з другога боку, „У глушы“—З. Бядулі, „Комсамолія“—М. Чарота?

У другой тэме ілюструецца „жыцьцё і праца сялян, рамясьнікоў, рабочых, чырвонаармейцаў і служачых“ і тутжа побач, невядома для якіх мэт (аднэй тэмай, бач, у кніжцы будзе болей—разумней) аўтар ставіць тэму „праца і яе ўплывы на чалавека“. Як бачыце „праца“ адарвана ад „працы“. Можа тут справа проста ў няўдалай рэдакцыі самой назвы тэмы? Але прыгледзімся да матэрыялу, які паданы ў другой і ў трэцяй тэме. Хіба ёсьць у ім якая-колечы розьніца? Пераканайцеся: з аднаго боку, „Лес шуміць“—Караленкі і, з другога боку, „На зачарованых гонях“—З. Бядулі; з аднаго боку, „Бэндар“—З. Бядулі, „Шавец“—Я. Купалы, „Песьні гарбара“—Ц. Гартнага, „Муляру“—А. Гаруна і, з другога боку, „Песьня грабара“—Ц. Гартнага, „У кузьні“—З. Бядулі, „Песьня маладога аратага“—Я. Журбы, „Я мужык беларус“—Я. Купалы. Чым-жа гэтыя творы адрозьніваюцца ў адносінах да характарыстыкі „працы“ ў тэме другой і „працы“ ў тэме трэцяй? Сакрэт аўтара.

У пятай тэме „паказана“: „Вызваленьне працы і поэзія рэволюцыйнай барацьбы“. Пераглядваем матэрыял, які аўтар падабраў для гэтае тэмы. І што-ж бачым? „Ільліч“ (біографія), „Босыя на вогнішчы“—М. Чарота, „Менскі вакзал“—М. Бартэля, „Вольная Беларусь“—Я. Купалы—вось і ўвесь матэрыял пад гэтаю тэмаю. Дзе-ж тут „вызваленьне працы“? Хіба толькі падразумеваецца ў галаве самога паважанага аўтара кніжкі, бо ў пералічаных творах мы бачым толькі „поэзію рэволюцыйнай барацьбы“. Ня варта было вызначаць і тэму, калі не даецца матэрыялу для яе распрацоўкі. А такі матэрыял у беларускай літаратуры нашых дзён ёсьць, і яго аўтар *павінен быў* выкарыстаць.

Шостая тэма формулёвана: „Адбітак у літаратуры станаў і асобных соцыяльных груп“. І тут мы бачым нішто іншае, як паўтарэньне тэмы другой і трэцяй. Бо ў чым-жа адбіваецца характар станаў і асобных соцыяльных груп найпаўней, як ня ў працы? Нашу думку пацьвярджае і той літаратурны матэрыял, якім прабуе ілюстраваць аўтар гэтую „новую“ тэму. З аднаго боку, „Адплата пану“—З. Бядулі, „Раскіданае гняздо“—Я. Купалы, „Курган“—Я. Купалы і, з другога боку, „Прысяга над крывавымі разорамі“—Цёткі, „На зачарованых гонях“—З. Бядулі, „Васіль Чурыла“—Т. Гушчы, „Лес шуміць“—Караленкі і інш. Чаму разьдзелены гэты, здавалася-б непадзельны пры тэматычнай пабудове чытанкі, матэрыял—сакрэт аўтара.

Вельмі прымітыўна, хоць, відаць, з патугамі ў бок сухога акадэмізму (не па сілах аўтару!) „распрацована“ тэма: „Поэзія, як імпульс у вытворчасьці“. Менш-бы аўтар удаваўся тут у „тэорытычныя разважаньні“ (к слову, вялікай навуковай спрэчнасьці), а больш-бы прыцягнуў жывога мас-

тацкага матэрыялу як з галіны народнае творчасьці, так і з галіны штучнага пісьменства—было-б куды лепш.

Які-ж вывад наконт тэматызацыі чытанкі? Поўная хаотычнасьць і бясплянавасьць. Любы твор, як мы вышэй бачылі, можна вымаць з-пад любое тэмы і пераносіць у любую іншую тэму. Матэрыялы, прыцягнутыя для ілюстрацыі тэм, часта не адпавядаюць свайму прызначэньню. Для прыкладу можна ўзяць хоць-бы 4 тэму „Адбітак працоўнага вопыту (!!) ў народнай творчасьці і ў новай мастацкай літаратуры“, дзе М. І. Некрашэвіч прыводзіць некалькі народных песень. У гэтых песьнях хіба толькі сам аўтар праз люпу свайго пэдагогічнага вопыту заўважыў гэты „працоўны вопыт“. Вось адна з гэтых песень:

Ой вясьніца, вясна!
Ды якая-ж ты красна!
Мы для цябе сьпяваем,
Цябе міла спатыкаем.
Сьпявайма-ж, браткі,
Кожды каля свае хаткі.
Жаваранак на небе лятае,
Вясьне песеньку сьпявае.
Дзеткі нашы гурбою
Весяляцца вясною,
Паплесківаюць ручкамі,
Падрыгіваюць ножкамі;
Пажанемо волікі,
Будзем пасьвіць конікі,
Будзем кветкі зьбіраці,
Будзем вяночкі ўплятаці.

У чым-жа тут выяўляецца гэты „працоўны вопыт“? Хіба ў тым, што „дзеткі паплесківаюць ручкамі“ ды „падрыгіваюць ножкамі“? Але ў такім выпадку аўтару, замест таго, каб пускацца ў далёкую вандроўку ў народную творчасьць, ці не прасьцей і лягчэй было-б у пашуканьні „працоўнага вопыту“ заглянуць у вадну з дзіцячых консультацый у Менску! Нічым не адрозьніваюцца ў адносінах да „працоўнага вопыту“ ад гэтае песьні і іншыя (вясьнянкі і вясельныя—з сэксуальнай асновай) і толькі ў дзьвёх апошніх песьнях знаходзім рысы прыгоннага быту, але не „працоўнага вопыту“.

Гаворачы наогул аб літаратурным матэрыяле, які выкарыстаў для свае кнігі М. І. Некрашэвіч, трэба зазначыць, што орыгінальны беларускі літаратурны матэрыял выкарыстаны далёка няўдала і ня зусім умела. Трэ' было-б зьвярнуць больш увагі на сучасныя творы беларускіх пісьменьнікаў і менш браць перакладных, або калі і браць, то зрабіць належны пераклад, чаго, на жаль, ня выканаў М. І Некрашэвіч. Усе пераклады зроблены вельмі кепска. Вось некаторыя ўзорыкі гэтых перакладных „пэрлаў“.

Стар. 26. „На яе (рэчкі) паверхні кружыліся *вялікія плямы ад масла*“... Парасійску тут было—от масла (у сэнсе—„жира“).

Стар. 27. „... ён *узьдзяваў* каўнерык“...

Стар. 32 „... бацька і брат загінулі ў час *узрыву*“...

Стар. 153 „... кабет, *займаўшыхся* чысткаю *шэрсьці* (у сэнсе „воўны“)“...

Там-жа „... з лёгкімі фіранкамі, *апускаючыміся*“...

Там-жа „... ува мне зьнікла ўсякая думка аб *працоўным баку гэтага зборышча*“... Цікавае зборышча з бокам!!.

Стар. 154 „... бліскавіца *запаліўшайся*“...

Там-жа „... Не *атрымоўвалася* якраз уражаньня хараства, *выпростваючага душу* і *гаворачага* змучанаму чалавеку“...

Там-жа „...думка аб *праху* і тленьні“.

Стар. 156 „... мігціць аднастайная ўзорная (?) паверхня, бяз меж, *парушаемая*“...

Стар. 165 „... У дэпартаманце, дзе *апрашвалі* мяне“...

Стар. 166 „... усіх прыгнечаных і *эксплёатуемых*“...

Там-жа „... жонка Леніна, якая, як ніхто, *ведала кожны час* яго (Леніна) жыцьця“...

Стар. 167 „... за ўдзел у *студэнцкіх выбухах*“...

Там-жа „... Ён лічыўся *відным вучоным*“... (можа быць відны пакой, але каб быў відны вучоны, гэтага мы ня чулі).

Стар. 168 „... Шмат з прысутных на сходзе Ленін перайначыў у перакананьнях“... (Стылістычная пэрла!).

Стар. 170 „... першы з найважных артыкулаў“... (новая граматычная форма, якой М. І. Некрашэвіч „узбагачвае“ бел. мову. Дагэтуль мы ведалі форму—найважнейшых).

Там-жа ...„І ніколі ня было так наглядна паказана аб *яснабачнасьці* Леніна да эс-эраўскай партыі“...

Стар. 181 „... Белыя адыходзілі і ўзрывалі. Чырвоныя адыходзілі і *строілі*“... (ня думайце строілі кпінкі, а будавалі масты).

Падыдзем цяпер да кнігі М. І. Некрашэвіча з боку пэдагогічнага. Тут, перш за ўсё, належыць зьвярнуць увагу на запытаньні, пастаўленыя пры творах, каб надаць лябораторны ўхіл кніжцы. (К слову сказаць, М. І. Некрашэвіч, наколькі быў шчодры ў адносінах да тварэньня тэм у сваёй кніжцы, настолькі скупы да тварэньня гэтых пытаньняў. Толькі нязначны лік твораў „узбагачаны“ імі.

Аб пэдагогічнай „трапнасьці“ і навуковай сьцісласьці гэтых запытаньняў можна судзіць з наступных прыкладаў:

Стар. 19. Пад апавяданьнем „Дзераўеншчына“ знаходзім: „5. Прасачэце й выпішце вобразныя спосабы перадачы аўтарам сваіх думак. *Папрабуйце зрабіць некаторую іх* (чаго? спосабу ці думак?) *клясыфікацыю*“.

Цікава, як-бы сам аўтар выканаў гэтую „некаторую клясыфікацыю“? Як вучань, так і настаўнік перад такім „заданьнем“ разьвядзе рукамі.

На старонцы 25 зноў аналёгічнае заданьне: „6. Заўважце рысы мастацкасьці і зрабеце некаторую іх клясыфікацыю“.

Стар. 38. Пад творам „Начаткі“ знаходзім: „4. Выпішце тыя часткі твору, дзе адбываюцца апісаньні прыроды. Заўважце, *як* апісвае яе аўтар“. Цікава, якія элемэнты поэтыкі разумее аўтар пад словам „як“? Трэ' было-б іх назваць.

Стар. 61. Пад творам „Летапісцы“ знаходзім: „1. Вясковы сямейны *ўклад па творы* і прычыны *яго* (што—уклад ці твор?) утварыўшыя“. „3. Наколькі ўдалося пісьменьніку наблізіцца да жывой народнай мовы і якую ролю *гуляюць* (!) пры гэтым прыказкі?“ Цікава, чаму аўтар не дадаў, на якой вуліцы гуляюць гэтыя прыказкі?

Стар. 62. Пад вершам „У вёсцы“ ёсьць: „3. Паглядзеце, якім разьмерам напісаны гэты твор, і заўважце, *ці адпавядае такі разьмер настроям аўтара*“. Мусіць, калі аўтар напісаў такім разьмерам, то адпавядае.

Стар. 72. Пад творам „Бондар“ знаходзім: „3. ...Заўважце, якімі часьцінамі мовы найбольш карыстаецца пісьменьнік“... Падлічаць часьціны мовы ў апавяданьнях у прозе на наш погляд можна было-б прапанаваць статбюро альбо пакінуць „працу“ гэтую самому аўтару, а школа тут няпрычым.

Стар. 79. Пад творам „Шавец“ ёсьць: „3. Чаму мы называем падобныя творы вершамі і чым адрозьніваецца верш ад прозы (разьмер, рытм, рыфма *і г. д.*?)“ Які сэнс аўтар улажыў у „*і г. д.*“? Вядома яму аднаму.

Пераходзім цяпер да „лябораторнага распрацаваньня“ тэмы „Галоўныя літаратурныя кірункі“. Тут ужо М. І. Некрашэвіч поўнасьцю праявіў свой „пэдагогічны вопыт“. Для каго „распрацаваў“ М. І. Некрашэвіч гэтую тэму—невядома. У кожным выпадку прызначана яна не для беларускае школы. Гляньма!

Стар. 250. Пад творам „Тарас на Парнасе“ чытаем: „У сувязі з гэтым *прыпомніце* поэмы Гомэра: „Илиаду“ і „Одиссею“ або папрасеце *настаўніка расійскай літаратуры* пазнаёміць вас з імі“.

На вокладцы кніжкі паказана, што яна прызначана для профтэхнічных школ, школ ФЗУ, школ рабочай моладзі, індустрыяльных тэхнікумаў, рабфакаў і інш. Ці-ж вучні пералічаных школ могуць „прыпомніць“ поэмы Гомэра? Ды яны аб іх і ня чулі. А другое. Чаму М. І. Некрашэвіч раіць зварачацца ў даным выпадку да настаўнікаў расійскай літаратуры? Хіба-ж Гомэр—расійскі пісьменьнік? (з мэтодычнае ўвагі аўтара і запраўды вучні могуць падумаць, што Гомэр расійскі пісьменьнік). Хіба-ж настаўнік бел. літаратуры павінен нічога ня ведаць аб Гомэры? і хіба-ж ён не патрапіць у выпадку патрэбы прачытаць вучням пару адрыўкаў з „Іліяды“ і „Одысэі“ ў расійскім перакладзе? Дзіўна.

Стар. 263. Пад творам „Шчароўскія дажынкі“ чытаем: „*Прыпомніце* ў сувязі з гэтым з расійск. літарат. „Сельское кладбище“ і „Теон и Эсхин“—Жукоўскага або „Бедная Лиза—Карамзіна. Запытаем у аўтара: што ляжыць у аснове беларускае школы—беларуская літаратура ці расійская? Дык як-жа могуць у беларускай школе, ды яшчэ школе пералічаных на вокладцы тыпаў, прыпамінаць вышэй пералічаныя расійскія творы? Ды няхай будзе аўтару вядома, што і ў расійскай школе такіх тыпаў у сучасны момант ні адзін вучань ня можа прыпомніць „Сельское кладбище“ Жукоўскага або „Бедная Лиза“ Карамзіна. Аналёгічныя „лябораторныя“ спосабы мы знаходзім пад усімі іншымі творамі, аб'яднанымі гэтай тэмай.

Абагульняючы ўсе вышэйшыя ўвагі, зробленыя намі да кніжкі М. І. Некрашэвіча, трэба зазначыць наступнае: нас менш дзівілі-б такія значныя недахваты кніжкі, каб мы на вокладцы яе ня бачылі такой шырокай і многазначнай рэклямы з боку Мэтодолёгічнага Камітэту. А так прыходзіцца значную долю віны ўскладаць ня толькі на аўтара яе, працаўніка маладога, які толькі яшчэ пачынае вучыцца працаваць, але і на Мэтодком, які нясе адказнасьць за добрую якасьць ухваленага ім падручніка.

Кніга выдана акуратна, на добрай глянцавітай паперы, у зграбнай вокладцы.

**П. Жарскі.**

**1905 год у Беларусі. Зборнік архіўных дакумантаў. Пад рэдакцыяй С. Агурскага, Б. Аршанскага і Іл. Барашкі.**

*Выданьне Цэнтральнай Камісіі ЦВК БССР па азначэньні 20-гадовага юбілею рэволюцыі 1905 г. і Гістпарту ЦККП(б)Б. Іnf. 8о, стар. VIII+256. Менск, 1925 г. Цана 2 руб. Тыраж 1.500 экз.*

Гэты зборнік зьяўляецца першай спробай апублікаваньня архіўных дакумантаў гісторыка-рэволюцыйнага зьместу ў адносінах да Беларусі. Да рэволюцыі археографічныя выданьні ў Беларусі публікавалі матэрыялы старажытных часоў. Гісторыка-рэволюцыйныя пытаньні ў царскай Расіі, а асабліва адносна Беларусі, не маглі мець месца. Але часы зьмяняюцца. Тое, што раней зьяўлялася таямніцамі жандарскіх і паліцэйскіх канцэлярый, цяпер становіцца вядомым працоўнаму люду. Выкрываюцца ўсе махінацыі царскага ўраду ў барацьбе яго з працоўнымі і сялянскімі масамі.

Зборнік архіўных дакумантаў „1905 г. ў Беларусі“ зьмяшчае ў сабе, як кажа ў прадмове рэдакцыйная колегія, больш 400 дакумантаў. У зборнік увашлі, галоўным чынам, афіцыяльныя рапорты губарнатараў і начальнікаў жандарскіх упраў у Беларусі аб рабочым і сялянскім руху 1905 г. Усе дакуманты разьмешчаны

па пяці былых беларускіх губэрнях: Горадзенскай, Віленскай, Менскай, Віцебскай і Магілеўскай і выдрукаваны ў хронолёгічным парадку на расійскай мове, па новай расійскай ортографіі. Артыкулы ад рэдакцыйнай колегіі, прадмова і даны ў канцы зьмест кожнага дакуманту напісаны на беларускай мове, а заўвагі ў зносках зроблены на расійскай. Апрача офіцыяльных дакумантаў, у зборніку знаходзім разьмешчаныя сярод жандарскіх данясеньняў больш дзесяці проклямацый, якія належаць Бунду, РС-ДРП і іншым організацыям, нататкі да проклямацый (якія чамусьці названы „письмами") і інш.

У прадмове, якая напісана Б. Аршанскім, даюцца характэрныя рысы зьмешчаных у зборніку дакумантаў. Паказваецца на тэндэнцыю поліцыі, звальваюць усю віну паўстаньняў на яўрэяў, умаліць рэволюцыю, што рабілася, паводле дапушчэньня т. Аршанскага, па загаду вышэйшага начальства, і прыпісаць рэволюцыйныя выбухі „справе банды загаворшчыкаў, якая нічога агульнага ня мае з жыхарствам". Для ілюстрацыі выказаных думак у прадмове прыводзяцца некаторыя даныя з справы расстрэлу 18 кастрычніка ў Менску каля Віленскага вакзалу.

Зьмешчаныя ў зборніку дакуманты зьяўляюцца багатай і цікавай крыніцай у вывучэньні рэволюцыйнага руху ў Беларусі. Праўда, адны жандарскія высьвятленьні рэволюцыйных падзей ня могуць служыць пэўнай крыніцай да гісторыі рэволюцыйнага руху. Да гэтай справы патрэбна яшчэ прыцягнуць веды аб дзейнасьці політычных партый, патрэбна закрануць матэрыялы судовых палат па політычных процэсах. Толькі маючы даныя ад усіх гэтых інстанцый, магчыма будзе вызначыць гістарычныя шляхі разьвіцьця рэволюцыйнага руху ў Беларусі. Усё-ж такі жандарскія данясеньні, калі і не даюць поўных ведаў, то затое складаюць пэўную хроніку рабочых і сялянскіх выступленьняў, сьведчаць аб політычнай барацьбе працоўных мас са сваімі эксплёататарамі і ўскрываюць праўдзівыя спосабы і намеры царскага ўраду ў барацьбе з працоўнымі, якія не на жарт у 1905 г. паўсталі, каб скінуць з сябе ярмо няволі. І ў гэтых адносінах зборнік дае цікавыя веды чытачу і патрэбныя даныя дасьледчыку.

Але пры карыстаньні зборнікам заўважваюцца і вельмі значныя недахопы, якія ў некаторай ступені зьмяншаюць каштоўнасьць зборніку. Папершае—рэдакцыя не дае патрэбных ведаў аб аўтэнтыках дакумантаў, якія друкуюцца ў зборніку. Рэдакцыйная колегія заяўляе, што яна мела „восем спраў з архіўнага фонду, 4 дзелаводзтва дэпартаманту поліцыі", якія справы знаходзяцца ў Ленінградзе. Але, як нам вядома, рэдакцыйная колегія ня толькі ня мела „восем спраў", але ніхто з рэдактароў і ў вочы ня бачыў ніводнага аўтэнтыку з гэтых спраў, а зборнік выдрукаваны па копіях, якія былі прысланы Ленінградзкім архівам у Гістпарт ЦККП(б)Б.

Калі гэта так, то рэдакцыя ня мела магчымасьці дакладна зьверысь копіі з аўтэнтыкамі і надрукавала матэрыялы з тымі мажлівымі памылкамі, якія былі дапушчаны перапісчыкамі. Такім чынам, пры сур'ёзных працах нельга палажыцца, без праверкі, на дакуманты зборніку. Далей, дакуманты ня маюць загалоўку і даты пры ім, рэдакцыйны шрыфт ня вылучаны ад дакумантальнага, не абгаворана, каму ў дакумантах належаць курсівы—ці аўтэнтыку, ці рэдакцыі, не растлумачана, што азначае ў дакумантах шматкроп'е і як разумець скарочаныя словы, напр.: ПБГ (?). Пранумараваны дакуманты па аддзелах і пад адным нумарам у зборніку значыцца пяць дакумантаў. Адсутнічаюць альфабэтныя сьпісы, без якіх трэба чытаць увесь зборнік, каб

выкарыстаць патрэбныя сабе веды, не абгавораны друкарскія памылкі і д. п.

Рэдакцыя прызнае за зборнікам толькі адзін недахоп, гэта—адсутнасьць поўнай дэталізацыі падзей, якія адбіты ў дакумантах у форме зносак на аснове іншых крыніц, як паасобных спраў канцэлярыі губарнатараў, тагачасных газэтных вестак, успамінаў удзельнікаў рэволюцыі і г. д.“ Але такой „дэталізацыі“ да зборніку дакумантаў і не патрабуецца. Сумбурна і недарэчы зьмешчаны, разам з жандарскімі данясеньнямі, другі дакумантальны матэрыял, як: проклямацыі, заявы грамадзян і інш. Гэты матэрыял ня мае нічога супольнага з поліцэйскім высьвятленьнем рэволюцыі і адносіцца да дзейнасьці партыі. Калі-ж пры выданьні зборніку было на ўвазе паказаць дзейнасьць партый у 1905 г., то можна было-б дадаць проклямацыі цікавейшыя, зьмясьціўшы іх у большым ліку у васобным аддзеле, а ня друкуючы некалькі выпадковых уперамешку з жандарскімі рапортамі.

Што датычыць рэдакцыйных заўваг да некаторых дакумантаў, то амаль што ўсе яны належаць да заўваг аб няправільным тлумачэньні поліцэйскімі ролі яўрэяў у рэволюцыі, што і бяз гэтых нататкаў ужо кожнаму добра вядома. Некаторыя заўвагі ў зносках напісаны груба, няпісьменна, як, напр.: „Прокламация эта в то время имела колоссальное впечатление“ (с. 99) і інш.

Не зважаючы на цікавасьць дакумантаў, якія зьмешчаны ў зборніку, кніга выдана вельмі няўмела. Рэдактары (а іх было аж тры), відаць, не палічылі патрэбным ужыць да зборніку нават элемэнтарныя правілы, якія ўжываюцца пры выданьні гісторыка-рэволюцыйных дакумантаў. Не скарысталі нават практыкі Гістпартаў Ленінграду, Масквы і іншых устаноў, якія ўжо выдалі разнаіты дакумантальны матэрыял гісторыка-рэволюцыйнага зьместу.

Будзем думаць, што Гістпарт ЦККП(б)Б у далейшым адмовіцца ад такога тандэтнага спосабу выданьня дакумантаў і стане на шлях навуковага выданьня гісторыка-рэволюцыйнага матэрыялу.

**N.**

## ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

### Сярод пісьменьнікаў

* *Я. Нёманскі*, аўтар зборніку „На зломе“, які нядаўна вышаў з друку ў Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве, зараз заняты пісаньнем раману.

* *М. Грамыку* заказана п'еса, над якою пісьменьнік зараз працуе.

* Пісьменьнік *Я. Ліманоўскі* прызначаны намесьнікам рэдактара газэты „Савецкая Беларусь“.

* *Я. Дыла* прадаў Беларускаму Дзяржаўнаму Выдавецтву сваю п'есу „Панскі гайдук“. П'еса пушчана ў друк.

* Надовечы *Цішка Гартны* чытаў у мастацкай сэкцыі Інбелкульту сваю п'есу з сучаснага жыцьця „На стыку“. П'еса выклікала шмат спрэчак. Пасьля адмечаных паправак, якія ўнесены на чытаньні, п'еса будзе аддадзена аднаму з беларускіх тэатраў для пастаноўкі.

* 22 сьнежня мінулага году беларускія студэнты ў Празе сьвяткавалі 20-цігадовы юбілей літаратурнае працы *Янкі Купалы*. Організатарам сьвяткаваньня была філія „Маладняк“, якая незадоўга перад гэтым была з'організавана.

* Пісьменьнік *Шашалевіч* перарабляе сваю новую драму, якая будзе набыта Беларускім Дзяржаўным Тэатрам.

### У „Маладняку“

* Маладняк за час свае выдавецкае працы выдаў дваццаць зборнічкаў твораў сваіх сяброў.

* Пры філіях „Маладняка“ маюць адчыніцца сэкцыі мастацтва і жывое газэты.

У Смаленску адчынілася філія „Маладняка“.

### Кніжка і выдавецкая праца

З 2 па 15 студзеня ў адзнаку юбілею Ф. Скарыны Дзяржаўная Бібліотэка правяла выстаўку Беларускіх старадрукаў XVI—XVIII вякоў. У выстаўцы таксама прымалі ўдзел Беларускі Музэй і Інбелкульт. Паміж іншым, былі выстаўлены: „Эвангэльле“ Юрыя Алельковіча-Слуцкага XVI в., рукапіснае эвангэльле 1743 году з Віцебскае акругі, выданьне Швайпольта Фэоля ў Кракаве ў 1491 г., старадрукі віленскіх друкарань Мамонічаў і іншае.

* Вышаў з друку надрукаваны музычным сэктарам Дзяржвыдаву РСФСР беларускі сьпеўнік, зложаны загад. Полацкае музыкальнае школы Мать'санам.

* Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам за лік іншых выданьняў, намечаных у пляне, адведзена 25 аркушаў для твораў маладнякоўцаў.

* У хуткім часе выходзіць з друку ў Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве шэраг зборнікаў з прыгожаг літаратуры для сялян. У першую чаргу выйдуць вершы: Янкі Купалы, апавяданьні Цішкі Гартнага, М. Чарота, Якуба Коласа і інш.

* У тым-жа выдавецтве выходзяць з друку „Досьветкі“ М. Гарэцкага, збор апавяданьняў і поэма М. Чарота „Марына“.

### Тэатр, музыка, мастацтва

* У № 2 за студзень месяц гэтага году зьмешчаны артыкул вядомага тэатральнага крытыка Хрысанфа Хэрсонскага „Шлях беларускага тэатру“, у якім аўтар, паміж іншым, піша: „Шлях беларускага тэатру—гэта шлях актыўнага соцыяльнага адраджэньня і творчасьці. У сучасных умовах клясавае барацьбы ён павінен быць соцыяльна моцным, ідэёвым, павінен змагацца разам з тымі грамадзкімі клясамі, сьветапагляд і творчасьць якіх ён выяўляе“.

* Васілеастраўскі драматычны тэатр у Ленінградзе наладжвае да пастаноўкі п'есу Е. Міровіча „Кар'ера таварыша Брызгаліна", якая йдзе ў Беларускім Дзяржаўным Тэатры.

* У Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве за апошні час вышла з друку некалькі арыгінальных і перакладных п'есак для вёскі. З ліку іншых трэба адмеціць гэткія: Гаротнага—„Лекары і лекі" і „Два жаніхі". У. Галубка—„Суд", Улеціна—„Суд над трохпалеўкай", Юр'іна — „Савецкі чорт" ды інш.

* Дзеля падрыхтоўкі будучае беларускае опэры перакладаюцца на беларускую мову опэры „Русалка" і „Князь Ігар". Абедзьве гэтыя опэры маюць адыграцца ў бягучым сэзоне сіламі Музычнага Тэхнікуму на чале з артыстаю Сэляхам.

* Пасьля перакладу „Бакханак" для маскоўскае беларускае студыі Ю. Дрэйзін зараз заняты перакладам з грэцкае на беларускую мову драмы „Лізістрата".

* У канцы студзеня месяца загадчык тэатральнага музэю імя Бахрушына ў Маскве т. Прыгуноў прачытаў па просьбе тэатральнае падсэкцыі Інбелкульту ў Менскім Дзяржаўным Тэатры дзьве лекцыі: „Эволюцыя Заходня-эўропэйскага тэатру" і „Расійскі тэатр". Лекцыі справодзіліся туманнымі карцінамі.

## У Інбелкульце

* Пастановаю навуковае рады Інбелкульту мовазнаўчая сэкцыя і сэкцыя літаратурная зьліты ў адну сэкцыю беларускай мовы і літаратуры.

* 6 лютага навуковай радай Інбелкульту прагледжаны, адобраны і прыняты выдавецкі плян Інбелкульту на бягучы год. Па гэтым пляне маецца выдаць звыш ста аркушоў навуковых прац па розных пытаньнях беларусазнаўства. Паміж іншымі будуць выданы „Казкі" Сержпутоўскага, творы проф. Доўнар-Запольскага, Фядзюшына, „Проклямацыі 1905 г., выданыя ў Беларусі", „Першы том твораў М. Багдановіча" і інш.

Прыродазнаўчая сэкцыя распрацавала 3.000 слоў па зоолёгіі для слоўніку, які будзе выданы на трох мовах: беларускай, латынскай і расійскай.

* У першых ліках лютага месяца адбыўся другі ўсебеларускі краязнаўчы зьезд. На зьезьдзе прысутнічала звыш ста прадстаўнікоў ад краязнаўчых таварыстваў і гурткоў. Зьезд прашоў вельмі жыва і вынес цэлы шэраг пастаноў па пытаньнях організацыі краязнаўчай працы.

* Сэкцыя па вывучэньні рэволюцыйнага руху ў Беларусі на сваім пасяджэньні пастанавіла паставіць помнікі і агледзець магілы вядомых беларускіх рэволюцыянэраў А. Бурбіса, С. Булата і Пуліхава.

* З 16 па 18 студзеня адбылася нарада па пытаньнях беларускай археолёгіі і археографіі. На нарадзе былі заслуханы даклады: 1) проф. Даўнар-Запольскага і намесьніка загадчыка Цэнтраархіву БССР Мялешкі—Аб беларускіх археолёгічных фондах, 2) Доўгялы—Аб літоўскай мэтрыцы, 3) Сэрбава—Аб археолёгічных досьледах на рэчцы Ухлясьці і інш. Па некаторых дакладах нарада прыняла пастановы, з якіх асаблівага значэньня заслугоўвае пастанова на конт Літоўскай мэтрыкі. Нарада прызнала, каб Літоўская мэтрыка захоўвалася ў межах СССР і лічылася за БССР, як беларускі гістарычны акт.

* Саюзная Акадэмія Навук паведаміла прэзыдыум Інбелкульту аб тым, што яна згодна ўступіць яму да друку 5 беларускіх этнографічных зборнікаў, апрацаваных этнографам Е. Раманавым.

* Настаўнік С. Мурашка даслаў у Інбелкульт 1.000 новых сабраных ім беларускіх слоў. Слоўнікавая камісія Інбелкульту пастанавіла выдаць прэмію т. Мурашку за яго актыўную працу.

## З УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* Украінская Дзяржаўная Опэра хутка пашырае свой рэпэртуар. Пасьля „Фауста“, „Мадоньніно намісто“ і інш. чарговаю опэрай пашла „Сэвільскі цырульнік“ у пастаноўцы вядомага рэжысэра Лапіцкага.

* Дзяржаўны Украінскі хор імя Леантовіча за 1925 год даў 124 концэрты, з якіх 56 у Харкаве, а рэшту—вандруючы па розных мясцох Украіны. Рэпэртуар хору складаюць пераважна рэволюцыйныя і народныя украінскія песьні.

* Першая украінская капэля кабзароў за мінулы год зрабіла падарожу па Праваберажжу і Дону, адведаўшы да 70 пунктаў і даўшы 192 концэрты з 64.000 чалавек.

* У Кіеве трагічна загінуў (атруціўся) малады композытар і мастацкі крытык газэты „Пролетарская Праўда“—С. Футаранскі.

* Аддзел мастацтваў Кіеўскай політасьветы падняў пытаньне перад Народным Камісарыятам Асьветы аб выданьні яму 10.000 руб. дзеля пастаноўкі ў Кіеўскім опэрным тэатры украінскіх опэр.

* А. Гатаў і Дэйч пералажылі на украінскую мову камэдыю Фульда на політычныя моманты ў сучаснай Францыі назваю—„Супраціўнікі“.

* У вапошні час сярод украінскіх пісьменьнікаў розных літаратурных напрамкаў ідзе гарачая дыскусія аб формах організацыі і аб сутнасьці пролетарскае поэзіі. Асабліва абвостраны спрэчкі між плужанамі і гартованцамі. Урэшце гэтых спрэчак значная частка пісьменьнікаў, вышаўшы з аб‘яднаньняў „Гарт“ і „Плуг“, заснавалі новае аб‘яднаньне пад назваю „Вапліте“. У гэтае аб‘яднаньне вашлі, між іншымі: П. Тычына, М. Хвілёвы, Панч, Досьветны, Яловы і інш. „Вапліте“ мае выдаваць сваю часопісь.

*Рэдактар:* **Рэдакцыйная Колегія.** *Выдавец:* **Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.**

# Зьмест „Полымя“ № 1.




Д. В. Б. № 3. Галоўлітбел № 15208.

Менск, 1-я дзярж. друк. Зак. № 229. У ліку 2000 экз.

# ЗЬМЕСТ ЧАСОПІСІ „ПОЛЫМЯ“
## за 1925 г.

Рымскія лічбы азначаюць нумар часопісі, арабскія—старонку.

### Літаратура і мастацтва.

## Грамадзка-палітычныя артыкулы.

## Навуковыя артыкулы.



## Літаратурна-крытычныя артыкулы.